# ЗМЕСТ

Крыніца


ТЫ

Іван ШАМЯКІН 2

У НАС

Юрка ГОЛУБ. БІЯГРАФІЯ ПЕЎНЯ 39

У НАС

Марыя ВАЙЦЯШОНАК. ДОМ ВОКНАМІ Ў САД 44

ЁН

Багуміл ГРАБАЛ 53

ЯНЫ

Мігель дэ СЕРВАНТЭС СААВЭДРА 83

НАШ

Міхась КАВЫЛЬ 105

# ТЫ Іван ШАМЯКІН



*Я – рэаліст, адназначна. Можаце назваць мяне і традыцыяналістам. Вунь унучкі мае, Маша, якая на пятым курсе універсітэта, і Славяна, дзесяцікласніца, любяць Кафку ды Пруста. А я кажу ім. Тургенева, дзяўчаты, чытайце, Чэхава. Не хочуць.*


**З Іванам ШАМЯКІНЫМ гутарыць Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**
**РОЗДУМ НА АПОШНІМ ПЕРАГОНЕ**
ДАСТАТКОВА СКАЗАЦЬ· ПЕРШААДКРЫВАЛЬНІК!
ЭПОХУ НЕ ВЫБІРАЮЦЬ
BELARUSIAN DREAM
ІВАН ШАМЯКІН – АПОСТАЛ МАДЭРНІЗМУ
ІВАН ШАМЯКІН І ПОСТМАДЭРН
ЧАЛАВЕК З ПАРНАСА
ВАГІ ПАВАГІ
ЗАГАДКІ ДЭЛЬФІЙСКАГА АРАКУЛА,
альбо Небяспечнае падарожжа эфора






*З Табой:*

# З Іванам ШАМЯКІНЫМ гутарыць Людміла РУБЛЕЎСКАЯ

**...Падчас гутаркі за вокнамі пісьменніцкай дачы з яблынь у траву, у барозны градаў ападалі першыя саспелыя яблыкі. Пачыналася пара, якую гэтак утылітарна называюць "збор ураджаю". Усё жывое ў прыродзе, што зазнала ўвесну радасць цвіцення, цяпер шчодра, натуральна аддавала свае плады свету. І так было і будзе заўсёды... Толькі чалавек, дакладней, ягоная разнавіднасць "абывацель", ухітраецца ўсё браць – і не аддаваць нічога. Прынамсі, як мага менш. А за кожны свой яблык – няхай і кіслы – патрабаваць адчувальнай узнагароды... І як няшмат душаў спазнаюць радасць цвіцення – творчага натхнення, і як шмат з іх застаюцца сухімі смоквамі з прыпавесці пра Ісуса Хрыста...**

**На паліцах пісьменніцкага кабінета выстраіліся разнавокладачнымі, разнамоўнымі шэрагамі кнігі. Тут таксама збіраўся ўраджай, плён шматгадовай, апантанай дзейнасці – як яшчэ назваць пісьменніцкую працу? Сэрца на далоні? Трывожнае шчасце?**

**Празрыстыя алюзіі, ці не праўда... Хто ж не ведае назвы хаця б некалькіх твораў народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна. Ну а назвы ўсіх яго твораў наўрад ці назаве на памяць і літаратуразнаўца – у бібліяграфічным слоўніку "Беларускія пісьменнікі" бібліяграфія твораў Івана Шамякіна займае семнаццаць старонак дробным шрыфтам. Прычым творы адносяцца да тых, якія чытаюць. Як бы ні круцілі носам інтэлектуалы і скептыкі, але і яны чытаюць Івана Шамякіна. Надта ж цікава, як падхапіў ён чарговую найактуальнейшую тэму, што ён можа па гэтым сказаць, традыцыйны, немадэрновы? Іранізуюць, але – чытаюць, абмяркоўваюць, спасылаюцца... Выкарыстоўваюць як матэрыял для ўласных мадэрновых выбудаванняў.**

**Іншыя – чытаюць таму, што даўно прыхіліліся да творчасці гэтага пісьменніка. Чытаюць і атрымліваюць простую асалоду ад чытання.**

**Трэція (і такіх нямала) – чытаюць таму, што "задалі", што трэба "па**

# ДАСТАТКОВА СКАЗАЦЬ: ПЕРШААДКРЫВАЛЬНІК!

**Несумненна, напісанае Іванам Шамякіным, як і кожным творцам падобнай мастакоўскай велічыні, утварыла сабой яркі, надзіва маштабны і аб'ёмны свет і, каб спасцігнуць яго цалкам, ва ўсёй шырыні і значнасці, трэба брацца за даследаванне манаграфічнага кшталту. Тым не менш можна пайсці і працейшым шляхам, вызначыўшы тое, найбольш істотнае і важнае, што вылучае І. Шамякіна з шэрагу іншых, блізкіх яму па таленту літаратараў. І гэтага ўжо будзе дастаткова, каб упэўніцца: перад намі творца, роўных якому ў беларускай літаратуры няма.**

**А адметнасць І. Шамякіна найперш у тым, што ён здатны заўсёды заставацца першаадкрывальнікам І падобная якасць – зусім не сведчанне набытага вопыту, не імкненне "падстроіцца" пад кан'юнктуру чытацкага рынку, а арганічная, я б сказаў, прыродная якасць яго таленту.**

**Першаадкрывальнікам ён стаў яшчэ ў першай сваёй аповесці "Помста", датаванай 1946 годам. Яно ведама, які тады быў час – эйфарыя ад нядаўняй перамогі, жаданне – пры тым заканамернае! – славіць перамож-**

**праграме”... Запамінаюць, перажываюць прачытанае. І – падзяляюцца на першых ці другіх.**

**Зразумела, за выключэннем чацвёртай катэгорыі – згаданых “абывацеляў”, якім – што Шамякін, што Штрытматэр, што Франсуаза Саган... Яблыкі куды карысней і канкрэтней. І спажываць іх можна як свежымі, так і ў выглядзе кампота ці павідла... І нават сушанымі. У адрозненне ад раманаў ды аповесцяў.**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ.** Іван Пятровіч, я неаднаразова чула з вуснаў літаратараў розных узростаў і светапоглядаў, што вы амаль адзіны на Беларусі прафесійны літаратар, ці, як вас называюць, белетрыст. За мяжой гэта звыкла – Ірвін Стоўн ці Стывен Кінг, што робяцца мільянерамі дзякуючы літаратурнай творчасці і маюць сапраўдныя “фабрыкі” кнігастварэння – камп'ютэры, сакратаркі, літаратурныя менеджэры . Што ж такое прафесійны беларускі літаратар? Што ўкладзена ў гэты тэрмін – жыццё выключна за кошт ганарараў? Актыўная “канвеерная” творчая дзейнасць? Дый увогуле – ці можа на сённяшняй Беларусі пры мізэрных ганарарах за творы, заняпадзе кнігавыдання і страце цікавасці да беларускага слова і ўвогуле да літаратуры існаваць праслойка прафесійных літаратараў? Нават вы пры актыўным друкаванні і пры наяўнасці чытацкага попыту на вашы кніжкі, відавочна, далёка не мільянер... Хіба што ў беларускіх рублях.

**Іван ШАМЯКІН.** Па логіцы, прафесійныя літаратары павінны быць у кожнай цывілізаванай краіне Да нядаўняга часу многія з членаў Саюза пісьменнікаў лічылі сябе прафесійнымі літаратарамі, нягледзячы на тое, што займалі нейкія пасады. Я – не выключэнне Але, менавіта літаратурная праца забяспечвала мой жыццёвы ўзровень, і многія з маіх калег таксама маглі жыць літаратурнай працай. Ну а зараз прафесійны літаратар у нас проста не пражыве, памрэ з голаду Калі ён нават будзе пісаць вельмі актыўна, хто выдасць яго кнігі? А перавыдацца наогул немагчыма. Даўно вядома, што стары літаратар жыве не за кошт выданняў, а за кошт перавыданняў. І ў мяне да нядаўняга часу выходзілі кніжкі то ў Маскве, то ў Ленінградзе, то ў Кіеве, то ў Ташкенце, то ў Вільнюсе Хоць ганарары былі невялікія, але ўвесь час патрошкі “капала”, і гэтага хапала на бязбеднае жыццё Цяпер той капеж прыпыніўся.

**Л.Р.** Між тым на “круглым стале” ў выдавецтве “Мастацкая літаратура” па праблемах беларускага кнігавыдання і кнігагандлю прадстаўніца адной з мінскіх кніжных крам гаварыла, што сярод некалькіх найменняў кніг, дзякуючы якім яны “робяць план”, ваш раман “Крыніцы”...

**І.Ш.** Купляюць, мусіць, таму, што яго ўключылі ў школьную праграму... Кніжкі сталі мала купляць, бо людзі бедныя. Багатыя ёсць, але не далучыліся да культуры, тым больш беларускай Свайго Мамантава, Марозава ці Траццякова ў нас няма, і невядома, калі будзе. Для сябе асабіста, у сілу свайго ўзросту, я на лепшае не спадзяюся. Але лічу, што наша культура некалі павінна адрадзіцца. Павінна ж дайсці да чыноўнікаў і да высокай адміністрацыі, што без нацыянальнай культуры не можа быць народа, нацыі, паўнацэннай дзяржавы, не можа быць павагі з боку іншых дзяржаў.

**Л.Р.** А як ставіліся да нацыянальнай культуры ранейшыя кіраўнікі нашай дзяржавы, напрыклад, Машэраў, пра якога ходзіць столькі легенд? Ці яго паважлівае стаўленне да беларушчыны проста міф?

**І.Ш.** У плане стаўлення да нацыянальнай культуры Машэраў быў фігурай супярэчлівай Ён ніколі не выступаў па-беларуску (за рэдкім выключэннем), хаця мог бы – скончыў жа педагагічны інстытут, быў настаўнікам... Ну а раз па-беларуску не гаворыць першы сакратар – гэта як бы сігнал для райкамаў, гаркамаў, райвыканкамаў і г.д. Разам з тым ён быў надзіва ўважлівы і чулы чалавек, які, па меншай меры, разумеў, што падтрымліваць беларускую культуру трэба. Я не помню ніводнага выпадку, каб Машэраў не прыняў нас, кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў. Не помню выпадку, каб пісьменнік – нават “радавы” – не атрымаў адказу на свой ліст, і адказу грунтоўнага, а не афіцыйнай “адпіскі”. Менавіта Машэраў “падарыў” пісьменнікам Дом літаратараў, які цяпер у іх адбіраюць. Я выступіў з адкрытым лістом да Прэзідэнта ў “Звяздзе” з просьбай пакінуць дом пісьменнікам. Гэта ж цэнтр нацыянальнай культуры, за 21 год там адбылося столькі прэм'ераў, вечарын, сходаў, столькі знакамітых людзей пабывала там Гэта – і калыска для літаратурнай моладзі... Помню, як задумвалі мы з Пятром Міронавічам пабудову дома. Тады Саюз пісьменнікаў месціўся ў двухпавярховым будынку па вуліцы Энгельса, у якім Мазанік і Восіпава забілі Кубэ. Машэраў вельмі хораша прыняў ідэю аб Доме літаратараў. Ён цэлую гадзіну разважаў, што гэта павінен быць культурны цэнтр, што там павінны бываць не толькі пісьменнікі, але і мастакі, артысты. Так і сталася Уважлівасць кіраўніка дзяржавы даходзіла да таго, што ён двойчы прыязджаў назіраць, як узводзіцца новы дом пісьменнікаў Памятаю, адзін раз, вясною, я прыехаў на будоўлю Пётр Міронавіч быў ужо там з міністрам будаўніцтва і спытаў мяне, калі б я хацеў, каб гэты дом здалі Я сказаў, што вось, маўляў, у канцы мая плануецца з'езд пісьменнікаў, і добра было б правесці яго тут Машэраў павярнуўся да міністра “Чуеш? Каб пісьменнікі праводзілі з'езд у сваім доме!”

Машэраў сядзеў на тым з'ездзе два дні І на ранейшых ён, дарэчы, прысутнічаў А калі ў нас адбывалася ўсесаюзная канферэнцыя, прысвечаная ваеннай тэме ў савецкай літаратуры, рабіў даклад на дзве з паловай гадзіны Канешне, даклад яму дапамаглі напісаць, але ж які красамоўны факт самога ўдзелу. А да старшыні Саўміна Кісялёва мы звярталіся па матэрыяльных справах: знайсці памяшканне для новага выдавецтва, рэдакцыі часопіса, кватэры для пісьменнікаў Як правіла, “пустымі” паходы да яго не заставаліся, заўсёды нешта атрымлівалі: ці памяшканне для працы, ці дзве-тры кватэры.

**Л.Р.** Вы ўзначальвалі Саюз пісьменнікаў Беларусі, уваходзілі ў яго кіраўніцтва.. Ці не было выпадкаў падчас зносінаў з калегамі, калі напрошвалася параўнанне з тэрарыумам?

---

**цаў. *Літаратура*, зразумела, таксама “знаходзілася” ў гэтым часе. І адпаведна рэагавала на яго. З'явіліся творы пра мужнасць і гераізм у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, паказвалася, як нядаўнія пераможцы вярталіся да мірнага жыцця. І, канечне ж, у новых умовах заставаліся гэткімі ж, як на вайне – рашучымі, дзейснымі, гатовымі павесці за сабой іншых людзей.**

**Я не буду называць гэтыя творы. Каб атрымаць аб іх уяўленне, дастаткова сказаць, што ўсе яны падобны, як блізнюкі-браты. Са станоўчымі галоўнымі героямі, якім заўсёды і ва ўсім ўдаецца лёгка дасягнуць жаданага поспеху, з патрыятычнай ідэяй, сутнасць якой зводзіцца да звычайнай лозунгавасці. І, канечне ж, з выкрыццём фашыстаў-нягоднікаў, што таксама ўсе, без выключэння, нелюдзі, гвалтаўнікі, а таму не толькі да іх не можа быць ніякай шкадобы, а да ўсёй нацыі, што парадзіла падобных вырадкаў.**

**Здавалася б, і на самой справе іншага не дадзена. Дзе ўжо літаратуры асабліва разбірацца ў псіхалогіі тых, хто сваёй галоўнай задачай паставіў заваёву цэлых народаў і ішоў у бой з адзіным жаданнем – закабаліць іх, паставіць на калені. Такімі балючымі былі яшчэ нядаўнія раны і гэткім горкім усведамленне, што многіх ужо няма ў жывых. *Па логіцы*, і І. Шамякін павінен пайсці такім шляхам, асабліва калі прыняць пад увагу яго нядаўні ваенны вопыт. Але І. Шамякін якраз і абраў шлях іншы...**

**Паколькі аповесць “Помста” сучаснаму чытачу амаль невядома, а чытач малады ўвогуле наўрад ці ведае пра гэты твор пісьменніка, дазволю сабе спыніцца на ім крыху падрабязней.**

**Дзеянне ў “Помсце” адбываецца ў апошнія дні вайны, у самы пярэдадзень перамогі. І байцы, і камандзіры радасныя, узрушаныя. Ніхто не хоча думаць, што, магчыма, яшчэ давядзецца загінуць, кожны жыве чаканай перамогай і недзе глыбока ў думках уяўляе, як зможа вярнуцца дахаты, сустрэцца з роднымі і блізкімі. Аднаму маёру Раманенку не да радасці. Гняце слаўнага камандзіра несуцешнае гора. У гады вайны загінулі дачка і цешча, а жонка пад час вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў памерла ў яго на руках. Перад смерцю яна паспела даць Раманенку наказ: калі трапіць у Нямеччыну, абавязкова павінен знайсці сям'ю нямецкага каменданта Генрыха Візэнера. Гэта па яго загаду былі забіты дачка і цешча маёра, а жонка, якая знаходзілася ў партызанах, ад перажыванняў захварэла на сухоты, таму і пайшла заўчасна з жыцця.**

**Раманенка перад няпростым выбарам. Як быццам, ён не мае права забываць пра наказ жонкі, бо гэта яе апошняя воля, а апошнюю волю нельга не выканаць. З другога боку, разумее: з якімі б намерамі гэты наказ не ажыццяўляўся, беспакараным, калі пра ўсё даведаюцца, не застанецца. Але ёсць у Раманенкі і ваганні іншага кшталту. Прайшоўшы вайну, неаднойчы застаючыся сам-насам са смерцю, ён, як ніхто іншы, упэўніўся, што ні ў якім разе нельга ўсіх людзей часаць пад адзін грабянец. Нават калі гэта людзі ў звярыным вобліку. Так, Генрых Візэнер – ваенны злачынца, але пры чым яго сям'я?!**

**І ўсё ж Раманенка знаходзіць гарадок, у якім жыве яна. Заходзіць, так і не прыняўшы канчатковага рашэння. А яно з'яўляецца нечакана, як нечаканым было многае і на вайне. Сям'я ворага перад ім, пераможцам...**

**І.Ш.** Не з'яўляліся ў мяне такія сумныя думкі. Я сваю арганізацыю любію і лічыў, што яна добрая Вось калі ў Маскве назіраў за жыццём тамтэйшых літаратараў, маглі ўзнікаць і падобныя асацыяцыі. Масквічы літаральна з'ядалі адзін аднаго. У нас было лагодней: маглі "праехацца" адзін па адным, гэта і цяпер ёсць, можа, у большай яшчэ ступені. Але мы не драчлівыя. Мусіць, такая нацыянальная рыса. Калектыў праўлення Саюза пісьменнікаў, у які я ўваходзіў, быў вельмі дружны. Не ведаю да гэтага часу чалавека з былых калегаў, да якога не пайшоў бы ў госці Цяпер, зразумела, я адарваны ад жыцця Саюза, не ведаю, што там адбываецца Разумею, што ўзрасла канкурэнцыя раней у плане "Мастацкай літаратуры" было 180 найменняў кніг, цяпер трыццаць. Гэта не паляпшае адносінаў між пісьменнікамі, якіх менш не стала, а наадварот, пабольшала. .

**Л.Р.** Ну, канкурэнцыя тут адносная, таму што не выдаюць усіх. Як выказаўся адзін сталы пісьменнік, тут мы ўсе ў адной лодцы – і старыя, і маладыя.

**І.Ш.** Ну, нехта ўсё-ткі прыстасаваўся і да гэтых акалічнасцяў. Што тычыць маёй працы ў Саюзе пісьменнікаў – а працаваў я ў нашай арганізацыі дваццаць шэсць гадоў, – то запомніўся найбольш такі склад яе сакратароў: Янка Брыль, Іван Мележ, Пімен Панчанка, я, Іван Чыгрынаў, Барыс Сачанка, Анатоль Грачанікаў .. Усе працавалі вельмі актыўна, асабліва маладыя. І мне лёгка было з імі

**Л.Р.** Адзін з пісьменнікаў параўнаў сённяшні працэс папаўнення шэрагаў сяброў Саюза пісьменнікаў з наборам дабравольцаў падчас вайны· умееш трымаць у руках ружжо (самапіску) залічаны Як вы расцэньваеце цяперашняе папаўненне Саюза пісьменнікаў і працэс прыняцця ў яго?

**І.Ш.** Маладыя цяпер пішуць лепш, чым мы ў іх узросце Мы, ваеннае пакаленне, былі недавучаныя Я паспеў да вайны скончыць тэхнікум будаўнічых матэрыялаў, пасля вайны – партыйную школу. Макаёнак акрамя сярэдняй школы ніякай адукацыі не меў І многія так. Цяпер маладыя людзі адукаваныя, і мяне, старога чалавека, радуе, што яны пішуць па-беларуску, і пішуць таленавіта. Асабліва шмат з'яўляецца новых паэтаў і, як ні дзіўна, паэтэс.

**Л.Р.** Вялікая колькасць паэтак-пачатковак, мне здаецца, заканамерная У любым літаб'яднанні дзяўчатаў большасць.

**І.Ш.** У наш час, пасля вайны, іх было малавата.

**Л.Р.** Таццяна Іванаўна Шамякіна займалася пытаннямі псіхалогіі творчасці У адным з яе артыкулаў гаворыцца пра асаблівасці фарміравання творчай асобы, пра наяўнасць у дзяцінстве, юнацтве кожнага творцы яркіх момантаў, якія накладваюць на яго адбітак. Якія яркія моманты былі на пачатку вашай біяграфіі? Што асаблівага было ў вашым дзяцінстве?

**І.Ш.** Маё дзяцінства было падобным на дзяцінства Якуба Коласа – бацька быў ляснік. Лесніччоўка стаяла далёка ў лесе, і я спазнаў адзіноту Рана мяне прымусілі пасвіць каровы Мучыўся я страшэнна. Машкары было, камароў... Каровы зазыкуюць, паляцяць, я іх пагубляю Прыйду дахаты, стану за вуглом і плачу – баюся, што бацька

**І ён можа зрабіць усё, што захоча. І Раманенка робіць... свой маральны выбар: "Для мяне дзеці ёсць дзеці, хоць яны і дзеці ката".**

**Прадбачу, як сёй-той (канечне ж, з шэрагу непрымальнікаў творчасці І. Шамякіна, асабліва таго, што пішацца ім сёння, пра што скажу крыху ніжэй) гэтак скептычна ўсміхнецца. Маўляў, а як жа інакш павінен быў пісаць І. Шамякін?! Канечне ж, выконваў свайго роду сацыяльны заказ і не мог не ведаць, што падобныя творы, паколькі яны ўслаўляюць савецкага воіна-пераможца, незалежна ад таго, салдат гэта ці афіцэр, не застануцца незаўважанымі.**

**Як быццам і так... Ды толькі падобная праўда будзе хісткай. Бо, калі б ужо гэтак хацелася І. Шамякіну дагадзіць партыйнаму начальству, дык куды б прасцей было напісаць што-небудзь блізкае па матывах тагачаснаму літаратурнаму "ширпотребу".**

**Не напісаў, бо не мог напісаць... Талент не дазволіў зрабіць гэта. А напісаў тое, што стала ў літаратуры наватарскім. Гэта не толькі я гавару. Правільней, сцвярджаю, адштурхоўваючыся ад меркавання такога аўтарытэтнага даследчыка, як Віктар Каваленка: "Звязаўшы сюжэтна падзеі, што адбываліся ў Беларусі і ў Нямеччыне, пісьменнік узмацняў эпічныя тэндэнцыі беларускай прозы ў адлюстраванні вайны. Вольнае перанясенне дзеяння з Нямеччыны ў Беларусь азначала тады наватарскую смеласць. На такое яшчэ не адважваліся беларускія празаікі, акрамя хіба што К. Чорнага. Вораг паказваўся ў літаратуры яшчэ такім, якім ён быў у канкрэтным моманце вайны. Звярнуўшы ўвагу на вытокі этычных і псіхалагічных паводзін ворага ў вайну,**





дасць лупцоўкі Чакаю, каб маці выйшла, пашукала са мною тыя каровы Пасля, калі навучыўся чытаць – а навучыўся сам, бацька толькі літары паказваў, – я палюбіў і пасвіць. Быў сам-насам з прыродай, чытаў, фантазіраваў . І чаго толькі не прыдумваў! Шкада, не запісаныя тыя дзіцячыя фантазіі. Паўплывала на мяне і мая першая настаўніца, Валянціна Андрэеўна Рабцава, дачка святара, якая выкладала нам пабеларуску, давала чытаць мне кнігі. У першым класе я прачытаў "Амок" Янкі Маўра, які зрабіў на мяне ўражанне цуда. Ну а ў пятым класе я ўжо пісаў вершы, выпускаў насценгазету.

**Л.Р.** Пачатак даволі тыповы· з вершаў А як перайшлі на прозу?

**І.Ш.** У тэхнікуме я стаў членам літаратурнага аб'яднання пры "Гомельскай праўдзе". Туды хадзілі паэты Кастусь Кірэенка, Леанід Гаўрылаў, які загінуў на вайне, і Дзмітрый Кавалёў, рускі паэт. Усе яны былі старэйшыя за мяне, вучыліся ў інстытуце і "вялі рэй" у літаб'яднанні. І грамілі мае вершы бязбожна. А я быў закаханы ў "медычку", навучэнку медтэхнікума, з якой пасля і жаніўся. І напісаў апавяданне пра фельдчарыцу, што ідзе праз лес да парадзіхі Прачытаў тое апавяданне на літаб'яднанні, і хлопцы, што мяне заўсёды крытыкавалі, пачалі хваліць: "Вось і пішы прозу".

**Л.Р.** І няўжо пасля ніколі не вярталіся да паэзіі?

**І.Ш.** Ужо на вайне, друкаваў у армейскай газеце "Часовой Севера" вершы на рускай мове Там жа, у 1943 годзе, напісаў апавяданне "У снежнай пустыні", якое і цяпер уключаю ў зборы твораў. Паперу палітрук раздаваў нам толькі на пісьмы, па лісточку Але выдавалі нам руска-фінскія слоўнікі, набраныя дробным шрыфтам. І я падумаў, што калі зрабіць гусцейшым чарніла, паўзверх тых руска-фінскіх слоў можна пісаць. На гэтым слоўніку і напісаў сваё апавяданне А ў канцы вайны апынуўся ў Германіі, непадалёк ад Одэра. Паперы там было ўжо многа. Там нарадзілася аповесць "Помста". Пасля была публікацыя, першы пасляваенны пленум Саюза пісьменнікаў, на які я быў запрошаны, настаўніцтва ў школе. У настаўнікі пайшоў таму, што вельмі хацеў вучыцца далей, а на завочнае аддзяленне прымалі толькі прадстаўнікоў гэтай прафесіі. Напісаў раман "Глыбокая плынь"...

**Л.Р.** А калі цалкам перайшлі на літаратурны хлеб?

**І.Ш.** У 1947 годзе мяне прынялі ў Саюз пісьменнікаў, а ў 1948 Саюз парэкамендаваў мяне ў партыйную школу, бо я паскардзіўся, што цяжка завочна вучыцца ў Гомельскім педінстытуце і працаваць. Пасля сканчэння партшколы трапіў на пасаду загадчыка мастацкай рэдакцыі выдавецтва – яно тады на Беларусі было адно. У рэдакцыі працавалі мы ўдвух з Мікалаем Татурам, але кніжак выпускалася болей, чым выпускае сённяшняе выдавецтва.

**Л.Р.** Няўжо самі ўсе рукапісы рэдагавалі?

**І.Ш.** Існавала практыка прыцягнення няштатных рэдактараў. Хто толькі не браў у нас рукапісы – і Броўка, і Глебка, і Крапіва, і Куляшоў (хоць апошні быў неакуратным рэдактарам).

**Л.Р.** А ці маглі вы не стаць пісьменнікам?

**І. Шамякін пашыраў мастацка-філасофскае асэнсаванне праблемы фашызму".**

**З аповесці "Помста" і пачаўся І. Шамякін-першаадкрывальнік.**

**У далейшым гэта выглядала наступным чынам...**

**Раман "Глыбокая плынь" (1948) – праўдзівае адлюстраванне складанага, часам супярэчлівага жыцця на часова акупаванай ворагам тэрыторыі Беларусі, псіхалагічна-глыбокае пранікненне як у характары сапраўдных барацьбітоў, так і тых, хто, як быццам, знаходзіўся ў баку ад яе, а на самой справе спрыяў перамозе, бо ўвасабляў сабой сам дух народны. А вось акурат на дух народны ў час акупацыі да І. Шамякіна літаратура і не звяртала ўвагі...**

**Раман "У добры час" (1952), як быццам, сюжэтна нічога новага не даваў. Як і ў творах іншых аўтараў, дэмабілізаваны воін вярнуўся ў родную вёску, сутыкнуўся з няменшымі цяжкасцямі, чым на вайне. Але ўся справа ў тым, што нядаўні афіцэр Максім Лескавец вельмі ж непадобны на сваіх "папярэднікаў". І найперш таму, што куды сумленнейшы за іншых. А сумленнасць не дазваляе пайсці яму на кампраміс нават у каханні, хоць любая дзяўчына і чакала яго ўвесь час. Тым самым, наватарства І. Шамякіна – у падыходзе да вобраза ўчарашняга франтавіка як чалавека, які, калі ён чалавек сапраўды, мае права на ўласнае меркаванне, на свае погляды. Тагачасная літаратура на апошняе яшчэ не звяртала ўвагі. Патрэбна была смеласць І. Шамякіна, каб пра ўсё сказаць прама і адкрыта...**

**Раман "Крыніцы" (1957)... Наватарства яго відаць нават па такім прызнанні самога аўтара: "За тры гады да XX з'езда пар-**

**І.Ш.** Магло і так скласціся. Пад канец вайны я быў камсоргам дывізіёна. Палову яго складалі дзяўчаты – я быў у іх "за бацюшку": спавядаліся перада мной, ішлі са сваімі праблемамі Я ўмеў і пагаварыць, і дапамагчы І начальства пачало мяне агітаваць у афіцэрскую палітшколу Спакушалі бліскучай кар'ерай. Але ў мяне хапіла сілы адмовіцца, да здзіўлення маіх камандзіраў. А калі б стаў афіцэрам, ці была б магчымасць пісаць? І другі раз пашанцавала – пасля дэмабілізацыі не пайшоў па спецыяльнасці – тэхніка будаўнічых матэрыялаў, а паехаў да жонкі ў вёску, стаў настаўнікам, паступіў у педуніверсітэт на гісторыка-філалагічны факультэт. А мог бы займацца не тым, да чаго душа ляжала, як многія іншыя. Я думаю, многа гіне талентаў, і пісьменнікаў, і музыкаў, і акцёраў, таму што не так складваецца лёс, не тым спецыяльнасцям яны вывучаныя. Маюць уплыў і сямейныя справы. Добра, калі ёсць добрая жонка, ці муж, які разумее, што жонка – творчы чалавек, і трэба паважаць яе заняткі А сустракаюцца такія "феадалы" .. У мяне шчаслівы лёс. Плюс мая настойлівасць.

**Л.Р.** Мы гаворым пра прафесійнасць... А прафесійнасць, прафесія прадугледжвае магчымасць навучання. Ці маглі б вы мець сваю літаратурную школу? Па якім прынцыпе адбіралі б вучняў?

**І.Ш.** Некалі я прапаноўваў запрашаць ва універсітэт пісьменнікаў, каб яны вялі свае семінары, перадавалі вопыт. Але школу вакол канкрэтнага пісьменніка не ўяўляю. Сам я вучыўся ў класікаў – Чэхава, Шолахава, Горкага. Калі нехта вучыцца ў мяне, – а я думаю, нехта вучыцца, але чамусьці не хоча прызнавацца ў гэтым, – гэта радасна Што тычыць захадаў па ўтварэнні ва універсітэце спецыялізаванай групы навучэнцаў як альтэрнатывы маскоўскаму літаратурнаму інстытуту, то мне здаецца, пайшлі не па тым шляху, узяўшы за аснову не філалогію, а журналістыку. Пры ўсёй сходнасці прафесій пісьменніка і журналіста яны адметныя Цяпер я ўжо стары, мне цяжка чытаць лекцыі і рукапісы, але гадоў дваццаць таму з цікавасцю праводзіў бы свой семінар. Ну а вучняў адбіраў бы па першых публікацыях. Таму што на ўступных экзаменах ніхто за гадзіну ці дзве апавядання не напіша.

**Л.Р.** Вас называюць прадстаўніком традыцыйнай літаратуры, рэалістам Зразумела, тут няма ніякага ацэначнага адцення – добра быць рэалістам ці блага. Але ж час ад часу даводзіцца чуць нават не на ўзроўні тэксту, а на ўзроўні падтэксту, што будучыня заўсёды – за эксперыментатарамі, а традыцыйнае ўваходзіць у звязку з кансерватыўным. Нездарма ж некаторыя пісьменнікі і сталага веку пачынаюць пошукі новых формаў, эксперыментуюць – нібыта самі сабе доказваюць сваю літаратурную вартасць. і я так магу, і я – у нагу з часам У вас жа дыялог з сучаснасцю адбываецца на ўзроўні тэмаў, і належыць прызнаць, што тэмы вашых твораў заўсёды актуальнейшыя Але самі вы – фармальна – кім сябе вызнаеце як літаратара?

**І.Ш.** Я – рэаліст, адназначна. Можаце назваць мяне і традыцыяналістам. Вунь унучкі мае, Маша, якая на пятым курсе універсітэта, і Славяна, дзесяцікласніца, любяць Кафку ды Пруста. А я кажу ім. Тургенева, дзяўчаты, чытайце, Чэхава .. Не хочуць А Чэхаў, на маю думку, велічыня недасягальная. Ну а, як вы кажаце, фармальна я – эпік. Чамусьці апавяданні ў мяне пішуцца рэдка. Часам нават зайздрошчу свайму сябру Янку Брылю, як ён добра ўмее выказвацца ў лаканічнай форме.

**Л.Р.** Вы – рэаліст, а вось дачка ваша, Таццяна Шамякіна, займаецца міфалогіяй... Якое ваша стаўленне да свету містычнага, сакральнага?

**І.Ш.** Крыху скептычнае. Хаця заўсёды паважна адносіўся да шчырых вернікаў. У рамане "Вялікая княгіня" я з вялікай пашанай паставіўся да праваслаўя, да вернасці яму маёй Алёны Іванаўны, дачкі маскоўскага князя Івана III, жонкі вялікага князя Аляксандра. Як на яе ціснулі, каб перайшла ў каталіцтва! А яна, зусім дзяўчо, выстаяла. Гэта проста подзвіг. У наш час так лёгка мяняюць ідэі... І бяда ў тым, што ў большасці людзей ідэі няма, ідэі, якая б вяла за сабою. Не ведаю, ці лепшай была ідэя сацыялізму, тым больш апаганеная Сталіным і іншымі, але гэта была не проста выдумка Маркса ды Энгельса Ідэі сацыялізму закладзеныя нават у вучэнні Ісуса Хрыста. І я лічу, што найвялікшая памылка бальшавікоў – разгром рэлігіі Народ павінен верыць. Рэлігія магла б дапамагчы ў будаўніцтве сацыялістычнага грамадства. Дарэчы, Сталін у вайну гэта разумеў. Але потым зноў забыўся. Ён вучыўся ў бурсе, адтуль, відаць, на ўсё жыццё вынес нянавісць да рэлігіі.

**Л.Р.** Я так разумею што вы – за агульначалавечыя, вечныя каштоўнасці... Але цяпер шмат гаворыцца пра тое, што для сучаснага мастацтва яны неактуальныя. Суадносіны між этычным і эстэтычным у мастацтве – прадмет таксама вечных спрэчак. Памятаю, падлеткам я чытала вашу аповесць "Шлюбная ноч", дзе пра адносіны між мужчынам і жанчынай расказваецца і рэалістычна, і далікатна, і рамантычна. І ў чытача выхоўваецца пэўнае стаўленне да інтымнага боку жыцця. Так, на час напісання тае аповесці наша літаратура была вымушана быць цнатлівай. Але ці лепей сённяшняе "распрананне" герояў на экранах, сцэнах і старонках, проста дзеля эфекту ці як даніна навастворанай традыцыі? А можа ў мастацтве сапраўды дазволенае ўсё, і досыць нам ханжаства?

**І.Ш.** Так, ёсць каштоўнасці вечныя, этычныя І я не разумею, як без іх выхаваць чалавека. Каго мы выхаваем? Забойцу? Гэта выдатна разумелі класікі. Пушкін, Тургенеў, Леў Талстой. Так, Пушкін мог напісаць нешта фрывольнае, але гэта было звычайнае блазенства маладосці. Толькі вечныя каштоўнасці – аснова сапраўднай літаратуры, іх трэба культываваць. Як можна паказваць дзецям па тэлевізары тое, што паказваецца цяпер! У Амерыцы вялікія кватэры, бацькі маюць магчымасць "аддзяліць" дзяцей, існуюць прыстасаванні, каб блакіраваць дарослыя праграмы А ў нашых кватэрах гэта немагчыма. Мне сорамна разам з жонкай глядзець сёння тэлевізар, не тое што з унукамі. Інтымныя адносіны – не тэма літаратуры, хіба што бульварнай. Высокая эстэтыка, высокія этычныя нормы павінны быць правілам сапраўднага мастака. У "Новай зямлі" паказана простая селянская сям'я, а якія там адносіны між людзьмі! Хрысціянская рэлігія правільна гаворыць, што інтымныя адносіны – справа толькі дваіх.

---

**ты і я пачаў пісаць раман аб тым, як культ калечыў душы нізавых кіраўнікоў, па сваіх чалавечых якасцях нядрэнных людзей Бародку я падгледзеў у жыцці". А з Бародкам у літаратуру прыйшла і такая з'ява, як "бародкаўшчына". Што гэты вобраз І. Шамякіну асабліва ўдаўся, мусіў прызнаць і Алесь Адамовіч, які, папраўдзе кажучы, не з тых, хто пра яго пісаў шмат, быў у захапленні: "Гэты вобраз – найбольшая мастацкая ўдача І. Шамякіна". Бародка і дэмагог, Бародка і прыстасаванец, Бародка і кар'ерыст, але Бародка і нязменны выканаўца волі тых, хто стаіць на партыйнай лесвіцы вышэй за яго...**

**Раман "Сэрца на далоні" (1963) – бадай, самы вядомы твор І. Шамякіна. Ва ўсякім разе, у чытача 60-х гадоў. Ім зачытваліся літаральна ўсе. Па ім праводзіліся чытацкія канферэнцыі, ладзіліся дыспуты, пісьменнік атрымліваў дзесяткі лістоў. І з удзячнасцю за напісанае, і нязменным пытаннем, а як жа склаліся лёсы галоўных герояў далей. Калі ж раман выйшаў асобнай кнігай (пазней ён шмат перавыдаваўся і ў арыгінале, і ў перакладзе), за ім у "Цэнтральнай кнігарні" ў Мінску выстраілася вялікая чарга.**

**Дагэтуль ніхто так не пісаў пра гады сталінізму. У рамане вабіла ўсё: і дынамізм дзеяння, і яркія, паўнакроўныя характары, і глыбіня пранікнення ў духоўны свет герояў, дакладнае спасціжэнне іх душэўнага стану. З "Сэрца на далоні", па сутнасці, пачаўся новы І. Шамякін. Гэта быў ужо пісьменнік, які атрымаў усенароднае прызнанне, спазнаў, што такое слава. Ён ужо тады стаў народным. Яшчэ да афіцыйнага прысваення гэтага ганаровага звання ў 1972 годзе.**

**Тое, што пісалася пазней, і чытачом, і крытыкай сустракалася ўжо з асаблівай увагай. З аднаго боку, гэта і цешыла творцу, бо знайшоў свайго чытача, спаткаў сваю аўдыторыю. Але разам з тым выклікала і цяжкасці. Ужо нельга было апускаць мастакоўскую планку ніжэй узятай вышыні. І І. Шамякін з гонарам прайшоў выпрабаванне славай, прызваннем, аб чым, у прыватнасці, засведчылі такія раманы, як "Снежныя зімы", "Атланты і карыятыды", "Вазьму твой боль", "Злая зорка"...**

**Які шырокі ахоп праблем! Валюнтарызм у кіраванні сельскай гаспадаркай, пытанні сучаснага горадабудаўніцтва, вайна, што адгукаецца ў лёсах праз дзесяткі гадоў, чарнобыльская аварыя. І нязменна, перш чым узяцца за пяро, І. Шамякін дасканала вывучаў жыццё. У прыватнасці, калі пісаў "Злую зорку", неаднойчы наведваўся ў чарнобыльскую зону. Не зважаючы на ўзрост, на падарванае здароўе. Не мог адмовіцца ад падобных паездак, бо, каб заставацца першаадкрывальнікам, нельга пісаць з чужых слоў.**

**З "чужых слоў" не пісаў і раман "Петраград-Брэст". Узняў дакументальны матэрыял, які ляжаў некранутым, пакрытым архіўным пылам, шмат дзесяткаў гадоў. Пісаў і пра Леніна, але і пісаў пра рэвалюцыю як велізарнейшы сацыяльны зрух у жыцці чалавецтва. Па-свойму пісаў. А гэта не падабалася. І тады, калі рукапіс рыхтаваўся да друку, і пазней, калі стаў кнігай. А пазней з'явіліся ахвотнікі ўвогуле выкрасліць гэты раман з творчасці І. Шамякіна.**

**А ў іх настырнасці я асабіста пераканаўся, калі разам з Уладзімірам Крукам рыхтавалі альбом-нарыс "Іван Шамякін" для выдавецтва "Беларусь". Была першая карэктура, другая... Калі**

**Л.Р.** Але вам могуць запярэчыць: хто ж будзе вызначаць тыя крытэрыі – дзе мастацтва, дзе бульваршчына, дзе эротыка, дзе парнаграфія? Вядома, колькі спрэчак і нараканняў выклікалі пастановы пра абавязковую "цэнзуру нравов", пра некампетэнтнасць праславутых раённых камісій, што мусяць даваць ацэнку творам перад публічным іх выстаўленнем. Колькі мастакоў абураецца неразуменнем творчай фантазіі!

**І.Ш.** Ну, калі на агульнае разгледжанне выносіцца палавы акт, тут і думаць не трэба. звычайная пахабшчына. Чаму б тады не выяўляць і іншыя фізіялагічныя адпраўленні арганізма?

**Л.Р.** Некаторыя творцы якраз-такі спрабавалі гэта зрабіць..

**І.Ш.** Я супраць гэтага, і ніколі з гэтым не пагаджуся. Я, канешне, стары чалавек, мяне могуць абвінаваціць у кансерватызме, але я ведаю, што сусветная літаратура развівалася з улікам этычных каштоўнасцяў, хаця дапушчаліся вольнасці кшталту пушкінскай "Гаўрыліяды". У Францыі няма цэнзуры, тым больш палітычнай, але ёсць цэнзура маральнасці. Не кожны фільм можа трапіць на экраны Можаш прадаваць парнаграфічныя паштоўкі, але калі паліцэйскі "застукае", што прадаў іх дзецям, – пазбавішся ліцэнзіі, а то і трапіш за краты.

**Л.Р.** Але ці стасуюцца да творчых людзей агульныя правілы? Вядома, што сярод іх шмат людзей асацыяльных паводзінаў, што яны злоўжываюць алкаголем і, так бы мовіць, пераменлівыя ў пачуццях да супрацьлеглага полу. Можа, гэта магчыма вытлумачыць патрэбай кампенсацыі за "творчае гарэнне"? Тым больш, што ў нас прынята шкадаваць такіх людзей, і "багемнасць" дадае ім рамантычнага іміджу Адкуль такая цяга да самазруйнавання? Вы самі спазналі яе калі-небудзь?

**І.Ш.** Такія вольнасці ідуць з далёкай гісторыі, яшчэ ад французскіх каралеўскіх двароў – Генрыха III, Генрыха IV, Людовіка XIV. Екацярына II стварыла культ вольнага кахання ў Расіі Багема ішла з Францыі Рускія літаратары XIX стагоддзя больш стрыманыя Вольнасці пачаліся з сімвалізмам. З аднаго боку, я разумею, што творчаму чалавеку часам сябе хочацца "падагрэць" Цяпер многія "падаграваюцца" наркотыкамі, што наогул з'яўляецца забойствам. А так, як зазвычай, алкаголем, сувязямі з жанчынамі Творчаму чалавеку хочацца незвычайнага Пасля вайны і мы многа пілі Хоць я і стрыманы чалавек быў, жанаты, меў дваіх дзяцей. Мы толькі выйшлі з вайны, засталіся жывыя, пачалі выдавацца, з'явіліся ганарары Хацелася "общения" з людзьмі. Сядзеў на лекцыях у партыйнай школе і думаў, як бы хутчэй вырвацца ў Дом друку і сустрэцца з Карпавым, Хадкевічам, Татурам, Бялевічам, Астрэйкам .. Ды і Глебка часам далучаўся да нашай кампаніі Багема – як зараза, багемны вобраз жыцця прыліпае Але я ні ў якім разе не лічу яго нормай. І калі бачу некаторых нашых літаратараў у жывёльным стане, мне проста брыдка, і гэтаму няма ніякіх апраўданняў Я не думаю, што п'янства дапамагае пісаць Мяркуючы па публікацыях – наадварот. Гробяць здароўе, хутка адыходзяць. Так пайшлі таленавітыя паэты Гаўрусёў, Пысін, Стральцоў. Падкараціла ім жыццё, як казаў Піліп Пестрак, гэная "праклятая га́ра".

**Л.Р.** Вы згадвалі каралеўскія распусныя двары. Але ж пры Генрыху IV быў Агрыпа д'Абінье, які бічаваў заганы ўладара і яго акружэння суровай гугеноцкай паэзіяй. Пры Людовіку XIV быў Мальер, які трымаў перад бліскучым дваром люстэрка сатыры Ці можа пісьменнік рэальна выхоўваць уладароў?

**І.Ш.** Разумныя ўладары трымалі пры сабе разумных паэтаў. Літаратура не можа не ўплываць на ўладароў. Кожны з іх вучыўся, выхоўваўся на класіцы. Мікалай І, самы рэакцыйны з усіх рускіх цароў, прачытаў "Рэвізора" і дазволіў пастаноўку. Ён жа даў дапамогу Гогалю, дзякуючы якой той тры гады жыў у Швейцарыі, Італіі і напісаў там "Мёртвыя душы". Літаратура заўсёды будзе мець уплыў

**Л.Р.** Вы абмовіліся, што зайздросціце лаканічнасці Янкі Брыля А ўвогуле якую ролю ў лёсах пісьменнікаў адыгрывае зайздрасць – творчая, ці не зусім творчая? Ці здаралася вам зайздросціць па-сапраўднаму глыбока? Ці зайздросцілі вам?

**І.Ш.** Так, зайздрошчу я і лаканічнасці Брыля, і яго мове. Усё-ткі ён з цэнтральнай Беларусі, і больш ведае народнае жыццё. А я – сын лесніка, жыў адчужана ад вёскі, доўга служыў у арміі. Зайздрасць, канешне, ёсць у пісьменніцкім асяродку. Відаць, гэтае пачуццё закладзена ў чалавечую прыроду Зайздросцілі і мне. І не таму, што я быў самы лепшы, а маёй папулярнасці, таму, што мае творы чытала шырокае кола чытачоў, што кніжкі мае хутка разыходзіліся. Што мяне друкавалі ў Маскве, у "Раман-газеце" – у ёй я аднойчы па колькасці публікацый трымаў лідэрства Пасля толькі на першае месца выйшаў Чакоўскі Ніхто, зразумела, не выказваўся адкрыта, але я адчуваў, што некаторыя мае сябры і добрыя пісьменнікі зайздросцяць мне. Разам з тым гэта, можа, і добрае пачуццё, бо стымулюе працу, змушае дабівацца таго ж, чаго дабіўся "прадмет зайздрасці". Зайздрасць бывае чорная і белая.

**Л.Р.** Шмат гадоў вы ўваходзіце ў камітэт па дзяржаўных прэміях. А літаратурная прэмія – спакуса для кожнага пісьменніка немалая, асабліва раней Колькі, пэўна, страсцяў, чутак, плётак нараджаецца падчас кожнай чарговай дзяльбы Ці заўсёды прэміі ў нас уручаліся сапраўды справядліва, і ці не патрэбная ў гэтай справе нейкая рэарганізацыя?

**І.Ш.** У Францыі 200 літаратурных прэмій Самая прэстыжная – Ганкураўская Але, хоць яна самая ганровая, ды безграшовая – лаўрэату сімвалічна ўручаецца адзін франк. Так што прэмій павінна быць шмат, і розных, асабліва для падтрымкі маладых. Былі б мы багацейшыя... Па маёй ініцыятыве Саюз пісьменнікаў устанавіў новыя прэміі – Мележа, Куляшова. Пасля – Маўра, Караткевіча, Калесніка. Але пытанне – пра дзяржаўныя прэміі У камітэце па дзяржаўных прэміях я ўжо амаль трыццаць гадоў. Я думаю, мы ні разу не памыліліся, даўшы прэмію. Мы памыляліся, не даўшы. Так здарылася з Мележам, так здарылася з Чыгрынавым. Канешне, памылкі непазбежныя. Кіпяць страсці, ёсць сімпатыі, антыпатыі, націскаюць, просяць, "апрацоўваюць" сяброў камітэта Жыццё ёсць жыццё Я ўжо колькі гадоў ваюю, каб дзяржаўная прэмія

**з'явілася другая, галоўным рэдактарам ужо быў адзін з шэрагу тых, якія заўсёды ведаюць усё больш за іншых. Ніякія мае ўпэўніванні, што раман ёсць раман, і пра яго нельга не згадваць, нічога не давалі. Давялося пагадзіцца, што скажу пра "Петраград-Брэст" у некалькіх словах. Але альбомнарыс так і не выйшаў. Пазней з'явіўся довад, што выданне стратнае.**

**Як я не здагадаўся тады, што І. Шамякін для падобных "галоўных рэдактараў" не "свой"! Цяпер гэты "добразычлівец" таксама ці не "галоўны" на адной з замежных радыёстанцый. І штодня вучыць, як жыць беларусам на Беларусі. Мяне з І. Шамякіным вучыць таксама. Але гэта між іншым...**

**Нязменна прысутнічае ў І. Шамякіна і такая якасць, як імкненне ва ўласнай творчасці ў асэнсаванні пэўных тэм узнімацца на чарговы віток. Гэта ў першую чаргу тычыцца падзей Вялікай Айчыннай вайны. І тут пісьменнік таксама застаецца першаадкрывальнікам. І не толькі ў рамане "Глыбокая плынь", аповесці "Помста", а і ў пенталогіі "Трывожнае шчасце", аповесці "Гандлярка і паэт", рамане "Зеніт"... У гэтым шэрагу асабліва адметная аповесць "Ахвяры", у якой паказана, як дзейнічалі спецслужбы ў час барацьбы з фашызмам і сваёй падазронасцю прыносілі шкоды не менш, чым карысці. Такі пласт да І. Шамякіна зноў ніхто не ўзнімаў. Як і ў аповесці "Шлюбная ноч", дзе таксама вайна, іншымі незаўважаная.**

**Працаздольнасці І. Шамякіна можна толькі па-добраму пазайздросціць. І апошнім часам таксама. Іншыя ў падобным узросце даўно спачываюць на лаўрах, а Іван Пятровіч працуе так апантана і мэтанакіравана, што кожны год з'яўляецца па некалькі... аповесцяў, якія адразу ж становяцца ў чытачоў любімымі. Ды і як не стаць, калі Шамякін застаецца Шамякіным. З зайздросным уменнем будуе дзеянне, ды так захапляюча, з нечаканымі сюжэтнымі паваротамі піша, што быццам перагортваеш старонкі дэтэктыва. І нязменна прыхільнік неардынарных людскіх характараў – незалежна ад таго, станоўчыя гэта вобразы ці адмоўныя. Праўда, адмоўных апошнім часам куды больш, а станоўчыя, калі і з'яўляюцца, дык адчуваюць сябе нярэдка вельмі ж няўтульна сярод усёмагутнага разладу, насілля, хлусні, маральнага і фізічнага гвалту.**

**Па логіцы, крытыцы і паспрабаваць аб'ектыўна ва ўсім гэтым разабрацца, высветліўшы, наколькі І. Шамякіну ўдаецца адчуць сутнасць сённяшняй рэчаіснасці. Але крытыка гэтага якраз рабіць не жадае, бо яна, справядліва ўзнімаючы свой голас супраць партыйнага і ідэалагічнага дыктату, які існаваў, пачынаючы з трыццатых гадоў, сама таго не заўважаючы (ці не жадаючы падобнае заўважаць!), па сутнасці выступае за іншы дыктат. Так, дыктат! Бо інакш як растлумачыць, што ўжо з'явілася нямала ахвотнікаў павучаць І. Шамякіна, пра што пісаць трэба, а пра што лепш памаўчаць. І робіцца як быццам гэта з найлепшых намераў. Маўляў, колькі можна выстаўляць негатыўнае напаказ, няўжо нічога добрага няма наўкола?..**

**Добрага таксама хапае, хоць гледзячы для каго і ў якім аб'ёме. А наконт таго, пра што пісаць, а пра што маўчаць... Можна яшчэ зразумець дылетанта ад літаратуры (ад крытыкі тым больш), калі ён выстаўляе пісьменніку такія прэтэнзіі, але**

прысуджалася не раз на два гады, а штогод. Сённяшняя практыка стварылася, калі ўстанавілі раз на два гады Ленінскую прэмію, і наш Саўмін падраўняў пад яе і іншыя прэміі.

***Л.Р.*** По выразе Сяргея Дубаўца, існуе "канверсуемая" літаратура. І гэта менавіта тая літаратура, якую вы ствараеце, якая ўяўляе з сябе цікавасць для чытачоў замежжа. Між тым беларуская літаратура, калі казаць шчыра, такой не з'яўляецца. За межы выходзяць асобныя аўтары, асобныя творы.. У чым сакрэт такой "канверсуемасці", што трэба рабіць, каб наша літаратура сталася трывалым складнікам сусветнага культурнага рынку?

**І.Ш.** Мне, можа быць, здорава пашанцавала. Мяне палюбіла такое выданне, як "Раман-газета". Шэсць маіх раманаў надрукаваны ў ім – больш, чым у каго з беларускіх пісьменнікаў. А гэта ж мільённыя тыражы! Апошні надрукаваны там раман, "Петраград-Брэст", меў наклад 2 мільёны. І распаўсюджвалася гэтае выданне па ўсіх рэспубліках. Кніжкі беларускіх пісьменнікаў выходзілі ў маскоўскіх выдавецтвах – "Советском писателе", "Художественной литературе", "Молодой гвардии", "Воениздате" І вось калі яны там выходзілі, яны ішлі і далей. Таму што перакладалі, як правіла, з рускай.

***Л.Р.*** Але цяпер маладыя пісьменнікі і не думаюць пра пасрэдніцтва рускай мовы, ідуць са сваімі творамі проста на Захад, часам самі перакладаюць на замежныя мовы, спрабуюць устанавіць сувязі з літаратурнымі выданнямі замежжа...

**І.Ш.** З беларускай мовы адносна лёгка могуць перакласці ў дзвюх краінах – Польшчы і Балгарыі. Калі і было ў іншых краінах па аднаму-два чалавека старых перакладчыкаў, дык час жа ідзе, і ніхто не вечны. Зараз становішча катастрафічнае. Беларускае агенцтва па аўтарскіх правах зусім не адыгрывае ніякай ролі, хаця павінна быць прапагандыстам нашай літаратуры за мяжой. У гэтай арганізацыі проста не ўмеюць гэтага рабіць. Могуць парэкамендаваць нешта для перакладу, але як! Аўтар павінен даць ім рускі варыянт свайго твора ў двух экземплярах! Беларускі тэкст нават пасылаць за мяжу не хочуць. Так што, сумна казаць, але калі мы не будзем шырока выдавацца на рускай мове, на сусветны кніжны рынак будзем выходзіць вельмі цяжка і вельмі мала

***Л.Р.*** Але ж вы не перастаяце пісаць, нягледзячы на такія абставіны, і, мусіць, яшчэ нешта задумана.

**І.Ш.** Нядаўна скончыў аповесць пра сучаснасць, пад назвай "Завіхрэнне". Цяпер круціцца сюжэт – чамусьці я яго адганяю, "адбрыкваю", – для п'есы А п'ес я не хачу пісаць. Дзе яе паставіць? Надрукаваць яшчэ магу, а прабіцца на сцэну. У маім узросце гарэлку з рэжысёрамі я ўжо не здольны піць... Дзевяць п'ес у мяне ўжо напісана, ну, будзе дзесятая . Не хочацца. Ёсць іншы сюжэт, але прататыпы лёгка пазнаюцца Таксама не хочацца ажыццяўляць, каб выклікаць агонь на сябе. Але думаю, калі здароўе будзе, у прастоі я не буду. Я такі, што ўсё-ткі пішу. Пішу дзённік. Здаў у "Мастацкую літаратуру" вялікую кніжку дзённікавых запісаў, ляжыць там ужо каля двух гадоў.

***Л.Р.*** А як пачуваецца ў гэтым свеце не літаратар, а чалавек Іван Пятровіч Шамякін?

**І.Ш.** Пімен Панчанка некалі сказаў мне. "Іван, старасць пачынаецца з ног". Цяпер я зразумеў справядлівасць гэтых слоў. Баляць ногі... Летась жыў на дачы Вакол – будуюцца "новыя беларусы" Машыны пад вокнамі гудзяць, пад'ёмныя краны. Я аднаго такога "новага" апісаў у аповесці "Крывінка" – узвёў цагляны плот з калючым дротам вакол катэджа, каб не ўкралі дачку

***Л.Р.*** У японскіх пісьменнікаў быў звычай· калі яны дасягалі вяршыні славы, таемна пераязджалі ў іншае месца, бралі іншае імя і пачыналі жыццё і творчасць нібы спачатку. Сэнс гэтага, як мне здаецца, у праверцы сваёй сапраўднай вартасці, духоўнай гатоўнасці ў любы момант адмовіцца ад усяго матэрыяльнага, нажытага, у незалежнасці ад рэчаў і сацыяльнага статусу. Усё сваё паэт мусіць мець у сабе Ці маглі б вы ўявіць са свайго боку падобны ўчынак?

**І.Ш.** Нечаканае пытанне .. Маладым я б гэта не зрабіў. А старым .. таксама б пабаяўся Куды ісці? Раней хоць манастыры былі

***Л.Р.*** Ну а чыста сімвалічна? Наколькі вы адчуваеце сябе залежным ад побыту?

**І.Ш.** Ёсць сям'я, ёсць дзеці, унукі, якім я павінен дапамагаць. Не, кінуць усё, скажу шчыра, у мяне б духу не хапіла.

***Л.Р.*** На падыходзе трэцяе тысячагоддзе Хто чакае ад яго канца свету, хто – нечуванага дабрабыту А вы?

**І.Ш.** Я не лічу, што пачатак трэцяга тысячагоддзя – нейкая мяжа, за якой усё пачынаецца наноў і людзі будуць новыя, і ўлады. Нічога не зменіцца. Ну, я, можа, не дажыву. Вы дажывяце Вып'еце ў навагоднюю ноч шампанскага. І ўсё пойдзе, як і йшло. Ну а ў перспектыве? Я па старасці скептык Не лічу, што прыйдзе дабрабыт і шчасце. Будуць і войны Нават баюся, каб не было вялікіх. . Народу будзе станавіцца ўсё больш, зямля ўсіх пракарміць не зможа. Будуць багатыя, і будуць бедныя Узмоцняцца класавыя супярэчнасці, могуць здарыцца і рэвалюцыі Будзе ўсё, што было і ў XX стагоддзі.

**... За вакном разгалінастыя яблыні рыхтаваліся пазбавіцца ад цяжкой ношкі – яблыкі саспелі... Багаты сусед кіраваў будоўляй цаглянага катэджу. На паліцах пісьменніцкага кабінета стаялі шыхты кніжак.**

**А ў шуфлядзе пісьмовага стала на спісаных аркушах паперы выспяваў новы твор...**

---

**калі гэта любяць творцы аўтарытэтныя? Напісаў жа адзін вельмі паважаны мною даследчык літаратуры, што І. Шамякін знаходзіцца, маўляў, у апазіцыі да тых працэсаў, што адбываюцца ў сучасным грамадстве, адсюль і аднабаковасць ягоных новых твораў. Малодшы ж калега слыннага навукоўца ў сваёй катэгарычнасці ідзе яшчэ далей. На яго думку, уся бяда І. Шамякіна ў тым, што ён, жадае таго ці не, ідэалізуе савецкую гісторыю і не хоча бачыць заганы рэжыму, які на той час існаваў.**

**Атрымліваецца, калі развіваць думку ў падобным кірунку, дык М. Салтыкоў-Шчадрын выкрываў заганы царскай Расіі, не жадаючы бачыць таго добрага, што было ў ёй. А што значыць апазіцыя да працэсаў, якія адбываюцца сёння? Няўжо трэба вучыць людзей з навуковымі званнямі, што ў літаратуры важна не тое, пра што напісана, а як напісана?**

**Але бяда ўся ў тым, што чамусьці ў сучаснай крытыкі да І. Шамякіна асаблівы падыход... Напрыклад, нядаўна з'явілася новая аповесць Віктара Казько. Пра інтэлігента, які непатрэбны сённяшнім уладам. Твор цікавы, публіцыстычна завостраны і атрымаў ужо нямала заслужаных водгукаў. Цалкам падзяляю гэтыя думкі. Але ж, шаноўныя, навошта і ў крытыцы двайныя стандарты? Нешта падобнае І. Шамякін пісаў некалькі гадоў назад, ствараючы свае аповесці "Paradies auf Erden", "Вернісаж", "Адна на падмостках".**

**Дзе ж тады былі, чаму прамаўчалі пра гэтыя творы? Хоць "чаму" ў дадзеным выпадку – пытанне больш рытарычнае. І так усё зразумела. У адным жа з твораў вельмі непрыглядным атрымаўся вобраз тагачаснага "дэмакрата", які вельмі хутка паспеў "перафарбавацца", а паколькі рабіў гэта паспешна, дык, як ні стараўся, а колішняя чырвоная фарба месцам яшчэ праступае. Вось калі б не было гэтага вобраза, дык не ўзніклі б да Івана Пятровіча прэтэнзіі, а так...**

**І аповесць "Выкармак" ім не па душы таксама. Ужо хоць бы таму, што змешчана ў часопісе "Беларуская думка", а па-другое... Ну і Іван Пятровіч, зноў "не параіўся", пра каго трэба пісаць. І такога "выкармка" паказаў, што рыхтык збіральны вобраз асобных сённяшніх "найсвятлейшых" атрымаўся. Праўда, будзем справядлівымі. Крытыка ўсё ж мусіла прызнаць, што ў гэтым творы пяро І. Шамякіна становіцца вострым, як у сатырыка. Як кажуць, і за тое дзякуй!**

**А І. Шамякін, як той селянін – руплівы і дбайны. Ноч на адпачынак, а дзень на працу. А праца толькі тады бывае па-сапраўднаму засяроджанай, калі асабліва не зважаеш на павучанні, а застаешся сам сабой. І больш таго, робіш тое, што дагэтуль не паспеў зрабіць. Падобным крокам можна растлумачыць з'яўленне гістарычнага рамана "Вялікая княгіня". Нямала літаратуры перагарнуў, пакуль узяўся за яго, а ўзяўся – пераканаў, што яшчэ ёсць порах у парахаўніцах.**

**Можна шмат пісаць пра І. Шамякіна, але дастаткова сказаць: ПЕРШААДКРЫВАЛЬНІК. А яшчэ – мастацкі летапісец свайго часу. Праўда, як я не так даўно даведаўся, Івану Пятровічу падобнае вызначэнне не ва ўсім падабаецца. Што ж, зраблю ўдакладненне: Нестар свайго часу. А Нестар, як вядома, у гісторыі застаўся назаўсёды, хоць пасля яго з'явілася нямала іншых яркіх асоб.**

**Не сумняваюся, што вечна жыць у беларускай літаратуры і І. Шамякіну. А пакуль хацелася б, каб яшчэ доўжылася і доўжылася яго зямное жыццё.**

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# РОЗДУМ НА АПОШНІМ ПЕРАГОНЕ

### *З дзённікаў апошніх гадоў*

**Ад аўтара.** Многа гадоў вяду дзённік. Пісаў яшчэ ў вайну, але той, на жаль, не захаваўся У маладзейшыя гады творчасці да дзённіка звяртаўся рэдка увесь час забіралі раманы, аповесці, актыўная грамадская праца.

Асобныя кавалкі, галоўным чынам успаміны пра час мінулы, пра людзей (пра Машэрава, напрыклад) друкаваў у часопісе "Полымя"

Прапаную "Крыніцы" фрагмент, дзе найбольш разваг пра літаратуру, пісьменнікаў, пра страту сяброў. Сумныя думкі, але што зробіш такое жыццё.

*Год 1995*

*8 ліпеня.*

Памёр Барыс Сачанка. Раптоўна. У рабочым кабінеце ў энцыклапедыі, за сталом, за якім я сядзеў 12 гадоў. Выйшаў ад яго аўтар Праз 3–4 хвіліны ўвайшла супрацоўніца. Галоўнага няма, а сакратарка сказала: не выходзіў Пастукала ў пакой адпачынку – маўчанне. Павярнулася і – о жах! – чалавек ляжыць пад сталом І ніякіх прыкмет жыцця Урачы кажуць. сардэчны тромб Сям'я папрасіла не ўскрываць, і дакладны дыягназ невядомы. 15 мая яму споўнілася 59 гадоў.

Ашаламіла мяне гэтая смерць, як смерць Андрэя. Я любіў свайго земляка, вучня, хоць Барыс не прызнаваў, што ён вучань, гэта, магчыма, адзіны недахоп яго, агульны, бадай, для ўсіх нас – перабольшанне свайго таленту, сваёй ролі. Даравальны грэх. Думаю, я цаніў яго вышэй, чым ён мяне. Ды Бог з ім, смешна дзяліць лаўры. Яны былі супернікамі з Чыгрынавым· у іх адна каханка – літаратура. Гэта тое ж суперніцтва, што ў нас з Мележам, чаго я дагэтуль не магу растлумачыць. У аснове суперніцтва творчага часцей за ўсё тоіцца зайздрасць. Але я Івану не зайздросціў Думаю, і яму не было чаго зайздросціць мне. Барыс быў добры празаік, хоць Чыгрынаў глыбей, мастак большы Сачанка пры немалым лірызме чамусьці здаваўся мне залішне рацыянальным. Можа, таму, што яму перашкаджала яго начытанасць. Ён ведаў і гісторыю беларускай літаратуры, і гісторыю рускай літаратуры, ды і сусветнай. У яго была лепшая ў Мінску бібліятэка старажытных і рэдкіх кніг. Хіба Лужанін мае нешта падобнае. Калі мы ў БелСЭ вырашылі перавыдаваць факсімільна Насовіча, толькі Барыс Іванавіч даў нам экземпляр выдання канца мінулага стагоддзя, які можна было расплесці

Яго версіі гібелі Купалы, яго расказы пра творчасць беларусаў, якіх лёс загнаў далёка за межы, хоць у пераважнай большасці гэта пасрэдныя пісьменнікі, чытаў з большай цікавасцю, чым яго трылогію

Я адразу пагадзіўся выступіць на паніхідзе Сказаў шчырае слова, праўду без памінальнага перабольшання Не сказаў, што некалі я выбраў яго сваім памочнікам – сакратаром праўлення СП Але сказаў, што сваім пераемнікам на пасадзе галоўнага рэдактара энцыклапедыі я назваў яго, Барыса, эрудыта, кнігалюба. Але на Толю Бутэвіча моцна націснуў БНФ, і ён прызначыў Міхася Ткачова. Паўгода працаваў Ткачоў, два з палавінай Барыс. Іосіф Хаўратовіч раней сказаў мне: "Скажу вам шчыра, Барыс Іванавіч як галоўны вышэй за Ткачова і, не крыўдуйце, нават за вас. Ён не толькі ўнікае ў творчы працэс з веданнем справы, але і ва ўсе іншыя пытанні эканамічныя, фінансавыя". У СП я невысока ацэньваў яго арганізатарскія здольнасці, цягнуў я адзін і за Барыса, і за Чыгрынава, і за Толю Грачанікава. А ў энцыклапедыі Барыс рабіў з поўнай аддачай. Броўка з'яўляўся два разы на тыдзень – на дзве-тры гадзіны Я ездзіў бадай штодня, але толькі пасля таго, як напішу не адну старонку чарговага рамана ці аповесці. "Энцыклапедыю літаратуры і мастацтва" чытаў, артыкулы, за якія можна было ў той час атрымаць і па лысіне, калі што не так – не падабаецца там, наверсе. Строгія суддзі там сядзелі

Барыс амаль штодня з'яўляўся ў 9 раніцы і працаваў да канца дня Ён быў поўны ідэй Адны любілі яго за гэта, іншыя, хто распусціўся пры ліберале Шамякіне, моршчыліся выяўлялі скепсіс.

У апошнія месяцы багатае пры мне выдавецтва села на мель – кнігі не ішлі, не хапала грошай. Няўжо кіраўнік так перажываў гэтую агульную хваробу? А хто з нас не перажывае за развал нацыянальнай культуры! І разрываюцца нашы сэрцы.

У Барыса сапраўды сэрца разарвалася Драма жыццёвая – Барысава, на якую я быў забыўся, але на пахаванні назіраў

Калі ён рабіў у СП, у кафэ нашым працавала тады, здаецца, буфетчыцай прыгожая Людміла. Паклаў на яе вока і рамантык Барыс. Зблізіліся І праз год-два сенсацыя: нарадзіла Люда двойню, хлопчыкаў Сяброўкі, якія хадзілі праведаць яе, шапталіся· Барысавы хлапчаняты Я не верыў Люда мела мужа. Пакуль гады праз тры не ўбачыў блізнят. Сачанкі! Такія ж цыганістыя, падобныя адно на адно і на бацьку

Учора хлопцы гэтыя, ім ужо гадоў па 16, сядзелі ў аднолькавых чорных жалобных сарочках у першым радзе побач з маці Потым стаялі на могілках наперадзе ўсіх, хто

# ЭПОХУ НЕ ВЫБІРАЮЦЬ

**Імя Івана Шамякіна сёння для многіх табуізавана. Наш пратаганіст працаваў у савецкія часы ў самых спрыяльных умовах, карыстаўся вялікімі прывілеямі, яго віталі партыйныя тузы, ён рэпрэзентаваў бальшавіцкі рэжым і дэманстраваў сабою "росквіт" савецкай літаратуры, узнагароды і званні сыпаліся на яго залатым дажджом. Яго творы так шчодра публікаваліся на ўсіх мовах былога Савецкага Саюза, а выдавецтвам "Прагрэс" і на мовах свету, што ён без перабольшання даваў дзяржаве прыбытку амаль столькі, колькі Мінскі трактарны завод. Дзеля таго каб вывезці ўсё напісанае пісьменнікам ад рукі, адны толькі рукапісы, спатрэбіцца самае малое трохтонка. Пяцьдзесят гадоў працы ў савецкай літаратуры пакінулі прыкметны след. І хоць супрацьстаянне афіцыйных і апазіцыйных літаратараў, якое пачалося яшчэ ў час ўводу савецкага войска ў Чэхаславаччыну, абвастрылася апошнімі падзеямі, а таму быць аб'ектыўным вельмі цяжка, усё ж такі спроба адвеяць зерне ад мякіны вартая ўвагі, пры ўсіх выдатках і непаразуменнях.**

**Творчасць Шамякіна добра ўпісваецца ў сацрэалістычную парадыгму сервільнай літаратуры, якая абслугоўвала не дужа прывабны з чалавечага погляду рэжым. Аднак "грамада сіфанафора" (метафара М. Багдановіча), што ўсплыла з глыбіняў савецкай рэчаіснасці, уяўляе сабой такое неверагоднае перапляценне дабра і зла, што адлучыць перавагі ад іх хібаў, перамогу ад паразы наўрад ці магчыма. Вообразнасць шамякінскіх твораў наскрозь прасякнута, як торт сіропам, савецкасцю і партыйнасцю. Мы кажам: "Шамякін-мастак", – а разумеем: "Шамякін-партфункцыянер", і наадварот. Шамякін-гуманіст і Шамякін-камуніст заўсёды побач, як блізняты-спарышы. Хоць, здаецца, няма нічога больш супрацьлеглага, як паняцці "гуманізм" і "камунізм" (нягледзячы на знак тоеснасці ў формуле "ранняга Маркса"). Усё становіцца на месца, калі згадзіцца, што "школа сацрэалізму" існавала на самой справе, мае сваіх выбітных прадстаўнікоў і пакінула свае ўзоры мастацтва, няхай сабе эклектычнага, паўпраўдзівага. У гэтага мастацтва быў свой вялікі масавы чытач, імя якому – савецкі народ.**

**Залежнасць Шамякіна ад пануючай у яго часы ідэалогіі заўважаецца адразу ж – на ўзроўні мовы і стылю. Яго мова ўсярэдненая, агульналітаратурная, "наркомаўка", без прыкмет месца нараджэння аўтара. Хіба толькі рускі сінтаксіс выяўляе асаблівасці біяграфіі пісьменніка, які правёў маленства на памежжы трох усходнеславянскіх рэспублік, трох моўных стыхій. Лексіка збедненая – Шамякін унікае слоў, якія не адразу ўкладваюцца ў чытацкай свядомасці, ускладняюць успрыманне твора, затармажваюць дзею, заводзяць "на глыбіню". Адна з галоўных мэтаў яго прозы – чытэльнасць, займальнасць, папулярнасць. Савецкі**

праводзіў нябожчыка, насупраць мяне. Я не зводзіў з іх вачэй. Развітваючыся перад тым, як закрыць труну, плакала Тамара, галасілі Галя і Света, дочкі: “Ай, татачка, ай, родненькі”

Змрочна маўчалі іх браты. І Люда не пусціла слязу А мне так хацелася, каб Тамара – разумная жанчына! – ці Галя, сама ж мае дваіх сынкоў, падышлі б да юнакоў і сказалі б ім: “Хлопчыкі, развітайцеся з бацькам сваім”. Не, не падышлі, не сказалі А шкада. І за памінальным сталом я не бачыў іх А Людміла і дагэтуль была загадчыцай кафэ. Калі ішлі ў кафэ, вахцёрка наша, не помню імя, сказала мне: “Пайду, суцешу Людмілу”. Знайшлася добрая душа. А між іншым – сюжэт. Не новы. Але я, сентыменталіст, мог бы сачыніць слязлівую гісторыю – для старых чытачак Будзе ўзнаванне? Але ж можна нікога не крыўдзіць ні Тамару, ні Люду Жыццё ёсць жыццё! Барыс не цураўся сыноў. Помню гады тры назад, калі некаторыя з нашых хацелі прыхваціць-прыватызаваць кафэ, Барыс Іванавіч адкрыта на паседжаннях, прэзідыуме, абараняў кафэ і яго загадчыцу – маці сваіх дзяцей. Тамары кумкі нашэптвалі. Таму і не ўзнялася яна да высокага мацярынскага жэсту І я шкадую, што гэтага не здарылася.

*29 ліпеня.*

Пачаў – і скончыў. Аповесць За месяц выдыхнуў. Праўда, аб'ём партатыўны – 66 старонак, маіх, рукапісных. Але справа не ў аб'ёме. Рэч гэтая незвычайная сваім працэсам напісання Упершыню я сеў за стол, маючы герояў, але не ведаючы іх дзеянняў. Не, дзеянне было – драматычная размова, як у п'есах Горкага, у “Дачніках”, напрыклад У мяне таксама дачнікі І геаграфія – 6-ты пасёлак, дзе пасяліліся ўсе былыя. Маглі яны гэтак сабрацца? Маглі. Але да чаго іх прывесці – во чаго не было А які фінал у пенсіянераў? Адзін. Фінал маглі даць маладыя, з'яўленне Ружаны дало круты паварот сюжэту Яе здрада мужу дала некалькі фіналаў Упершыню цяжка было выбраць – які. трагічны, камічны? Страляецца ад жончынай здрады Пятро. Да гэтага вёў 40 старонак. І раптам – новы зігзаг, у апошнія дні страляе ў Ружану. Заставалася яшчэ адна задача: замазаць пазнавальнасць прататыпаў. А можа не трэба? Проста не спяшацца друкаваць. Фінал залішне нечаканы – скажуць чытачы, крытыкі Для самога аўтара ён нечаканы. Але логіка ёсць, секс, праблема сённяшняга жыцця: бясплодная балбатня старых палітыкаў і страсці маладых, лёгкасць сексуальных адносін, якая ў нас, дзікуноў, прыводзіць да трагедыі

Назвы.. Як мяняў назвы! “Партрэт без рамы”, “Фантомы”, “Святы дурань” Апошняя “Нясконччаны партрэт” Яшчэ нейкія варыянты былі “Скрыня Пандоры”,

**чытач пазнаваў “сваё” на стадыі семіётыкі: у творах Шамякіна ён тут і там знаходзіў знакі сваёй далучанасці да “культуры”, да “вялікіх ідэй”, да “галоўнага героя сучаснасці”. Навідавоку утылітарны падыход да эстэтыкі, калі мастацкія вобразы ілюструюць партыйныя лозунгі, прынцыпы камуністычнай маралі, папулісцкія ідэі: “мы – савецкія людзі”, “яго вялікасць рабочы клас”, “сям'я – асноўная ячэйка грамадства”, “дзеці – кветкі жыцця”... Галоўны герой, чалавек “з чырвонай кніжкай у кішэні”, нярэдка партыйны сакратар, ва ўсякім выпадку актывіст, як зазвычай, удумлівы, праніклівы, ведае наперад думкі суразмоўцы, бачыць далёка і перажывае глыбока. Жанчыны, вобразы якіх у Шамякіна атрымліваюцца найлепш, зычлівыя, спакойныя, летуценныя, ласкава-жартаўлівыя, чулыя.**

**Лекала, паводле якога ствараюцца вобразы Шамякіна, шчасліва знойдзена празаікам ужо ў ягонай першай буйнай рэчы, у аповесці “Помста”. Чорна-белае мысленне выяўляецца ў сюжэтнай інтрызе, пабудаванай на кантрасце: савецкі маёр Раманенка супрацьстаіць нямецкаму каменданту Візэнеру. Характар Раманенкі не выходзіць за межы схемы “станоўчага героя”: гэта чалавек “адной, але палымянай страсці”, які жыве прагай помсты ненавіснаму ворагу. Гэтая страсць выцясняе з яго душы ўсе іншыя чалавечыя пачуцці. Раманенка пазбаўлены слабасцяў. А тое, што ён у апошні момант, калі бачыць перад сабой сям'ю Візэнера і нарэшце можа адпомсціць, прымае гуманнае рашэнне, адно ўзвышае героя да звання “сапраўднага чалавека”. У выніку чытач перажывае катарсіс і ўжо не зважае на сюжэтныя**





здаецца, гэтая з'явілася на адну ноч, калі шукаў “палітычнага” дзедаўскага фіналу – шукаў новай бяды, якая грымнула над старымі. Не знайшоў У 1992 годзе Рачыцкі мог павесіцца. На большае дзяды няздатныя. Стрэліць у здрадніцу мог толькі 30-гадовы Пятро. Усё лагічна!

Быў запрошаны на прыём у сувязі з прыездам Патрыярха Алексія II Прыём – побач, у рэзідэнцыі “Заслаўль”. Цікавая дэталь, якая пацешыла. **Тщеславные** людзі тыя, што маюць найвышэйшыя духоўныя і свецкія чыны. Прыём у 9 вечара. Цэлы дзень, спякотны, Патрыярх і світа на нагах у сваім цяжкім **облачении**. Аднак яшчэ стаялі паўгадзіны ў вестыбюлі перад тэлевізарам з мэтай – **паглядзець на сябе**: як сустракаюцца ў аэрапорце, ускладаюць вянкі, ля манумента, служаць малебен, прымаюць адзін аднаго. Ну, Лукашэнка яшчэ малады, не нацешыўся. А вось Алексій, Філарэт! .

Я, запісаўшыся на тэлебачанні, рэдка і без задавальнення гляджу пасля на сябе. Не люблю сваю манеру гаварыць, свой выгляд сівы мерын...

А вось жа любяць бароды сябе! А між іншым, грэх гэта – сябелюбства.

*31 ліпеня.*

Памёр Алесь Ганчар. “Літаратурная газета” дала кароценькае паведамленне: “Печальная весть пришла из Киева – на 78 году жизни скончался выдающийся украинский писатель Олесь Гончар, известный далеко за пределами своей родины”.

Мне гэтую сумную навіну паведаміў на прыёме ў французскай амбасадзе украінскі пасол Ул. І Жаліба.

Смерць людзей, якіх я блізка ведаў, моцна ўражвае. Я лічыў Ганчара сваім сябрам. Хацеў быць яго сябрам – слаў кнігі, віншаванні. Былі на “ты” Аднак адчуваў: наўрад ці хацелася яму быць маім сябрам. Проста яго самалюбства цешыла, што да яго набіваецца ў сябры вядомы пісьменнік суседняй рэспублікі Такіх сяброў у яго было многа. Ад нас – Іван Мележ, Янка Брыль у такіх блізкіх адносінах, здаецца, не быў Быкаў, бадай, не прызнаваў Ганчара, ва ўсякім разе не лічыў выдатным пісьменнікам, не прызнаваў “Сцяганосцаў”

Быў Ганчар **выдающимся писателем?** Сёння ўзнікае пытанне: у якім сэнсе? У які час? Безумоўна, талент Але. . Не Шолахаў і нават не Федзін. Фігура трагічная Першае яго няшчасце, што быў пераканаы, што ён самы-самы Узняўся над калегамі і адарваўся ад іх. Мікола Нагнібеда пад чаркай выказваўся пра яго негатыўна, праўда, кажучы камплiменты мне: пасля паездкі па Украіне прыйшоў ды высновы. чытаюць Шамякіна і не чытаюць Ганчара. Магу паверыць, што гэта адносіцца да рускамоўнай часткі чытачоў· “Раман-газета” з маімі раманамі чыталася нарасхоп.

**няўвязкі, псіхалагічныя недарэчнасці, стылявыя недакладнасці. Паўзабытая аповесць “Помста” прадстаўляе сабой схему канструявання літаратурнага твора з загадзя гарантаванай якасцю: помста савецкага чалавека справядлівая, яго сэрца высакароднае, сумленне чыстае, мараль сацыялістычная, кругагляд інтэрнацыянальны...**

**Паводле апрабаванага ўзору пісалася і “Глыбокая плынь” – раман, які зрабіў імя пісьменніка Івана Шамякіна папулярным. Аўтар, у адпаведнасці з вымогамі “перадавога метаду”, свядома ўціхамірвае ўласнае “я”, аддаючы прыярытэт “аб'ектыўнай” прозе. Ягоны ваенны вопыт здаецца малацікавым у параўнанні з тым, што перажылі людзі пад акупацыяй, землякі-палешукі, сярод якіх тады малады літаратар жыў і працаваў. Малітоўнае пакланенне народу, уласцівае беларускай класіцы, захапленне яго подзвігам, мужнасцю, цярпеннем, сціпласцю, дабратой, працавітасцю выцясняе асабістае як нешта нявартае ўвагі. Празаіка натхніла “рамантыка” падполля і партызаншчыны, і жыццё, напоўненае легендамі, прыгодамі, нечаканкамі і выпадковасцямі, здалося больш багатым і цікавым, чым творчая фантазія. Глыбіня і шырыня народнай плыні, паводкі падзей настолькі ўразіла аўтара, што гэта ўражанне лёгка перадаецца і чытачу. Аднак сапраўдныя віры народнага жыцця пад акупацыяй прайшлі міма ўвагі: літаратура таго часу проста баялася зазіраць у чорную прорву вайны, задавальняючыся апісаннем найбольш яркіх эпізодаў, стварэннем гераічных характараў, узнаўленнем гатовых сюжэтаў. Ад мастака слова чакалася ўменне ляпіць вобразы, будаваць канфлікт, лёгкім пяром белетрыста дакранацца да**

Трагедыю Алесь павінен быў перажыць, падводзячы вынікі, калі ў яго хапала самакрытычнасці. Другая яго бяда была ў тым, што ён, як мала хто з нас, "держал нос по ветру", груба кажучы Паддаваўся кан'юнктуры Трылогія "Сцяганосцы", за якую ён атрымаў ажно тры Сталінскія прэміі – за кожную частку – адыграла не лепшую ролю ў зацверджанні метада паказу вайны. Яна стала эталонам для тых, хто бачыў вайну, і бачыў праўду, мог напісаць праўду, але ўзорамі былі "Сцяганосцы". А надрукавацца – о, як нам, франтавікам, хацелася! І слабейшыя пісалі пад Ганчара. Сярэднія – пад Някрасава, Бондарава, Бакланава. Да гонару беларускай літаратуры нашы не рабілі пад гэтых свяціл У нас плюсы і мінусы былі свае, можа, ад таго, што ў нас была свая тэма – партызанская А потым з'явіўся Быкаў

Аднак пра Алеся Светлая яму памяць. Ён мог стаць выдатным празаікам. Можа, гэта нават не кан'юнктура, можа, паэтычная захопленасць, узнёсласць, традыцыйная для ўкраінскай літаратуры На такой высокай ноце "спяваў" яго антыпод Міхайла Стэльмах, глыбока нацыянальны празаік. Няхай даруе Бог іх узнёсласць. Гэта не грэх. Ці грэх? Усё-такі грэх Не павінен быў Алесь так узнёсла пісаць пра рэчаіснасць, якая акружала яго Я не пісаў І Мележ не пісаў.

Успамінаю, як прысуджалі Ленінскую прэмію за "Тронку"; я і Глебка былі ў той час членамі Камітэта. Мы, канешне, дамовіліся падтрымаць свайго сябра з братняй рэспублікі, суседняй. Увогуле да нацыяналаў, асабліва да азіятаў, і рускія адносіліся паблажліва. Пачалі з Глебкам угаворваць сябра свайго Ал Пракоф'ева. Пыхцеў дзед: "Ребятки, ребятки, я вас понимаю, но признаюсь вам, как на духу, не смог я этой "Тронки" прочитать до конца" Глебка пасля прызнаўся, што таксама не дачытаў Я прачытаў сумленна, не без цікавасці – як такі прызнаны мэтр падае сучаснасць? Але яшчэ дома Андрэю сказаў, што стаўленне ў мяне крытычнае; на пятнаццаць гадоў раней напісаныя "Крыніцы" неслі куды большую праўду

На першым галасаванні правалілі Аднак Алесь быў даволі прабіўны чалавек. Не помню, хто тады быў першы на Украіне, але дамогся, каб "Тронку" перагаласавалі Ал. Твардоўскі і Чынгіз Айтматаў на перагаласоўку не з'явіліся Астатнія – народ дысцыплінаваны, партыйны раз ёсць каманда перагаласаваць, значыцца, трэба. Дружна прысудзілі Увечары ў яго ў нумары – трохпакаёвым люксе "Масквы" – Валянціна Данілаўна давала прыём Алесь радасці не выяўляў, яўна перажываў, што не прайшоў з першага заходу, раней праходзіў

"Таўрыя" – раман сур'ёзны, але чартоўскі сумны. У "Саборы" нямала **клюквы** тыпова ганчараўскай. Андрэй паказваў мне яе. Але "Сабор", можа, самая праўдзівая рэч. Недарэмна дурань Шэлест зрабіў з Ганчара "літаратурнага пакутніка" – сарваў публікацыю па-руску. Ці не за гэта Алесь пасля помсціў партнаменклатуры, якая сорак гадоў насіла яго на руках?



Думаю, "Сабор" аўтара спалохаў. Пазнейшы раман, які я чытаў і нават назвы добра не помню, здаецца, "Імя тваё" – пра прычарнаморскі калгас, – гэта бадай ганьба для пісьменніка такога маштабу. Справа нават не ў захапленні багацейшым калгасным жыццём – рай зямны! Слабасць у абсурднасці праблем, у аднастайнасці характараў.

"Дэмакратыя" разарвала нашы сувязі. Чуў, што сябра мой стаў зацятым змагаром за самастойную Украіну, першы, да развалу СССР, выйшаў з партыі, у якую ўступіў на фронце і ганіў, аплёўваў камуністаў, "рускіх акупантаў". І я, артадокс, не мог зразумець гэтага павароту-пераварогу Мне было балюча. Алесь, думаў я, табе гэта навошта? Ты ж закрэсліваеш і "Сцяганосцаў", і "Тронку" Няхай Драч, няхай Братунь (між іншым, таксама памёр нядаўна), але табе, такому ўзнёсламу нядаўна песняру савецкага ладу!.. Хапіла ж мужнасці ў Барыса Алейніка ўзняцца да асуджэння Гарбачова і ўсёй камарыллі, рэнегатаў і пярэваратняў

*5 жніўня.*

Адужаў "Преступление и наказание" Захапіла. Але не тым, чым захапіў Чэхаў Геніяльнасць, пра якую так высока пісаў Ал Адамовіч і мноства іншых даследчыкаў, я не адчуваю Я лічу, што геніяльнасць можна і трэба не розумам пазнаваць, а менавіта адчуваць чытаеш – і дух займае, глядзіш карціну і слупянееш перад ёй, дыхаць перастаеш. Ці скульптуру Фільмаў такіх не помню, не было іх, мабыць. Чым захапіла "Преступление и наказание"? Я раптам адкрыў, што, ведаючы агульны сюжэт, галоўных персанажаў, я не помніў, абсалютна не помніў асобныя эпізоды, некаторых герояў – так забылася Яны былі адкрыццём, і менавіта гэта захапіла. Але не пакідала ранейшае адчуванне: напісана чалавекам з хворай псіхікай. Ды і няпраўды многа. Сама пасылка – завязка штучная, прыдуманая – ад заданасці. а напішу я вось пра гэта пра злачынства і пакаранне. Што мяне здзіўляла і захапляла і ў іншых раманах і ў гэтым, то гэта незвычайнае ўменне Фёдара Міхайлавіча сплесці герояў у адзін сапраўды такі **раманны** вузел. У Талстога гэтага няма: у яго сувязі больш сямейныя, службовыя, а не раманныя. Але ў магутнай Барады ўсё на дзіва натуральна, ніводнага фальшывага ходу – у раманах. Толькі што перачытаў "Хаджы-Мурата" Ашаломлены. Вось тут геніяльнасць адчуваеш усім – і розумам, і порамі скуры Дасведчана, гістарычна выверана, сцісла – і надзвычай шырока, палатно шырокае! А характары! Адзін невялікі раздзел і – тыпы салдаты, селянін Аўдзееў, яго сям'я, афіцэры, губернатар, міністр, цар Аднак злы дзед – Талстой! Ніхто з класікаў XIX стагоддзя, ды і пазней, імператара так не напісаў, як Лёва Мікалая І Распрануў дагала, і ўсё ўродлівае, пачварнае – і цела, і душа. Нашы "дэмакраты" зараз робяць з Мікалая II ікону, святога. Грахоў у яго было – ого-го! Справа іншая, што

**ўсяго, што сведчыла аб духоўнай велічы "новага чалавека", выхаванага за гады савецкай улады.**

**Наступны раман І. Шамякіна "У добры час", нягледзячы на відавочную няўдачу, шмат даў аўтару ў плане разумення сваёй задачы. Выявілася, што белетрыстычная манера міжволі адводзіць пісьменніка ад глыбінных структур рэчаіснасці да таго, што ляжыць на паверхні. Самая надзённая сучаснасць, калі па-за ўвагай застаюцца базавыя апоры жыцця, складанасць чалавечай псіхалогіі, пытанні аб свабодзе і праве выбару, не здольная трымаць увесь час у напружанні чытача. Увасабленне ідэала "прыгожага чалавека", "творцы сацыялістычнай будучыні", якое не грунтуецца на рэальнасці, ідэалогія калектывізму, пафас партыйнасці і псеўданароднасці, якія пануюць у другім рамане празаіка, даюць у выніку варты жалю ўзор лакіроўкі жыцця, урэшце адвергнуты і самім аўтарам. Менавіта з гэтага часу Шамякін свядома выконвае сізіфаву працу: ускочвае і ўскочвае на літаратурны Парнас раман за раманам, кнігу за кнігай, нягледзячы на тое, што на вяршыні мала што застаецца з яго твораў. Яго працавітасць, цярплівасць і пладавітасць уражваюць і самі па сабе і як праява беларускага характару, для якога, здаецца, не столькі важны вынік яго намаганняў, колькі сам працэс працы, творчасці, жыцця.**

**У рамане "У добры час", акрамя звычайнай атрыбутыкі сацрэалізму ("валявы герой", адсталы калгас, які выходзіць з "прарыву"), ёсць моманты, калі чытацкая цікаўнасць абвастраецца. Аўтар, здаецца, з большай ахвотай разблытвае любоўную інтрыгу, чым гаспадарчыя праблемы. Менавіта ў сферы інтымных дачыненняў ён адкрывае чалавечае ў чалавеку, дазваляе сабе быць досыць раскаваным у паказе страсцяў, на якіх трымаецца свет. Вядома, перад намі "станоўчы герой", "савецкая жанчына" як семіятычныя знакі сацыялістычнай рэчаіснасці, своеасаблівы эталон чалавека, зацверджаны афіцыйнымі інстанцыямі. Але за яскравай этыкеткай партыйнай прыналежнасці герояў таіўся нечаканы меладраматызм, уласцівы хутчэй за ўсё сентыменталізму, чым жыццепадобнаму рэалізму.**

**Дзе ўжо той Бародка, "Сталін раённага маштабу", якім захапляліся ледзь не тры пакаленні даследчыкаў літаратуры?! А вось апісанне складаных дачыненняў дырэктара школы Лемяшэвіча і вясковай фельчаркі Марозавай, бадай што, і сёння зацікавяць чытачоў рамана "Крыніцы", які, падобна, ужо трапіў у архіў літаратурнай гісторыі. І найперш таму, што тут выяўлена пісьменнікам вечна актуальнае, глыбока чалавечае, сапраўднае. Менавіта па гэтай прычыне дасюль трымаецца ў школьнай праграме пенталогія І. Шамякіна "Трывожнае шчасце". Няхай сабе ў "трэцяй асобе", але ў творы шчыра апавядаецца пра шчасце першага кахання, шматлікія выпрабаванні, неверагодныя сітуацыі, у якіх пабывалі закаханыя Пятро Шапятовіч і Саша Траянава. У трывіяльным "любоўным трохкутніку" адлюстраваўся час, калі і захапленне, і рэўнасць, і здрада, і вернасць – усё нясе на сябе сляды эпохі. Так захапляцца шчасцем першага кахання маглі толькі юнакі і дзяўчаты "сталінскіх пяцігодак", якія і не падазравалі, што за хмары навісаюць над імі. І так верыць у чысціню найлепшых пабуджэнняў маглі хіба адно акрыленыя сацыялістычнай**

расстрэл дзяцей даравацъ нельга. Але маўчаць, хто быў ініцыятар знішчэння сям'і і выканаўца. Вуліцу Горкага нашы дзяржаўнікі закрэслілі ўміг Вуліцу Свярдлова не чапаюць. Прапусцілі міма вушэй маю прапанову перайменаваць Свярдлова ў Максіма Багдановіча. "Ён там жыў". Дзе жыў? Дзе пры яго жыцці быў лес? Туды ж – ажно да Зялёнага Луга – цягнецца вуліца Горкага-Багдановіча. Свярдлова бліжэй У цэнтры. Больш пачэсна.

У томе следам за "Хаджы-Муратам" – "Фальшывы купон" Божа мой! І гэта таксама Талстой? Ашаламленне іншага плана ад ненатуральнасці, прыдуманасці, маралізатарства. Так пісалі кан'юнктуршчыкі пад час росквіту сацыялістычнага рэалізму.

Павольна і доўга чытаю Эдгара По Хачу ўсё ж вычытаць, за што ён трапіў у класікі амерыканскай літаратуры Словам чалавек валодаў, нават у перакладзе адчуваеш. Але сюжэты.. Сачыніцельства! Прыгоды Пфааля – палёт на месяц. Прыгоды Піма – падарожжа да паўднёвага полюса з мноствам смерцяў, самых неверагодных У сучасных дэтэктывах яны, смерці, больш апраўданыя І незакончанасць рэчы "Дзённік Родмена. " – сумны нарыс. Без развязкі – поўная незакончанасць.

Для сучасніка Бальзака, Гогаля, Дзікенса – гэта слаба, прынамсі, для таго, каб заняць месца сярод класікаў сусветнай літаратуры.

*6 жніўня.*

"Комсомольская правда" дала абражальны артыкул пра нашага прэзідэнта "Батька Лукашенко", аўтар нехта Ефімовіч. Можна па-рознаму адносіцца да прэзідэнта, але калі газета другой краіны плюе на яго – гэта павінна абражаць і нас, грамадзян яе: плююць на нас. Рубрыка "Закулисье" Фактаў няма ці яны бяздарныя – як і пра яго жонку. Несур'ёзна гэта. Такой газеце перастаеш верыць На другой старонцы "КП" у Беларуси" падбор ці набор пляўкоў Ужо не толькі на Лукашэнку Даплюнулі і да мяне. У опусе "Тревожное счастье" абитуриентов" – словы нейкай абітурыенткі Вольгі, без прозвішча. "Не понимаю, зачем Лукашенко сам зачитывал темы сочинений Если так пойдет, то скоро Президент пожелает объявлять своим избирателям прогноз погоды А пока он продемонстрировал плохой литературный вкус (да не обидится Иван Шамякин), ограниченный список знакомых ему произведений а также сугубо *политические соображения*" (курсіў мой) Хто паверыць, што гэта сказала учарашняя школьніца?! Дурань аўтар Далей яго: "Математику" Тревожного счастья" хватит, а вот гуманитарию надо что-нибудь посложнее". Што? Каго? Мне вядома – за каго, за што ваюе аўтар Але аўтара няма – ананім Аўтар толькі пад адным артыкульчыкам "Тощие фараоновы коровы" – Аляксандр Зайцаў. Няўжо усю старонку ён сачыняў?





Кранула мяне? Не! Але навяло на роздум ці, больш правільна, вярнула да даўняга роздуму – як вядзецца ідэалагічная барацьба і кім вядзецца.

*9 жніўня.*

Памёр Максім Танк. Не дажыў 40 дзён да 83. Быццам бы і немалы век, але ўсё роўна смерць яго моцна ўразіла, нават спалохала. Успомніў у Талстога смерць князя Андрэя Хто чаму плача, ад якіх перажыванняў Стары граф Растоў таму, што думае аб сваёй блізкай смерці. Я адганяю такія думкі, але яны неадчэпныя, смерць равеснікаў, менавіта равеснікаў ці нават і старэйшых, як Пімен, Максім, абрушвае хвалю такіх думак.

На сцэне стаялі ў час жалобнай паніхіды Вітка, Русецкі, Грахоўскі, першыя двое нават старэйшыя за Танка. Мне было балюча глядзець на іх. Хто ведае, каму калі адыходзіць? Барыс Сачанка пакінуў гэты свет у 59, Рубанаў – у 42, наш сын – у 41. Калі паміраюць такія маладыя, робіцца крыўдна, бо вельмі ж гэта несправядліва, бо ўрэшце чалавек мае права хаця б на сярэдні век. Колькі там у нас – 70? Кажуць, у мужчын меншы...

Сёння ў СП была грамадзянская паніхіда. Пастаялі ў каравуле Лукашэнка і Чыгір. Труна белая і такая высокая, што нябожчыка ніхто не бачыў Нязвыкла і не ў традыцыях нашых, так хаваюць багатыя амерыканцы.

Я выступіў, але не экспромтам, учора напісаў дзве старонкі Пасля мне казалі, што маё выступленне лепшае. Але няёмка гэта слухаць, сорамна. хваляць надмагільнае слова, а не хваляць творы. Мы сталі чэрствыя і развучыліся гаварыць пра літаратуру. Пасля вайны, калі былі маладыя, за бяседным сталом толькі і было размовы пра літаратуру пра творы сяброў сваіх, калег, пра творы рускіх пісьменнікаў, украінскіх. Паэты чыталі вершы Часта п'яны Вялюгін моршчыўся і казаў суровую праўду: "Скажу табе, старык, дрэнна гэта" І такім лібералам, як я, прыходзілася разводзіць "старыкоў", якім было па 30–40 Спрачаюцца сучасныя "старыкі"? Баюся, што не. Мы сапраўды старыя, не толькі не спрачаемся – мы мала чытаем адзін аднаго.

З Максімам Танкам гадоў, можа, 15 працавалі ў СП· ён – старшыня, я – сакратар, першы сакратар Арганізатар ён, пасля Броўкі, слабейшы, але чалавек мудры. Чорную работу ён узвальваў на мяне. Я не крыўдаваў. любіў хадзіць да начальства, выбіваць кватэры, пуцёўкі, зямлю пад дачы, зямлю. пад магілы А што? – гэта была праблема – атрымаць дазвол на пахаванне на Усходніх (на Маскоўскіх, як іх называюць у народзе) могілках, удовы, дзеці прасілі толькі гэтыя могілкі.

Не скажу, што ў той час мы былі шчырымі сябрамі, але працавалі дружна, ён вызначаў мае арганізатарскія здольнасці. Пра мае раманы гаварыў хіба ў афіцыйных дакладах, напісаных кансультантамі Няўпэўнены, што ўсе іх прачытаў Я не крыўдаваў.

**ідэяй маладыя людзі, якія не ведалі, а галоўнае – і не хацелі ведаць усяе праўды пра "савецкую ўладу". І так раўнаваць умелі толькі асобы, выхаваныя ў духу пагарды да фізічнага ў сабе, да страсцяў, не акрыленых сацыялістычнай ідэйнасцю. Такія героі маглі з'явіцца ў перыяд "адлігі", калі ў літаратуры браў верх прынцып "нетыповыя характары ў нетыповых акалічнасцях". Раней яны не ўпісаліся б у схему "станоўчага героя", а сёння здаваліся б лішне наіўнымі і смешнымі на фоне разнасцежаных "разлзаваных маладых людзей".**

**Празаік адольваў этыкет, які спавядала савецкая літаратура, і адкрываў для сябе эстэтычную вартасць асабістага вопыту. Адразу знікла патрэба ў сюжэтных эфектах, у "крутой" інтрызе, у літаратурных упрыгожваннях. Жыццёвы матэрыял быў самадастатковым, бо нёс у сабе адчуванне мастацкай праўды, непасрэднасці і шчырасці ў выяўленні пачуццяў і думак. Калі ў ранейшых "партыйных" творах у размовах, дыялогах і маналогах персанажаў узнікала квазітатальная панарама савецкага грамадства, бо нават звычайныя людзі цікавілі аўтара галоўным чынам як функцыянеры, то ў аповесці "Агонь і снег" перад намі сям'я галоўнага героя, Пятра Шапятовіча, які нязвыкла адважна самараскрываецца ў сваіх дзённікавых запісах. Ён надзелены ў вялікай ступені словам, вызваленым ад жорсткай залежнасці ад слова аўтара-апавядальніка, каментатара, стваральніка, ідэолага. Аўтару няма патрэбы ўпрыгожваць вобраз вайны, гераізаваць яе: вайна са старонак аповесці-дзённіка паўстае ў сваёй непрыхаванай аголенасці і жахлівасці. У тагачаснай беларускай прозе гэты ўзровень шчырасці ўспрымаўся як мастацкае адкрыццё – сустрэча чытача з аповесцю М. Гарэцкага "На імперыялістычнай вайне" яшчэ была наперадзе.**

**Крытыкі ўжо адзначалі няроўнасць мастацкага апавядання І. Шамякіна, якое рухаецца хвалепадобна, калі "ўзвышшы" і "правалы" рытмічна мяжуюцца. Празаіка, захопленага пошукам ісціны, хапае ненадоўга, і ён – у другой і чацвёртай частках пенталогіі – вынырвае на паверхню: піша адаптаваную версію партызанскай вайны, паводле "Глыбокай плыні", або робіць спробу стварыць варыянт "беларускага вестэрна". У час, калі была апублікавана пятая, заключная частка "Мост", у грамадстве ўжо адбыўся паварот да паступовага апраўдання сталіншчыны, і выкрывальная сіла апошняга магутнага акорду "Трывожнага шчасця" ўраўнавала і чытача, і крытыку. У творы была прыкметнай цікавасць да асуджэння злачынстваў таталітарызму і таго зла, які нарадзіў рэжым гвалту. Аповесць "Мост" захапляла непрадузятым поглядам на пасляваенную савецкую гісторыю, на "закрытыя" старонкі мінулага, калі рэжым паставіў людзей у нечалавечыя ўмовы выжывання, выпрабоўваючы іх на гуманнасць, зычлівасць, высакародства, сумленнасць. Гэты твор належаў да ўзораў сацыяльна-выкрывальнай літаратуры, колькасць якіх у шасцідзесятыя гады катастрафічна змяншалася, а таму крытыка не надавала асаблівага значэння глыбіні мастацкага пранікнення ў эпоху, дакладнасці псіхалагічнага малюнку. Пакуты, выпрабаванні героя і ў гэтым творы І. Шамякіна асветлены эстэтычным ідэалам "станоўчага героя", які ў любых умовах застаецца верным сабе, сацыялістычнай маралі,**

Некаторыя "сябры" мае настройвалі яго супраць мяне  Але, да гонару Паэта і Чалавека, ён не вельмі паддаваўся гэтай "настройцы"  У яго быў свой погляд. Здаваўся ён пад націскам сваіх сяброў і маіх "сяброў" у адным – у падтрымцы маёй кандыдатуры ў Камітэце па Ленінскіх і Дзяржаўных преміях  Не, ён не выступаў супраць, ён падтрымліваў.  Але як? Маскоўскія зубры выдатна ўмелі лавіць нюансы гэтай падтрымкі  Калі я быў членам гэтага Камітэта, я помню такія "падтрымкі" – што горшыя за разнос. Вострая крытыка прынесла б больш карысці – прыцягнула б увагу да твора. А пахвала..  была такая пахвала, пасля якой цікавасць да твора знікала не толькі ў Камітэце, але ўвогуле. Пасля некаторых панегірыкаў сваіх паплечнікаў творчасць нацыянальнага аўтара знікала са старонак "ЛГ", маскоўскіх часопісаў

З Яўгенам Іванавічам мы сышліся душэўна ў апошнія гады – у гады вялікага развалу  Мы аднолькава ставіліся да прычын гэтага развалу  Былі аднадумцамі  І мы заставаліся камуністамі  Ніхто з нас не стаў пярэваратнем, як некаторыя выхаванцы нашы, "барабаншчыкі камсамола і партыі"  Максім вельмі дасціпна высмейваў іх  Не меў літасці нават да сябра свайго Пімена, які ў час эйфарыі дэмакратыі моцна хістаўся   то ў адзін, то ў другі бок.

Я часта званіў Максіму, і мы гутарылі па гадзіне, дзве, вуха пачынала балець   ад трубкі  І калі сустракаліся, то найчасцей – у бальніцы, дома я наведваў яго ўсяго некалькі разоў  Паэт ён быў глыбокі  Галоўнае – у яго паэзіі прысутнічала глыбокае мысленне, філасофія, чаго няма ў многіх з тых, хто абвяшчаў сябе яго паслядоўнікам, а пасля пляваў на лысіну старому чалавеку

Не працаваў на дачы тэлефон, і я не званіў Максіму тыдні тры  Пазваніў – няма адказу  Пазваніў у СП, маладыя сакратары не ведаюць. Папрасіў Віктара Супрунчака навесці даведкі  У бальніцы  Гаварыў з урачом  "Нічога. Але што вы хочаце   узрост  Ногі  Сэрца. Вадкасць збіраецца"

7-га ўвечары чалавека не стала. **Отошел в мир иной**. Пасля смерці Любові Андрэеўны Максім Танк пазваніў Зуёнку і папрасіў, каб яго пахавалі ў Пількаўшчыне, побач з бацькамі  Не падабалася мне. Хто там на вясковых могілках, запушчаных, дагледзіць магілу? Хто за 200 вёрст будзе ездзіць? Карцела мне пры сустрэчы адгаварыць яго  Тут – дачка, сястра, жонка, тут усе сябры  Не трэба, Яўген Іванавіч, дарагі! Не адважыўся, не пагаварыў   Здзіўляюся, чаму гэтага не зрабілі сын, дачка, унукі  Так паважалі апошнюю волю?

І павезлі яго сёння на Мядзельшчыну  Я не паехаў. Выступаў – расхваляваўся, галава забалела. Пабаяўся дарогі, новага хвалявання, выпіўкі на памінках. Не па мне ўжо такія вояжы. Ледзьве ў Мінск дабраўся на аўтобусе. Назад энцыклапедысты далі машыну  З пахавання – за стол, каб напісаць пра Максіма. Трэба ўвечары ўзяць чарку за светлую памяць сябра.

**робіцца лепшым, больш чыстым.**

**У кожным новым творы пісьменнік уздымаў надзённыя праблемы, якімі жыло савецкае грамадства. Часам ён апераджаў падзеі: вечарам у свеце, раніцай у газеце. А нярэдка і адставаў з вобразным асэнсаваннем жыцця, але гэта "адставанне" звязвалася з паглыбленнем у гісторыю той ці іншай праблемы, што выклікала трывогу і папрокі ідэалагічных службаў. Спроба паўтарыць у новых, мала спрыяльных для праўдзівай творчасці акалічнасцях поспех рамана "Крыніцы" і стварыць вобраз Гукана, духоўнага спадкаемца ўжо знаёмага чытачу сталініста Бародкі, была проста "не заўважана" літаратурнай крытыкай, якая абслугоўвала рэжым. Раман "Сэрца на далоні" не абудзіў належнага рэзанансу: сутыкненне "ленінцаў" і "сталіністаў" здавалася ўжо неактуальным. У Шамякіна гэта наогул асаблівасць – вяртанне да ўжо, здаецца, асвоенага матэрыялу, сюжэтных хадоў, абжытых вобразаў, аднойчы распрацаваных характараў. У пазнейшым рамане "Петраград – Брэст" робіцца спроба яшчэ раз паказаць "гуманную" сутнасць ленінізму, але ўжо ў супрацьстаянні з трацкістамі. Твор не паспеў выйсці з друку, як грымнула "перабудова", і ў архівах былі адкрыты новыя факты, якія значна ўдакладнялі намаляваную празаікам карціну падзей, звязаных з "Брэсцкім мірам".**

**Шамякін-палітык і Шамякін-мастак дзіўна сумяшчаліся ў адным і тым жа творы. Ва ўсякім выпадку, ідэалагічная заангажаванасць перашкаджала пісьменніку. Асабліва ў жанры рамана, які традыцыйна знаходзіўся ў эпіцэнтры ўвагі ўладных структур і быў міжволі больш**





*11 жніўня.*

Сёння Машы 19 гадоў  Добрая дзяўчына. Прыгожая. Ініцыятыўная. Аднаго бракуе – той душэўнай далікатнасці, якой так шчодра бог надзяліў яе бабуль – Машу і Вольгу. Кудрашоўская парода, а яны, тамбоўцы, з татар, у сястры Машынага бацькі Вячаслава Наташы і вочы раскосыя, тыповая татарка. Кудрашовы нас з Машай здзіўлялі сваімі адносінамі бацькоў да дзяцей, дзяцей да бацькоў, братоў і сястры паміж сабой. няма той блізасці, як у Кротавых  О, у гэтых дзяцей, што выраслі без маці, у беднасці, пачуццё сваяцкасці, роднасці надзвычай развіта. Я пісаў пра Вольгу Філатаўну – як яна гадавала сясцёр, брата, пасля іх дзяцей, цяпер – унукаў гадуе.

Дзень нараджэння любога члена сям'і ў нас святочны. Падарункі. Багаты стол нават і ў наш бедны час.

Я жадаю табе, Маша, шчасця. Але перажываю і трывожуся. якое будзе тваё жыццё?

Званіла з Гомеля сястра мая Тацццяна. Сын яе Саша скончыў універсітэт – дыпламаваны эканаміст  Ніякага размеркавання няма. Атрымаў корачкі – і вылятай у белы свет  Больш месяца абівае парогі заводаў, устаноў, фірм, і нідзе не трэба эканамісты  Нават эканамісты! Вось яна, яшчэ адна дэталь вынікаў "перабудовы", "дэмакратыі"  Катастрафічна падае інтэлектуальны патэнцыял нацыі. Чаму афрыканцы пасля навучання ў нас, у Еўропе, у Амерыцы не хочуць вяртацца дадому? Не трэба яны там. Так і нашы – не трэба яны дома. І ўжо едуць хоць куды, абы атрымаць хоць які заробак. Геніяльна спрацавалі магільшчыкі сацыялізму  прынізіць некалі высока індустрыяльны, высока навуковы Савецкі Саюз да ўзроўню Афрыкі, Лацінскай Амерыкі, раздрабіўшы вялікую дзяржаву на кавалкі  Так лягчэй качаць нафту, вывозіць уран, медзь, лес і   мазгі.

А нашы дурні яшчэ ў эйфарыі незалежнасці  На што спадзяюцца?

*15 жніўня.*

Няўжо я ўспомніў са сваёй творчай біяграфіі ўсё, што варта ўвагі маёй і чытачоў? Думаю, што не  Калі пакорпацца ў запасніку памяці ..  Колькі там яшчэ ўсяго!

Біёграф Бірукоў папрасіў 74-гадовага Льва Мікалаевіча паведаміць некаторыя факты біяграфіі  І стары піша "Воспоминания" на 60 кніжных старонках – аркушы чатыры. Праўда, пісаў тры гады  І гэта пасля "Детства", "Отрочества" і "Юности", напісаных у маладыя гады. Іх ён лічыць мастацкімі творамі і ацэньвае невысока, увогуле пра мастацкія творы (і пра "Войну и мир"?) адзываецца ў гэтых успамінах з надзвычайнай бязлітаснасцю  Мала хто з нашага брата даходзіць да такой ацэнкі сваёй

**залежным ад палітычнай кан'юнктуры. Сацыяльная завостранасць, выкрывальны пафас, сцвярджальная пазіцыя, сюжэтны драматызм захаплялі пісьменніка, і ён не заўважаў, як яго шпарка праносіла міма сапраўдных жыццёвых канфліктаў, вобразаў, ідэй. Амаль непрыкметным засталося ягонае апавяданне "Непрыгожая", у якім прысутнічае не толькі спроба асэнсаваць сацыяльнае становішча гераіні-настаўніцы, што па волі лёсу засталася адзінокай, але і выявіць экзістэнцыяльную драму жанчыны, якой проста не пашанцавала, бо яе акружаюць няўважлівыя і бяздарныя людзі. Вось яна ідзе па лесе, блукае сярод дрэў і ў нейкі момант раптам адчувае сваю значнасць, сваю сувымернасць з вялікім светам навакольнай прыроды і самім космасам, якія жывуць, люструюцца і ў ёй такама, як і ў душах тых, хто лічыцца шчаслівым.**

**Чытач, скажам, быў у захапленні ад аповесці "Ах, Міхаліна, Міхаліна", а крытыка раўнадушна канстатавала: "маральна-этычная праблематыка", "сантыменты" вакол забароненага пачуцця настаўніцы, якая павінна быць узорам для "падрастаючага пакалення", да чужога мужа. Калі мераць "Ганнай Карэнінай" ці "Крэйцаравай санатай", то сапраўды вялікага мастацкага палатна на гэты раз не атрымалася, але апавяданне міжвольнага сведкі жыццёвага здарэння поўнілася спагадай і жаданнем зразумець розныя бакі ў любоўным канфлікце, што ў эпоху ледзь не пурытанскай савецкай маралі і замучаных этычным рыгарызмам людзей выглядала як дэманстрацыя гуманнасці і хрысціянскай міласэрнасці ("Жанчына! Дзе твае абвінаваўцы? Ніхто не асудзіў цябе?.. І я**

творчасці. Хоць што мы ў параўнанні з Талстым! “Воспоминания” не завершаны – толькі ўспаміны маленства. Хораша пра сваю цётку Таццяну Аляксандраўну – з любоўю. І – брата Міцю. Увогуле цікава, па-талстоўску Талстой рэдка цытуе калег. Але тут пачынае з “Воспоминания” Пушкіна:

*...И с отвращением читая жизнь мою,*
*Я трепещу и проклинаю,*
*И горько жалуюсь, и горько слезы лью,*
*Но строк печальных не смываю.*

Пушкін мудрэй, балбатнёй свае мастацкія творы не называе, “строк печальных” не змывае. Нічога змываць нельга! Мы – маленькія ў параўнанні з волатамі. Але і мы – гісторыя. Кожны паасобку і ўсе разам. “Змыць” сваіх калег і братоў могуць толькі Іваны ці Рыгоры ды Васілі, якія не помняць сваяцтва і не хочуць верыць, што адарвацца ім ад нас немагчыма, як і нам ад іх. І ўсё, што Талстой пад старасць назваў “художественной болтовней”, напісана пяром. А народ даўно сказаў: напісанае пяром не вырубіш тапаром. Шкада і балюча, што гэтага не разумеюць палітыкі Але што вінаваціць іх, калі самі мы, творцы, не разумеем. Можа, і разумеем, але не хочам прыняць за непахісную ісціну, часам разважаем эгаістычна, па-абывацельску: выкінем з літаратуры Шамякіна і Навуменку – больш месца будзе нам. Наіўныя хлопчыкі! Не будзе больш! Месца многа ў вялікай літаратуры! У маленькай, хатняй, яго мала. Выкінуўшы калегу, ты можаш лішні раз выдацца, але больш вядомым ад гэтага не станеш!

Не пішу і ўжо перажываю. Дзень без радка страчаны дзень. А іх нямнога засталося, дзён Рамана баюся, а сюжэт на маленькую аповесць не прыходзіць. Яго трэба вынасіць. Таму корпаюся ў памяці, каб успомніць нешта, што не ўспомніў раней і што можа зацікавіць мяне і будучых чытачоў. Даўно хачу напісаць хоць коратка 2–3 старонкі пра такіх маіх калег, як Пестрак, Ткачоў, Бялевіч (характар! і паэт!), як Карпаў – згустак супярэчнасцей, як Ян Скрыган – асоба! Ды і пра тых, што адышлі нядаўна, хочацца напісаць – пра Максіма, Пімена, Барыса. Былі невялікія пісьменнікі, але яркія людзі – І Ралько, Ю Багушэвіч.

*17 жніўня.*

Лукашэнка зрабіў смелы жэст зняў падручнікі па гісторыі 1992–95 гадоў выпуску Вітаю, бо з падручнікаў вылазіла морда нацыяналізму, а галоўнае – паталагічны антырусізм. Вучыць дзяцей нянавісці да рускіх – жах! Я тады пратэставаў, калі гэта

**не асуджаю цябе. Ідзі і больш не грашы”).**

**Нешта падобнае да раздваення асобы і таленту, мастака і ідэолага адбывалася і ў іншых выпадках. Сіла мастацкага таленту і мысліцельная недастатковасць як бы перакрыжоўваліся, утвараючы дзіўны сімбіёз вобразнасці і ілюстрацыйнасці, праўдзівасці і паўпраўды, смеласці і абачлівасці. Адны крытыкі ўсяляк нахвальвалі пісьменніка за актуальнасць праблематыкі, а другія ў той жа час, наадварот, знаходзілі недастаткова пераканаўчай мастацкасць яго новых і новых твораў, якія выходзілі з-пад пяра І. Шамякіна рэгулярна і планамерна. У пісьменніка нават узнікла зразумелае ў тых умовах выслоўе: “сваю пісьменніцкую пяцігодку я ўжо выканаў”. Лічачы сваёй галоўнай задачай выяўленне светлага ў чалавеку, гуманнага, прывабнага, прыгожага, І. Шамякін выпрацоўвае для яе ажыццяўлення падкрэслена індывідуальную манеру пісьма, у якой асноўным з’яўляецца займальнасць інтрыгі, складанасць сюжэтнага малюнка, нечаканасць хадоў, актуальнасць праблематыкі, жыццёвасць матэрыялу, пазнавальнасць персанажаў, даступнасць вобразаў, традыцыйнасць стылю, нарэшце хэпі энд. Гэтыя якасці Шамякіна-белетрыста, магчыма, зближаюць яго прозу з маслітаратурай, разлічанай на шырокага чытача, а не на інтэлектуала, спажыўца “элітарнай прозы”, але маслітаратура, адкрыты кіч, як вядома, апалітычная і безыдэйная. І. Шамякіна лепш за ўсё адносіць да афіцыйнага мастацтва, хоць яму як асобе, набліжанай да вярхушкі ўлады, многае дазвалялася ў большай ступені, чым нярэдка адкрытым апазіцыянерам. У раманах “Снежныя зімы”, “Атланты і карыятыды”, “Вазьму**





пісалася. Наш беларускі нацыяналізм, можа, самы ненатуральны, штучны, бо гэта нацыяналізм групкі інтэлігентаў, не падтрыманы народам. У гэтым, у пэўным сэнсе, наша бяда, але факт ёсць факт, нікуды не дзенешся, рэферэндум па мове паказаў гэта. Ды і самі нацыяналісты прыціхлі, асабліва пасля рэферэндуму. Мяркую па СП: крыкуны як праглынулі языкі. Я пасля рэферэндума напісаў адкрыты ліст Прэзідэнту. Мне гавораць кампліменты, аднак ніхто не выступіў у прэсе – ні ў падтрымку, ні з мэтай аспрэчыць ці ўдакладніць, развіць Маўчаць змагары. Тлуміць галовы дзецям “бітвай пад Оршай” нельга, гэта так. Але мне трохі шкада гісторыкаў, літаратуразнаўцаў – так стараліся, так імкнуліся перавярнуць гісторыю дагары нагамі. Міхаіл Касцюк у справаздачах на сесіях АН выдаваў за гераізм напісанне двухтомнай гісторыі Беларусі А ў працы гэтай Леанід Лыч і інш сапраўды ўсё ставілі з ног на галаву Але яшчэ больш мне шкада эканамічных страт: столькі паперы, якой не хапае! столькі працы паліграфістаў! Цікава, як паводзяць сябе аўтары, лідэры БНФ? Не змаўчаць Па ваеннай тэрміналогіі. Лукашэнка выклікаў агонь на сябе А таго, хто дзеля перамогі ідзе на такі крок – агонь на сябе, нельга не паважаць; гэта, як правіла, рабілі разведчыкі . Лукашэнка – разведчык, ён можа загінуць пад агнём сваіх батарэй, але гэта будзе подзвіг разведчыка.

Учора ўсяе працы, што прачытаў газеты – “Звязду”, “Известия”. І было брыдкае адчуванне марна страчанага дня А сюжэт не з’яўляецца, каб пачаць пісаць. Свярбіць рука. пісаць!

Я бадай ва ўсім умераны, акрамя пісання і харчу. Люблю паесці Алкаголікам, дзякуй богу, не стаў, хоць пад вечар цягне выпіць чарку Што гэта – стоены алкагалізм? Дык я назіраў яго ў Коласа, у Глебкі: меру ведалі, але выпіць чарку ім хацелася. Андрэй ведаў меру, хоць мог і перабраць. Пестрак, Бялевіч, Астрэйка не ведалі, хоць алкаголікамі іх наўрад ці можна было назваць. Караткевіч, Стральцоў, Гаўрусёў, Лупсякоў – гэта былі хворыя, і гарэлка скараціла ім жыццё. А людзі таленавітыя. А талент – рэдкасць. Вось гэтага, здаецца, не разумее наш прэзідэнт, што талент – рэдкасць. Трэба выкарчоўваць паталагічны нацыяналізм, але трэба паважаць творцаў нацыянальнай культуры, яны ствараюць духоўнае багацце, а гэтае багацце не гіне, не гарыць – яно вечнае.

Старонка дзённіка – і ўжо палёгка: нешта зрабіў.

*20 жніўня.*

Толькі што праслухаў па “Свабодзе” гутарку з Быкавым Пытанне – аб падручніках. Але, дапяўшы да мікрафона, Васіль нагаварыў лішняга. Вінаваціў Лукашэнку, Замяталіна і ўсіх палкоўнікаў. па яго, уся каманда Лукашэнкі – былыя палкоўнікі, і ён з імі рэстаўрыруе камуністычны лад і савецкую імперыю. Вось гэта – няпраўда,

**твой боль” ён выходзіў на праблемы і характары, якія былі своеасаблівым мастацкім адкрыццём.**

**У час, калі пачынаўся “застой”, празаік шукаў калізіі і герояў, у якіх адкрывалася б рэальная супярэчнасць руху наперад. Праўда, “блакітная мара” архітэктара Карнача, героя “Атлантаў і карыятыд”, пра горад будучыні, больш нагадвала славутыя утапічныя лятункі Т. Кампанелы. Рэальнасць была куды больш жорсткай і будзённай. Крыху большым быў сектар свабоды ў творах на ваенную тэму, і Шамякін паспрабаваў адкрыць яшчэ адзін бок вайны ў рамане “Вазьму твой боль”, паставіўшы праблему, як адносіцца да ваенных злачынцаў, ці можна лічыць іх пасля таго, як яны адбылі пакаранне, такімі ж грамадзянамі, як і іншыя. Аўтар падступаўся ў гэтым творы да складанай і такой надзённай праблемы пакаяння, якая на ўвесь рост паўставала ў грамадстве. Па сутнасці, трэці заход робіцца празаікам у паказе франтавых баталій у рамане “Зеніт”, дзе мы знаходзім як бы аслаблены варыянт аповесці “Агонь і снег”.**

**У аповесцях “Шлюбная ноч” і “Гандлярка і паэт”, таксама прысвечаных вайне, уздымаецца праблема маральнай якасці народнай самасвядомасці ў часы вялікіх пераломаў гісторыі. Да агульнавядомага рэестру прычын, якія вялі савецкага чалавека ў бой, І. Шамякін далучаў яшчэ адну: класічнае мастацтва таксама “ваявала” з фашызмам, які супярэчыў яго духоўнай сутнасці. Гандлярка Вольга Ляновіч пражыла век, не адчуўшы аніякай цікавасці да высокай паэзіі, наадварот, лічачы яе за непатрэбшчыну і дзівацтва адарваных ад рэальнага жыцця індывідаў, накшталт паэта, што нечакана-неспадзявана ўвайшоў у яе жыццё, абудзіў**

слаба Васіль разумее палітыку прэзідэнта і яго каманды Бяда якраз у іншым. ніхто з іх не супраць рынавых адносін, усе – за рынак, але за такі, які быў бы пад іх кантролем.

Праўда, што Лукашэнка вядзе да **Саюза** з Расіяй. Але робіць гэта таму, што ведае настрой 80 працэнтаў беларусаў. Таму няпраўду кажа Быкаў, сцвярджаючы, што выбары і рэферэндум сфальсіфікаваныя прэзідэнтам і яго камандай. Зноў-такі бяда наша – тых, хто за беларускую мову, – у тым, што фальсіфікацыі не было, што 84 працэнты беларусаў шчыра выказаліся за рускую мову і цяпер патрабуюць навучання дзяцей па-руску Распадаюцца беларускія школы, класы Гісторыю з падручнікамі Васіль абышоў, бо няма чаго сказаць: дрэнныя падручнікі напісалі навукоўцы, у дзесяць разоў больш непраўдзівыя, чым пісалі камуністы. Прэзідэнт паступіў крута, але ўвогуле правільна. Трэба яшчэ навесці парадак у беларускім правапісе.

Трэба спыніць зварот да "тарашкевіцы" Даходзіць да абсурду Газета "Товарищ" дала пісьмо настаўніка, ён прыводзіць дурноты ў правапісе: "Слова атрымаў кандыдат навукаў", "прыйшоў у шэсць гадзінаў", "у баю удзельнічала пяць ротаў, "Больш атакаў не было", "такіх кнігаў ужо няма", "перадача навінаў", "Міністэрства унутраных справаў" Яўная бязглуздзіца, – слушна заўважае Сідараў. "Не дзіва, што ад такой мовы народ адварочваецца"

Учора прачытаў "Правду" і не лічу, што дарэмна страціў дзень "Правда" рэдка трапляе; па падпісцы не прыходзіла, і я перастаў выпісваць. Малайчына Таццяна купляе і зрэдку не забывае на "галоднага" бацьку

М Гарбачоў, якога я віню больш чым каго, у сваім доўгім інтэрв'ю агалошвае некаторыя дэталі ГКЧП і развалу Саюза. Як заўсёды, цікавы Аляксандр Зіноўеў у сваіх разважаннях аб ідэалогіях Інтэрв'ю яго так і называецца "Идеологические схватки – на ковре и под ковром" Можа, нямнога сказаў новага Віктар Розаў. Але як сказаў! Цікава. Свежа. Малайчына, дзед! Трымаецца цвёрда сваёй думкі Не віхляе

У "Товарище" вельмі пераканаўчы артыкул Алега Сцепаненкі "От пещерного рыка да поросячьего визга" – аб сельскай гаспадарцы, аб калгасах, кааператыўных гаспадарках, дзяржаўных фірмах і аб індывідуальных, фермерскіх – у нас і на захадзе. З гэтымі думкамі ён выступаў у "Правде", але тут дапоўніў, дадаў аргументаў Ці чытаюць прэзідэнты такія артыкулы? Баюся, што не.

Работнік "ЛіМа" ўзяў маё выступленне на пахаванні Максіма Танка. Але выступленне не далі Не спадабалася ім, што вялікі Паэт-камуніст да смерці застаўся верны ідэям сваёй маладосці і сталасці Вось такія плюралісты нашы рэдактары! Трэба пазваніць, каб вярнулі рукапіс, каб выступленне засталося.

Сапсавалася машынка, і я не здолеў перадрукаваць, як заўсёды

**у гэтай звычайнай жанчыне духоўную прагу. Да гэтага цыклу належыць і аповесць "Ахвяры", дзе аўтар падводзіць чытача да думак пра сапраўдную цану перамогі над фашызмам. З'явіліся і новыя факты: "заградатрады", "спецфарміраванні", якія адыгралі негатыўную ролю ў час вайны, ускладняючы дачыненні паміж людзьмі, сеючы недавер і варожасць, агрэсію і нянавісць. Тут І. Шамякін быў на ўзроўні часу.**

**У гады "перабудовы", калі інфармацыйнае поле рэзка пашырылася, пісьменнік актыўна выкарыстоўвае новыя магчымасці, падаючы ў гэтым прыклад многім сваім калегам, якія незразумела чаму раптам апусцілі крылы і замоўклі. Застаючыся прыхільнікам ідэі сацыялізму "з чалавечым тварам", ён свой арыгінальны погляд на падзеі выказаў у рамане "Злая зорка" і ў тузіне аповесцяў: "Падзенне", "Драма", "Сатанінскі тур", "Адна на падмостках", "Палеская мадонна", "Выкармак", "Без пакаяння", "Аповесці Івана Андрэевіча"... Вядома, колькасць у літаратуры сведчыць хутчэй за ўсё аб паспешлівасці ў ажыццяўленні творчых задумаў, на дасканалую распрацоўку якіх няма часу. Многіх герояў гэтых твораў мы застаем у хвіліны цяжкага одуму, часта адчаю. Адны знаходзяць у сабе душэўную сілу, каб быць на вышыні пражытага годна жыцця і не перакрэсліваць лепшае ў сабе тым ці іншым непрадуманым учынкам. Другія адчайваюцца, бачачы, як усё навокал руйнуецца, ідзе пад адхон, распадаецца на вачах, паглыбляецца рэгрэс у грамадстве, якое духоўна дэградуе, і няма надзеі на святло ў канцы тунеля. Трэція лічаць, што нарэшце збылася іх патаемная мара і што цяпер "усё дазволена", у тым ліку і забароненае законамі, людской мараллю, народнай традыцыяй.**





*24 жніўня.*

Чытаю нейкага Г.П Клімава, раней не чуў такога пісьменніка. Выдавецтва "Феникс" у Растове-на-Доне выдала ажно тры тоўстыя тамы: раманы "Князь мира сего", "Имя мое легион", "Протоколы советских мудрецов". Трэцяга тома Таццяна не дала. Мастацкія якасці амаль роўныя нулю Але факты цікавыя Дзіўнае спалучэнне матэрыялізму з ідэалізмам, містыкай, сатанізмам. Паталагічны антысемітызм Яго Клімаў падмацоўвае аўтарытэтамі Нашы дамарошчанныя антысеміты ніколі не звярталі маёй увагі на такія словы Дастаеўскага – з дзённіка. "Интернационализм распорядился, чтобы еврейская революция началась в России. И начнется. Бунт начнется с атеизма и грабежа всех богатств . Евреи сгубят Россию и станут во главе анархии. Предвидится страшная колоссальная стихийная революция, которая потрясет все царства мира сего Но для этого потребуется сто миллионов голов. Весь мир будет залит кровью "

Даниил Андреев в "Розе мира" относит Достоевского к писателям-пророкам, Пушкина не относит, Лермонтова относит

Спякота. Былі спякотныя леты, але каб 24 жніўня – 30 градусаў – такога не помню

Учора не паехаў на прыём да ўкраінцаў Не толькі таму, што спякоты пабаяўся. Слабее цікавасць Пазбягаю лішняе чаркі. А людзі раней прагна цягнуўся да людзей. Новая генерацыя палітыкаў у большасці сваёй людзі незнаёмыя, адразу не зблізішся, нават за чаркай. А мастацтва, наадварот, усё старое, знаёмае – Яроменка, Гілевіч, Зуёнак.

Увогуле слабеюць стымулы для грамадскай дзейнасці. Маўчанне і Прэзідэнта і яго ідэолагаў, і маіх калег пра мой адкрыты ліст Лукашэнку па мове расчаравала і пакрыўдзіла. Выходзіць, нацыяналісты крычалі тады, калі іх паказвалі па тэлебачанні! Самарэкламшчыкі! Некалі любіў паўтараць мой непісьменны бацька. "Свет бардак, а людзі блядзі" Адкуль прыйшло такое ў вёску? У 20–30 гадах? Было да рэвалюцыі?

*28 жніўня.*

Паўдня патраціў на дабрачыннасць сваяцкую памагаў пляменніку Сашы, сыну Таццяны, сястры маёй, уладзіцца на працу Скончыў хлапчына Гомельскі універсітэт, факультэт эканомікі, паўтара месяцы ходзіць па Гомелі – і.. без вынікаў Раней спецыяліста па эканоміцы прамысловасці схапілі б адразу, праз суд вярталі тых, хто не прыехаў па размеркаванню Няволя? А цяпер – свабода? Атрымай дыплом і каціся куды хочаш. І нікому ты, хлопча, не патрэбны Які эканаміст, калі няма эканомікі! Званіў раней Шамяткову, рэктару, які вывучыў яго Свайму пляменніку Калініну Мішу, які пацёрся ў структурах Сёння ўспомніў. ёсць жа прамысловы туз – былы генеральны

**Многія факты выхопліваюцца празаікам як бы з самога жыцця. У апублікаваных старонках з пісьменніцкага дзённіка "Дзе сцежкі тыя...", "Роздум на перагоне" гэта тэндэнцыя асабліва відавочная. Магчыма, пісьменніцкія дзённікі найбольш адпавядаюць сённяшняй празе папярэдняга асэнсавання надзённай рэчаіснасці, аб чым сведчаць публікацыі В. Адамчыка, А. Адамовіча, В. Карамазава, І. Пташнікава, А. Масарэнкі, У. Рубанава, А. Наварыча, А. Глобуса, С. Адамовіча... Як ні дзіўна, але ў шэрагі твораў, напісаных на актуальныя тэмы, уваходзіць і гістарычны раман І. Шамякіна "Вялікая княгіня", дзе ўздымаецца праблема вяртання да Бога, вернасці сваёй канфесіі, ідэі праваслаўя і славянафільства, якія здаюцца празаіку больш важнымі, чым нават нацыянальная ідэя, ідэя прававой дзяржавы, вяртання ў Еўропу, стварэння свабоднага грамадства і інш.**

**Манера пісьма І. Шамякіна стала больш жорсткай, лаканічнай, у творах пабольшала драматызму, узмацніўся публіцыстычны пафас і імкненне непасрэднага ўмяшання ў жыццёвыя працэсы. З мастацкага боку творы "новага Шамякіна" досыць архаічныя, зарыентаваныя на вядомыя штампы сацыяльна-выкрывальніцкай літаратуры, добра знаёмыя чытачу псеўдакласічнай савецкай літаратуры. Імкненне сказаць "апошнюю праўду" пра свой час, несумненна, пахвальнае, але, як і ўсякае падобнае імкненне, звышзадача часцей за ўсё не прыводзіць да належных мастацкіх вынікаў. І тут ужо дарэчы класічнае: сапраўднае мастацтва не церпіць мітусні. Але гэта бяда не толькі аднаго Івана Пятровіча Шамякіна, але і, бадай, усёй нашай сучаснай беларускай літаратуры.**

**Міхась ТЫЧЫНА**

“Гомсельмаша”, цяперашні дырэктар ВА “Машынабудаўнік” Афанасьеў Мікалай Іванавіч. Яго сын Іван – крытык, я падтрымаў яго пры прыёме ў СП, хоць пра “Злую зорку” ён напісаў хранова.

Пакуль знайшоў тэлефон – праз Камітэт міра. Афанасьеў – старшыня Гомельскага аддзялення Паабяцаў памагчы. Паглядзім. Старая партыйная хвароба абяцаць і не выконваць – не вылечваецца, наадварот, прымае страшныя формы, пачварныя. дай – выканаю; нярэдка хабар проста вымагаецца і былымі камуністамі, што ігралі праведнікаў, і сучаснымі маладымі дэмакратамі.

Паехалі ў горад дзеці – школа, універсітэт – і зрабілася сумна. Унукі бываюць бестактоўныя, але я дарую ім, спадзяюся, што паразумнеюць

*30 жніўня.*

Трэба пісаць! А што? Гады два свярбяць рукі напісаць пярэваратняў. І назву прыдумаў – злую: “Паноптыкум”. Ёсць характары, я іх назіраю не адзін год. Працую побач з былым работнікам райкома. А дэпутаты ВС – апазіцыя! Тыпы! Але на такія тыпы трэба гогалеўскі талент ці макаёнкаўскі. А ў мяне не хапае не толькі сатыры, але нават іроніі, гумару. Я – ліберал, я з адшчапенцамі-калегамі гарэлку п'ю. Праўда, пры гэтым не трачу сваіх пазіцый. Слухаю іх і . матаю на вус – спатрэбіцца, пісьменніку ўсё спатрэбіцца – і характары сяброў і характары непрыяцеляў, апанентаў Чаму дагэтуль не пішу? Няма сюжэту? А можна ж не сюжэтную рэч – хроніку. Ды ўрэшце ўменне ў мяне хапіла б звязаць у адзін вузел чыстых і нячыстых. А галоўнае – нячыстыя, бо хто сёння чысты? Зюганаў? Чыкін? Новікаў? Рыжкоў? Лук'янаў? Па-мойму, ва ўсіх іх пазіцыі далёка не марксісцкія, не ленінскія. Справа іншая, што стары марксізм-ленінізм не падыходзіць да новых умоў. Трэба тэарэтык, які распрацаваў бы сацыялістычную, камуністычную ідэалогію **новага** часу. А яго няма. Дзіўна. нідзе няма – ні ў Францыі, ні ў нас, ні нават у Кітаі Ні Сталіна, ні Мао, ні Троцкага, ні Дзімітрава, ні Тальяці Куды падзеліся вялікія сацыялісты?!

Калі сербы абстралялі Сараева і забілі 37 мірных людзей – дурні. Але калі сёння 60 (60!) самалётаў НАТА бамбілі сербскія пазіцыі, я амаль упэўнены: абстрэл правакацыйны. Правакацыю маглі арганізаваць і з боку сербаў. О, такія сілы! ЦРУ, нямецкая разведка, французская, турэцкая! Гэта рускія лапухі не маглі выявіць, дзе Дудаеў, і нанесці па ім удар. Здзіўляе мяне такая бездапаможнасць разведак ваеннай і служб МВД, ФСБ. Разагналі кадры, дурні, ці што?

Удары НАТА павінны б працвярэзіць і Ельцына, і Лукашэнку, і Кучму: во, чаму НАТА падбіраецца да нашых граніц!? Член НАТА Польшча патрабуе Гродна, Брэст, Львоў і. . над намі павіснуць самалёты магутнейшай і адзінай у свеце ваеннай арганізацыі, якая ў поўным





падпарадкаванні Амерыкі. М-да, успомнім мы не раз нашых “вялікіх рэфарматараў” – Гарбачова, Ельцына, Краўчука і прыпрэжанага да іх Шушкевіча.

Учора “Известия” далі вытрымкі з інтэрв'ю Лацыса і Старыкевіча з Лукашэнкам.

Саша, мудры стратэг, даказвае, што няшчаснага Бору спакусілі “белавежскія зубры” – Шушкевіч і Краўчук. Рагатаць хочацца. Ал. Р ! За каго ты нас лічыш?! Каму невядома, хто пасля ГКЧП іграў першую скрыпку ў развале Саюза!

Лукашэнка кажа: “Русский язык не нуждается в поддержке в Белоруссии, белорусский – нуждается И он получит эту поддержку”. Дай Бог! Указ быў бы разумны на аснове маёй прапановы· для заняцця дзяржаўнай пасады абавязковае веданне дзвюх моў – беларускай і рускай.

Пасля спякоты – холад. Сёння градусаў 14, раніцой было 10 Восень. Сумна.

*3 верасня.*

Дзённікператвараецца ў памінальны: памёр Павел Кавалёў, толькі што пазваніла Алеся. Чатыры гады пасля інсульта ляжаў паралізаваны. Я адчуваў сябе вінаватым, што, жывучы побач – у суседніх дамах, не наведаў хворага, толькі званіў. Але я наведваў паралізаванага Міхася Калачынскага, і гэта рабіла цяжкае ўражанне, эмацыянальнае ўзрушанне большае, чым на пахаванні. З Паўлам Нікіфаравічам я быў у добрых адносінах, хоць некалі ў маладосці, здаралася, мы і цапаліся Я працаваў з ім у СП, калі прыйшоў туды намеснікам да Броўкі Павел быў адказным сакратаром. Тады гэта была фігура. Ды і ўмеў Павел паставіць сябе, бо прайшоў добрую школу рабіў у ЦК, памочнікам Панамарэнкі Гэта сапраўды-такі была школа. І Паўлу яна памагала выконваць свае нялёгкія абавязкі адказнага сакратара: памочніка ведаў увесь партыйна-савецкі актыў Але на гэтым мы і сутыкаліся: я, дэмакрат, пасля смерці Сталіна асмялеў і не прымаў некаторых метадаў работы Кавалёва – цэкоўскіх, яўна недэмакратычных для такой арганізацыі, як Саюз пісьменнікаў. Але, на шчасце, у Паўла і ў мяне былі пакладзістыя характары і нашы спрэчкі ў СП па рабоце не адбіваліся на асабістых адносінах, мы заставаліся сябрамі, дружылі нашы жонкі Калі Павел пайшоў на “Полымя”, мы яшчэ больш зблізіліся Яго дача – побач з Андрэевай У Андрэя, халасцяка, яны рэзаліся ў “пульку”, кампанія – Максім Лужанін, генерал міліцыі Майданюк. А пасля “пулькі” вадзілі “казу”· ад Андрэя да Паўла, ад Паўла – да Максіма. І Зоя Антонаўна і Яўгенія Эргардаўна – жонкі гасцінныя, любілі, калі мужы бралі “за губу” дома.

На пахаванне, відаць, не паеду – баюся эмоцый. Даруй, Павел Бывай. Светлая памяць табе. Часта кажуць: “Няхай пухам будзе табе зямля”. Не люблю гэтага пажадання Мне здаецца яно легкадумным, несур'ёзным, з адценнем змрочнага гумару Які пух? Божа мой! Зямля не можа быць пухам Ды і ляжаць у пуху ніхто не захацеў

# BELARUSIAN DREAM*

**Была эпоха фенаменальнай папулярнасці раманаў Івана Шамякіна, калі яны, у перакладзе на расейскую мову, хадзілі з рук у рукі па ўсіх абшарах СССР. Гэта быў унікальны шанец – прыцчапіць беларускі менталітэт Усходу Еўразіі.**

**Крытыка спрабавала тлумачыць гэты нечуваны поспех беларускага літаратара нейкай надзвычайнай палітычнай вастрынёй тэкстаў. У іх знаходзілі абвяржэнне сталіншчыны, хрушчоўшчыны, брэжневізму... Напэўна, усё гэта было – але гістарычны палімпсест, з ягонымі найноўшымі напластаваннямі, прыхоўвае гэтую колішнюю вастрыню. У сучасным кантэксце яна малаадчувальная. Найбольш вострыя і смелыя шамякінскія творы – пра сучаснасць. Напрыклад, пра перавоз нябожчыка праз мяжу. У літаратурным кантэксце шасцідзесятых сама фабула выклікала б фурор. Сёння гэтая вастрыня застаецца амаль незаўважанай. А скептыкі кажуць, што літаратару варта самому разоў са дваццаць пабываць у “чаўночных” рэйсах, каб апісваць іх дэталі з такой дакладнасцю і дыхтоўнасцю, з якімі рабіў свае раманы, напрыклад, Хэйлі.**

**Папулярнасць шамякінскіх твораў прыпала на эпоху партыйнай кланавасці і сацыяльных кантрастаў у межах сацыялістычнага грамадства. Партыйныя, наменклатурныя касты былі недавоку, асабліва – у мястэчку, райцэнтры. Побыт партыйных босаў здаваўся недасяжным, паводзіны валадароў чорных “Волгаў” выклікалі пагалоскі, зайздрасць і раздражненне. І раптам з'яўляюцца раманы Шамякіна, які паказвае наменклатурных персанажаў звычайнымі людзьмі, са зразумелымі памкненнямі, жарсцямі ды інстынктамі. І гэта суцяшае, абнадзейвае. Гэта стварае ілюзію роўных магчымасцяў.**

**Пісьменнік дасканала ведаў норавы і побыт савецкай арыстакратыі. Бясспрэчны і непераўзыдзены талент бытаапісальніка дапамог яму ачалавечыць, белетрызаваць побыт сціплага савецкага начальства. Да апошняга, у разуменні простага чалавека, належаў і архітэктар, хірург, журналіст – дзеля таго, што гэта былі людзі іншай, недаступнай касты. І раптам памкненні і базавыя інстынкты чалавека іншай касты прыраўноваліся да памкненняў і базавых інстынктаў чалавека масавага.**

**Тая праўда Святога пісьма, што ўсе людзі роўныя перад Богам, падчас стыхійнага атэізму прызабылася, і напамінак пра гэтую суровую праўду мог успрымацца амаль як новае евангелле. Чалавек атрымліваў надзею вымкнуцца з шэрай будзённасці. Найбольш станоўча гэтую магчымасць успрымалі жанчыны – жонкі савецкіх служачых, хатнія гаспадыні, настаўніцы. Стваралася версія беларускай Папялушкі, якая можа пайсці замуж калі не за мільянера, не за каралевіча, дык за ўласніка чорнай “Волгі”.**

**Іван Шамякін лепш за іншых народных пісьменнікаў адчу-**

* Беларуская мара *(англ.)*.

бы Мне падабаецца каталіцкае (ці толькі каталіцкае?) захаванне ў склепе ў каменных ці металічных трунах. Але такая раскоша для цароў і князёў: сямейны склеп. У наш час месца на могілках атрымаць – праблема. А кошт пахавання? Жах. Раней людзі былі разумнейшыя і дабрэйшыя – сяляне: чалавека хавала **абшчына**. Між іншым, абшчына брала пад апеку сіротаў. Высокая гуманнасць і мудрасць была ў інстытуце **хросных**: хросны бацька, хросная маці не мелі права адвярнуцца ад сірот

Кіплю гневам супраць "гуманістаў" высокацывілізаваных – клінтанаў, коляў, шыракаў, якія паслалі паветраную армаду НАТА на няшчасных сербаў. Калі нават яны і абстралялі Сараева. Але ж гэта мог зрабіць адзін асобны камандзір – шэсць снарадаў. У адплату – 500 вылетаў, тысячы бомб, ракет, тысячы ахвяр. Законы джунгляў Закон кроўнай помсты Дзіўна, чаму праверaныя каталікі любяць мусульман і так ненавідзяць праваслаўных хрысціян? Проста генацыд супраць сербскага народа, роўны турэцкаму супраць армян у 1915 годзе

Раней НАТА прыкрывалі фігавым лістком – "оборонительный союз" Было ад каго абараняцца – ад магутнага Савецкага Саюза, які наводзіў на клінтанаў жах. А цяпер няма ад каго абараняцца і можна выявіць поўную сутнасць НАТА – еўрапейскага жандарма. Ці толькі еўрапейскага! Сусветны жандарм! Навядзе парадак усюды, дзе Амерыка палічыць, што народ выходзіць з-пад яе ўлады. Былы брытанскі каланіялізм – кветачкі перад пладамі сучаснага амерыканскага. І пры гэтым бессаромныя нахабныя рабаўладальнікі нацягваюць на сябе тогу міратворцаў і дэмакратаў Большага фарысейства гісторыя не ведала.

*7 верасня.*

Здзіўляюся сабе. Часам не магу дабрацца ў Мінск, стагну, што цяжка. А пазаўчора пацягнуўся ў Глыбокае за 150 кіламетраў Падняў завадатар Мікола Мятліцкі. Месяца паўтара назад прывёз да мяне паэта Тамаша Ляшонка, які там, у Глыбокім, узначальвае раённую службу энерганагляду. Энергетык са стажам. І ўсё жыццё, як кажуць, сачыняў вершы, друкаваўся ў раённай, абласной, маладзёжных газетах, здаецца, у "Вожыку" Жонка Савуліча Таццяна, намеснік старшыні райвыканкома, вядзе культуру, паўгода назад пасарамаціла Мятліцкага, што мы, славутыя, з Мінскага Алімпа, не бачым такога паэта. Мікола – малайчына! – узяў рукапіс і аператыўна, па прычыне, што аўтару 5 верасня – 60, выдаў кніжку "Запознены дар".

Юбілей і прэзентацыя кнігі маладога-старога паэта. Фама Васільевіч вельмі прасіў прыехаць на юбілей Паабяцаў, але ехаць не думаў Але Мікола гэтым і ўзяў мяне: "Ды вы ведаеце, як уздыме яго ваш прыезд Сам Шамякін зрабіў гонар аўтару першай кнігі!"

Мікола арганізатар· выпрасіў у "Амкадора" ў Шлындзікава мікрааўтобус "таёту". Паехалі я, ён, яго жонка, Генадзь Шупенька, Алесь Марціновіч. Абедалі ў Савулічаў на наваселлі, выдатны дом збудаваў малады драматург… не ён – жонка.

**ваў псіхалогію і эстэтычны попыт чалавека з народу, масавага чалавека. Ён ведаў і задавальняў натуральную цікаўнасць простага чалавека да таго, што дзеецца ў суседняй кватэры, у іншай сям'і. Адным з першых ён прааналізаваў механізм разладу сярэднестатыстычнай савецкай сям'і, апісаў версіі савецкага адзюльтэру. У гэтым ягоныя здабыткі можна параўнаць з творам сябра – "Зацюканым апосталам" Макаёнка. Макаёнак, можна меркаваць, меў на ўвазе не "капіталістычную", а звычайную савецкую сям'ю.**

**З гэткімі творчымі патэнцыямі, набыткамі – ды адразу б у "мыльную оперу", ды серыяў гэтак на чатырыста, каб беларускія цётухны заліваліся слязьмі на беларускіх кухнях, а потым пераказвалі суседкам пра авантуры Міхаліны або Наталлі, а не нейкай Ізаўры, аб чыё імя можна язык зламаць.**

**Што перашкодзіла? Можа быць, тая самая "вастрыня" і палітычная чуйнасць, за якія нахвальвала майстра крытыка?**

**Зрэшты, мне не цяжка назваць шамякінскі твор, які лічу шэдэўрам паважнага, а не масавага пісьменства, не ацэнены, дарэчы, і паблажлівай да Шамякіна крытыкай, – вядома, "Гандлярка і паэт", на прыкладзе якога магу тлумачыць студэнтам, чым ёсць сапраўдны новы рамантызм.**

**Безумоўна, і астатняя шамякінская проза грэе сэрцы колішніх ягоных прыхільнікаў, няблага чытаецца як т.зв. "школьная класіка", навявае настальгічны ўспамін пра 1960–70-я. Для мяне ж гэта – настальгія пра няспраўджаную belarusian dream, беларускую мару.**

**Пятро ВАСЮЧЭНКА**





Вельмі прыстойны юбілейны вечар у РДК – хораша арганізаваны, цікавы па зместу, форме; у РДК – дзве выпускніцы інстытута культуры Яны ж салісткі, вельмі мілыя спявачкі На вершы Ляшонка кампазітар Яськоў напісаў два дзесяткі песень. Харошыя песні – дзед шчыра піша пра каханне.

З банкета ледзь вырваў хлопцаў З Міколам лягчэй – была Ірына. Праблемы ствараў Генадзь Шупенька. Цікавы чалавек гэты інвалід: у вайну яго, малога, ударыў немец, пашкодзіў пазванок. Нягледзячы на сваё калецтва – музыка, баяніст, танцор, спявак. У СП ведаюць, калі Генадзь Серафімавіч пачынае спяваць "Біла мяне маці бярозавым прутам, каб я не гуляла з маладым рэкру́там", – значыцца дайшоў да кандыцыі. Спяваў усю дарогу Прыехалі на дачу ў гадзіну ночы.

*30 верасня.*

Пішу аповесць, а таму – не да дзённіка. Умоўныя назвы. "Гадунец", "Выкармак", "Вяртун" – аб прыстасаванцах, як Навумчык, ды і нашы некаторыя, аб чалавеку, які гандлюе сваімі ідэаламі – хто больш заплаціць.

Напісаў ліст Лукашэнку Адкрыты У працяг папярэдняга, на які не атрымаў ніякага адказу Нашы ў СП хвалілі, але ні адзін змагар за мову не выступіў у падтрымку Набралі вады ў рот ваяўнікі. І ад прэзідэнта не булькнула нават. Але ж пішу зноў. Крычу Што трымала мову? Літаратура. У якім яна стане сёння – во пра што. Пра кніжны гандль, пра ганарары Алесь Марціновіч паведаў ашаламляльны факт Нашы журналісты Айзенштадт, Жданко, якія працуюць на радыёстанцыі "Свабода", атрымліваюць па 60–80 долараў за хвіліну. Мне выдавецтва плаціць за аўтарскі аркуш (24 старонкі) 35 дол., а малодшым – 20 – чатыры мінімальныя. Пра гэта пішу Апублікую Няхай ведаюць чытачы і чыноўнікі А можа і прэзідэнту пакажуць.

*26 лістапада.*

Два месяцы не разгортваў гэты сшытак. "Гнаў" аповесць. За два з палавінай месяцы настрачыў 200 старонак. Скончыў учора. Ці трэба так гнаць? Боязь, што не паспею завяршыць? У маладосці, пры ўсёй маёй працавітасці, так не спяшаўся.

Сказаў мудра Эклізіяст· "Всё, что может рука твоя делать, по силам делай; потому что в могиле, куда ты пойдёшь, нет ни работы, ни размышления, ни знания, ни мудрости" Бязбожны быў мудрэц – Эклізіяст

Прастуджаны Пакутліва кашляю Колюць.

24-га прэзідэнт нарэшце выканаў сваё абяцанне – прыняць групу пісьменнікаў, мастакоў, акцёраў З-за хваробы не пайшоў Перажываў, бо меў што сказаць.

На два мае адкрытыя лісты ніякага адказу Хаця б з калег адгукнуўся хто – падтрымаў

# ІВАН ШАМЯКІН – АПОСТАЛ МАДЭРНІЗМУ

**Для маладога пакалення літаратараў знакаміты пісьменнік Іван Шамякін – монстр, апалагет сацрэалізму, плыні, з якой новая генерацыя звязвае ўсе былыя і сённяшнія праблемы і правалы нацыянальнай літаратуры. Яго рэгаліі – народны, член-кар Акадэміі навук, герой сацпрацы – уздзейнічаюць як чырвоная ануча на маладога бычка, выклікаючы агрэсію і звужанасць далягляду.**

**Між тым, наступнікі павінны быць удзячнымі Івану Шамякіну. Асабліва, калі ўлічыць распаўсюджаны на Захадзе пагляд, што сацыялістычны рэалізм з'яўляецца адной з разнавіднасцяў мадэрнізму. Думка, можа, і не бясспрэчная, але дастаткова аргументаваная. Як вядома, мадэрнізм характарызуецца перш за ўсё адмовай ад прынцыпу адлюстравання і заменай яго прынцыпам стварэння новай рэальнасці. Штучна змадэліраваны свет шамякінскіх твораў, дзе праўда была строга дазіравана ў адпаведнасці з курсам партыі, уяўляе сабой узор фармалістычнага падыходу да творчасці і выводзіць пісьменніка ў аванпост сусвет-**

ці аспрэчыў хоць пры сустрэчы многія хвалілі. Што сталася з людзьмі? Ці працягваецца тактыка замоўчвання таго, што я друкую? Хто кіруе? Гэта ж трэба сіла. Па-мойму, ніводная група сілы такой не мае.

Папрасіў Зуёнка, каб на сустрэчы ён нагадаў пра мае лісты і перадаў маю просьбу· далучыць іх да стэнаграмы сустрэчы. Увечары чакаў, што ён пазвоніць – Зуёнак. Не пазваніў І стала мне крыўдна, доўга не мог заснуць. Думаў· Ах, Вася, Вася, я ж цябе любіў! На другі дзень супакоіўся· пасля размовы ўдзельнікаў павезлі ў Дом прыёмаў на Вайсковым завулку. Добра пачаставалі Ці да званка было, добра ўзяўшы за губу?

Просьбу маю, кажа Зуёнак, ён перадаў Толькі ці вялася яна, стэнаграма? Ці на вышыні культура справаводства? Бюракратыі стала больш – гэта так. Кісель не бярэ трубку, нават пасля таго, як я сказаў сакратарцы, што звоніць Шамякін. Машэраў браў трубку, калі я званіў Яму дакладвалі. Кісель не бярэ Можа не ведае, хто такі Шамякін? Наконт вынікаў сустрэчы Зуёнак выказваецца скептычна. Скептыкам раблюся і я Рэнесансу беларускай культуры не будзе. Будзе існаваць, канешне. Толькі існаваць, не больш. Агеньчык, можа, і не патухне, але ў полымя не разгарыцца. Буржуазія наша, бадай, ніколі не стане спонсарам і мецэнатам літаратуры, хіба прыкладнога мастацтва. Бедная дзяржава будзе кідаць жабрацкія крошкі – абы не памерлі. Крыўдна. Паскудна. Згадзіўся выступіць на сустрэчы прэзідэнта фірмы "Амкадор" Шлындзікава з выбаршчыкамі з надзеяй, што ён нешта падкіне да 75-годдзя майго, – уцягнуў у авантуру Мікола Мятліцкі. Хвароба мая перашкодзіла, можа, і на дабро: на храна мне іх падачкі! Маша катэгарычна была супраць майго ўдзелу, яна чалавек прынцыповы.

Я, праўда, агаварыў Мятліцкаму: толькі як мастацкае прылажэнне да сустрэчы – размова пра літаратуру. Хоць каму гэта патрэбна – наша прапаганда сваёй творчасці? Ды і што прапагандаваць? Партызанскія раманы? Што ёсць пра сучаснасць, акрамя маіх аповесцяў?

Шлындзікаў зрабіў жэст· купіў з фонда бібліятэкі 320 экземпляраў "Сатанінскага тура" каб раздаць удзельнікам сустрэчы з аўтографам аўтара. Я з задавальненнем выканаў гэтую нудную работу – паставіў аўтографы Няхай чытаюць! Шлындзікаў яўна не прачытаў Каб прачытаў, то ўбачыў бы, што ўсе пяць аповесцяў – супраць "новага класа" – яго класа. І не патраціў бы 5 млн.

Скончыў аповесць 24-га. А ў ноч на 25-га прыдумаў эпілог Адна старонка, але ёмкая Увогуле **раздзеў** пярэваратня дагала, яшчэ і фізічна адлупіў разоў колькі за яго дзеі. лез на помнік Леніну, каб запэцкаць фарбай, і стары камуніст даў яму міліцэйскай дубінкай па срацы, лез да бабы – і яго выставілі і далі выспятка, п'янага раздзелі рабаўнікі І ўсё вельмі праўдападобна. Такая праўдападобнасць дасягалася мною ў аўтабіяграфічных аповесцях "Трывожнае шчасце", у "Зеніце", у "Сатанінскім туры" Раней напісаная аповесць "Няскончаны партрэт" залішне надуманая

Назва гэтай? "Выкармак" – лабавое. "Гадунец" – мякка. "Герой **свайго** часу" – Лермантаў Але – не **нашага** часу – свайго. Гэта сапраўды **іх** час – такіх, як Супец. Гэта не **наш** час! Не!

**най літаратуры дваццатага стагоддзя.**

**Менавіта іван Шамякін прышчапіў беларускаму чытачу любоў да мадэрнізму, навучыўшы бачыць у творы больш, чым было напісана, адшукваць патаемныя намёкі і алюзіі. Зусім маленькай дзяўчынкай у занядбанай палескай вёсцы я была сведкай таго, як чыталі шамякінскае "Сэрца на далоні" мае бабулі, тады саракагадовыя ладныя кабеты. Кніга была з клубнай бібліятэкі, але туды яна амаль не вярталася, бо хадзіла па руках не горш за самвыдат на пачатку васьмідзесятых. Так што сённяшнім авангардыстам застаецца толькі пазайздросціць уменню папярэдніка ўздзейнічаць на масы. Як ні спрабуе наша моладзь уразіць сваёй хваравітай фантазіяй, як ні вывалочвае чужую і ўласную брудную бялізну – не можа яна набыць чытача, ні гарадскога, ні, тым больш, вясковага. Застаецца ёй толькі зайздросціць мэтру, прыпісваючы яму грахі ўсяго папярэдняга пакалення літаратараў.**

**Можна доўга расказваць, якое ўздзеянне аказалі на развіццё нацыянальнай літаратуры раманы, аповесці, п'есы Івана Шамякіна. Нешта стваралася па яго ўзорах, нешта – якраз адштурхваючыся ад іх, бо адмаўленне папярэдняй мадэлі якраз і з'яўляецца лепшым рухавіком творчасці... Так ці інакш, але гэтае імя абысці нам сёння цяжка. Толькі вось літаратуразнаўчая інтуіцыя падказвае, што ў беларускія энцыклапедыі наступнага стагоддзя ўвойдзе не адыёзны сённяшні пісьменнік Іван Шамякін, а сціплая і не па таленту малавядомая Таццяна Іванаўна Шамякіна, адна з лепшых культуролагаў Беларусі.**





**Сёння наша літаратура мае і рэалістаў, і мадэрністаў, і нават постмадэрністаў. Аднак нам вельмі не хапае тэарэтыкаў і мысляроў – актыўных удзельнікаў літаратурнага працэсу, такіх, якімі былі М. Багдановіч, М. Гарэцкі. Наша літаратурная тэорыя гэтак жа мала звязана з літаратурнай практыкай, як навука з вытворчасцю, і ў гэтым прычына іх аднолькавай адсталасці і бездапаможнасці. Дык калі ўжо не дае нам прырода ўсё ў адной асобе, то, можа, ёсць сэнс злучыць тэорыю і практыку хаця б у межах адной сям'і? Можа, варта паспрабаваць зрабіць сапраўдную сучасную кнігу, на вокладцы якой стаяла б адно прозвішча і два імя – Шамякіны Іван і Таццяна.**

**Ганна КІСЛІЦЫНА**

# ІВАН ШАМЯКІН і ПОСТМАДЭРН

**Жыццё заўсёды вымагала класіфікацый – і заўсёды іх атрымлівала. Паколькі спецыфіка гуманітарных ведаў заключаецца ў тым, што суб'ект не можа быць выдзелены з працэсу пазнання, то класіфікацыя ў "навуках пра дух" адрознівалася хіба толькі большай ці меншай абгрунтаванасцю ілюзіі аб'ектыўнасці. У культуры ўвогуле падкрэсленая суб'ектыўнасць пачатку стагоддзя саступіла месца так званай "страце суб'ектыўнасці" напрыканцы тысячагоддзя (верагодна, постструктуралісты – постмадэрністы ўжо здолелі пераканаць літаратараў у "смерці" не толькі суб'екта, але і аўтара). "Літаратурная інтэлігенцыя" – крытыкі – ізноў пацвердзілі сваю адвечную апазіцыйнасць, на гэты раз у адносінах да агульнакультурных тэндэнцый: яны якраз цяпер упадабалі інтэрпрэтацыю, але не адпіхаліся пакуль ад ідэалагічнасці.**

**І. Шамякіна на працягу ўсёй ягонай творчай дзейнасці класіфікавалі рэгулярна. Да нядаўняга часу – досыць аднастайна; дый сённяшнія рэйтынгі ў адносінах да аўтара колішніх бестселераў ("Сэрца на далоні", "Вазьму твой боль" ды інш.) выглядаюць не дужа арыгінальнымі. У "ідэалогію" колішняга рэалізму І. Шамякін паспяхова ўпісваўся; у "ідэалогію" сённяшняга постмадэрнізму ён гэтак жа паспяхова не ўпісваецца. З апошнім пісьменніка можна павіншаваць, бо гэта сведчыць пра своеасаблівую "некан'юнктурнасць", а таксама пра ўстойлівасць колісь сфармаванага эстэтычнага светапогляду.**

**Затое І. Шамякін, мяркуючы па ягоных апошніх творах, цалкам упісваецца ў сённяшнюю літаратурную сітуацыю ("прастору – час"), натуральна, пасвойму выражаючы і трактуючы "дух эпохі".**

**Адзін з тэарэтыкаў "постмадэрнісцкай чуллівасці" В. Вельш адрозніваў постмадэрн, як стан радыкальнай плюральнасці, ад постмадэрнізму – канцэпцыі постмадэрну. Аднак само паняцце плюральнасці дазваляе гаварыць пра існаванне безлічы канцэпцый (у дадзеным выпадку – эстэтычных), якія па-рознаму трактуюць наяўную быційную сітуацыю (тут – постмадэрн).**

**Прафесар Прэабражэнскі не любіў пралетарыят, жывучы падчас гегемоніі апошняга. І. Шамякін не любіць авангард, паўсюдна на яго натыкаючыся. А чаму ён павінен яго любіць? Наўрад ці мэтазгодна папракаць А. Разанава за тое, што ён не дадаіст, В. Быкава за тое, што ён не акмеіст, а "бумбамлітаўцаў" за тое, што яны не рэалісты.**

**Усе мы, хоць і па-рознаму, гаворым пра тое, што нешта зрушылася (выбухнула) у культуры гадоў з дзесяць-пятнаццаць таму. З рознай доляй упэўненасці, але ўсё ж канстатуем, што эпоха Пост – дыктатар: яна навязвае правілы гульні, імкнучыся кожнага ўцягнуць у тэхналагічны працэс вытворчасці элітарна-масавай свядомасці. І тут ужо кожны з эпохай дамаўляецца па-свойму. Дзіўна было б патрабаваць ад І. Шамякіна, скажам, імпрэсіянізму, калі ты сам нізавошта не згадзіўся б перакваліфікавацца ў рэалісты (нават у "неа-").**

**І. Шамякін арыентуецца ў сітуацыі радыкальнай плюральнасці з дапамогай пасеізму – такога адчування часу, пры якім мінулае ўспрымаецца як адзіная аб'ектыўная рэальнасць. (Гэта ж уласціва і большасці персанажаў зборніка "Сатанінскі тур" (1995).) Калі б у сучаснай літаратуры, як калісьці ў рэнесанснай, вядучай паэталагічнай катэгорыяй быў жанр, то І. Шамякін для адэкватнага адлюстравання сённяшняга вобраза свету, бясспрэчна, выбраў бы антыўтопію. Адметнасць Шамякінскіх аповесцяў апошніх гадоў ("Paradies auf Erden", "Вернісаж", "Сатанінскі тур" ды інш.) заключаецца ў тым, што гэта – не проста сацыяльныя антыўтопіі, а свайго роду сімптомы нейкай новай літаратурнай "формы" – назавем яе ўмоўна nostalgia. Па чым? Адказ залежыць ад ідэалагічных густаў каментатара – "па вечных ісцінах" і г.д. Верагодна, чалавек адчувае сябе няўтульна ў "разарваным", няўдала "сканструяваным" свеце – яму і здаецца, што не хапае менавіта стабільнасці, маралі, грошай, павагі, годнасці, ганарараў і г.д.**

**Калі ў V–IV стагоддзях да н.э. у Старажытнай Грэцыі разбураліся асновы і нормы свету, носьбітамі якіх былі багі, Парменід запэўніў суайчыннікаў, што быццё ёсць, а небыцця няма; што быццё ёсць Логас (касмічны розум) – і тым гарантаваў далейшае існаванне свету.**

**Да пачатку XX стагоддзя н.э. чарговыя багі памерлі ў чарговы раз, але, на жаль, разам з імі (часова) памёр і Розум. Таму І. Шамякін не можа гарантаваць суайчыннікам нават тое, што заўтра абсурд не стане яшчэ больш абсурдным (гл. аповесць "Сатанінскі тур"). Прыгледзіш-**

ся – а ў пісьменніка-рэаліста сюжэты разгортваюцца амаль згодна "логіцы абсурду" (прынамсі, у апошніх творах); у якасці ж сродкаў стварэння вобразаў-персанажаў выкарыстоўваецца такая лексіка, якая паводле літаратуразнаўчых (акадэмічных) стэрэатыпаў магла б належаць толькі постмадэрністу ці, у крайнім выпадку, якому-небудзь мадэрністу.

Сам сабою напрошваецца "парадокс Шамякіна": ён "свой" для дзвюх суседніх (і таму як быццам бы "антаганістычных") эпох – для "давыбуховай" і "поствыбуховай". З "большасцю", якая ўпэўнена адчувала сябе падчас першай эпохі, яго звязвае пазітыўны пафас у адносінах да мінулага; з "большасцю", якая разгубілася падчас другой эпохі, яго яднае негатыўна-скептычны пафас у адносінах да сучаснасці – будучыні. Сёння І. Шамякін – як і трыццаць гадоў таму – мае ўсе шанцы стаць аўтарам новага бестселера, бо многія з нас дамаўляюцца (спрачаюцца) з эпохай Пост менавіта ў форме nostalgia (згадаем хаця б нядаўнюю аповесць В. Казько "Да сустрэчы..."). Да таго ж, аднастайнасць колішніх і сённяшніх класіфікацый, з якіх творчасць І. Шамякіна паўстае прадказальнай у сваёй суровай рэалістычнасці, верагодна, можа быць у хуткім часе парушаная. Хто ў 60–70-я гады,назіраючы за тым, як прафесійна І. Шамякін белетрызуе сацрэчаіснасць, мог прадбачыць, скажам, "Вялікую княгіню"?.. Таму сама "катэгорыя" прадказальнасці, "шамякінскай традыцыі" ў адносінах да сённяшняга І. Шамякіна, які адаптуецца да сітуацыі постмадэрну, зусім не універсальная.

Адам Глобус арыентуецца ў постмадэрне (і ў ім жа самасцвярджаецца) з дапамогай ужо амаль хрэстаматыйнага "слана", сутнасць якога вынікае з сумы ржавага сталёвага дроту, дзёрну, руберойда, бляшанкі з-пад кавы, бляшанкі з-пад кількі, аеру плюс стваральная дзейнасць апавядальніка-канструктывіста (апавяданне "Слон").

Даўно хрэстаматыйны І. Шамякін пазначае "прастору – час" эпохі постмадэрну крукамі, на якіх вешаюцца мастакі-класікі ("Вернісаж"), аўтобусамі, начыненымі сквапнымі да абсурду "турыстамі" і трупамі кандыдатаў навук ("Сатанінскі тур"), галоднымі катамі і ценямі-зданямі ("Адна на падмостках") плюс маральныя высновы апавядальніка-летапісца. Словам, у тым "зямным раі", якім уяўляецца І. Шамякіну постмадэрновы хранатоп (аповесць "Paradies auf Erden"), таксама ёсць свой "слон", што ўтвараецца з сукупнасці ўсвядомленых і асэнсаваных пісьменнікам рэалій эпохі Пост.

Натуральна, што шамякінскі "слон" не падобны да Глобусава "слана". (У кожнага з нас – свой "слон".) Не магу сказаць, каб Глобусаў быў больш *постмадэрны* (у сэнсе – больш "актуальны", больш сучасны), чым шамякінскі. Хаця Глобусаў "слон" больш *постмадэрнісцкі*, затое шамякінскі – несумненна *рэалістычнейшы*. Абодва яны прынцыпова неабходныя эпосе, якой да твару плюралістычныя лаўры, і, думаецца, абодва яны гэтай эпосе падабаюцца: калі ўявіць сабе эпоху Пост алегарычна – у выглядзе шматгаловай гідры, – то можна меркаваць, што адной галаве бліжэй творчасць І. Шамякіна, другой імпануюць тэксты А. Глобуса, трэцяя сімпатызуе Ю. Станкевічу, а "энная" фанацее ад "Бум-Бам-Літу". І зусім не варта выпіхваць адно аднаго з эпохі – усё роўна марныя намаганні.

Той, хто мае схільнасці (і здольнасці) меркаваць пра што б там ні было адназначна і безапеляцыйна, можа стаць аўтарам (стваральнікам?) саліднай класіфікацыі – да прыкладу, яна будзе тычыцца творчасці І. Шамякіна і яе месца – ролі ў адным з кантэкстаў.

Апошнім часам я думаю, што талковага класіфікатара сёння не знойдзеш. Па-першае, многія паважаюць радыкальную плюральнасць. Па-другое, многія ўпэўненыя, што самая ўгрунтаваная класіфікацыя-стэрэатып можа разбурыцца нават пасля аднаго новага твора хрэстаматыйнага, празрыстага, прадказальнага пісьменніка (у нашым выпадку – І. Шамякіна). Па-трэцяе, многія не ўпэўненыя ў тым, што, напрыклад, тэорыі літаратуры неабходныя фармалізаваныя класіфікацыі, бо лічаць, што кожны адметны творца не змяшчаецца ў рамкі аднай, нават самай "універсальнай", эстэтыкі

Такім чынам, І. Шамякін замацоўваецца ў постмадэрне. Хтосьці за гэтым назірае з цікавасцю, хтосьці – без яе, хтосьці – з абурэннем. Але ва ўсіх ёсць занятак і прычыны, каб не адчуваць сябе дурным маргіналам. Словам, кожны песціць свайго "слана".

Ірына ШАЎЛЯКОВА

# ЧАЛАВЕК З ПАРНАСА

Шмат гадоў таму ў наш дом у правінцыйным горадзе зайшоў сусед і даў мне, тады яшчэ малому, кніжку. Ён сказаў, што гэта вельмі харошая кніга, і параіў мне яе неадкладна прачытаць, каб *ведаць, як жыць*. Словы яго былі шчырымі. Ён даў мне чытаць "Трывожнае шчасце" Івана Шамякіна.

Нядаўна я сустрэў таго суседа на рынку ў тым жа горадзе. Восеньскі дождж з ветрам не прарэджваў чаргі па бульбу, якую прадавалі адразу з машыны азербайджане, па-арлінаму пазіраючы на натоўп, які віраваў ля іх ног. Сусед наіўна спытаў мяне, чаму бульбай сёлета гандлююць не беларусы (ці, як ён выказаўся, "нярускія"), якія тую бульбу, вядома ж, не вырошчваюць. Але, я ў сваю чаргу спытаў яго, ці ведае ён і сёння, *як жыць*, не спадзеючыся, што ён, ужо стары і нямоглы, успомніць свой даўні візіт і падарунак і параду. Сусед, вядома, далёкі ад успамінаў, тым не менш упэўнена адказаў, што ведае і заўсёды ведаў, анягож. Звыкла адчуваючы, што, па сутнасці, пражыў увесь гэты адрэзак часу ў розных вымярэннях з сугамадзянамі, я пашкадаваў у думках, што нашы пісьменнікі хоць намёкамі не растлумачылі нашаму народу, што найрэальнейшы вораг для яго – гэта ён сам.

Дык для якога народа пісаў і піша свае шматлікія кніжкі Іван Шамякін? Для таго, які цяпер не ў стане прадаць нават вырашчаную сваімі рукамі бульбу? Які адрокся ад крыжа, ад мовы? Але ведае(?!),якой быць краіне і *як жыць*(!) Выхоўваючы, няхай і ўскосна, у нейкай ступені цэлае пакаленне, Іван Шамякін раз за разам з кожнай новай кнігай адводзіў і адводзіць яго ўбок ад самага галоўнага – ад супраціву сілам жыцця, ад нацыянальнага энергетычнага стрыжня. Хіба гэта нармальна – *прасіць мовы* для ўжывання свайму народу, і тут жа другой рукой падпісваць ліст *супраць нацыяналаў?* Аддаючы належнае Івану Шамякіну як таленавітаму і ўдачліваму белетрысту, я ўпэўнены, што большасць яго бясконцых stoгу з героямі, пазбаўленымі брутальнасці і здаровай нацыянальнай энергіі, нічога не далі нашым людзям, акрамя жаночай псіхалогіі, аморфных псеўдаідэй і схільнасці да пасіўнага енку.

У далёкія пяцідзесятыя, калі яшчэ былі недаразвітыя электронныя сродкі інфармацыі, кніжкі некаторых нашых пісьменнікаў замянялі ім той цукар, якім звыкла прасякнута маскультура – усе гэтыя цяперашнія шматсерыялы і мыльныя оперы. Што ў гэтым дрэннага – спытаеце? Але ж што і добрага? Калі дзіця ўвесь час карміць салодкім, фінал лёгка прагназуецца.

Нядаўна ў інтэрв'ю Іван Шамякін справядліва зазначыў, што моладзь больш не піша яму (а гэта значыць, што і не чытае), а лісты людзей нават старэйшага пакалення сталі рэдкасцю. Бадай, гэта заканамерна.

Моц Івана Шамякіна (а тое, што ён па-ранейшаму моцны, хоць і своеасаблівы, творца – для мяне аксіёма), мяркую, зусім у іншым. Іван Шамякін набірае сілу тады, калі піша пра тое, што пеpажыў сам, калі схіляецца бліжэй да дакументалістыкі. Гэтымі моцнымі бакамі выгадна вылучаецца, напрыклад, яго "Зеніт".

Ну, а што тычыцца такіх рэчаў, як "Петраград-Брэст", "Браняпоезд "Таварыш Ленін", дык тут можна пашкадаваць толькі высечанага лесу, які пайшоў на паперу, каб выпусціць іх у друк.

Тым не менш, ёсць яшчэ адна кніга, за якую беларусы, калі яны застануцца ў свеце (а гэта вельмі праблематычна), будуць заўсёды ўдзячныя Івану Пятровічу Шамякіну. Менавіта пад яго кіраўніцтвам у 1986 годзе выйшаў пяцітомнік "Энцыклапедыя Прыроды Беларусі". Унікальнасць яе засведчыць любы, хто хоць раз гартаў старонкі гэтага цудоўнага выдання.

Іван Пятровіч Шамякін, безумоўна, улюбёнец літаратурнага лёсу, творца, які з лёгкасцю пакарыў літаратурны Парнас і даў у свой час дый цяпер прапаноўвае свайму народу пасмактаць кавалачак літцукру. Ягонымі ранімі творамі захапляліся хатнія гаспадыні, аблашчаныя і суцешаныя прэсай імянітыя пралетары, наіўныя студэнтачкі і навучэнкі прафтэхвучылішчаў, якія ехалі потым па размеркаванні ў "аддаленыя кішлакі" ці на БАМ(ы) і толькі там спасцігалі жахлівую рэальнасць сапраўднага жыцця, простыя людзі працы – усе тыя, хто і цяпер прагне салодкіх бурбалак і цукру, каб крыху падсалодзіць сваё існаванне ў гэтым свеце.

Юры СТАНКЕВІЧ

# ВАГІ ПАВАГІ

*(суб'ектыўнае)*

...аднаўлялася разбураная вайной народная гаспадарка вялікай дзяржавы, уздымалася плугамі славян зямля казахаў, запускаліся ў неба штучныя спадарожнікі, адтайвалі ў нетрах Калымы замучаныя нацдэмы, апартуністы і кулакі, шалелі ў чэргах за шэрым кукурузным хлебам, вайсковым стылем рапартаваліся прамовы на партыйных і пісьменніцкіх з'ездах, чапляліся на "камінтэрнаўскія" пінжакі ордэнскія бляшанкі – калі беларускі пісьменнік Іван Шамякін пачаў пісаць аповесці і раманы..

...змяняўся курс партыі, раслі надоі малака, будаваліся буйныя свінагадоўчыя комплексы, бляск працоўных сацыялістычных Зорак засланяў мігценне Млечнага Шляху, расла Лысая гара, народу спявалася, а людзі співаліся – і народны пісьменнік Іван Шамякін пісаў свае раманы і аповесці...

...высякаліся вінаграднікі, перасыхала ў роце ад пустаслоўя і смагі, развальвалася імперыя, ляскалі гусеніцамі танкі ў Тбілісі, узляталі дубінкі над галовамі адраджэнцаў, клацалі затворы аўтаматаў у Вільнюсе, пухлі купюры, худзелі людзі, перастваралася гісторыя, узнікалі новыя ідэі – а Іван Шамякін пісаў і пісаў аповесці і раманы. Відочныя, акрыленыя савецкай мараллю. Тры за пяцігодку. Шкада, пяцігодкі сканалі. Быў самы зеніт славы. Просты народ любіць, калі пра яго добра пішуць. І Шамякін пісаў, а яго чыталі і паважалі...

...Максім Танк узводзіў барыкады верлібраў на сваіх этапах, Мележ, як Сусанін, выводзіў палешукоў з балота ў шырокі свет, на крэсах уваскрасаў Адамчык, натыкаючыся на сця-

ну недаверу, узыходзіў на сваю чарговую вышыню Быкаў, Караткевіч абеларушчваў Хрыста ў Гародні, донжуаніў на гарадскім сене Стральцоў, блукаў за светам Купрэеў, шукаў шляху, натыкаючыся на вастрыё неразумення Разанаў, на паляне адраджэння хмельна панстваваў Сыс, хварэў, вымагаючыся савецкай культуры ў савецкім інстытуце культуры Федарэнка – а Шамякін заставаўся непахісным, ён пісаў нас і наш свет такімі, якімі яны бачыліся зверху, хоць зверху ўжо, здаецца, не было нікога... апроч Усявышняга...

...ускочаны яшчэ савецкім сізіфам камень каціўся з гары на ўбялелую галаву беднага Дамашэвіча, а камень Шамякіна ляжаў, бы ўкапаны, і з-пад яго па-ранейшаму білі крыніцы, збягаючы ў адно, спрошчанае меліярацыяй, рэчышча, спрабуючы ўзнавіць былую глыбокую плынь...

...і здавалася, як у добры час свой, зноў пакрочыць ён роўным выбрукаваным трактам Брэст-Масква, што непадалёк маёй вёскі, – шчыры, вясёлы, дасціпны зямны чалавек – увесь як на далоні...

"Ах, Шамякін, Шамякін! – зайздросціў я калісьці, раскладваючы закусь на разгорнутым часопісе "Маладосць". – Які файны і фартовы пісацель, мне б так..."

Аднак, жыццё завіравала, аднесла мяне ад таго варшаўскага тракта, і Шамякін паступова знік з майго поля зроку, зрэдзьчас толькі чуўся мне шоргат ягонай старэчай хады ды лёгкай асадкі...

Куды ж зайшоў ён сёння тым шляхам, падбадзёрваючы і паляпваючы па плячах сваіх літаратурных аднадумцаў, дабраных дробным шрыфтам на фоне ягоных атлантаў?!

Масква за Смаленск не пускае, пад Брэстам – НАТА... Які сатанінскі тур!..

...Дарэшты змучылі двухмоўныя пытанні, стамілі адмоўныя адказы...

Спачуваю... Але і люблю яго як чалавека – і за партыйную непахіснасць, і за даходлівы народна-гаваркі стыль, і за няўломнасць сацыялістычнай фабулы, за яснасць, за стандарт, за стараннюю старасць, за адзінокую самоту на лецішчы, за рэдкія кніжкі, за малыя тыражы, за дробныя ганарары і, у рэшце рэшт, за тую яго нязгасную веру ў наша светлае будучае, за ўсё, чым ён жыў і жыве...

Усё-ткі – лепшы белетрыст у гісторыі беларускай літаратуры.

...і ўсё ж – не мой пісьменнік.

Што ж, значыць – нейчы... Галоўнае – патрэбны. І – учора. І – сёння... Заўтра? Для заўтрага, дасць Бог, заўтра й напішацца... Было б здароўе ды не было б вайны – а ўжо гандляркі сваіх паэтаў знойдуць...

Леанід ГАЛУБОВІЧ

# ЗАГАДКІ ДЭЛЬФІЙСКАГА АРАКУЛА, альбо Небяспечнае падарожжа эфора

Калі, бадай, любімы шамякінскі герой апошніх гадоў Іван Андрэевіч, да таго ж калега-пісьменнік, "рэаліст і прагматык", на старонках аповесці "Падзенне" разважае пра "найлепшыя гадзіны, дні, рэдка – месяцы, калі ён, як у цёплую ванну, пагружаўся ў ідэальнае, у гэтым стане – як у бязважкасці і ... ніякіх сумненняў, а чаго няма, тое не раскладзецца па паліцах", – міжволі задумваешся: а ці ведаем мы такім аўтара? Неспадзяваная салодкая разняволенасць створанага ім персанажа, на імгненне пазбаўленага цяжару заўсёднага сумнення, здаецца, не пераканае пісьменніка нават тады, калі ў мроях уладарнай нірваны з'явіцца новае матэрыяльнае сведчанне дасягнутай гармоніі а Сусветам – белы камень, так званы "пуп зямлі", што ў бласлаўлёныя часы дзяцінства чалавецтва быў усталяваны ў цэнтры храма Апалона ў Дэльфах, утварыўшы славуты дэльфійскі аракул. Сапраўды, блазнаванне піфій (жанчын-празорлівіц), якое сілкавалася незвычайным фіміямам з глыбінь зямлі на гэтым цудадзейным месцы, асвечаным міласцю бога мастацтва і святла, не будзе даспадобы таму, хто надаў свайму герою здольнасць раскладваць сумненні "па паліцах". Але хіба не гэтым займаліся дэльфійскія жрацы, перакладаючы лямант піфій на мову зразумелых тлумачэнняў? Вядома, з'ява заўсёды багацей за тлумачэнне, аднак і яна скарылася дасціпнасці мужных ахейцаў, якія ў паядынку з бясконцасцю авалодалі ёй, утаймаваўшы ніколі не вылічальную звычайным арыфметычным спосабам да канца велічыню (прыкладам, корань квадратны з двух) праз геаметрычную фігуру – дыяганаль квадрата, даўжыня якой была роўная зададзенай лічбе (М. Гаспараў, "Займальная Грэцыя"). Герой-пісьменнік І. Шамякіна, знаёмы нам не толькі па аповесці "Падзенне", але і па цэлым цыкле твораў празаіка ("Paradies auf Erden", "Вернісаж"), таксама апанаваны страхам бясконцасці: "Хаос... Не, не хаос. У хаосе ёсць завяршэнне, пачатак і канец. А я не бачу канца нашага развалу. Чым далей, тым большая памыйка. Грандыёзны сметнік "вялікай дэмакратыі"!" ("Вернісаж"). Але напалоханы творца не спяшаецца апынуцца ў замкнёнай прасторы квадрата, імкнучыся ўвасобіць сябе ў мадэлі, якая б пераадольвала мяжу непазбежнасці, маючы сэнс у сабе самой. І не зважае на тое, што прапанаваны ім і падхоплены ў свайго ж героя аўтарам план уцёкаў з лабірынта дурной бясконцасці неўпрыкмет штурхае іх абодвух туды, дзе стваральнікі неабвержных мадэляў свету і нашага разумення яго, стаіўшыся, чакаюць свайго зорнага часу.

Адказваючы "ЛіМу" (1997, 15 жніўня) на пытанне з нагоды катэгарычных сентэнцый прадбачлівага Івана Андрэевіча, І. Шамякін супрацьпастаўляе немагчымасці вярнуцца назад ("двойчы паўтарыць гісторыю нельга...") парадак: "Сёння ў нас ужо не сметнік. Зараз ужо парадак наведзены". Непазбежнасці пярэчыць... што? Хіба мае "парадак" самакаштоўны сэнс? Калі так, то форму залежнасці вызначае структура, у якой І. Шамякін творча існуе, ці не таму шчыра вітаючы нанова ўсталяваную іерархію адносінаў у грамадстве, дзякуючы чаму ён сам прыходзіць у эстэтычную раўнавагу з сабой. Пісьменнік пакутуе ад таго, што не знаходзіць станоўчага героя, але рашуча не згаджаецца з тымі, хто лічыць "былой" савецкую літаратуру. Тут ён шукае сваю свабоду ў непазбежнасці. Сама структура становіцца крытэрыем, захоўваючы пастаянства аракула ў незалежнасці ад зменлівых прагнозаў, як некалі шырокае кола інфарматараў дазваляла служкам Апалона "ўзважваць" рэальныя абставіны, перад неабвержнай дадзенасцю якіх – пакуль прароцтва не спраўдзілася і падзея не здарылася – чалавек заставаўся вольным. Відаць, сапраўды цяжка абвясціць "мінулым" тое, чаму яшчэ наканавана надарыцца: "...літаратура (савецкая. – *І.А.*) не можа быць былая... Гэта – вялікая літаратура, самае галоўнае – у нас быў станоўчы герой. Можа, ніводная літаратура не мела такога героя!" (І. Шамякін).

Вось яно! Крытэрый і ўзор, ідэал, што заручыўся з жыццём. Не нейкі там дэльфійскі тлумач выбрыкаў экзальтаванай кабеты, якая, спекулюючы агульным эстэтычным радаводам, пад выглядам розных "ізмаў" (дасталося і ім у шамякінскім "Вернісажы") нахабна набіваецца ў сваячкі да любага сэрцу не аднаго Івана Андрэевіча рэалізму. І хаця пытанні-адказы аракула ("што трэба рабіць і што не трэба рабіць, каб..." – замест амаль немагчымых у вуснах дэльфійскіх жрацоў "так" і "не") часам вельмі нагадваюць патрабаванні І. Шамякіна да літаратуры, куды больш прывабнай для яго выглядае постаць эфора, гэтага "станоўчага героя" старажытнай Спарты, ахоўніка законаў і справядлівасці, дарадцы і пасланца нябёсаў, за якімі кожныя восем гадоў, уначы, разам з чатырма іншымі абраннікамі лёсу і грамады, ён павінен быў уважліва сачыць, вартаваць зорны час, каб убачыць знічку – знак багоў, што патрабавалі ад эфораў атрымаць адказ аракула: ці вартыя цары дзяржавы (а іх у Спарце было два) працягваць сваё панаванне? Шмат змянілася ў свеце, акрамя россыпу зорак над галавой. Шкада, але насуперак заклiку пачынальніка менавіта савецкай літаратуры іх не дужа імкнуцца запальваць ("значыць, гэта каму-небудзь" – не трэба). Адна за адной яны коцяцца з неба, і толькі "Злая зорка" ззяе на беларускім небасхіле ўсё мацней і мацней...

Напэўна, дзеля таго, каб адчуць сябе эфорам, трэба апынуцца "на апошнім перагоне" (дзённікавыя запісы І. Шамякіна, надрукаваныя ў "Полымі" і "Нёмане" ў 1996–1997 гг.), падмацаваўшы асабістую далучанасць да таямніц вялікай палітыкі ацэнкамі тых, хто валодаў светам альбо той яго часткай, у якую, паводле У. Караткевіча, аднойчы закахаўся Бог. Праўда, у тлуме будзённасці і лёс найноўшага эфора – "сакратара грамадства" ("Роздум на апошнім перагоне") – мог быць вырашаны за абедзенным сталом валадароў, цяпер ужо нябожчыкаў (прачытайце ўспамін І. Шамякіна пра выданне "Снежных зім"), бо каго ўсцешыць справаздача перад нябёсамі, пасланцом якіх выпраўляўся ў небяспечнае падарожжа эфор? І ўсё ж, ведаючы пра захапленне І. Шамякіна хрысціянскімі догматамі Веры, адлюстраванымі ім у лёсе вялікай княгіні з аднайменнага гістарычнага рамана пра шчаслівы шлюб дваіх закаханых і нешчаслівы шлюб дзвюх дзяржаў, нельга быць упэўненым, што пісьменніка прывабіць недасяжная прастата язычніцкай гармоніі, схаванай у дыяганалі банальнага квадрата. Хутчэй, больш зманлівым падасца іншае матэматычнае сведчанне ўпарадкаванай мэтазгоднасці – вектар, у якім акадэмік Б. Раўшэнбах, тэарэтык касманаўтыкі і культуролаг, убачыў лагічнае вырашэнне Сусветнай гармоніі трох Боскіх пачаткаў Святой Тройцы, пакінуўшы іх у недатыкальнай духоўнай цноце. На жаль, вектар абставінаў, якія б апраўдвалі нашу залежнасць ад іх як выбар нябёсаў, нават не набліжаецца да гэтай патрабавальнай вышыні ў свеце, дзе мастак-самазабойца ладзіць хаўтуры па сабе на вернісажы ("Вернісаж"), стары бальшавік і гулагаўскі вязень з Марксам і Бібліяй трывае пакуты жыццёвай Галгофы, на якой ён сам – "Езус", а яго нядрэнна ўладкаваны ў наменклатурным пасьянсе ўнук пасля "нечаканага хабарніцтва" праходзіць праз сапраўднае грэхападзенне і, захварэўшы на СНІД, губіць жыццё родных яму людзей ("Падзенне").

Паважаючы перакананне згаданага 87-гадовага праўдашукальніка Юшкоўскага ў тым, што "Ісус – рэальны чалавек, не сын Божы – сын Чалавечы" (як даводзіць старому француз Рэнан), а "Бог – жыццё", застаецца прызнаць, што аблічча гэтаму жыццю надае цяпер "трэці клас" ("зброд", "клас буржуазіі"), які заўзята шчыруе ў новай прозе І. Шамякіна, пакідаючы двух другіх у звыклай трыядзе, дзе з савецкіх часоў у творах пісьменніка хапала месца і селяніну, і рабочаму, але самім збегам сённяшніх абставінаў вылучаючы з яе інтэлігента, з якім гатовы атаясаміць сучасны эфор і ў якім бачыць свой працяг аўтар. Ва ўсялякім разе, ягоны Іван Андрэевіч даволі ўпэўнена пачуваецца ў ролі "духоўніка", прыняўшага гэты абавязак і ў сардэчнай размове з сябрамі, і ў жорсткай спрэчцы з тымі, каму, на думку Івана Андрэевіча, не павінна належаць будучыня. Малюючы яе ў апакаліптычных фарбах, герой І. Шамякіна (пісьменнік!) не толькі атрымлівае неверагодны шанец падвесці пэўныя вынікі творчасці і жыцця літаральна з уласнымі персанажамі мінулых гадоў, але і аднаўляе ў рэальным творы рэальнага мастака ідэалагічны каркас, па-за якім абраную ім ролю проста немагчыма выканаць.

У свой час яе трапна вызначыў М. Мамардашвілі: "асветніцкі абсалютызм", абумовіўшы абавязак і прэтэнзіі інтэлігенцыі асаблівасцямі яе становішча ў грамадстве. Характэрныя, паводле М. Мамардашвілі, для класічнай эпохі капіталізму "традыцыйнасць і ўстойлівасць сацыяльных стратыфікацый", з чаго вынікала манаполія інтэлігенцыі на валоданне інструментам культуры ў звязку са свабодай ад дамінуючага утылітарнага інтарэсу, матэрыяльнай "незацікаўленасцю" ў ім, рабілі яе празрыстым "медыумам" грамадства, у якім адлюстроўваліся агульназначныя працэсы, набываючы ідэальную форму ў вымярэнні культуры. Менавіта яна пераадольвала немату тых, хто ў адпаведнасці з іерархіяй соцыуму быў пазбаўлены такой

магчымасці, і натуральна забяспечвала скіраванасць “асветніцкага абсалютызму” ў будучыні, мацуючы шэрагі пераўтваральнікаў свету інтэлігентамі, якія натхнялі страціўшых надзею рэальным увасабленнем перспектывы. У гэтым сэнсе ўсе, умоўна кажучы, “антыперабудовачныя” творы І. Шамякіна, нягледзячы на ўласцівую ім (і наогул тыповую для пісьменніка) падкрэсленую белетрыстычнасць, уяўляць сабой своеасаблівую светапоглядную канструкцыю, ускладненне якой адбываецца не з прычыны ўнугранай эстэтычнай архітэктонікі мастацкага “прадукту”, а ў выніку яго супярэчлівых стасункаў з рэчаіснасцю. І. Шамякін шукае апірышча ў мадэлі грамадства, што ўтварыла падмурак цяперашняга дня, непрымальнага для яго. Безумоўна, можна паспрабаваць усё растлумачыць занядбанннем нейкай нормы жыцця і абрушыць праклёны на галовы “адмечаных сатанінскімі плямамі” рэфарматараў ці проста дзялкоў рознага калібру: ад драбязы Кін-Кіёнка (“Падзенне”) да самавітага Ґалавана (“Крывінка”). Дарэчы, сам выбар аўтарам герояў і крытэрыяў ацэнкі сцвярджае структурную непазбежнасць прынцыпу “асветніцкага абсалютызму”, бо вяртае нас у пярэдадзень, бліскуча прааналізаваны ў М. Мамардашвілі. Аднак драматызм праблемы (і шамякінскага сюжэта) заключаны ў тым, што, з’яўляючыся вытворным ад пэўнай сацыяльнай мадэлі, гэты прынцып не можа быць рэалізаваны па яе законах. Дык чаго тады вартая сама структура, якая пакідае сваіх герояў без бацькоўскай апекі, дазваляючы ім цынічна грэбаваць мараллю і адказваць (як няўдалы грахаводнік Раман Юшкоўскі) пытаннем на пытанне: “А што ў нас законнае?.. Часам здаецца, што сам ты незаконны, як незаконнанароджаныя ў даўнія часы”.

Але ж і структура, вылучаная абставінамі ў якасці найбольш змястоўнага персанажа шамякінскіх твораў, можа растлумачыць збянтэжанаму чытачу больш, чым канкрэтныя мастацкія вобразы – прынамсі, ва ўласных нетрах знайсці абгрунтаванне руху назад у канцэптуальным разуменні пісьменнікам сучаснасці, хаця гэтае памкненне наўрад ці паспрыяе ягонаму набліжэнню да ідэалу. Нешта падобнае ўжо здарылася на рубяжы эпох расійскай (савецкай) гісторыі, калі мастацкая структура пайшла насуперак непазбежнасці, не запярэчыўшы, а *падпарадкаваўшыся* ёй. Гэтую парадаксальную метамарфозу мастацкай свядомасці знакаміты эстэт і філосаф, аўтар славутых “Сталініяды” і “Фарысеі” Ю. Бораў убачыў у “кансервацыі” бальшавізмам духоўнага развіцця Расіі “на стадыі рускай класічнай літаратуры”, што, з аднаго боку, да пары засцерагло культуру ад крызісу індывідуалізму, адзіноты і абсурду, а з іншага, на яго погляд, дало традыцыі “залатога” XIX стагоддзя падставы збочыць “на шлях хунвэйбінскага калектывізму”

Няма чаму здзіўляцца: “структура” – эфемерыя, дэльфійскі фіміям, пасля якога недалёка і да блюзнерства. І тут ужо кожны адказвае за сябе. Можна разам з А. Сіняўскім дапячы ўладзе “эстэтычнымі рознагалоссямі” з ёй (“Дысідэнцтва як асабісты вопыт”) і сустракаць жонку ў лагеры на першым – пасля зняволення – спатканні не адчаем асуджанага, а шчырай радасцю творчага першаадкрыцця: “Маша, ты не ўяўляеш, як тут цікава!” А можна пазначыць сваю “стылістычную” нязгоду з грамадствам у межах яго самога, бо іншага, апрача эстэтычнага, шляху дылема Ю. Борава не прапануе. І І. Шамякін карыстаецца ім (напрыклад, у аповесці “Крывінка”) надзвычай рашуча.

Паколькі грамадства ў асобе яго “новага” класа цалкам згубіла належную меру з’яў, пісьменнік афармляе гэтую страту сораму і прыстойнасці... “стылістычна”, укладваючы ў вусны багацея-бізнесмена Ґалавана звычайную лаянку: “Гаўно. Усё гаўно! ... Свет – бардак, і людзі блядзі”. Але, такім чынам абвінаваціўшы апанентаў у занядбанні маралі, І. Шамякін сам становіцца заложнікам соцыуму, якому прад’явіў рахунак, бо адхіленне ад нормы – менавіта “норма” існавання аблуднага грамадства. Апынуўшыся ў палоне абвергнутага ім свету, пісьменнік вымушаны атаясаміць сябе са сваімі героямі, форма пратэсту якіх толькі даказвае нязменнасць соцыуму і мастакоўскіх дачыненняў да яго. Жарт станоўчага персанажа “Крывінкі” драматурга Іпаліта Пятровіча наконт раскошы Галавана (“Хрэн так Радзівілы жылі”) мог быць выклікам учора, калі кожная алюзія нацыянальнай гісторыі сведчыла нязгоду. І нават сёння – усё роўна з пазіцый мінулага дня. Невыпадкова, што з дапамогай героя аўтар пакутліва вяртаецца да сябе ранейшага: “Стары драмадзел павіншаваў суседа з выдатнай хатай, з наваселлем: – ... Я што вам хачу сказаць? У чым мая трагедыя? Не толькі мая, усіх паперапэцкалаў. Мы страцілі герояў. Сакратароў райкомаў, старшынь калгасаў. Былі яны ў жыцці? ... Былі”. Аднак самаўпэўнены Галаван рыхтуе свайму апаненту фатальны адказ. Здзекваючыся з інтэлігента-"паперапэцкалы" (“...як я расчуліў гэтага славутага жабрака? Ажно заплакаў, нябога. Усе яны павінны плакаць ... ад удзячнасці нам”), ён прымушае таго самому глядзецца ў люстэрка, дзе матэрыяльная незалежнасць колішняга “медыума” аказваецца ўмовай існавання дзялка (Галаван: “Яны – інтэлігенцыя? А мы ... хто?”), пакідаючы непахіснаму эфору права на галечу. Люстэркавы прынцып памяняў месцамі арыенціры, аднак не змяніў сутнасці: соцыуму супрацьстаіць ён сам, надзейна бароначы свой “статус-кво”, спрачацца з якім – значыць адмаўляць уласную ўмову.

Дык ці не губляе сэнс падарожжа эфора, калі нязменна-трывалы свет у гэтым вонкавым супрацьстаўленні яму задаволена згаджаецца з вандроўнікам? Галоўнае – немагчымасць стылістычных разыходжанняў, якія, між іншым, калісьці дапамаглі Сіняўскаму-Тэрцу (дысідэнту “паводле стылістычнай прыкметы”) наважыцца на фрывольны шпацыр з самім Аляксандрам Сяргеевічам Пушкіным. Мабыць, тады разгублена-задуменны эфор так і не заўважыў дзіўную знічку, дагэтуль упэўнены, што можна назаўжды застацца па-за вірам пераменаў, вымаўляючы сёння “а” толькі дзеля таго, каб заўтра палічыць за лепшае аддаць перавагу “б”. Зрэшты, няўдзячная гэта справа – наракаць на алфавіт...

Іван АФАНАСЬЕЎ



# Юрка ГОЛУБ

## У НАС



*Як ні круці,
але чамусьці не відно
зайздроснікаў
такой біяграфіі.*

# БІЯГРАФІЯ ПЕЎНЯ

## *ГРЫМУЧАЯ СТУДНЯ*

Корбай выцягнуўшы
вядро,
піў з яго
на хутаранскім падворку.
І пакуль адыходзіла
смага,
пацвельваліся спадарожнікі,
клапаціліся вераб'і,
чулася несціхана,
як амаль вечнасць
каменьчык па́дае
на дно
грымучае студні.

## *БІЯГРАФІЯ ПЕЎНЯ*

НАРАДЖЭННЕ
Ён праклюнуў мяккаю
дзюбкай
цвёрдую, як браня, шкарлупіну
сонечным ранкам.
Жоўты,
кволы
і нехлямяжы.
І тым не меней, крыкліва-зіркаты.
Яго чакалі
ў сенцах і на двары
спазнанні,
уцехі
і найболей прыгоды.

СТАЛЕННЕ
Як было непаўторна
дзеўбануць
зерне ячменю
і зерне расы.
І ўпершыню на плоце
картава закукарэкаць
і тым паздзеквацца
з ката-драпежніка
ля дзядоўніку.





СТАЛАСЦЬ
А потым давялося
да крыві разбівацца
ў бойках,
губляючы зыркае пер'е,
і горда насіць
закарэлы ў сукровіцы
грэбень.
За што і мець
паслушэнства
шматлікіх сяброўак-хахлатак.
Калі ж на сонным світанні
будзіў ён акругу,
то першымі
прачыналіся гаспадары,
прадзіралі вочы сабакі,
велікодным яйкам
усходзіла сонца.

СМЕРЦЬ
Ён і сёння паспеў
падаць голас,
каб затым з галавой
адсечанай
ляжаць побач з сякерай
на чырвонай калодцы.

ПАСМЯРОТНАЕ
Як ні круці,
але чамусьці не відно
зайздроснікаў
такой біяграфіі.

## *МІМАХОДЗЬ*

Разлагодзіў вусы
ячмень
і застаўся ззаду.
Кнігаўка азвалася
над балотам
і апала
на купіну згадак.
Голле раскінуў лес
для абдымкаў,
а ты прайшоў праз іх,
як праз сіта.
І да ўсяго
бацькава хата

на цябе паглядзела
з дакорам.
Няўжо гэта сам
аглядаю
жыццёвы надзел
мімаходзь.

## *ЖАЎНА*

Ёй заўсёды чамусьці
ў родным лесе
не шэнціла.
Пэўна,
з-за чорнай апраткі,
незайздроснай хаціны
і сухога голасу
ў яе з пагардай
тыцкалі пальцамі
суродзічы чырвона-пярэстыя,
на ганку бессаромна
начавалі вятры
і над галавой злавесна
рыпелі хвоі.
І толькі людзі
дзіўным чынам
заапекаваліся:
жаўну,
учарнелую з гора,
вышмаргнулі з зяпы дупла
і занеслі
ў Чырвоную кнігу.

## *СЦЯНА*

Спрабавала
кволыя дзюбы
першае лісце.
Купаліся ў лужынах
вераб'і.
І навучэнкі беглі
са скрыпкамі.
Брыў тратуарам я
ўздоўж
турэмнай сцяны.





## *НАСТОЛЬНАЯ ЛЯМПА*

Няўжо ва ўсім
вінаваты
кульбіты надвор'я?
Бо пайшло з вечара
цугам:
дрэнныя навіны па радыё...
думкі пра кватэрную плату...
папярэджанне пра бацькоўскі сход...
згадка пра імяніны сабакі...
І крыўдна:
не прымае папера
ніводнага слова.
І ты ніяк не можаш
даўмецца,
чаму да ўсяго яшчэ змеркла
настольная лямпа
дачасна.

## *ЗАДАТАК З УЛАСНАГА ДВОРЫШЧА*

Калі выйшаў ранкам
на ганак
агледзець надвор'е,
несусветна раскрычаліся
вераб'і.
Расхадзіўся ў пагрозе
індык,
калі прыцягнула
маю ўвагу
ягоная камізэлька.
А певень
увогуле стаў на абарону
сяброўак,
як толькі асачыў кашолку
ў маёй руцэ.
А пасля пчолы
абурыліся,
чаму суну свой нос
у іхнія вуллі.
І толькі сабака
адарыў мяне пагардлівай
абыякавасцю.
Такі вось задатак
сёння я атрымаў
за цікаўнасць.

Марыя ВАЙЦЯШОНАК



*Бог, стварыўшы людзей
і звяроў, паставіў іх
з розных бакоў
глыбокай прорвы,
каб нічога
не пераблыталася.*

# ДОМ ВОКНАМІ Ў САД

*Апавяданне*





*Між зоркай і бяссонніцай крыніц
цяжэй за ўсё адкрыцца чалавеку.*
**(Віктар Ярац)**

Ад вясны да позняй восені – Хрысціна ў вёсцы.

Ступіць за парог давідна, першай увайсці ў свет, як у касцёл, калі яшчэ і пеўчых няма. Птушка адна, другая, нізка, пстрычкай праляцелі пад нябеснай столлю, разпораз пужліва мяняючы кірунак. І не палёт гэта, а проста нехта панікліва блукаў у цёмных калідорах паветра, шукаючы выйсця. Вяртаюцца з палявання, запазніўшыся, кажаны? Колкая згадка ў самыя босыя пяты, бы раптам убачыш нейчы свежы след. Ноч адыходзіць. Ускалыхнулася на момант бялявае палатнянае святло, вецер сцягваў, складаў столкі прасцірадла з твайго яшчэ цёплага ложка. Хутчэй на вышэйшае месца, на першы рад амфітэатра, каб быць найбліжэй, добра ўсё бачыць.

Першая аблачына слаба асвяцілася, паружавела на вачах. І варта перавесці зрок, як ужо пялёсткамі ірдзела паўнеба – лопнуў бутон і адцвіў, – не ўпільнуешся. Спелыя аўсы недзе пасярэдзіне заварушыліся пад ветрам, поўсць дыба, як на сытых клубах, бы там кідалася ўбакі буйваліца ў ахвоце, наважаная на ўсю ноч на доўгі ланцуг. Поле, лес, неба – усё ўбачанае ўпершыню гэтым днём, набрынялае, вядром зачарэпнеш расу. Шчаслівa круціш галавой, як у натоўпе, не ведаючы, да каго найперш павярнуцца, да каго найперш загаварыць. І дзень учарашні такі далёкі, як мінулы год ці нават чалавечы век.

Вяртаешся праз лес Вавёрка перабегла дарогу, ускочыла на дрэва, зацокала, дражнячыся. Ты адазвалася ёй гэтаксама. Тая нечакана стала спускацца Усё бліжэй і бліжэй І раптам невядомы дагэтуль страх не патрапіць што зрабіць, што сказаць, калі спусціцца, падыдзе блізка. Ты ведала толькі тыя словы, якія звычайна гавораць дзіцяці ці калі лашчыш сабаку. Зніякавеўшы, заспяшаешся дамоў.

Вёска, здавалася, не спала. Гэта быў не сон на досвітку, да сонца, салодкі і млосны, калі ўпушчаныя з рук на кароткі час ночы сякера, рыдлёўка ці лейцы, а захінутыя фіранкі на вокнах бы на дзіцячай зыбаўцы пад нябеснай столлю. Дзяркач прыціснуты ў кутку панадворка, ад вясны да зімы ў тым самым, і барані божа, каб каму спатрэбілася яго назаўтра шукаць. Анідзе каб якая парушына, толькі калі начная птушка праляціць. . А гэтае жытло быццам бы даўно і назаўсёды было пакінута чалавекам Расчынены стары хляўчук, шэры няроўны паркан, не знятыя праз усё лета драбіны на страсе, калі правілі комін. І бульбоўнік даўно адцвіў Зжываецца мейсца. Наўдачу, ці дабудзіцца калі сонца да тутэйшага гаспадара. Спынілася на сваім панадворку пад маладым клёнам, пасаджаным, калі перабудоўвалі хату пад дачу. Кожны раз тут, пад дрэвам, бы чакаючы, калі яно нарэшце падрасце. А ў гары над галовамі, убачыла, ужо сёння распяленыя цёмныя шаты – вось ён і дарослы! Як далёка ўчарашні дзень..

На ганку тэрасы ляжалі два жоўтыя лісты дзявочага вінаграду, роўненька, разгладжаныя рукой, якраз каб трапіць на вочы, умоўным знакам, што нехта прыходзіў і не заспеў. Хто той сябра, які ведае тваю мову? Здаецца, увесь час чакала вось такой размовы, як у японскім "хайку".

*Гляджу – апалы ліст
Ўзляцеў зноў на галіну.
А – гэта матылёк.*

Няўжо восень? Калі было?..

Вось-вось, зараз, праз адчыненае акно пазаве яе старая жанчына (бабуля? маці?) увесці нітку ў сляпое вушка іголкі, каб стачыць ейнае жыццё, зрабіць падобнае на людскае, на жаноцкае. Не, ніхто ніколі з дарослых не дакучаў парадамі, маўляў, абавязкова патрэбна сям'я, якая яна ні ёсць, дзеці. Маці, перавязаўшы яе крыжнакрыж хусткай-раблёнкай, пайшла з дому і не вярнулася. Потым нехта падняў падпахі, уссадзіў на лаву каля труны ў той самай хустцы. Маці ляжала ў старой сукенцы, накрытая да падбародка марлёўкай, зніцелым, змарнелым па сібірскіх ссылках

калісьці дарагім вэлюмам, падараваным прыгожай сялянцы неспадзяваным жаніхом, польскім асаднікам.

І цяпер у сцюжу карціць змодзіцца, абвязацца хусткай крыж-накрыж – ахоўным матчыным знакам

Неяк, будучы ў Каіры, бачыла, як маладая, з бедных, егіпцянка паіла ў прыбіральні з крана дзіця. Адной рукой кубачкам да вуснаў малога, другую падстаўляла пад падбародак, лавіла пацеркі кропель, каб не замачыць белую кашульку Сачылася вада праз тонкія чорныя пальцы, як скрозь чорны мармур. З чашы ў чашу высечанага свяшчэннага фантана дзе-небудзь у Сахары. Стоўшыся, пустэльняй назірала за імі, адчуваючы, што ніколі не зможа прагнаць смагу, не тое каб напіцца.

Бацькі, брат, сёстры, спяшаючыся, сыходзілі некуды па сходках кінутых разбураных падмуркаў, занесеных зямлёй. Можа, таму любіла хадзіць на старую панскую сядзібу за вёскай. Легчы, стаміўшыся, на пагорку, каля бэзавага куста, закрыць вочы Трава над ёй, трава ўжо скрозь яе самую. Нехта ідзе, ідзе нячутна, толькі зусім блізка пах дарагой выробленай скуры, высокія лёгкія боты з адваротамі Вяртаўся з палявання былы гаспадар? Пэўна, у гэтым мейсцы некалі была брама, тут наследавана – не размінешся Лёгка падняцца з зямлі, не спужаўшыся памерці Галоўнае толькі варта выбраць вось такое высокае мейсца, дзе прывідамі ходзяць летуценныя людзі. Галоўнае толькі паспець самой надзець на палец срэбны пярсцёнак, падараваны мужчынам, на ім кветкі за дзвюма ахоўна перакрыжаванымі дзідамі

Сярод знаёмых і сяброў яна адчувала сябе найбліжэй да таго незямнога свету.

Можа, таму кожная хвіліна, як у шчаслівым падарожжы, выдавалася, адчувае, бачыць, як рухаецца зямля. Перамена надвор'я – гэта проста новая прастора неба, куды яна час ад часу трапляе, вандруючы Вось у хмары ўвайшлі, вось набліжаемся да ўсходу, як да новай краіны, дзе аблокі колераў кволых паўднёвых кветак, што цвітуць адно імгненне, да сонца Можа, таму, лёгшы спаць, не адважвалася павярнуцца да сцяны Да апошняй хвіліны забыцця тварам да ўсяго, што відаецца ў ейным акне Вочы шкада заплюшчыць. А калі і заснуць, то як у абдымках, – не адварочваюцца.

Насустрач ёй выбеглі два сабакі, Марта і ейнае шчаня Мурза. Хрысціна любіла шуткаваць, маўляў, жыве ў сабачай сям'і. Марта, абы адчыніў дзверы, кумільгам ляцела з прыступак на паляну перад домам. Нізка пластуючыся, кружляла, набірала хуткасць, пятляючы, быццам блытала свой след ці ішла па чужым. Усё гэта з маляўнічай усходняй плаўнасцю, для яе неспадзяванай. Спынялася раптоўна, бы сціхла ейная нікому, акрамя яе, нячутная старадаўняя музыка Спынялася каля самых ног, каб адпачыць, ускідвалася ўсім целам, месцячыся. Жаданне легчы як мага ямчэй, як мага бліжэй да зямлі, жыватом, усёй істотай, ішло хвалямі па поўсці, скочвалася рабаціннем, сазлізгвала з хваста Гэта быў ейны паляўнічы танец. Іншы раз проста ад нечакана напатканай радасці. Было нават мейсца на пагорку, за вёскай, дзе Марта таньчыла заўсёды, пэўна, каб пазначыць чалавеку спрыяльную зону на зямлі Хрысціна ўскаціла туды камень у падмурак свайго летуценнага дома. А ў ім доўгі стол, не засланы, як некалі ў ейным сірочым прытулку, звычайна ён змяшчаўся дзе-небудзь у былым панскім маёнтку. Дубовае дрэва стальніцы сонечным промнем у глыбокай вадзе І ўся вялікая сям'я насупраць. Застанецца толькі апазнаць кожнага ў твар па старых пажоўклых фотаздымках, – яна сама ўжо намнога старэйшая за маці

Тады аднекуль з'яўлялася і Мурза, яна аніяк не магла патрапіць. Як у час небяспекі, залазіла ў куст, каб перачакаць матчыну радасць. Марта высока падымала чорную галаву, зазіраючы ў вочы Пад самай шыяй, прыхаваныя ад сонечнага святла, танюткія разводы загадкавага малюнка. Так можна зазірнуць у марское дно, знайшоўшы на беразе, пасля буры, выцяты вякамі, размаляваны каменьчык. Зблытаўшы невядомыя пароды, прырода кінула свой знак, каб спыніць чалавека перад дзвярыма таямніцы ніколі не падобных адзін на аднаго непаўторных дварнякоў Радавод Марты, пэўна, вядзецца ад сабакі, што ў легендзе індзейцаў Бог, стварыўшы людзей і звяроў, паставіў іх з розных бакоў глыбокай прорвы, каб нічога не пераблыталася Яшчэ цёплая зямля краталася, прорва шырэла, зяўрала бездань, усё больш і больш раздзяляючы жывых істот. Калі, здавалася, ужо было не пераадолець боскую мяжу, сабака адлучыўся ад звяр'я і пераскочыў да чалавека .

Ясная раніца – гэта як квітнеючыя сланечнікі. А калі падлога ў хаце чыста памытая, то і ў небе хмар не бачна. Дом вокнамі ў сад. Лясныя галасы ў свойскіх дрэвах. Прыляталі з блізкага лесу дразды, сойкі, стаяў нескончоны гуд на тэрасе, дзе жылі чорныя восы.

– Як ты тут сядзіш, ходзіш? – пыталіся суседзі – Яны ж такія смылючыя!

Восы садзіліся на салодкія яблыкі на стале, лезлі пад рукі. Яна слабка баранілася, бы разводзіла рукамі танюткае скрыпанае прадзіва. Мерна трымцела шаўковая нітка, ссукваючыся, наматвалася на сонечную шпулю. На старой дзічцы – гнездзішча сарокі Тая крала яйкі з суседніх хлявоў Аніяк не ўдавалася людзям высачыць, дзе злодзейка селіцца. Урабляласяшкода і ёй самой, птушкі абіралі чарэшню, трускаўкі. Ноччу, абы вочы спусціў, будзіла, трывожыла крыкам немаўляці сава. І мела душа невытлумачальную на словах уцеху, калі нехта ціснуўся, уладкоўваўся побач. Як ты парушыш той давер, спорыш гняздо вельмі рэдкіх цяпер, як казаў пчаляр, земляных чырвоных чмялёў на сцежцы? Век у цябе пад нагамі ўчарашняе вогнішча, бы прыхаванае попелам, жывое, абы толькі ўзбіўся на яго незнарок. Невядома, хто тут з іх усіх гаспадар, а хто госць, бо дом калісьці будаваўся сярод карчэўя высечанага лесу.

Мурза ўтварала разборкі з кратамі, з птушкамі, абы толькі хто дзе закратаўся Увесь дзень у пошуках, каб каго заспець. Марта гадзінамі сядзела дзе-небудзь у садзе на пні ці на лаўцы, часцей познім вечарам, у цемры, у поўнай цішы, калі толькі пахуча дыхалі начныя кветкі. Паклічаш – не адразу і галаву паверне. Збянтэжышся.

Чаго вы там забавіліся, ідзіце вячэраць! – пакліча хто-небудзь з дому.

– Цішэй ноч на двары... – адкажаш не сваім, паслухмяным голасам, бы нехта падасць табе знак маўчання

То лежачы на сходках, на цёплым мейсцы, з асалодай паварочваецца з боку на бок, адчуваючы сонечны прамень, як ласкавую руку Яшчэ і голас млосны да некага падасць, грацыёзна пацягваючыся У такія хвіліны Хрысціна спяшалася падабраць да яе ласкавыя словы, імёны, жадаючы патрапіць, жадаючы даць знаць, што адчувае ейную радасць. Паміж імі ўзнікала пяшчотная дзіцячая мова.

Добрая трэць зносін і паміж людзьмі не ў словах, а ў жэстах, рухах.

Яна сама часта трапляла ў такі стан, калі яе агортвала пачуццё істоты, якая толькі што знайшла, нарэшце, ступіла на знаёмы зямны парог, перажываючы яшчэ адно жыццё на гэтым свеце – радасць вяртання

Кім жа Марта была дагэтуль?

Прыбягае Мурза, спыняецца, павольна асядае, як пад прымусам, не спускаючы вачэй з чалавека, каб не пераварваць свой уважлівы позірк. Што рэдка здараецца. Пысу клала на лапы, рыхтуючыся да доўгай размовы. І ..засынае Дурэючы, сіллю перавернеш на спіну· яна пругка ўскочыць, услончыкам растапырыць лапы, каб зноў не кульнуцца, павядзе скамэршчаным носам, бы не пазнаючы гаспадыню. Смеючыся з яе, падхопіш на рукі, яна мякка асядзе, галава схіліцца набок, як у птушкі, абміраючай ад страху, нават поўсць мякчэе, робіцца нежывой Мурза напамінала аб адчужанасці, жыла ў доме выпадкова прыручаным прышэльцам з блізкага лесу. Загаворыш да яе, а іншы раз ад аднаго погляду, патуліцца, пачне расчулена церці абедзвюма лапамі пыску, вушы, адным словам, удзячная, сарамлівая сіротка. Сцены, дом ёй – цесная, замкнёная прастора, мілая няволя, дзе добра кормяць.

– Марта! Мурза! Есці! – нясецца па садзе

Мурза ўжо тут Марта абавязкова запозніцца. Нарэшце, з'явіцца на сцежцы да ганка, быццам спяшаючыся. Відаць, што добра чула гаспадыню, кліч заціснуты ў зубах вясёлым птушыным пёркам Спыніцца раптоўна за некалькі крокаў, глядзіць у вочы, стаіць паслухмяным ашуканцам, якому так лёгка паверыць, што ёсць у яе справы больш пільныя, чым сняданак ці вячэра. Ніколі кулём, ніколі з прагавітасцю да сваёй міскі, ейная далікатнасць здзіўляла, прырода ўвесь час клапацілася, пільнавала сваё ўдалае стварэнне Мурза, тая паводзіцца акуратна, па-звярынаму, як ля вадапою ў джунглях, маўляў, пакуль не нап'ецца слон, нават леў чакае сваёй чаргі, не падыходзіла да накрытага стала чалавека

Прыязджаў такі-сякі госць. Убачыўшы сабак, прасіў іх падаць яму лапу. Аніводная не разумела, чаго ад яе патрабуюць. Марта паслухмяна ўглядаецца, шукае гэтую самую лапу вакол сябе, потым гарэзліва падскоквае, цалуе і ўцякае Ніколі не паспееш адхінуцца, запярэчыць ейнай ласцы, у адно імгненне ветрам раптоўным сарваны яблыневы цвет проста ў твар, – ледзь чутны дотык. Ніхто з іх не падаваў пантофлі ў

вітальні ці газету, чым звычайна ганарацца гаспадары сабак. Кожная выбірала сабе тыя звычкі, якія больш падабаліся, аніякай дрэсуры. Госць хадзіў па садзе, захапляўся кветкамі, кожны раз нанова пытаўся іх назвы, блытаўся. дэльфініум? душыца? зуброўка? І зноў вяртаўся да размовы аб палітыцы, пра вайну ў Чэчні, рабаўніцтвы і разбоі, пра гібель тысяч людзей, як статычны факт, голасна, на ўвесь сад. Прасіў нарваць кветак і забываўся забраць букет Госці прыязджалі заўсёды, з незразумелага ёй, варожага асяродку. Не пра тое хацелася гаварыць, не пра тое Такая роспач, бы апаў, запэцкаўся падкасаны рукаў, а ў цябе ўсе рукі ў зямлі. Нахілялася паправіць падвязаны куст кіпрскай вяргіні, хавала твар. Кветка невялічкая, як у нашых зімовых, тугая, пэўна, каб здужаць, не спячыся на паўднёвым сонцы. Не звярнуў бы ўвагі, каб не колер, густы, глыбокі, вабіў позірк, доўга не адпускаў і чалавека і пчалу, колер прагі завязаць насенне, не выраджіцца

Госць ад'язджаў. Яна гаварыла яму, што шкадуе аб ягоным ад'ездзе, яшчэ аб нечым, узрушана, палка. Яна яшчэ спадзявалася неяк наблізіцца душой, прыхінуцца ў самы апошні момант, на парозе Вінавацілa сябе, спрабавала згладзіць сваю невясёласць, тады яшчэ не здагадваючыся, што згладжвала, хавала свой адыход ад людзей. Гэта былі развітальныя сустрэчы

Госці, як прышэльцы, пакідалі трывогу. Клікала да сябе Марту, Мурзу, ішлі ў поле ці ў лес. Раптам вылецiць з-пад ног арлан, драпежная, злая птушка. Як рукой адпіхнуць, так блізка Галавой уніз, выразны малюнак пер'я на нерухомых шэрых скрыллях, як высечаны на камені Павісае прыгожай пагрозай, уступае сваё мейсца нехаця, сціскае кіпцюры, нарэшце адлятаючы. І адразу лягчэй, бы гэта ён дратаваў душу.

Яна жыла ў краіне сваёй душы, дзе час не супадаў з часам сённяшняга веку

Любіла рыхтаваць ежу на жывым агні. Языкі патухаючага полымя на вуголлі юлёвымі гіяцынтамі. Танюткая ножка вырастае на вачах, успыхвае дзікая кветка, трапечуцца празрыстыя пялёсткі ад гарачага подыху, кветка без лісця, на адно імгненне, калі зацвітае камень дзе-небудзь у Міжземнамор'і, напоены з птушынай дзюбы. Не любіла сустракаць былых сяброў, асабліва сяброў дзяцінства, былых каханых. Пачуцці маюць свой тэрмін, сваю адлегласць. Ніхто не вінаваты, калі, раптам, пад нагамі – адно сухое рэчышча на мейсцы кароткай веснавой ручаіны. І нечага прыходзіць сюды, як бы ты ні быў знепрытомлены ад смагі Любіла чытаць толькі што напісаныя ад рукі вершы, неапрацаваныя, як асабістыя, да цябе самой, лісты – ёй іх прывозіў дзеля парады малады паэт. У іх яшчэ адчуваецца дыханне, напісана спехам, парывіста, пад дыктоўку з нябёсаў – і тут жа адасланае. Любіла старыя дрэвы, высока, магутна разгаліноўваюцца над галавой вякі, шум лісця водгуллем, ты быццам сведка іх доўгага жыцця. І як жа марудна падымаецца, расце пасаджаны табой клён. "Я памру маладой..." – весела падумаецца адносна ягонага бясконцага веку.

Ужо чакала праца ў садзе, штодня, чакала і напятае на падрамнік палатно даўно задуманай карціны. Але паміж мастацтвам і жыццём брала ў яе перавагу жыццё Трэба было ратаваць яблыні. Надта блізка па каранях ішлі халодныя падземныя воды, дрэвы хварэлі на чорны рак. У вёсцы не было амаль ніводнага салодкага яблыка Ёсць летнія, але іх ядуць толькі дзеці, стары чалавек не ўкусіць, не ўесць. Прыходзіла да яе на Спас старая жанчына, суседка, па чырвоны сопкі яблык, каб адправіць унукаў да споведзі, да прычасця. Перад гэтым памые дзяцей, прычэша, просяць дзеці адзін у аднаго прабачэння, міраца паміж сабой Потым – у бабулі, у маці. І толькі пасля – у Бога. Бы па сходках, усё вышэй і вышэй падымаюцца, несучы ў руках галінку мірта.

Найбліжэй да яе, наймілей бязгрэшныя птушкі, звяры, дзеці. І старыя людзі, можа толькі таму, што яны ўжо слабыя, бездапаможныя – не маюць сіл урабіць шкоду ці злачынства?!

Кожную вясну хто-небудзь з вяскоўцаў зноў і зноў прасіў адкапаць корч зімовых кветак геленіума ці пірэтрума, скардзіўся, што ў яго слаба нешта прыжываюцца І раіў, маўляў, пасадзіла б лепей болей ягодніку, кветку ж не з'ясі. Ніцелі ў чужых глухіх садах ейныя зёлкі, прападалі, даеш катораму, як на звод, на згуб. Раскашуе толькі бульба з буракамі, квітнее адным паганскім цветам.

Ейны сад квітнеў да позняй восені. Сад – любой парой сад. Ён яшчэ такі малады, што не чуваць шуму лістоты, вецце яшчэ не развілося І птушкі яшчэ не селяцца. Як няма мовы. Хай сабе і позняя восень. Такая пара, калі вечаровая зара не разліваецца





млосна па ўсяму наваколлю, як летам, святло падае фіранкамі, бліжэй і бліжэй, на самыя вочы. Стаіш, як пад вянцом, капае ружовы воск на рукаво Ледзь абазначыцца поўня срэбным пярсцёнкам. На дрэвах ніводнага ліста, галлё ахутана адным ружовым святлом, бы цвіце абрыкос. Зара гасне, ужо толькі свеціцца вузенькі авал на гарызонце. Лясная птушка на тым, далёкім дрэве, відаецца наскрозь, графічна выведзеная тонкім пэндзлем на самым краі нябеснага блюда.

Часта наязджалі найбліжэйшыя сяброўкі, мастачкі. Гледзячы на гаспадыню, не ўседзіш, таксама працавалі ў садзе. Неяк перад самым ад'ездам у горад адна з іх раптам сказала:

– Я буду ўспамінаць пра твой сад, як пра катаргу Мне ўсё думалася, што некалі ж гэта твая шараварка ды скончыцца, прыедзем, будзем гуляць па лесе, маляваць, чытаць. А як аказалася, гэты сад не для цябе а дзеля яго самога?! Кветкі – самазадаволеныя злыя істоты, яны адабралі тваю прыгажосць, змарнавалі! Трэба нешта рабіць, ратавацца!

Хрысціна адчула неспадзяваную небяспеку: сяброўка рашучая, упартая, шкадуючы яе, вось зараз возьме высячэ дрэвы, заарэ кветнікі, затопча! "Хутчэй бы да аўтобуса, а я тут... неяк жа яно будзе .." – і рукой, выдаецца, паказала ў той бок, да горада, далёка адсюль, каб не вісела над садам пагроза хмарай з градам Лёгка, як ніколі, бегала, збірала ў дарогу, адводзіла ад свайго гнязда. Усё навокал сцішылася, маўчала, быццам таксама пільнуючыся, калі ж ад'едуць. Адзін толькі голас скрозь чэзлыя сады, ледзь чутны, знямоджаны, як над вадой, з другога далёкага берага ракі. Ці то спявала, ушчувала сябе ужаліўшыся, родная па маці цётка Марыля, яна садзіла ружачку пад адзіным акном сляпой хаты, ёй кветкі, што сонца. А можа адзывалася баба Настуля? Ніколі не бачыліся, але ведае ад людзей: яна разводзіла настуркі нават ля сваёй студні, з якой браў ваду ўвесь канец вёскі Стаяць уваччу жанчыны ейнага сялянскага роду, ні зямлі, ні вады, адным словам – палянцы. Вось і маці, твар не памятае, толькі вось гэта: дастае скрэплымі на ссыльных вятрах рукамі з-за пазухі (хадзіла ў горы па дровы) сон-траву, а жадалася толькі аднаго – скарынку хлеба Расхінаецца ў цяпле касматае апярэнне, точыцца цёмна-юлёвая дзюбка кветкі-птушаняці. Капае са столі зямлянкі, упаў пад ногі адталы ком гліны Раптам ён скрануўся з мейсца, выпрастаўся, скочыў у лужыну – ажыла жаба? Заходзіцца ад здзіўлення душа. І цяпер, убачыўшы пад ейным ходнічком ля парога жабу, суседка брыдзіцца· "Ты б яе прагнала, гэтую паскудніцу!" Хрысціна патаемна ўсміхаецца.

Хто там адвярнуў камень, не чапайце, пад ім разам з жабінай ці мышынай і мая нара...

Вернешся ад ракі, – на руцэ сядзіць слімак, вінаградніца. Няўжо так доўга бавілася, абвіваючы любоўнай лазой увесь белы свет.. Людзі хіба што не ведаюць. жыццё на зямлі суцэльнае, як вытканы святочны габелен: аніводнага спушчанага вочка, аніводнай брыдкай шэрай ніткі

Ад'язджалі сяброўкі. Ніколі яшчэ так не развітваліся, а гэтак чакалася сустрэчы Як трывожны сон у дарозе няўжо задрамала, няўжо гэта прымроілася Цяпер яна перад людзьмі такая, якая ёсць. Зараз пакліча да сябе сабак. Трэба жыць, трэба зрушыць ейны "каўчэг" пасярод маркотнага разводдзя бульбоўніка, уратаваць кожную зёлку, салодкую яблыню дзеля Спаса, кожны атожылак заводнай кветкі.

Хіба не ведаюць людзі, што Бог пасе коней апакаліпсіса там, дзе раскашуе адна дзікая трава...

Позні вечар, трэба мыць лапы. Марта, як заўсёды, недзе бавіцца. Пачуўшы незадаволены голас гаспадыні, кідаецца лашчыцца, просіць прабачэння, каб аніводнай хвіліны ў разладзе, у няміласці. Мурза, тая доўга штукуецца, не любіць вады. Хітруючы, агінае кусты, ідзе завулкамі, абы не напрасткі, каб неяк адцягнуць надалей непамыслае купанне. "Мы ніколі не разлучымся . Будзем жыць разам доўга-доўга, пакуль не надакучыць..." – гаварыла да іх, супакойвалася. Шчасліва блытала тэрміны іхняга і свайго жыцця.

Будзем жыць доўга Гэта колькі?

... Марты не стала зімой, калі пераехалі з дачы ў горад, ноччу. Знікла, аніводнага гуку ці стогну, толькі ціха выбірала сабе мейсца, асцерагаючыся настрашыць, бы ў доме на ейны час адныя малыя дзеці. І першае імгненне, калі толькі адышла ад яе, ужо нерухомай, заплюшчыла вочы, адчула ледзь улоўны дотык – ветрам сарваны яблыневы

цвет пацалункамі проста ў твар, на рукі Яна скрозь сон пакорліва ўсведамляла: гэта развітваецца Марта. Сёння яна сама разамкнула іхняе шчаслівае кулэчка. Дашчэнту стомленая бяссоннымі начамі, сёння ноччу перастала верыць, што ўратуе, перастала пільнаваць ейнае кволае жыццё. Бы дала згоду Далучылася да ўсіх зняверанных, ужо народжаных стомленымі, не здатных зберагчы побач з сабой дрэва, птушку, звера, адзін інстынкт самаабароны Спаць, толькі адно – спаць. Стаміліся, паснулі, пэўна, усе німфы. Ці, можа, перад зімой яны разам з птушкамі адлятаюць у цёплыя краіны?

Ноч якраз перад каталіцкімі Калядамі. Калі перад вялікім святам памірае чалавек, з яго здымаюцца ўсе грахі. А калі бязгрэшная істота? Падносіла да газавай гарэлкі сернік і забывалася, што хацела рабіць, агонь гас. У вакне, бы ад ейнай запалкі, успыхваў кароткі зімовы захад і таксама хутка гас. Чорны сернік яшчэ ў ейнай руцэ. Няўжо ўжо вечар? Толькі што бачыла раніцай свежы снег, толькі што нанова была перaслана зямля Яшчэ адзін дзень, пражыты паасобку Ранейшае жыццё аддалялася ўсё болей і болей ад ейнага берага, як вясёлы шчаслівы параход. У адзін час, амаль аўтаматычна загараліся вокны насупраць. Гукі з вуліцы, гукі дома разладжаныя, незразумелыя, бы на чужой мове, на незнаёмым мейсцы Вячэрняе святло ліхтара ці проста яшчэ не пагашанае ад учарашняга, ранішняе? Мурза не пазнавала ў горадзе голас ветру, пужалася, і нават вада з крана губляла свой прыродны гук. Варта ляпнуць вечкам ці лыжкай, уздрыгвала, ішла з кухні, напружана, на адных пазногцях, на дыбачках, каб той, варожы ёй дух, не заўважыў яе, не дагнаў. Цяпер, як аказалася, яны тут дзве малазнаёмыя адна адной істоты: чалавек і сабака.

Цяпер нельга сказаць, што яна жыве ў сабачай сям'і.

Гаспадыня нечакана выявіла, што зусім мала размаўляла з Мурзай, і тая ўвесь час, пільнуючыся толькі маткі, цяпер жыла, бы згубіўшы павадыра Дом апусцеў, аглох. Нясцерпная патрэба, невымоўная, як у нямка, гаварыць некаму ласкавыя словы, першнаперш ад самага рання, звыклае на кожны дзень, як адсунуць начныя фіранкі на вокнах. Мурза не выклікала пяшчоты. Дом калеў У ейным доме цяпер зачынены самы светлы, вясёлы пакой, дзіцячы, і згублены ключ Марта адчувала, куды паварочваецца сонца, абы яно яшчэ толькі абапрэцца на падваконне, яна ўжо тут, дапільнавалася, злавіла. Ужо падставіла галаву, млосна заплюшчылася, сонечны прамень ужо ў тваіх руках, клубком, перакінутым ёю ў вясёлай гульні. У доме павінна быць радасная боская істота, хай сабе і божая кароўка, якая раптам прачнецца сярод зімы, на раме, і адлегласць да вясны робіцца намнога карацейшай.

Радасная істота найбліжэй да Бога

Стукалася, турбавала вонкавае жыццё, нікога не пазнаць.

– Хто там? пыталася, перасцярожліва не адчыняючы дзвярэй

Горад жыў па жорсткіх крымінальных законах. Прыйшоў выклік ад сяброў з Германіі, на выставу, дзе павінны быць і некалькі ейных карцін. Даўно аб гэтым марылася Але цяпер яна не паедзе

– Чаму?! Што ў цябе такога здарылася? Паглядзі навіны: у свеце скрозь войны, забойствы, рабаўніцтвы, а ў цябе ўсёй бяды, што сабака прапала! Гэта проста ненармальна! – дзівіліся сяброўкі.

Калі яшчэ, маўляў, здарыцца такая магчымасць, такі рэдкі выпадак трэба скарыстаць. Тым больш якраз час ад'ехаць з дому, адхіліцца ад адробязяў Але хіба яе, калі прыедзе з Германіі, нехта з іх забярэ ў сваю сям'ю, у шчаслівы дом, без супярэчнасцяў, да скону, як сабачая зграя? Няма куды перасяляцца, усё навокал цесна занята другімі людзьмі. І ці здольны сучасны чалавек, з вострым розумам, прадпрымальнік, даць адзін аднаму шчаслівы прытулак? Ёй усё роўна трэба будзе вярнуцца на гэтае пустое мейсца Астыгне, зусім выдзьмецца жылы дух за час ад'езду. Ёй трэба зараз, з першай хвіліны, ад парога пачаць абжывацца нанова, раздзьмухваць вугаллё. З гэтага паламанага, як пасля навальніцы, сярод разбою і рабавання, скласці цёплае гняздо. У яе толькі вось гэты кавалак зямлі пад нагамі, яго трэба ўрабляць, як сад у вёсцы.

На зжытым мейсцы душы не селяцца

Званіў тэлефон. Гатова прасіць. пагаварыце са мной У бягучай мове, як рацэ на схіле, лягчэй знайсці выйсце, супакоіцца, разбурыць грэблю перадумак. Маўчанне сам-насам шкодзіць. Але ніхто з сяброў не ведаў, што ёй сказаць, толькі адно тое· хопіць, кінь, сабака таго не варты. Тады проста пабудзьце разам, моўчкі даўшы сваю





згоду на спачуванне· плач, я тут, з табой побач, плач, я разумею. "Заходзьце, мне будзе весялей .." – хацелася сказаць і не было каму Усплывалі на памяць гэтыя словы, якіх быццам і не ведала ніколі, так кажуць адна адной, труднуючы ў адзіноце, простыя вясковыя жанчыны, калі нехта дарагі сыходзіў з хаты назаўсёды. Хтосьці пужаўся за ейны розум, хтосьці саромеўся аб ейнай бядзе гаварыць, каб не выглядаць дзіваком Яна раптам адчула адзіноту, як у дзяцінстве, калі тваё гора для дарослых проста дробязь. Маўляў, жыццё яшчэ не наследавала табе, не пакінула горкага вопыту, забаўляйся пакуль чым маеш. Самі дарослыя ўжо прызвычаіліся да бед. Мэнкі іхнія, пакуты – сапраўдны тэатр, дзе ёсць жалобныя песні, смутак выражаецца ў танцы. Можна апрануць рытуальнае чорнае адзенне, і тады кожны жывы чалавек пачціва дасць табе дарогу, каб не ўгнявіць вышняга. Дзеці ў бядзе безабаронныя, яны не "ўмеюць" пакутаваць, – нічога акрамя адчаю

Цяпер яна ні з кім пра Марту болей не загаворвала, адварочвалася, плячыма захінаючы свой мір, даўно забыты, занядбаны людзьмі. Цяпер ёй успомнілася, як пры сустрэчы, ці прыйшоўшы ў госці, шаснаццацігадовая дачка сяброўкі купляла ёй шакаладку· ты, маўляў, у нас дзяўчынка, смяялася.

Зазірала ў вочы набожная суседка.

– Засталася была свянцоная вада, калі поп адпяваў майго бацьку. Глядзіце, наказваў, не дайце яе сабаку, каб ён канаў да смагі, лепш кветкі паліце ..

Няволле, казала, плакаць па сабаку, пераживаць, грэх гэта, бо чалавек найвышэй за ўсіх звяроў, ён павінен над усімі панаваць. Ужо ўсе роўныя, пярэчыла яна суседчынаму Богу, бо ўсе ў небяспецы, пад падгрозай, – атручаныя зямля, вада. Усіх шкада, хто гіне, і можа, найбольш бязгрэшнага звера У чалавека ёсць радня, блізкія, яго абараняюць законы, ён мае розум, мову Звер безабаронны Бяздомны сабака не ўе сабе гнязда, не рые нары, спіць холадам у горадзе на незамерзлым вечку вадасцёкавай трубы, бы гэтая ягоная бяздомнасць часовая Абы неяк перабыць, неяк перачакаць, пакуль чалавек нарэшце злітуецца, забярэ яго да сябе А чалавеку дварняк як ганьба, "новы беларус", упадабаўшы моднага шчанюка, праз некаторы час прывяжа яго ў ветлячэбніцу ўсыпіць, маўляў, псуе абіўку дарагой машыны або не падыходзіць да яе па колеру . Частка інтэр'еру, не болей

Пасля размовы з суседкай яшчэ тужэй сціналася кола адзіноты

Дрэвы за вокнамі стаялі ўначы высокімі чорнымі кандэлябрамі да самых зорак, трашчалі агаркі. Вецер яшчэ раз завядзе рукавом – і раніца. Сляды халоднага полымя на шкле віхурамі. Усё прыгожае ў прыродзе цяпер выклікала сум. Як не можаш у поўнай меры, сэрцам, цешыцца прыгажосцю дзяўчынкі-калекі Ніколі не любіла зімы, цяпер ёй гэтая злавесная белата – рассыпанай атрутай. Вокны не завешвала. Агні таксовак на тым баку сквера па-вясковаму нізкія, падслепаватыя, як у лазні Штовечар да самай раніцы спыняўся пад вокнамі аўтобус, гразкі, змораны, у кабіне спаў чалавек. І ёй ужо весялей, бы нехта ўлёгся ў нагах, пераживаючы з ёй разам бяздомную ноч. Батарэі грэлі слаба, дом прамярзаў, выдавалася, мароз хадзіў па падлозе, перабіраў масніцы Нечакана згасла святло Свечку не запальвала, цемра ахінала як забыццё, супакойвала Засынала на хаду, седзячы звесіўшы галаву, бы на вечку вадасцёкавай трубы, увесь час пільнуючыся, каб ніхто не наступіў, не ўз'ехаў Гэтаксама раптоўна і прачыналася сярод начы, у хустцы крыж-накрыж, завязанай пад пахі. Мурза стаяла на парозе ў ейны пакой Пераступала з лапы на лапу, бы дзіця ў начной кашулі, разбуджанае знянацку. Вось-вось не пазнае, дзе яна ёсць спрасонку, і заплача. Яна сама толькі што крыху агледзелася Трапіў на вочы, сам выйшаўшы з цемры, плецены падножны зэдлік каля крэсла, вугал плеценага куфэрка на кухні, дзе хавала сухія зёлкі У люстэрку насупраць секцыя з кнігамі. У той дзень пасля Марты была сплюшчылася на ейных вачах на пустую пушку ад сернікаў у сціснутай руцэ. Усё паасобку, бы толькі што заведзенае

Дзень на дзень нагрувашчваўся гурбамі. Якраз насупраць чарнела пустое варонінае гняздо. Пазірала на яго, як у вакно свайго пустога дома. Яна магла б жыць і ў птушынай чарадзе, самага нізкага птушынага сану, абы сям'я. Пакідала на балконе зерне, вялікімі маразамі птушкі не далятaлі да ейнага паверха – зусім гублялася сувязь з сусветам. Голас згас, нічога не магло ўзбудзіць гаварыць да некага, нечым захапляцца, мова перасыхала. Горача рукам, бы вось толькі што спусціла хворую Марту на падлогу. Выходзячы з дома па такой-сякой патрэбе, спяшалася вярнуцца, каб заспець яшчэ тое, што толькі тут, у

ейных сценах. Хутчэй вярнуцца на тое мейсца, дзе разышліся. Іншы раз туга, адчувальная на дотык, з абодвух бакоў. Гэта калі ведаеш, што нехта ў дарозе дадому і дарога тая здоўжылася абедзвюм. Тады ідзеш адчыняць загадзя засувень ў сенях, не закладаеш клямку нанач. Або выходзіш насустрач, каб зрабіць дарогу таму, хто да цябе ідзе, карацейшай. А можна проста сесці, склаўшы рукі, і толькі – чакаць... Мурза таксама,варта было спытацца, дзе Марта, бегла да вакна, глядзела на вуліцу, яхкала. Пачуўшы яе, бяздомныя сабакі спыняліся, утрапёна глядзелі на яе, задраўшы галаву, як на каменнага бажка.

Яшчэ яны не разлучаныя, пакуль паміж імі смутак.

Перажывала прагна, як нешта апошняе, падараванае пры жыцці пазнанне Ніколі раней не думаючы пра смерць, адчула сябе на апошнім схіле круга, цвяроза, жорстка, без шкадавання Смерць, наведаўшыся ў ейны дом, закранула і яе самую, высвеціўшы сівыя валасы, крыху згорбленую постаць далёка не маладой жанчыны. Зачынены дзіцячы пакой у ейным доме, у якім хацелася заўсёды смяяцца, радавацца, весяліцца, летуценна хавацца ад лёсу, ад людзей, яны нават увочы лічылі яе няшчаснай. Зажылася яна сярод дарослых. Быццам зазірнула ў радавое скляпенне – усе даўно там і нікога з жывых побач, хто б яе разумеў. Рвала, нішчыла паштоўкі, лісты, фотаздымкі, якія берагла, даражыла, прыбіралася ў доме, як пасля нечай чужой смерці, калі табе самой ягонага нічога не трэба на памяць – хавала ад зняважлівых вачэй.

Жыццё кароткае і тленнае.

У сне ці яўна звязвала ўсё нажытае ў невялічкую вязку, каб толькі ў адну руку, клікала да сябе ўсіх сабак і бегла за імі да той прорвы, вяртаючы іх назад, да звяроў І сама хацела яе пераскочыць. Нехта ўслед паблажліва ўсміхаўся, нехта здзекліва, а каторы і баяўся сустрэцца вачыма, як з вар'яткай. "Маеш, што заслужыла, мілачка! Молішся мала!" крычала ўслед багамольная суседка з помслівым захапленнем. Ейная праўда, не турбавала Бога просьбамі, узяўшы сабе найменшае, тое, што не надта людзям падыходзіць. Толькі, во, першую хвіліну, калі не стала Марты, прасіла перад абразамі: "Вазьмі яе, Божа, сабе ў ахову Паклапаціся, упусці яе ў дом вокнамі ў сад.. " Бегла. Ніхто не затрымліваў Як раптам на ейнай дарозе стаў манах у беднай габіце, стомлены ад доўгай пешай хады. Незнаёмец ушчувальна ўсміхнуўся, ля ягоных ног ляжаў уціхамiраны воўк. Дзікія галубы сядзелі на плячах манаха, пырхне каторы, пад ягоным цёмным скрыллем, як пад габітай, асвеціцца чыстае танюткае пер'е. Яна яго дагэтуль не ведала, вось толькі што, пэўна, перад сном перагарнула нейкую кніжку Святы Францыск Асізскі? Які чытаў пропаведзь "сёстрам ластаўкам і братам дзьмухаўцам", адухаўляў прыроду? Якое стагоддзе? Пачатак трынаццатага. Які доўгі ягоны шлях. . Якое доўгае жыццё. . І нятлённае, падумалася, і толькі гэта. Як нехта здымае з пляча ейную ношу, каб аслабаніць. Нехта кладзе на плячо белае крыло адзення першых хрысціян, яго павінны былі насіць пасля хрышчэння цэлы тыдзень – знак чысціні. І перад ёй ужо не манах, а ксёндз Казімір з прыгожым аскетычным тварам, як у Маркса фон Сюдава з фільмаў Бергмана. Хлопчык у белай комжы падносіць пад падбароддзе срэбны сподак. Падаюць у яго хрусталёвыя кроплі свянцонай вады

– Яна хоча ўзяць другое імя – Францішка.. – кажа нехта.

– Цяпер у цябе, Хрысціна-Францішка, яшчэ адзін апекун – тлумачыць ксёндз.

Нікога не было побач, а то вакол цэлы натоўп радасных людзей, усе абдымалі яе, віншуючы. .

Вядома, што сон, але які праўдзівы

У ейных скрэплых руках ляжаў чорны францішканскі ружанец, бы ўкладзены некім ёй, памерлай, у труну

У двары выў сабака. Мароз, позні вечар, і ходзяць людзі. Ён засяроджана, нікога не бачачы, падымае ўгору галаву і нават ледзь-ледзь ківаецца ўбакі, упаўшы ў экстаз. Сёння ягоны гаспадар, бачыла, пераехаў у новы дом. Знесена сабачая будка. Прыйшоў ён сюды за ім, пэўна, сам Але ў гарадскую кватэру гаспадар не збіраўся браць сабаку Голас сабачы нязвыклы, лясны пасярод горада, якраз з ейнага лесу каля ейнага дому вокнамі ў сад. І надзіва не сумна было слухаць яго, не на бяду ён выў

Няхай галосіць, абы хоць хто-небудзь з двух, чалавек ці сабака, яшчэ не згубіў любові адзін да аднаго. .

Раніцай прыляцелі нарэшце пад вакно сініцы ў вясёлых навагодніх масках. Пэўна, адваліўся мароз. .



# Багуміл ГРАБАЛ | ЁН



*Куды не ходзіць сонца, туды не хаджу і я. Акрамя карчмы.*

*Пра Яго*

**• ПАБІТЭЛІ •**

**• ВУЗЕЛЬЧЫКІ НА ПАМЯЦЬ •**

**• ЯРМІЛКА •**

**• ХОЧАЦЕ БАЧЫЦЬ ЗАЛАТУЮ ПРАГУ? •**

ЧЭШСКІ ДЫЯМЕНТ
У КАРОНЕ СУСВЕТНАЙ ЛІТАРАТУРЫ

## *Пра Яго*

***28 сакавіка 1914 г.*** *У Брне, у Жыдэніцах, за 4 месяцы да пачатку I сусветнай вайны ў сям'і рахункавода піваварні нарадзіўся Багуміл Грабал. Дзяцінства ён правёў у Полне і Німбурку.*

***1933 г.*** *Скончыў рэальнае вучылішча.*

***1934–1939 гг.*** *Грабал вучыцца на юрыдычным факультэце Карлава Універсітэта. Падчас вучобы ў 1936 годзе падарожнічаў па Германіі, у 1938 годзе – па Швецыі і Фінляндыі. Пасля заканчэння вышэйшай школы Багуміл Грабал вяртаецца ў Німбурк, і ў гады нямецкай акупацыі працуе саладоўнікам на піваварне, потым – служачым натарыяльнай канторы, кладаўшчыком спажывецкага кааператыву, рабочым на чыгунцы.*

***1945–1946 гг.*** *Дактарантура Карлава Універсітэта. Грабал урэшце скончыў вывучаць права і стаў страхавым і тарговым агентам.*

***1949–1951 гг.*** *Працуе рабочым ля мартэнаўскай печы ў Полдаўцы. Там ён калечыцца і пераходзіць на працу пакоўшчыка ў кантору утыльсыравіны ў Празе. Потым уладкоўваецца статыстам і рабочым куліс у тэатры Нэўмана.*

***1962 г.*** *З гэтага часу Грабал прысвячае сябе толькі літаратурнай дзейнасці. Аднак пісаць ён пачынае яшчэ ў 30-я гады: спрабуе сябе ў паэзіі, дзе відавочна натхненне сюррэалістамі і ўплыў Т.С. Эліота. Да друку нават быў падрыхтаваны зборнік вершаў "Згубленая вулачка", але пасля падзей лютага 1948 года ўвесь набор быў разбураны, і вершы ўбачылі свет толькі ў 1991 годзе.*

***50-я гг.*** *Пад уплывам сяброўскіх кантактаў з літаратарамі і мастакамі Групы 42 (творчага андэграўнда) і тымі, каго забаранялі выдаваць (Іржы Каларж, Эмануэль Фрынта, Ёзеф Гіршал), Багуміл Грабал пачынае пісаць празаічныя творы, якія выпадалі з рамак афіцыйных эстэтычных нормаў свайго часу. Яго тэксты звярталіся да абсурднай гратэскнасці Ладзіслава Клімы і тракцірнай гісторыі Гашэка. У гэтыя гады былі напісаны амаль усе тэксты, якія Грабал выдаваў аж да пачатку 70-х гадоў. Першыя спробы іх публічнага абнародавання прыпалі на час умеранай адлігі пасля падзення сталінскай дыктатуры.*

***1956 г.*** *У свет выходзіць зборнік "Гаворкі людскія", з якога апавяданне "Ярмілка" (самае вядомае) не праходзіць цэнзуру.*

***1959 г.*** *Сапраўдным дэбютам у афіцыйным выдавецтве павінен быў стаць зборнік "Жаўрук на нітцы", які ўключаў 12 апавяданняў. Але ў атмасферы скандала пасля ідэалагічнага асуджэння Й Шкворацкага зборнік не апублікавалі.*

***1963 г.*** *Пасля зацягнуўшагася маўчання другім уступам у літаратуру стаў для Грабала зборнік "Жамчужына на дне", які ўвабраў у сябе тузін апавяданняў, па некаторых з іх рэжысёрамі кінематаграфічнай школы былі знятыя фільмы. У гэтым жа годзе Грабал атрымаў прэмію выдавецтва "Чэхаславацкі пісьменнік" Творы Грабала*

# ПАБІТЭЛІ[1]

**1**

Перад цэментавым заводам на лаўцы сядзелі старыя, адзін на другога крычалі, хапаліся за штрыфлі і гыркалі адзін аднаму на вуха.

Над краем імжэў цэментавы пыл, і ўсе дамкі і сады былі прысыпаныя дробна змолатым вапняком

Я выйшаў да запыленых палёў.

Пад самотнаю грушай кволы мужычок сярпом жаў траву

"Я кажу, што гэта за гарластыя дзядкі ля прахадной?"

"А, каля галоўнай брамы? Гэта нашы пенсіянеры", – азваўся той кволы мужчына і жаў далей.

"Вось дык дажылі да спакойнай старасці", кажу.

"А? – сказаў мужычок. – І мне ўжо там праз пару гадкоў давядзецца праціраць штаны".

"Калі толькі той пенсіі дачакаецеся!"

"Дык я вам вось што на гэта скажу У нас тут надзіва здаровы край. Сярэдні век – семдзесят год", – мужычок працягваў спрытна жаць траўку, з якой церушыў цэментавы пыл, нібы дым з сырога вогнішча.

"Вельмі перапрашаю, – кажу, – але пра што гэта там тыя дзядкі так спрачаюцца? Чаго адзін на аднаго ўвесь час так крычаць?"

"Ды ўсё пра завод. Думаюць, што яны б працавалі лепей. Да таго ж, як накрычацца, дык увечары ім больш піць хочацца! Ну, ведаеце, яны ўсё жыццё там рабілі, так з тым заводам зрасліся, што жыць без яго не могуць"

"Але чаму б ім лепей не пайсці па грыбы? Ці ўвогуле не з'ехаць куды ў памежныя лясы? Кожны б атрымаў дамок з садком!"

Сказаў і выцер сабе рабром рукі нос, і на руцэ з'явілася слізкая чорная паласа.

"Усё так! – пагадзіўся мужычок і кінуў жаць. – Адзін пенсіянер, Марэчак, пераехаў кудысь у лясы за Клатавы .. а праз чатырнаццаць дзён яго прывезла хуткая. Ад здаровага паветра там пачаў задыхацца. А тут праз два дні зноў быў як ніколі нічога. Той, што там ля галоўнай брамы крычыць больш за ўсіх, якраз і ёсць гэты Марэчак. Ведаеце, тут паветра моцнае, як сцягно, як гарохавы суп"

"Я гарохавы суп не люблю", кажу І адступіў пад ігрушу

Па пыльнай палявой дарозе скокам імчала пара коней, капытамі ўздымала цэментавую хмару, у якой губляўся воз Фурман у гэтай хмары радасна спяваў, а тымчасам прыпражны конь нацягнуў аброць, сарваў з ігрушы галіну і строс цэлы цэнтнер цэментавага пылу. З выцягнутымі рукамі я выбрыў з гэтай імглы.

Праз хвілю я ўгледзеў, што мой чорны гарнітур, у якім я выправіўся ў дарогу, цяпер быў шэры.

Кажу· "Пане, будзьце так ласкавы, дзе тут жыве Ірка[2] Бурган?"

Мужычок па-ранейшаму жаў траўку Але раптам серп утыкнуўся ў кратавіну, мужычок падскочыў і, апанаваны жахам, кінуўся наўцёкі праз поле.

"Восы!" – крыкнуў ён.

І шабляваў сярпом вакол галавы

Я яго дагнаў.

"Я кажу, пане, дзе тут жыве Ірка Бурган?"

"Я Іркаў тата", азваўся ён, не спыняючы бегчы, і працягваў адмахвацца вострым сярпом ад раззлаваных восаў.

"Вельмі прыемна з вамі пазнаёміцца, я Іркаў сябра", – адрэкамендаваўся я

"Вось сын узрадуецца! Ён вас ужо чакае!" – пракрычаў пан Бурган і дадаў хуткасці

Але пакуль шабляваў і сцябаў сярпом па восах, няўдала ўвагнаў той серп сабе ў галаву

І лёгка мяне апярэдзіў, а серп тырчаў у яго з чэрапа, як касарак[3].

Ля весніцаў мы спыніліся

У пана Бургана нават ноздры не дрыжэлі Кроў у яго цурком сцякала на запыленыя валасы вакол вушэй і злучалася ў хуткія кроплі пад падбароддзем

"Я ў вас гэты серп выцягну", – кажу.

"Гэта потым, можа, наш хлопец захоча мяне намаляваць. А гэта мая жонка!"

# Чэшскі дыямент у кароне сусветнай літаратуры

**Чэшскі празаік Багуміл Грабал пры жыцці стаў легендай. Творы яго перакладзены на розныя мовы свету, яму прысвечаны дзесяткі манаграфій і артыкулаў. Турысты даўно ўжо лічылі за вялікі гонар наведаць у Празе карчму "У Залатога тыгра", каб убачыць месца, дзе бывае чэшская знакамітасць, сапраўды велічная, як помнікі культуры гэтага старажытнага горада-музея, а пашчасціць сустрэць самога ВН, то можна нават і зрабіць фотаздымак, калі маэстра дазволіць… Гуляючы сёння па Празе, турыст можа наступіць на мемарыяльную дошку, якая ўмацаваная проста ў асфальт на тым месцы, дзе стаяў калісьці дом, меўшы назву "На дамбе", у якім жыў аўтар "Людскіх размоў", "Цягнікоў спецыяльнага прызначэння", "Пяшчотнага варвара"… ВН уславіў свой народ і надаў новае аблічча прыгожаму пісьменству, заняў месца на Алімпе сучаснай сусветнай літаратуры. Ён стаў такой жа знакамітасцю Чэхіі, як калісьці быў успрыняты Чапэкам Бернард Шоў. Такім жа сімвалічным, як і Бернард Шоў, якога пазначаюць проста першымі літарамі.**

**Многа незвычайнага было ў жыцці Багуміла Грабала, які пайшоў ад нас у лютым 1997, таксама незвычайна. У добрай памяці ён выпаў з акна шпіталя, калі карміў галубоў. Усе, хто добра ведаў яго творчасць і жыццё, не могуць пазбавіцца ад сумневу, што гэта наўрад ці няшчасны выпадак. Хутчэй апошняе *пабені*, палёт фантазіі ў адпаведнасці з жыццёвым вопытам і назіраннямі. Такі фінал ВН прыдумаў сабе сам, а дакладней – не адмовіўся ад яго. Адзін з апошніх фотаздымкаў, зроблены на шпітальным ложку: Грабал чытае адну з новых манаграфій пра сябе… Мо не хацеў больш пісаць, а для яго гэта, без перабольшання, азначала – жыць.**

**Прыгадаем, як у аповесці "Мястэчка, дзе спыніўся час", пабудаванай у значнай ступені на аўтабіяграфічных успамінах з дзяцінства, распавядаецца пра неслуха, якому не сядзелася ні ў школе, ні дома, які любіў вывучаць жыццё не па падручніках, а назіраючы і ўдзельнічаючы ва ўсім, што яго цікавіла. Дык вось, выконваючы хатняе заданне, каб пазбегнуць кары бацькі, які ўжо не раз пагражаў забіць яго, малое часта паўтарала: "я пісаў і раптам адчуў, што гэта мае апошняе пісанне, апошняе хатняе заданне, што толькі пісанне абароніць мяне ад смерці і што калі я перастану пісаць, то, відаць, памру, што толькі пісанне адверне смерць, нават калі бацька мне адрэжа галаву, я не буду пра гэта ведаць, таму што ўвесь час пішу, так доўга пішу і пішу, а калі перастану**

*гэтага перыяду належалі першай хвалі чэшскага андэграўнда і неслі на сабе адметныя рысы названай культурнай плыні.*

***1964 г.*** *Выключным поспехам у чытачоў і крытыкаў карысталіся наступныя кнігі, выдадзеныя адна за адной: "Pabitelé", "Танцы для дарослых і пажылых", "Цягнікі спецыяльнага прызначэння"* ***(1965)****, "Аб'ява пра дом, у якім не хочацца жыць"* ***(1965)****, "Страшныя гісторыі і легенды"* ***(1968)****.*

***1967 г.*** *Рэжысёр Іржы Менэла зняў фільм па кнізе "Цягнікі спецыяльнага прызначэння", які атрымаў "Оскара".*

***1970 г.*** *Выдавецтва Mlada Fronta публікуе "Хатнія заданні. Разважанні і размовы", "Бутоны. Крохкія і дэспатычныя тэксты з 1938–1952 гадоў", але ўсе яны па цэнзурных меркаваннях знішчаюцца. У сваёй творчасці Багуміл Грабал міжволі ўдзельнічаў у афіцыйнай і самавыдавецкай плынях чэшскай літаратуры. Шэраг абставін у пачатку 70-х гадоў кідае Грабала ў "нулявое становішча": аўтарскі пісьмовы стол апаражняецца, а палітычная віхура 1968 года выносіць пісьменніка, які паспеў ужо стаць адметнай літаратурнай і грамадскай фігурай, з цэнтра ўвагі і падзей ізноў на іх край. У гэты ж час Багуміл Грабал назаўжды развітаўся з маці. Адзінота і хвароба прывялі яго да думак пра блізкую смерць, пра што ён распавёў у новых тэкстах, якімі імкнуўся спыніць час. У першую чаргу гэта тычыцца твора "Пастрыжэнне"* ***(1970)****, дзе вачыма сваёй маці ён*

З весніцаў выйшла мажная пані з закасанымі рукавамі і запэцканымі рукамі, быццам толькі дапатрашыла гусь. Адно павека ніжэйшае за другое і адвіслая ніжняя губа.

"А я ж вас ужо вызіраю, – сказала яна і змяла мне далонь. – Вельмі вам радыя!"

З весніцаў выбег Ірка, ружавашчокі юнак, адной рукой трос мне правіцу, а другой паказваў на наваколле: "Сябра! Гэта ж пекната! Маніў я ці не маніў? Якія фарбы! Які ландшафт! Які пленэр!"

"Пекната, але паглядзіце, што здарылася з татам!" – кажу я.

"Што?" – азірнуўся Ірка.

"Што! Вось што!" – кажу, і скалынуў серп, што тырчаў з галавы пана Бургана, як вялізная дзюба.

"Ай!" – крыкнуў пан Бурган.

"А, гэта, – махнуў рукой сябар, – я ўжо думаў бог ведае што здарылася. Мама, толькі паглядзіце, тата зноў, пэўна, ганяў вос! Тата, тата!" – пагразіў пальцам Ірка і са смехам дадаў: "Забаваў нам заўжды хапае. Як у нас кралі трусоў, дык тата, гора-рацыяналізатар, так спрытна падпілаваў дошкі перад суткамі[4], што хто б на іх уначы ні наступіў, адразу б праваліўся. Балазе тая яма на фекаліі выкапана адразу каля трусятніка. Але само сабой зразумела тата на тое забыўся і праваліўся туды зранку сам".

"Ды там неглыбока", – сказаў пан Бурган.

"Гэта як?" – наставіў вуха Ірка.

"Так", – сказаў пан Бурган і правёў рукой пад падбароддзем.

"Во-во!" – зарагатаў Ірка. І працягваў: "А іншым разам тата зноў выступіў у ролі гігіеніста У прыбіральні насыпаў вядро карбіду а праз хвілю там высек люльку Іду я на двор і што бачу! Стрэл як з гарматы, пяць цэнтнераў фекалій у паветры, а між імі куляецца тата за шэсць метраў ад зямлі. Яшчэ добра, што зваліўся на гной!"

"Няпраўда, там не было шэсць метраў над гноем", – ззяў пан Бурган, а кроў вакол вушэй у яго засохла і блішчала, як эмаль.

"А колькі?" – наставіў вуха Ірка.

**пісаць, то не буду ведаць пра тое, кім быў..."**

**Карміў галубоў і вырашыў паставіць апошнюю кропку ў сваёй біяграфіі?..**

**Першыя тры гады Багуміла прайшлі ў доме дзеда і бабулі ў невялікім мястэчку Жыдэніцы (Грабал нарадзіўся 28 сакавіка 1914 г.). Праз некалькі гадоў матка пераехала ў гарадок Полна, дзе айчым Багуміла працаваў на піваварні рахункаводам. Цёплымі сонечнымі днямі хлопчык прападаў на вуліцах, не любіў бываць у цёмных пакоях кватэры пры піваварні. Па вуліцы, што падымалася ўгару, да могілак, ішлі пахавальныя картэжы, хлопчык суправаджаў іх, назіраў гора сапраўднае і паказное, бачыў, як музыкі вярталіся да карчмы і пачыналі граць вясёлыя песні; на цэнтральнай плошчы – фантан, у якім аднойчы ён ледзьве не патануў, і вялікі касцёл, вежы якога, здавалася трохгадоваму Багумілу, губляліся недзе ў нябёсах. "Так ад раніцы бадзяўся мястэчкам... я тады насіў чырвоны пінжачок з залатымі гузікамі, на галаве старую паліцэйскую фуражку... Успамінаю сябе як сіротку, як дзіця, якое ў Полне належала быццам бы ўсім..."**

**Усе любілі гэтага прыгожа апранутага хлопчыка, радаваліся, калі той заходзіў у хату. Ён любіў адказваць на пытанні дарослых, але так, каб іх пазабавіць. Чаго каштуе такі ўспамін: "На вялікдзень я пабіў ажно дзвесце яек, абышоў амаль усе дамы". Ён меў многа часу, каб бадзяжнічаць па наваколлі. Маці нарадзіла брацíка, вакол якога было, вядома ж, шмат мітусні. Багумілу, Багоўшку, як яго клікалі тады, было нават крыўдна, што яму так мала**





"Метраў пяць самае большае... а тых фекалій было хай цэнтнеры чатыры", – сказаў пан Бурган і патлумачыў: "Гэты наш малец, праз тое, што ён мастак, заўжды перабольшвае".

"Напэўна, – кажу, – але людзі, не злуйцеся, мяне гэты серп у галаве так нервуе!"

"Гэта ж дробязь, божачкі", – сказала пані Бурганава, ухапілася за тронак, расхістала і вырвала той серп з галавы.

"А пан Бурган не схопіць заражэння крыві?" зморшчыўся я.

"Ды не, мы тут усё гоім здаровым паветрам", – сказала пані Стуліла далонь у кулак, пяшчотна стукнула пана Бургана ў лоб і дадала: "Яно найлепей адразу зранку даць татку па рагах. А чаму? Бо гарэза".

І ўхапіла мужа за віхры, зацягнула яго на панадворак, адной рукой запхнула скрываўленую галаву пад кран, а другой рукой пампавала.

"Сябра, – сказаў Ірка, – наш тата жывучы. Сёлета на адпачынку пачыняў рыну і непрывязаны хадзіў па самым краі страхі. І смяяўся. Мама патрулявала на цэментавым ходнічку, каб забегчы па хуткую, калі б тата грымнуў А на чатырнаццаты дзень тата прывязаўся – і зваліўся са страхі, павіс за нагу. Я яму з кабінета даваў піць, пакуль мама паслала ўсе пярыны на той цэментавы ходнічак. А калі я тату адрэзаў. . як толькі гэта магло здарыцца? – ён упаў галавой каля тых пярын На цэмент!"

"Гэ-гэ-гэ-гэ. . смяялася пані Бурганава, – на цэмент, але ў той самы вечар зноў быў у карчме!" – дадала яна і пампавала далей.

"Наш тата і на матацыкле ездзіць, – працягваў Ірка голасна, каб тое чуў і бацька. – Знаёмыя кіроўцы нам кажуць: "Без крыўды, але гэты ваш тата так прытрымліваецца правіл дарожнага руху, што аднойчы прынесяце яго дадому на насілках!" Ха-ха-ха-ха! А неяк тата не прыехаў, дык мы ўзялі насілкі і пайшлі яго шукаць. І на павароце, ажно там, калі ісці міма цярноўніка, у тых зарасцях раптам нешта нібы забляяла Зірнулі... а, мама, што мы ўбачылі?"

"Гэ-гэ-гэ . " – смяялася пані Бурганава і ўвесь час падсоўвала мужаву галаву пад кран

*глядзіць на сучаснасць і апісвае атмасферу на німбуркскай піваварні ў пачатку 20-х гадоў.*

***1971 г.*** *За 18 летніх дзён Грабал стварае найвядомы сёння твор "Я абслугоўваў англійскага караля".*

***Вясна 1973 г.*** *Таксама хутка і спантанна Багуміл Грабал піша вольны працяг німбуркскіх рэмінісцэнцый – "Гарадок, дзе спыніўся час" і "Пяшчотны варвар". У 1990 годзе па апошнім творы Пётр Коліга зняў мастацкі фільм. У "Пяшчотным варвары" Грабал яскрава малюе 50-я гады і свайго сябра, экстравагантнага мастака і кампазітара Уладзіміра Боўдніка, разам з якім ён і Эган Бонда ладкавалі вулічныя мастацка-літаратурныя імпрэзы, падчас якіх шукалі новыя шляхі мастацтва, выказвалі свае погляды і спрачаліся з выпадковымі гледачамі і слухачамі.*

***Вясной 1975 г.*** *Багуміл Грабал напісаў некалькі "моўных партрэтаў", натхнёны своеасаблівымі постацямі розных людзей, убачаных у невялічкім Керску "Моўныя партрэты" Грабал чаргуе з філасофскімі тэкстамі – так быў створаны цыкл "Святы пралескаў". Але для атрымання афіцыйнага дазволу на публікацыю твора не было дастатковым нават кампраміснага інтэрв'ю пісьменніка, змешчанага ў часопісе "Творчасць" у гэтым жа годзе. Аўтар быў вымушаны выкінуць усе эсэістычныя фрагменты і "прычасаць" сваіх герояў на манер "прыгладжаных" жанравых партрэтаў афіцыйнай літарату-*

**заставалася ўвагі. "Асірацелае дзіця" двойчы намагалася даехаць да бабулі. Раз паехаў па выкарыстаным білеце, які кінуў пан, што выйшаў з цягніка, а другі раз схаваўся ў кузаве грузавіка паміж бочак...**

**Бабуля ўспамінаў з вялікай пяшчотай, як яна любіла кветкі, вырошчвала півоні, белыя лілеі, як многа працавала і як прыгожа магла апранацца: "Калі прыходзіў з бабуляй у касцёл, то не верыў сваім вачам, круціў галавой ва ўсе бакі ў захапленні – такімі маладымі выглядалі ў касцёле вясковыя жанчыны, усе на памяць спявалі шчыра і якімі гучнымі галасамі, як дакладна ведалі, калі трэба ўкленчыць, а калі перахрысціцца. Я разумеў, што тая гадзіна ў касцёле для гэтых жанчын – адзіная гадзіна за ўвесь тыдзень, калі яны прыгожыя. Імша заўсёды ўсіх ачышчала. Бабуля мне паказвала ў касцёле залатыя скульптуры, размешчаныя па сценах, трапяткіх анёлаў, падвешаных ля алтара на ланцужок і зіхаткіх у промнях папаўдзённага сонца, і паўтарала, што таму, хто верыць, нічога не будзе кепскага, нават калі ён будзе паміраць, гэтыя анёлы і святыя за рукі выцягнуць яго ўгару да неба пад магутныя гукі аргана".**

**Усё жыццё навакольнага люду, як у Полне, так і пасля ў Німбурку, дзе Грабал хадзіў у гімназію, адбывалася на яго вачах і назаўсёды адбівалася ў свядомасці. Чытаючы апошнія мемуары ВН, надрукаваныя ў часопісе праз некалькі месяцаў пасля яго смерці, нельга не здзівіцца яго памяці. Прыгадваюцца суседскія сем'і, прозвішчы, імёны, розныя людзі і выпадкі... Гэта і ёсць тое аўтэнтычнае жыццё, якім**

*ры таго часу. Да чытачоў кніга дайшла толькі ў 1978 годзе.*

***У сярэдзіне 70-х гг.*** *аб "пакаянні" Грабала не толькі дыскутавалі – на Карлавым мосце некалькі маладых людзей спалілі ягоныя кнігі. Грабал успрыняў гэты факт вельмі балюча і адказаў на яго творам "Занадта гулкая адзінота"* ***(1977)****, дзе рытмізаванай і ўзвышанай мовай падаў маналог старога ўпакоўшчыка выкарыстанай, непатрэбнай паперы, праз рукі якога ў час працы прайшлі многія літаратурныя шэдэўры, якія і адукавалі яго. Упакоўшчык рэфлексуе над сэнсам чалавечага жыцця і развіцця свету. Матыў добраахвотнага сыходу з жыцця ў творы збліжае аўтара са сваім героем. Гэтая кніга – адна з міфатворчых аўтабіяграфій Багуміла Грабала.*

***1976 г.*** *стаў годам вяртання Грабала і яго кніг у літаратуру, што выдавалася афіцыйна.*

***1981 г.*** *Грабал стварае трыпціх "Гарадок ля вады", кнігу "Клубы паэзіі"*

***1982 г.*** *"Хатнія заданні на пільнасць"*

***1986 г.*** *Зборнік "Жыццё без смокінга" У сваёй новай трылогіі 1986–87 гадоў – "Вяселле ў доме. Дзявочы раман", "Новае жыццё. Карцінкі", "Перавалы" – Грабал зноў выкарыстоўвае жаночы погляд на рэчаіснасць: на гэты раз ён глядзіць на прыватнае жыццё гераіні вачамі сваёй жонкі Элішкі. Асобныя часткі адрозніваюцца паміж сабой, але агульнай з'яўляецца іронія. У цэнтры трылогіі – падзеі з жыцця пісьменніка з сярэдзіны 50-х да пачатку 70-х гадоў, яго погляды*

"Наш тата з матацыклам быў проста закуты ў тыя калючкі! – душыўся са смеху Ірка. – Не ўпісаўся ў паварот і раўнюсенька ў тыя зарасці... так там і сядзеў на матацыкле, рукі на стырне, і цэлыя дзве гадзіны не мог варухнуцца, бо з усіх бакоў быў аблеплены тымі шыпамі, і калючкамі, і цярновымі галінкамі ."

"Адзін шып у мяне быў у носе, а другі мне прыпадымаў павека.. і мне хацелася чхнуць!" – адгукнуўся пан Бурган і падняў галаву, але пані Бурганава ўхапіла яго за чупрыну і зноў сунула ягоную галаву пад кран.

"І як вы дасталі тату з тых калючак?" здранцвеў я.

"Найперш я прынёс нажніцы для стрыжкі авечак, потым садовыя нажніцы і зрабіў хмызняку так званы Прайслераў рэз, і тату праз гадзіну выстрыг", – сказаў Ірка. Пан Бурган хацеў нешта дадаць, але, як узняў галаву, выцяўся патыліцай аб жалезны носік калонкі

На блізкім пагорку бліснула, і пачуўся выбух.

"Дзесяць гадзін", – сказаў Ірка.

"Нягоднікі", – прамовіла пяшчотна маці і зірнула на груд, дзе на ўзлеску вырастала белая аблачынка.

Там, на пагорку, сярод запыленых хваін, відаць было жаўнераў; вось адзін з іх выйшаў на ўзлесак, на знак сцяжком вырваў колца з гранаты і кінуў яе ў сярэдзіну лясной высечкі, і паваліўся... адразу выбух, потым малочная аблачынка. Хваля паветра, калі жаўнер збег у лагчыну, стрэсла з зарасцяў ляшчыны і сланечнікаў цэментавы пыл.

"Нягоднікі", – сказала пані Бурганава мякка.

І за чупрыну адвяла мужа ад калонкі, адкінула яму валасы і рупліва агледзела рану

"На здаровым паветры ў цябе гэта цудоўна засохне", – сказала яна і ветлівым рухам рукі паклікала мяне ў хату.

## 2

У кухні віселі тузіны запыленых карцін

Пані Бурганава пад кожную ставіла зэдлік, цяжка на яго ўзлазіла, мокрай анучай выцірала палатно, і адразу ж зіхаткія мяккія фарбы заззялі на кухні.

Кожныя пяць хвілінаў хату сатрасаў выбух на

**яго ўбачыў пісьменнік і якое пераплавіў у мастацкія вобразы толькі яму аднаму вядомым, ім адкрытым і непаўторным шляхам. Так заўжды бывае з вялікімі ў мастацтве. Іх шлях непаўторны.**

**"Я ўспамінаю выключна сонечныя дні..." – пасмяротна надрукаваныя, так назвалі ўспаміны ВН. Радком з тых успамінаў, дзе асаблівая арыентаванасць на дабро, вострая патрэба цеплыні, пяшчоты, справядлівасці, дабра. Кранальныя яго адносіны да людзей. Вялікая прага кантактаў з жыццём, што сталася апірышчам яго творчасці: "Мой рай ніколі не быў ува мне, але там, звонку: тая мая вуліца, тое маё мястэчка, тая піваварня. Вяртанне дадому азначала канец таямніцы, канец падарожжа, канец далучанасці да жыцця, канец асалоды. Школа і дом заўсёды ўяўляліся мне як цягнік, які раптам уязджае са святла ў цемру. Я і цяпер люблю імгненні, калі выходжу з дому на вуліцу, на прыроду, да карчмы, дзе мяне ўвесь час чакаюць прыгоды", – пісаў сталы ВН.**

**Потым ужо, чытаючы Платона, Шапэнгаўэра, Лаодзы, ён не аднойчы вяртаўся ў космас свайго дзяцінства і юнацтва. У філасофаў ён знаходзіў пацвярджэнне сваім жыццёвым назіранням: судакрананне з прыродай, ракою і зоркамі, і часам, – пра што піша Шапэнгаўэр, самапаглыбленне, якое асэнсоўвалася ўжо ў індыйскай філасофіі і Платона. Тады "эстэтыка стала маёй этыкай", – згадвае ВН у рамане-інтэрв'ю "Вузельчыкі на памяць".**

**Відаць, гэта быў не апошні аргумент, чаму Грабал, ужо**





вайсковым палігоне, і ў буфеце звінелі кубачкі і талеркі. Мосяжны ложак з кожным выбухам гранаты крыху ад'язджаў на колцах, а пані Бурганава кожнага разу пазірала ў кірунку выбуху і прамаўляла пяшчотна· "Нягоднікі. "

Пан Бурган паказваў сярпом на карціны і гаварыў:

"Вось, калі ласка, наш хлопец, як маляваў гэты "Захад сонца на паўднёвачэшскай запрудзе", дык абуў на памер меншыя боты; калі маляваў гэты "Матыў з Карлштэйна", дык праз абцас загнаў у пятку паўсантыметровы цвік... Тут, калі наш хлопец працаваў над "Букавым лесам ля Літамышлі", дык цэлы дзень не хадзіў па малой патрэбе. а тут, калі ласка, калі наш малец пісаў "Коней на пашы ля Пршыбыславы", дык стаяў па пояс у смярдзючай багне. Калі маляваў "На вяршыні гары", дык зноў жа перад тым тры дні пасціўся.. "

Гаварыў пан Бурган, а пані Бурганава пад кожную тую карціну ставіла зэдлік, цяжка на яго ўзлазіла, мокрай анучай выцірала і кожныя пяць хвілін пазірала праз сцяну ў кірунку выбуху, і кожнага разу казала пяшчотна "Нягоднікі. ."

Потым прабіла поўдзень, і мосяжны ложак пераехаў на мосяжных колцах ажно да другой сцяны.

Пан Бурган паказаў на апошнюю карціну

"Калі ласка, гэта наш хлопец назваў "Зімовы настрой", а калі тую карціну маляваў, разуўся, вылез з нагавіц, і гадзіну стаяў перад тым краявідам у гэтым зімовым ледзяным струмяні. "

"Нягоднікі", – сказала пані Бурганава і злезла з зэдліка.

Запанавала гнятлівая цішыня

Пані Бурганава перацягнула мосяжны ложак назад праз усю кухню.

"Цудоўныя карціны, і моцна прачулыя, – кажу я, але чаму Ірка абувае тыя боты на памер меншыя, чаму ўтыкае пры маляванні ў пятку цвік, чаму стаіць босы ў ледзяным струмяні, чаму?"

Ірка глядзеў у падлогу і гарэў.

"Ведаеце – адказаў пан Бурган, – наш хлопец не

*на мастацтва, апісанне лёсаў сяброў і родных. Ад трылогіі ў выдавецтве "Чэхаславацкі пісьменнік" адмовіліся, тады Грабал апублікаваў яе ў самвыдаце. Гэта выклікала новую хвалю ўціску на аўтара з боку тайнай паліцыі. Наступны твор з'явіўся ў друку толькі ў* ***1989*** *г. ("Чароўная флейта"). Тэкст твора балансаваў на мяжы публіцыстыкі і белетрыстыкі.*

***1991 г.*** *На працягу года Багуміл Грабал развівае далей свой эксперымент, пазначаны як "размоўная журналістыка", і стварае вольны працяг папярэдняй аўтабіяграфіі – серыю фіктыўных лістоў канкрэтнаму адрасату, амерыканскай багемістцы Апрыл Цліфардавай. Гэтыя лісты – спантанны запіс думак, настрояў і пачуццяў Грабала, выкліканых назіраннямі за жыццём сучаснага грамадства. Яны друкаваліся ў зборніках "Лістападаўскі ўраган* ***(1990)****, "Кавалер руж"* ***(1991)****, "Аўрора на водмелі"* ***(1992)****. Апошні зборнік Багуміла Грабала мае падзагаловак "Эсэ", у ім аўтар выказвае свае меркаванні аб сучаснасці вельмі незвычайнаму адрасату – свайму любаму кату Цасію. Зборнік мае назву "Вечаровыя зорачкі для Цасія"* ***(1993)****.*

***1993 г.*** *Аўтабіяграфічная трылогія Грабала атрымлівае прэмію Яраслава Сэйферта.*

***Люты 1997 г.*** *Багуміл Грабал упаў з пятага паверха шпіталя. Некаторыя даследчыкі яго творчасці схіляюцца да думкі, што гэта было самагубства.*

**Падрыхтавала**
**Алена ВОСТРЫКАВА.**

**маючы дыплом юрыста, пайшоў працаваць у сталеплавільню Кладна; і каб не цяжкая траўма, ён працягваў бы там услухоўвацца ў людскія размовы. Пра металургічны гігант сацыялізму Грабал напісаў у апавяданнях "Жаўрук на нітцы", кінасцэнарыі. "Красуня Польдзі", як называлі рабочыя свой цэх, надала зусім іншы сэнс яго гульням са словамі і сказамі. "Лірыка, злёгку прабуксоўваючы, перайшла ў татальны рэалізм, а я нават гэтага і не заўважыў, таму што праца ля агню ў гэтай мілай гуце, суровыя металургі, іх размовы, усё гэта мне здавалася такім суперпрыгожым, быццам я працаваў і жыў у самым сэрцы карцін Гіераніма Босха...", – прызнаваўся ВН у нататках "Чаму пішу?". Працаваў шмат дзе: на піваварні, чыгунцы, страхавым агентам, на пункце прыёму макулатуры, які ўславіў у знакамітай "Занадта гулкай адзіноце": "...я быў у палоне таямніцы мастацкага адлюстравання настолькі, што браўся за розныя самыя дзіўныя "прафесіі" толькі дзеля таго, каб акунуцца ў жыццё, каб услухоўвацца ў людскія размовы".**

**Які вялікі змест і якую філасофію знаходзіць Грабал у сваім героі Ганці, што трыццаць пяць гадоў працаваў ля макулатурнага прэса, працаваў натхнёна, разважаючы над апошнім прытулкам друкаванага слова, лёсам кнігі і чалавецтва. Колькі добрай літаратуры прайшло праз яго рукі, асабліва калі мяняліся ўлады і смеццем станавіліся цэлыя бібліятэкі. Ганці ўяўляе сабе пераўтварэнне прыгожай кнігі ў макулатуру і гэтую крыўдную несправядлівасць**

# ВУЗЕЛЬЧЫКІ НА ПАМЯЦЬ

*(урыўкі з рамана-інтэрв'ю)*

**Ці існуе ў вас як у пісьменніка ўяўленне пра чытача, ці думаеце вы аб ім, калі пішаце?**

Пэўна – не. Я наогул не прымаю гэта пад увагу, таму што – не ведаю, ці магу я цяпер пра гэта гаварыць, калі мне толькі 70 гадоў і я толькі да гэтай думкі прыходжу, – чым больш я гляджу на сябе ў мінулым, калі я пачынаў пісаць першыя вершы, тым лепш бачу, што я заўсёды пісаў дзеля сябе. Але я так ахвотна ўбіраю ў сябе тое асяроддзе, у якім знаходжуся і стала жыву, што дамоў вяртаюся толькі спаць, з маленства я ўвесь час сярод людзей, і таму, калі разважаю пра сябе і свае справы, то паўзволі распавядаю і пра іншых. Я выказваюся надзвычай суб'ектыўна і сам з'яўляюся сваім першым чытачом, праз гэта я адчуваю, што пішу для сябе, і толькі потым усведамляю, што людзі разумеюць гэта менавіта так, быццам я кажу і за іх. Мае вельмі суб'ектыўныя меркаванні нечакана становяцца аб'ектыўнымі. Гэта як у помпе, калі яна ўдыхае і зноў выдыхае. Я проста ўдыхну, і ўва мне апынаецца столькі інфармацыі, што калі яе ўсю апішу, то столькі ж яе выдыхаецца. Я магу пісаць вельмі хутка, часам адна старонка вылятае за восем хвілін, а потым збіраю, збіраю. Я выразнік не ўсіх, але пэўнай катэгорыі чытачоў; кожны пісьменнік мае такога чытача, з якім у яго агульныя ўяўленні пра тое, як павінен выглядаць свет і як павінен ставіцца да грамадства чалавек, чаго можна чакаць ад грамадства, што такое забава, а што няшчасце. І ў гэтым сэнсе я маю некалькі соцень тысяч чытачоў, з якімі ў мяне, так бы мовіць, агульны назоўнік.

**У чым вы бачыце сваю блізкасць да Кафкі?**

Маю? Возьмем хаця б той жа "Працэс" Там, дзе ў рамане Ёзефа К. пакаралі, сапраўды існуе разлом, тая дарога, дзе ён ішоў, дзе яго вялі, яна існуе, і існуюць кнігі з фотаздымкамі, якія "Працэс" імкнуўся рэканструяваць, зыходзячы з пэўных лакаліт* Я таксама працую, зыходзячы з лакаліт.. Тыя яго вялікія сімвалы і шыфры, якія ў рэшце рэшт аказаліся рэальнымі, на самой справе з'яўляюцца магічна рэальнымі, яны існавалі ўжо ў яго час, але іх ніхто не разумеў. Звесткі пра "Замак" ёсць у мяне ў нататніку, які я набыў у Германіі. І ў каментарыях да гэтых звестак згадваецца перамяшчэнне ў канцэнтрацыйны лагер ужо ў 1910 годзе. У гэтым жа нататніку ёсць апавяданне Кафкі, у якім нехта раптоўна прыходзіць, стукае, бацька апранаецца, і той вядзе яго некуды з Цэлетнай вуліцы, адкуль ужо ніхто не вяртаецца. І гэты спосаб дзеяння і паводзінаў і той, хто прыходзіць у скураным плашчы, – усё гэта так, нібы Кафка ўжо бачыў,

* Лакаліта – мясцовая з'ява ў сферы свайго распаўсюджвання.

канчаў акадэміі... дык гэтую нястачу адукацыі пакрывае моцным ураджаннем ці бо, каб вы ведалі, мы вас дзеля таго паклікалі... мы б хацелі ведаць, ці мог бы наш хлопец выправіцца па адукацыю ў Прагу..."

"Ірка, – кажу, – ты гэтыя пейзажы пішаш з натуры? Дзе ты бярэш і куды ходзіш па гэтыя неверагодныя фарбы? Дзе ты навучыўся так побач пакласці сінюю і чырвоную? Імпрэсіяністы маглі б не саромецца за гэтыя фарбы. Куды па гэта ходзіш?"

Пан Бурган адгарнуў сярпом фіранку, з якой сыпаўся драбнюсенькі пыл.

"Бачыце гэта? – усклікнуў ён. – Бачыце там гэтыя фарбы? Амаль усе тыя карціны, што вісяць тут на кухні, усе іх ён маляваў у гэтым краі. Толькі паглядзіце, як там усё пераліваецца фарбамі!"

Пан Бурган трымаў адгорнутую фіранку, і я глядзеў з ім на пейзаж, які, аднак, быў шэры, як статак старых сланоў; дзе што толькі варухнецца, адразу падымае за сабой доўгія стужкі цэментавага пылу; дзе праз шэрае поле баркуноў цягнуў трактар касілку, за якой уздымалася шэрае воблака, як за брычкай, што едзе па пыльнай дарозе; дзе праз тры палі стаялі драбіны, і дзяцюк накладаў снапы жыта, і кожнага разу, як падымаў той сноп, кожнага разу нібы той сноп падпальваў, так з яго церушыў шэры пыл.

"Бачыце гэтыя фарбы!" – трос пан Бурган сярпом.

А тымчасам на ўзлесачак выйшаў пехацінец, вырваў колца з гранаты і кінуў яе далёка ад сябе.

Мосяжны ложак зноў ад'ехаў

Пані Бурганава ўпершыню маўчала.

"Нягоднікі", – кажу я.

Яна ўзяла мяне за руку, адно павека навіслае, як аладка, і па-мацярынску мяне папракнула: "Вы не, вы, пане, ніколі Ушчуваць тут дазволена толькі нам. Але мы не ўшчуваем, мы толькі адводзім душу. Гэта такая ўмоўленая гульня Усё ж гэта нашы салдаты. Гэта вам, пане, тое самае, як і дома. У сям'і сабе таксама могуць што заўгодна дазволіць, лаяцца і пасылаць адно аднаго кудысь, і раіць зрабіць нешта. Але толькі сямейнікі між сабой А іначай ніхто. З нашага таткі можам кпіць толькі Ірка і я .. а тады ўжо ніхто . але што думаеце? Ці варта нашаму хлопцу ехаць у Прагу? Ці зробіць ён там што для чэшскага жывапісу?" – спыталася пані Бурганава Яна глядзела разумнымі вачыма, вачыма, якія былі здольныя ўбачыць нават парушынку сумнення на дне маёй душы.

"Прага гэта акушэрскія нажніцы, – сказаў я і апусціў вочы, – а гэтыя карціны – гэта не вучнёўскія спробы, гэта мастацтва Думаю, ён мог бы выправіцца па славу . "

"Пабачым", – сказала пані Бурганава.

Пан Бурган адчыніў дзверы ў пакой.

"Наш хлопец яшчэ і лепіць, бачыце? – усклікнуў ён і сярпом пастукаў па гіпсавай статуі, што ўяўляла сабой суплёт гіганцкіх цягліц. – Гэта Бівой[5] без дзіка", – сказаў ён.

"Грандыёзна! Якія біцэпсы! – кажу я – Ірка, сябра, з каго ты ляпіў? Нейкі штангіст ці баксёр цяжкой вагі?"

Ірка глядзеў у падлогу і гарэў

"Ані штангіст, ані цяжкая вага, – адказаў пан Бурган, – гэта я!" сказаў і ткнуў у сябе сярпом.

"Вы?"

"Я! – радаваўся маленькі пан Бурган. – Наш хлопец усё дадумвае Наш хлопец, калі чуе, як вада капае з рыны, бярэ аловак і малюе вадаспад на Ніягары, наш хлопец, калі паколе палец, ідзе ўжо пытацца, колькі каштуе пахаванне трэцяга класу Мінімальныя імпульсы, максімальныя вынікі", дадаў пан Бурган і заміргаў вочкамі.

"Пане Бурган, дык вы гэта так разумееце?" – кажу.

"Я ж бо з Вршовіцаў! – усклікнуў ён і пачухаў сярпом патыліцу. – Ці бачылі вы "Траіла і Крэсыду" Шэкспіра? Дык чвэрць стагоддзя таму я быў статыстам у Вінаградскім[6] тэатры якраз у гэтай камедыі. У пятай сцэне рэжысёру былі патрэбныя на гзымс дзве прыгожыя голыя статуі Адну граў я, нацёрты спіжам, а тую другую голую статую грала адна дзяўчына, так мы кожны спектакль ляжалі голыя ў пятай сцэне на гзымсе без рухаў у святле пражэктараў, зверху на нас глядзелі работнікі сцэны, пераважна на тую прыгожую дзяўчыну .. а потым, калі "Траіла і Крэсыду" знялі, я папрасіў рукі ў той голай,

**намагаецца кампенсаваць тым, што робіць розныя адмысловыя пакункі для кніг у адпаведнасці з іх тэматыкай, каб хоць прыгожым было пахаванне. Ён мае звычку ўглядацца ў выкінутыя кнігі, праглядаць знаёмых філосафаў і мастакоў, цытаваць любімых аўтараў, асабліва Канта. Інтэртэкстуальны кантэкст усіх васьмі маналогаў Ганці і апошняга заключнага "Adagio lamentoso", якія складаюць "Занадта гулкую адзіноту", вельмі насычаны. Назаву толькі некаторыя імёны: Гегель, Шапэнгаўэр, Рэмбрандт, Босх, Гаген, Сезан, усе французскія імпрэсіяністы, Шылер, Вагнер, Ніцшэ, Эразм Ратэрдамскі...**

**Сусвет культуры. Стваральнікі элітарнай гуманітарнай думкі. Да іх звяртаецца Ганці, каб зразумець дэфінітыўнасць чалавечага быцця, культуры, маралі... Ганці – філосаф з пароды тых пабітэляў, для азначэння якіх Грабал нават прыдумаў новае слова і многа дзе тлумачыў, што за ім стаіць. Дакладней, "хто". Гаваруны, якія маюць асалоду ад самога працэсу пошуку слова і сэнсу, ад працэсу маўлення, прынамсі. Хто смакуе слова як цукерку, пакуль не пранікне ў яго сэнс. Хто жыве дзеля радасці і можа прыцешыць жыццё гумарам, добрым жартам. "Пабітэл – гэта кожны, каго наведвае натхненне, хто гаворыць тое, што разумныя людзі лічаць неразумным, робіць тое, што прыстойныя людзі не робяць, пабені, такім чынам, – гэта прага забароненага і ўсё тое, што звязана з пражскай іроніяй і гумарам", – паўтараў Грабал.**

**Ганці найлепшым чынам адпавядае класічнаму пабітэлю, які ўвесь час разважае, параўноўвае сябе са збанам жывой і мёртвай вады: "Так я паразумнеў супроць маёй волі і зараз адчуваю, быццам мае мазгі – тыя ж пакункі выдумак, спрэсаваныя гідраўлічным прэсам, а мая галава з выцвілымі валасамі – нібыта арэх Папялушкі, я ведаю, наколькі лепшымі былі часы, калі ўсё прыдуманае было занатавана толькі ў чалавечай памяці, тады кожны, хто захацеў бы спрасаваць кнігі, мусіў бы прасаваць чалавечыя галовы, але нічога з гэтага не атрымалася б, таму што сапраўдныя думкі прыходзяць звонку, яны адслоненыя ад чалавека, як лапша ў бідоне, так што Каніяшы з усяго свету марна паляць кнігі".**

**У васьмі маналогах Ганці выкладзены жыццёвы вопыт, здабыткі і страты на цярністым шляху чалавека. Мінае жыццё, вось ужо маладыя хлопцы прыйшлі да старога прэсу ў падвал на Спаленай вуліцы. Прыйшлі... на змену. Як цяжка гэта асэнсаваць і навучыцца жыць насуперак жаданням і магчымасцям, застаецца піць піва і назіраць жыццё маладых і прыгожых, у якіх на тварах пячатка геніяў, застаецца адно марыць, шукаць мінулае, успамінаць. І верыць: "Веру, што людзі не будуць такімі цемрашаламі, каб кідацца ў вайну, веру, што найвышэйшай мерай усіх эпохаў і сучаснасці ёсць мір і толькі мір, не ўсялякі мір, але такі мір, дзе поўна канфліктных сітуацый, якія магчыма вырашыць, веру, што ўсё тое агрэсіўнае, што ёсць у чалавеку, магчыма вырашыць за кошт сусвету, веру, што чалавек здавён ёсць касматворны, а таму і наша будучыня – гэта нябёсы... Аднак для гэтага трэба мець людскі розум".**

як хадзіла крымінальная паліцыя ці гестапа. Кафка, на маю думку, прадстаўляе пражскую свядомасць; неяк Эман Фрынта прыкмеціў, што там, дзе існуюць перакрыжаванні некалькіх моўных свядомасцяў, заўсёды ўзнікае вялікая літаратура. Як доказ гэтага ён згадвае Прагу, габрайска-славянска-нямецкае перакрыжаванне, Адэсу, Трыест, Цюрых – перакрыжаванне, дзе ўзнік дадаізм; сёння такім месцам ён называе Парыж, куды палова творцаў прыйшла з Іспаніі, Расіі, Украіны, Венгрыі, Амерыкі і г.д.; сюды Эман Фрынта дадае яшчэ Петраград, дзе таксама існавала перакрыжаванне свядомасцяў. Калі я быў у Парыжы, то якраз адзначалася 100 гадоў з дня нараджэння Кафкі. Гіганцкая выстава ў цэнтры Пампіду, на якой было дэкларавана, што XX стагоддзе – стагоддзе Кафкі, прадстаўляла ўсё так, нібы гэта мела месца ў Празе. Вялікі выставачны пляц, памерам з хакейны стадыён, уяўляў сабой Старамнесцкую плошчу, – адным словам, гэта была стовежавая Прага ў Парыжы. Я купіў фотаздымкі з выставы, і на іх вы бачыце тое, што натхняла Кафку да напісання "Замка", таксама ў мяне ёсць дзве кніжкі і сотні фотаздымкаў якія адсылаюць нас да пэўных лакаліт. Хачу дадаць, што я менш, чым Кафка, натхняюся канкрэтыкай мясцовага жыцця. Кафка з'яўляецца для мяне іерогліфам гэтаксама, як і пан Гашэк. Гэта два іерогліфы, якія я імкнуся разгадаць у тых лакалітах, якімі жыву, ці праз старыя паданні аб іх.

нацёртай спіжам дзяўчыны, і яна сказала "так" . І вось мы ўжо разам чвэрць стагоддзя.. "

"Дык пані – тая нацёртая спіжам статуя?" – кажу я

Пан Бурган усміхаўся і ківаў

"Тая, што ляжала ў пятай сцэне на гзымсе?"

Пан Бурган усміхаўся і ківаў.

"Ну што, пусцім сюды трошкі свежага паветра?" – спытала пані Бурганава.

Цэментавы пыл імжэў на дыван.

"Калі б вы некалі пажадалі супакоіць сапсаваныя нервы, – сказала пані Бурганава – прыходзьце да нас хоць на цэлы тыдзень"

"Гэтыя гранаты, іх тут увесь час кідаюць?" – спытаўся я

"Не, адказала пані і з шафы выцягнула пыласмок, – толькі з панядзелка да суботы і толькі з дзесяці да трох. Але нядзеля тут такая сумная Тут велічная ціша, ад якой ажно ў галаве гудзе Гэтая ціша. Дык мы пускаем радыё, а Ірка зранку грае на геліконцы. І чакаем не дачакаемся, што яшчэ адна ноч міне, і ўжо тут зноў будуць нашы салдаты..." – гаварыла пані Бурганава.

"Вы праўда абое ляжалі голыя, нацёртыя спіжам, на гзымсе? Праўда?" – кажу я

"Праўда", – сказала пані Бурганава і, цяжка перастаўляючы ногі, падышла да свайго мужа і падала яму згорнуты шнур з вілкай

"Татку – сказала яна, – пайдзі вычысці той кветнічак з астрамі ля сцяны, я потым нарэжу пану цудоўны букет. Нягоднікі..." – дадала яна пяшчотна, гледзячы ў вакно на адхон, дзе на ўзлеску вырасла белая аблачынка, як куст квітучага глогу

---

[1] Пабітэлі – гл. артыкул І.Шаблоўскай.

[2] Ірка – скарочаная форма імя Іржы.

[3] Касарак (kosárek) – аздобнае пяро на капелюшы ў мараўскім народным строі.

[4] Суткі – прыбіральня *(арх.)*.

[5] Бівой – герой чэшскай міфалогіі

[6] Вршовіцэ, Вінаграды – раёны Прагі.

***

**Ён быў адважным з дзяцінства. Як звычайна бывае, калі малое нікто не запалохвае, не папярэджвае, не абмяжоўвае жаданне ўсё ведаць, усё паспытаць. Калі ён сам напрацоўвае сваю карму, як сказалі б цяпер. Спакой і засяроджанасць на вечным адчуваюцца ва ўсёй постаці ВН, ва ўсёй творчасці. Але гэты спакой не ёсць пакора. Адданасць не ёсць разгубленасць альбо пасіўнасць. ВН увасабляе непакору тытанаў, якія наблізіліся да сусвету духоўнасці, космасу культуры, не забыўшыся на зямныя пакуты чалавека. Біяграфію Грабала надзвычай цікава чытаць. У ёй ключ да яго творчасці, да метаду і паэтыкі. Ключ да яго філасофіі. Папершае, у ёй – усе яго творы, героі, людзі, якіх ведаў, пры гэтым ён, здаецца, не стварае тыповае, а наадварот, выбірае, як гэта рабілі натуралісты, выключнае, асобны выпадак, асобнага чалавека, і чым больш у ім дзівацтва, тым лепей. Адказваючы на пытанне аб уплыве Фрэйда на сваю творчасць, Грабал згадвае сюррэалістаў, у прыватнасці чэшскае "дада", праз што засвойваўся псіхааналіз. Асабліва адзначае псіхапаталогію будзённага ("Zur Psychopathologie des Alltagslebens"): "Што ўласна такое мае гісторыі? Псіхапаталогія сучаснай паўсядзённасці. Што такое расповеды Швэйка? Гэта псіхапаталогія паўсядзённасці".**

**Так, менавіта стыхія паўсядзённасці, звычайнага, будзённага як праява існасці зацікавіла раз і назаўсёды Грабала і прынесла сусветную вядомасць ВН. Дарэчы, ён яе**





# ЯРМІЛКА

## 1

Я зноў на заводзе. Ужо здалёк бачу разносчыцу Ярмілку, як валачэ вёдры з супам. Спяшаюся ёй насустрач і так зацята на яе гляджу, ажно апускае вочы Яна на шостым месяцы, а калі адкрывае рот, я зноў пераконваюся, што ёй нестае паловы зубоў, але яна простая, і ад гэтага красуня з красуняў.

Іду каля яе і шапчу: "Дык Ярмілка, калі ж мы згуляем вяселле?"

А яна адказвае "Як на далоні валасы парастуць!"

Кажу· "Ай-я-яй! Ці я ўжо вам і не мілы?"

А яна сабе цвердзіць: "Не, бо вы ўвесь час тут па Полдаўцы[1] лётаеце, нібы ў вас шыпы ў азадку".

Стаўлю вёдры, якія я ёй дапамог несці, гляджу на яе з папрокам, а яна апускае павекі Бачу прыпухлыя кругі, бачу гэтыя пігментавыя плямы ну вядома! На ёй сёння зноў тое баваўнянае палітко, перавязанае матузом. Падымае вочы і кажа

"Што вы на мяне глядзіце, як воўк на казу?"

Дык я ёй гэта высвятляю: "Калі ж вы да мяне апошнім часам нейкая халодная". Падымаю вёдры і нясу іх далей, бо нядобра, калі жанчына ў цяжку носіць такі цяжар. На рагу фабрычнай вучэльні яна абапіраецца аб рог і ванітуе Калі паварочвае да мяне свой змарнелы тварык, перапрашае· "Ну вось", – абедзвюма рукамі абхоплівае жывот і дадае. "Ведаеце, дзядзечка, я ж бо напакаваная"

Кажу· "Дык што? Той ваш быў ужо ў вас?"

Прасвятлела. "Быў. Я ўжо легла спаць, калі прыйшлі хлопцы з Цвырчовіцаў і закрычалі праз плот· "Пані, а Яруш[2] дома?" Дык мама выйшла да весніцаў і гаворыць. "Вось дык госці да нас, пане Яраславе! Што ж гэта за манеры, дзеўку нам абкруціць, а потым яе кінуць?"

Ярмілка спыняецца і стражэ: "А ведаеце, дзядзечка, што ён адказаў?"

"То не ведаю".

Ярмілка надрывецца· "Сказаў маёй маме "Ну дык

**Іерогліфы пражскай ментальнасці?**

Пэўна, але ўсё не так проста. Чапэк, напрыклад, значна прасцейшы ва ўсім, у яго акрэсленыя погляды, ён новапазітывіст, гэта хлапец нумар адзін. Але мяне хвалююць тыя два хлопцы, і я ніяк не зразумею, што яны такое, нават калі купляю кнігі пра іх іншых аўтараў Мы спрачаліся пра гэта з панам Радкам Пытлікам і ў апошні раз амаль адначасова прыйшлі да высновы, што ў будучым павінен прыйсці яшчэ адзін эстэтык, крытык і літаратар у адной асобе і паспрабаваць вырашыць гэтыя іерогліфы, што некалі павінен нарадзіцца нехта, хто адначасова будзе і псіхааналітыкам, каб быць здольным вырашыць цудоўна падманны і пяшчотны іерогліф, як гэты нежывы і ў той жа час такі жывы пісьменнік, дадаіст і рэаліст, выключны журналіст і містыфікатар, які памёр у сорак гадоў – зразумейце гэта, у сорак.

**Кафка?**

Гашэк! Гашэк! Яраслаў! Але і Кафка таксама!

**У якога бога вы верыце?**

Безумоўна, не ў бога як у асобу. Гэты бог ёсць ува мне. Не тое, каб ён быў Багумілам Грабалам, але ў душы я літаральна адчуваю, што я з нечым зблізіўся, нават недзе там маю месца, праз якое здольны зносіцца з нечым больш высакародным, чым я сам, з нечым, што мае больш высокую энергію, што з'яўляецца трансцэндэнтным і накіроўвае да метафізікі. Гэта тое даб-

**вывучаў не па Фрэйду... А па аўтэнтычнаму жыццю. Нездарма у яго лёсе выключную ролю адыграў дзядзька Пэпін, які лічыцца як бы творчай павітухай пісьменніка. Ён прыехаў аднойчы ў госці на два тыдні, а жыве ўжо восем гадоў, як любіла паўтараць маці пісьменніка, сама, дарэчы, асоба незвычайная, якая вяла ўсю хатнюю гаспадарку, паспявала дагледзець дзвюх коз і парасят і бегла яшчэ ў драматычную студыю, бо была зацятая тэатралка. Рамантычная постаць матулі стала цэнтрам аповесці "Пастрыжэнне", ад яе імя ідзе аповед, здавалася б, пра рэчы нязначныя, будзённыя, напрыклад, пра тое, як маці зрабіла сабе модную кароткую стрыжку. У аповесці створана атмасфера рэтра, жыцця піваварні ў тыповым чэшскім гарадку, на фоне падрабязнага працэсу вытворчасці піва.**

**Але стрыжнем сям'і, канешне, быў дзядзька Пэпін, супер-пабітэл, бабыль, які ўладкаваўся ў брата на піваварні і ніколі не адмаўляўся ад самай цяжкай працы, але які нездарма насіў белую адміральскую фуражку. Вецер бадзяння клікаў яго. Кожны вечар ён збягаў "да сваіх дзяўчат", і дзе б ён ні з'явіўся, маладзіцы ўсіх узростаў яго радасна віталі, каму кветку падорыць, каму ўсмешку, усім добрае слова знойдзе, а ўжо што на анекдоты і показкі быў здатны, то й не перадаць. Вялікі мастак. Дома яго часта правакавалі на выдумкі і расповеды, ён быў сапраўдным "моўным каталізатарам" для пляменніка. Відаць, тады той упершыню адчуў, што пісьменнік – гэта "запісаватэль".**

**У рамане-інтэрв'ю Грабал**

ро, якое садзейнічае хаця б якому прагрэсу ў свеце, і кожны чалавек у яго верыць. Гэта дабро, праз якое мы робім невялічкі крок наперад, і я адчуваю, як адчуваюць гэта і іншыя, што гэтае дабро і ёсць бог Мне здаецца, бог заўсёды дабро. Праўда, застаецца і пытанне, чаму тады існуе зло? Святло і цень... усё мае сваю процілегласць, і толькі пэўны сінтэз такіх процілегласцяў і стварае тое, што мы называем богам. Для мяне і ў Хрыста, і ў Лаодзы галоўнае – гэта шлях. Я знайшоў яго, калі сустрэўся з дабром і калі, з другога боку, быў ім пакінуты. Але я заўсёды ўпарта шукаю яго. Бог – гэта бесперапынны шлях да нечага, пра што мы кажам "свет" Мой бог  гэта мая родная мова. Слова.

**Вам не падабаецца цень?**

Не. Я люблю цемру, але не люблю цень. Я выходжу на вуліцу – калі ззяе сонейка, я ўвесь час іду так, каб знаходзіцца на сонцы. Калі горача і нават калі 40 градусаў, я ўсё роўна іду з ценю туды, дзе ёсць сонца. Не ведаю чаму. Так з дзяцінства. Куды не ходзіць сонца, туды не хаджу і я. Акрамя карчмы.

**А што такое смерць, пан Грабал?**

Аднойчы я даў ужо на гэта адказ. Ведаеце, смерць – гэта ліст, напісаны белай крэйдай на белай дошцы, смерць – гэта зламаная друкарка, аўтамат, які вырабляе брак, пагрозлівая нябачная рука без пальцаў, смерць – гэта падзенне хуткага цягніка ў бездань, высыпаныя фігуркі з узарванага

што, цётачка, мне цяпер на блін расплюскацца?" Скажыце самі, ці гаворыць так жаніх?"

Я падымаю вёдры і пагаджаюся: "То не, не гаворыць, прынамсі не павінен так гаварыць".

"Вось бачыце. І пры гэтым мы маем ажаніцца. Але я ўжо за ім не пабягу. Гэта ўсё мама ягоная! Але я ёй гэтага не дарую. Я туды некалі прыйду і скажу: "Вось вам ён, сынок ваш, засуньце яго сабе . ведаеце куды!"

Сярдуе, але мы ўжо ўваходзім у сталоўку, дзе мужыкі Ярмілку вітаюць: "А-ёй, дзеўчына, ды ты ўжо добра напханая Ты што, капялюш праглынула?"

Але Ярмілка не даецца: "А ну вас, чэрці Кожны прыкідваецца, што ён нежанаты, а як з ім жанчына трохі пагаворыць, дык ганьбы ёй наробіце, а да таго яшчэ пасылаеце дадому ананімкі, нібы тая бегае за жанатымі мужыкамі!"

Ярмілка крычыць, але ўсміхаецца, нават усцешана. Яна іх ведае, а яны ведаюць яе Мужыкі яе гладзяць па плячах, а яна, як ухіляецца, разлівае суп Пагражае чарпаком· "Но-но, зараз схопіш па карку!"

А я здаля пазіраю на Ярмілку, параўноўваю яе з усімі жанчынамі, якіх я калі ведаў, і не магу нацешыцца. Ем паціху суп, яшчэ ёсць час, і я зноў з ёй сам-насам

Яна ўселася на край стала і халадзіць сабе шчаку аб цыновую бляху.

Я кажу: "Дык вы, значыць, гаварылі з панам Яраславам у нядзелю..."

Адказала ў бляху: "То так, гаварыла, але ён на мяне не зважаў Танцаваў увесь час з іншай, і так гэта маёй сястры дапякло, падышла ў танцы да яго і кажа: "Табе зусім не сорамна, ты, пляткар? Сястру мне звёў, а цяпер тут бабішся з іншай?" – Ярмілка ўстала. – А ён ёй у коле даў аплявуху! Скажыце, дзядзечка, ці гэтак можна – даць даме ў коле аплявуху?"

"То не, не можна", – кажу я

"Вось бачыце! Але я пайду ў суд, і ён заплоціць!"

"Ярмілка, чуеце мяне? Усё ўладзіцца. Гэта ён толькі цяпер, перад вяселлем, так ходзіць пеўнем"

Узяла міскі з-пад супу і збянтэжана кудысь загледзелася Потым расчулілася· "Вы думаеце? Праўда так думаеце? Бо я ж яго, дурня, так шчыра кахаю! Скажыце, дзядзечка, якое б гэта было жыццё? То ў мяне б ужо ўсё да смерці было апаганена. Чаго я толькі не панавыпрасіла, панавыплакала, панавыкленчыла.. "

Махнула рукой. Я ўстаю, час ісці.

Ярмілка адчыніла дзверы і крыкнула мне наўздагон: "Прыходзьце яшчэ, дзядзечка!"

## 2

Паміж тапільняй і дыядурам я капаўся ў лаўжы заржавелых стружак. Потым накладаў тыя стружкі ў латакі Выпростваюся, – хто ж яшчэ гэта можа тупаць сцяжынкай, як не Ярмілка са скрыняй на піва і вядром.

Я пералез праз жалеззе

"Ну, што новага?"  кажу

"О-о! Якраз даведалася ад баб, што Яроўшак[3] ім сказаў· "Хто ведае, ад каго гэта тая распусніца нагуляла". Але я яму сёння ўчыню ў аўтобусе сцэну, – Ярмілка села на скрыню  – Стану ля дзвярэй і так, перад людзьмі, скажу яму· "Мой паклон, пане Яраславе, перапрашаю, што турбую, але калі я з вамі палезла ў роў, там я вам была добрая, ці мо не так? А цяпер скажыце, ад каго гэта тая распусніца нагуляла? Вось ужо ад вас я гэтага не заслужыла, вельмі вам дзякую", – біла кулачком у лоб. – Чаму толькі я ў той раз пайшла на тую пагулянку, чаму? А то хлопцы прыйшлі і: "Хадзем з намі, Яруш, на танцы". І я, дурніца, пайшла. Зала набітая, а мы з Яроўшкам паўгода як пасварыліся А тут мне прыйшло ў галаву паглядзець праз стол, і ён якраз там сядзеў А я, як толькі туды паглядзела, разгубілася, і ён таксама. Разам танцавалі, ён мяне з кола не выпусціў, а потым мы ішлі ўночы дахаты  "

Пазірала горка, але потым прасвятлела. "Ведаеце, дзядзечка, ягоныя сябры ўжо пра гэта клапоцяцца. Зачыняць мяне ў некага ў шафе, тады паклічуць Яроўшка і завядуць гаворку пра тое наша вяселле І ў нас такі ўмоўны знак. Як адзін з маіх прыяцеляў скажа. "Ты, каталік хлуслівы!" – я адчыню шафу і вылезу. Што на гэта Яроўшак скажа! Праўда, добрая ідэя? Але дзядзечка, трымайце за мяне кулакі!"

самалёта. Да апошняй хвіліны гэта надзея на жыццё. Смерць – гэта страх таго, што ўжо няма чаго баяцца. Яшчэ сёння вечарам будзеш баляваць з Абрахамам Але бачыць бог, што лепей бы ты не баляваў. Смерці я даў адказ.. Жаданнем жыць.

**Ці думалі вы калі-небудзь пра самазабойства?**

Літаратурна – заўсёды. Літаратурна я быў вось-вось... Але каб падняцца і ісці да вады – то ніколі. Мне больш падабалася быць у адчаі, у глыбокай меланхоліі. Я ніколі не пытаўся пра выйсце з яе ў маіх родных, таму што ведаў, што атрымаў бы парады празмерна разумныя, якія зусім не падыходзяць да сітуацыі, у якой я апынуўся. Я быў тады вельмі малады і меў той моцны звон няведання, які павінен быць у кожнага маладога чалавека. Я любіў футбол і быў выключным футбалістам.

**Што б вы сказалі маладым людзям?**

Кожны малады чалавек павінен знайсці сваю сцэну, дзе можа стаць ён і толькі ён. Кожны малады чалавек геніяльны .. самае цудоўнае ў маладосці – гэта мяцежная самасвядомасць, але разам з тым і пачуццё таго, што ён у свеце не адзінокі

**Пытаўся і адказы запісваў Ласло ШЫГЕЦЫ.**

*Пераклад з чэшскай Алены ВОСТРЫКАВАЙ*

**згадвае, што ён ніколі не называе сябе spisovatel (пісьменнік), а толькі zapisovatel. Чэшская мова дазваляе гульню з пераносным сэнсам гэтага слова. Я пішу тое, што ёсць, а не тое, што павінна быць. Магчыма, я – рэпарцёр, прынамсі, большасць маіх любімых пісьменнікаў былі на пачатку журналістамі – Чэхаў, Хэмінгуэй, Гашак, Чапэк...**

**Унікальнасць аўтэнтычнага метаду Грабала ў тым, што ён прыйшоў да свайго рэпарцёрства шляхам вывучэння здабыткаў сусветнага мастацтва. Як калісьці ў школьныя гады ён прападаў па-за школай, так, ужо стаўшы студэнтам філасофскага факультэта, прападаў за кнігамі. Адчуўшы іх магутную ўладу, яго рэпарцёрства набыло мастацкую унікальнасць. Яно – здабытак творчай выкрышталізацыі асобы, метаду, прыёмаў, філасофіі. Усе даследчыкі адзначаюць адмысловую, маляўнічую чэшскую мову ВН. А сам пісьменнік так адказаў на пытанне журналіста, "у якога бога ён верыць": "Мой бог – мая родная мова. Слова".**

***

**Храналагічна ўсё перататасавана ў творах Грабала, як у картах. Атрымоўваецца мазаічная карціна, створаная спантанным маўленнем персанажаў, пераважна маналогамі. А як з сюжэтам? Ён проста не патрэбны Грабалу, бо пісьменнік стварыў новы тып апавядальніцтва, дзе сама энергія расповеду становіцца сюжэтам. Згадайце вызначэнне сюжэта паводле В.Б. Шклоўскага: "энергия заблуждения". Сюжэтам з'яўляецца расповед, які зачароўвае, захапляе... Напрыклад, пра тое, як маці састрыгла валасы, альбо як хлопчык папрасіў матроса зрабіць на грудзях татуіроўку чаўна, а яму навечна пасадзілі марскую русалку. Альбо як дзядзька рабіў кожныя паўгода рэвалюцыю, забіраў усе свае грошы і сыходзіў ад брата, які быў "шышкай", значыцца, буржуем, прагульваў усё... і вяртаўся сапраўдным пралетарскім бамжом. Пра тое, як рахункаводы памылкова здалі ў макулатуру замест выкарыстаных талонаў – новыя, як вяліся размовы вакол лёсу гэтых талонаў і магчымага іх вяртання. Як бацька кожны ўік-энд рамантаваў старое аўто і прасіў суседзяў дапамагчы, а тыя, добра ведаючы з практыкі, што гэта дапамога расцягнецца да ночы, шукалі розныя зачэпкі, каб пазбегнуць візіту і разам з тым не пакрыўдзіць суседа. Пра тое, як закаханы малады чыгуначнік ставіў пячаткі на азадку сакратаркі, быццам на сакрэтных паперах. Пра тое, як хавалі дзядзьку, якога знайшлі праз два тыдні пасля смерці...**

**Праўда, у рамане "Я абслугоўваў англійскага караля" сюжэтныя канструкцыі пазначаны больш-менш выразна. Гэта лёс маленькага (у прамым сэнсе – невялікі рост, пераносным – афіцыянт) чалавека, які марна паспрабаваў дасягнуць велічы, стаць гаспадаром гатэля, ажаніцца з немкай у гады пратэктарата, але абставіны палітычныя не спрыялі яго кар'еры. Лёс краіны, праз якую прайшла маніякальная фашысцкая праграма ўладарання над іншымі народамі, нязмушана пераплецены з лёсам галоўнага героя. Раман складаецца з пяці частак-**

Устае, падымае скрыню і па снезе імчыць да заводскае кухні

Крычу ёй наўздагон: "Ярмілка, а што сёння на абед?"

"Суп кменавы, вэнджаны свіны пупок і шыпшынавы нектар. Але тая ідэя з шафай, праўда, добрая?"

Ківаю, што ідэя добрая, але ўжо бачу, як пан Яраслаў, вядомы прайдзісвет, каля тае шафы Ярмілцы дасць аплявуху.

Але што тут паробіш? Іду накладаць стружкі, за гэта мне плоцяць. Калі я быў гатовы, брыгадзір паслаў мяне накладаць графіт. Вашак[4] Пруха ўзяў шуфлі, з пустой каляіны мы выкацілі ваганетку і дацягнулі яе ажно да павеці. Адчыняем браму, нахіляем ваганетку, падкладаем пад яе цэглу, каб не перакулілася Я выцягваў з роўных радоў папяровыя мяхі, напоўненыя дробна змолатым графітам, потым вострым шуфлем кожны мех рассякаў, а Вашак вывалены графіт накладаў

Я кажу· "Нібы накладаем усе грахі свету"

"Чаму ж грахі? – адказаў Вашак і кінуў поўны шуфель графіту так, што ўсё знікла ў хмары. – Гэта хутчэй анёльская праца".

"Каб цябе, ты хоць глядзі!"

"А што?" – радаваўся Вашак, кідаючы шуфлі, поўныя гэтага молатага графіту, у ваганетку, і пасля кожнага кідка выбухаў слуп пылу, які пранікаў за каўнер, у нос і ў рот Вашак з гэтае хмары выйшаў ужо зусім чорны, але з белымі зубамі. Абапёрся аб шуфель і сказаў· "Я таксама быў такі даўбень[5]. Заўжды, бывала, калі дэпутаты ў канцлагеры хваліліся, як хто каго ашукаў, я не пярэчыў, а тады казаў: "Вас, пане дэпутаце, ратавала недатыкальнасць, дык вы маглі гаварыць тое, што хацелі, але што, цікава, вы сказалі людзям пана оберландрата, калі яны вас прыйшлі арыштоўваць?" Я там строіў з сябе разумніка, пакуль мяне аднойчы не перавялі ў канцылярыю. Там у мяне за старэйшага быў адзін аўстрыяк з Вены, і той пачаў мне ўбіваць у галаву Маркса. А праз два гады ён мне сказаў· "Шрайбрам[6] у мяне ты тут сёння ў апошні раз, з сённяшняга дня ты іншы чалавек, цяпер ты навучаны і можаш гэтую атруту разносіць далей"

"Ну і?"

"Ну, а цяпер гэтая атрута – усё маё жыццё, усё"

"Пытанне погляду", сказаў я.

"Так, і таму я за А калі мне нехта ў нечым справядліва пярэчыць, я кажу· "І ўсё ж я за!" – прамовіў Вэнца Пруха і працягваў кідаць графіт

Потым сказаў· "Неяк эсэсаўцы занудзіліся, зрабілі пераклічку і наладзілі "дзіцячы дзень" Найперш мы мусілі танцаваць Bärentanz. А праз дзесяць хвілінаў слабыя падалі, і эсэсаўцы іх дабівалі Потым завялі Gansemarsch, тады Blindkuh, і зноў тыя, што пападалі, былі дабітыя. Так мы гулялі ў класікі, у сяданку, у неба-пекла-рай, а ў канцы было катанне бочак[7]"

Я абапёрся аб шуфель, узяў Вашка за плячо і глядзеў на яго, але на ім не адбівалася нічога з таго, пра што распавядаў Калі я выцягнуў чарговы мех графіту, выбег напалоханы пацук.

маналогаў героя (я пісала пра гэты раман крыху больш падрабязна ў часопісе "Полымя" за 1997 год). Каб даць пра іх уяўленне, трэба было б працытаваць не адну старонку тэксту. Скажу коратка на маленькім прыкладзе.

Спантанныя маналогі ВН насычаныя, канцэнтраваныя, яны пабудаваныя на асацыятыўных сувязях і філасофскіх разважаннях, непасрэднасці жыцця і аўтэнтычнасці перажыванняў. Аголенасць пачуццяў і аголенасць душы творцы. Вось апошні маналог афіцыянта Дзіце, які, многа перажыўшы за сваё жыццё, папрасіўся добраахвотна на цэлы год дарожным майстрам у самы глухі і аддалены куток, куды ніхто не хацеў ехаць. У памежных Судэтах, мясцінах, кінутых былымі гаспадарамі, у хаце разам з канём, аўчаркай, кошкай і казой, побач з засыпанай снегам дарогай, герой дасягае вяршыні адзіноты і прасвятлення, піша кнігу пра сваё жыццё. Асэнсоўваючы марнасць сапраўды сізіфавай працы па ўтрыманні дарогі, якая нікуды не вядзе, Дзіце становіцца філосафам, пра што сведчыць хоць бы фрагмент з апошняга маналогу: "А я натхнёна паспавядаў пра сваю магілу, калі раптам памру тут і ад мяне застанецца неабгрызенай хоць бы адна костка, альбо чэрап, прашу пахаваць мяне на могілках, што знаходзяцца на самай вяршыні, хачу быць пахаваным быццам на галоўнай восі гэтых могілак, мару, каб труна з цягам часу пераламілася на мяжы і каб тое, што ад мяне застанецца, з дажджом сцекла на абодва бакі свету, каб вада панесла адну частку мяне ў Чэхію, а





Вашак сказаў· "Глянь ты, пацук! У эсэсаўцаў іх былі поўныя клеткі, і яны дзеля забавы кармілі іх хлебам. Мы часта даставалі сабе хлеб толькі праз тое, што заваблівалі пацукоў у іншы кут, і заўжды які-небудзь гэфтлінк[8] у іх той хлеб выкрадаў Аднойчы аднаго пацук укусіў, і ён ад таго памёр".

Я ўзгадаў: "Калі я працаваў на нарыхтоўках, дык аднаго пацука амаль прыручыў Роўна а палове на адзінаццатую выскокваў з-пад карытаў, і я яго карміў Хутка ўжо так прывык, што жэр за паўметра ад мяне А потым хлопцы яго злавілі ў пастку, закінулі ў карыта з салянай кіслінай і глядзелі, як яму тая кісліна раз'ядала спачатку поўсць, а потым і скуру"

"Не варта мне было гэта расказваць, – з'ялчэў Вэнца Пруха. – Не магу бачыць, як катуюць жывёлу. У Крэмніцы фурман сцябаў каня, дык я таго фурмана выцяў кулаком, а ён мяне адхвастаў бізуном"

Я кажу: "Калі немцы чысцілі Сілезію, дык у тыя маразы нам на станцыю прывезлі на цягніках гавяда. У гэтых адчыненых вагонах. І пасля чатырнаццацідзённай дарогі. Авечкі з голаду паелі сабе поўсць, а тыя каровы, Вэнца, тыя нявінныя каровы. Калі б ты іх толькі бачыў!"

Вашак выцер сабе чорную слязу і прасіпеў: "А гэтага мне тым больш не варта было расказваць! Бо людзі, хоць іх немцы і вазілі гэтаксама, як гэтых жывёл, але ж людзі могуць думаць. "

Ён задумаўся, а тады паправіўся: "Толькі калі ж яны гэтак знясіленыя, дык ужо такія самыя, як тыя авечкі. Што ўжо тут казаць пра гестапа. Тым, хто цябе катуе, не зразумець. Ты для іх кусок гною. У нас быў эсэсавец, мы яго называлі Der eiserne Gustav[9], дык ён паспяваў кожныя тры месяцы замучыць у каменяломнях тры тысячы чалавек. А на новую партыю выбіраў толькі самых цягавітых людзей. Аднойчы на мяне пазірае, я на яго У маім позірку была ўся мая злосць і нянавісць. Але ён усміхнуўся і сказаў мне суха. "Na nu, so was, dass der Hund noch lebt?[10]"

Вашак Пруха паклаў апошні шуфель у ваганетку. Калі мы прыйшлі ў сталоўку, Ярмілка крыкнула. "Добра хоць, што прыйшлі, абармоты!"

Я кажу· "А вы мне кінулі рагалік?"

"Але ж вы, дзядзечка, не далі талоны"

"А вы паглядзіце, Ярмілка, у шафцы!"

"Там нічога няма".

"Толькі паглядзіце учора там быў рагалік, дык сёння там зноў нешта будзе".

"Не гнявіце бога, дзядзечка!" закрычала Ярмілка і адчыніла шафку, і праўда, паліцы былі пустыя. Зачыніла дзверцы і сказала ціха "Хіба што вас задаволіць булка з маслам" Падала мне дзве булкі, вінавата высвятляючы. "Дзядзечка – добры пан. Ён мне вёдры насіць дапамагае"

Еў я тую булку, другую аддаў Вашку, запівалі халоднай гарбатай Вашак распавядаў: "Той eiserne Gustav выбіраў асілкаў у каменяломні, а з ім быў яшчэ адзін, і той, у сваю чаргу, выбіраў слабых гэфтлінкаў у газавую камеру. І тыя небаракі, што ведалі пра гэта,

другую – на другі бок, праз калючы дрот мяжы, да Дунаю, такім чынам я мару стаць пасля смерці грамадзянінам свету, каб праз Влтаву, Лабу дасягнуць Паўночнага мора, а другім накірункам праз Дунай – мора Чорнага, а праз абодва мора дасягнуць Атлантычнага акіяна...".

Грабал не баяўся бруду і смешнага ў чалавечым жыцці. Не прыхарошваў рэчаіснасць. Не саромеўся прызнацца, што ў дзяцінстве ён меў неадольнае жаданне красці, і плакаў, чаму яны не бедныя, тады б ён мог хоць бы крадзяжом дапамагаць маці. Ён меў мужнасць вынесці на свет божы ў мастацкім слове і вобразах гэту паўсядзённасць жыцця, тое, што ў жыцці ёсць, а не тое, што хочацца, каб было. Яго творчасць, вядома ж, не адпавядала канонам сацыялістычнага рэалізму. Таму яго творы не выдаваліся, а імя не трапляла ў школьныя падручнікі. Дваццаць гадоў замоўчвання толькі яшчэ больш узмоцнілі імідж пісьменніка і паспрыялі ВН.

Незвычайнасць ВН... Ці не ў тым, што ён сваю канцэпцыю жыцця заснаваў на быцці, існасці, побыце. Натуралістычную прагу да паталагаанатамавання жыцця ён спалучыў з рамантычнай верай у сонца і прыгажосць. Да таго яшчэ Грабал узяў сюррэалістычную манеру, распаволены тэкст, джойсаўскую плынь свядомасці. Усё гэта быццам бы эклектычнае варыва ВН расплавіў у ціглі сваёй філасофіі. Дадаў іронію, гумар, смешнае. Нездарма ў яго кнігах-тэкстах згадваецца "святы Гілярый, патрон здаровага смеху". А даследчыкі (Р. Пытлік) звязалі яго творчасць з феноменам "пражскай іроніі", якая скан-

з апошніх сіл падымалі камяні і паказвалі моц, але эсэсавец толькі смяяўся: “Ach sie sind so jung und kräftig![11]” І прыйшла ў яго эсэсаўскаю галаву такая ідэя мауляў, які там газ, – тыя, што будуць выбраныя, пойдуць збіраць лекавыя зёлкі. Kräuter sammeln[12] І звязаў габраяў па парах. Калі шэсце рушыла, усе даведаліся, што ён вядзе іх у газавую камеру І нейкі габрайскі танцор са сваім напарнікам разагналіся і галавой звалілі таго эсэсаўца, а астатнія звязаныя габраі таксама кінуліся на яго галовамі... Але потым прыбеглі іншыя эсэсаўцы і разграмілі тую зёлкавую калону, а таго карчомнага танцора растапталі Як памятаю, адны габраі ўзнялі ў нас такую вось рэвалюцыю”.

Я слухаў і глядзеў на Ярмілку, як яна ля буфета ўвесь час лічыла грошы, увесь час нешта сабе шаптала, хапалася за галаву, слініла пальцы і лічыла грошы наноў.

Вашак груба спытаў: “Дык што, Ярмілка, ужо гэтаму вашаму ўстаўляеце мазгі?”

Перастала лічыць, а калі ўбачыла, што Вашак глядзіць ёй на жывот, зачырванелася і сказала: “Калі б так! Той бы мне даў поўху, толькі б аблізнулася!” – кіўнула задаволена і з гонарам, што ўжо некага мае, каму можна даверыцца, што ёй тую поўху дасць. Ажно з тае шчаснае думкі праслязілася Потым расклала грошы на стале, адчыніла шафку, пералічыла кубкі, тыкаючы ў іх двума пальцамі, і сказала. “Яроўшак цяперака страшэнна нервозны, што не можа ісці ў карчму, бо хворы Апошнім разам, калі хварэў, дык пайшоў на “Ражок”, але ягоны прыяцель на яго данёс і Яроўшку скасавалі тры дні На танцах падышоў да мяне Ота, той, што на яго настукаў, але я сказала. “Пане, нам няма пра што гаварыць!” Калі ён прыйшоў у другі раз, я яму сказала· “Пане, я са стукачом не танцую, і пацалуйце мне зад, вось!” Так у залі яму гэта й сказала. Тады былі іншыя часы. Яроўшак тады да мяне быў ласкавы, і мы разам хадзілі мілавацца да запруды. ”

Задыхалася, ажно пачырванела. Расшпіліла кофтачку і выбегла да печаў

## 3

Мы, наўсцяж чорныя, спускаліся па драбінах долу, у бункер з вапнай На дне ўзяліся за рукі, ішлі па шчыкалаткі ў мяккім меліве.

Вашак узгадаў: “Якраз так, хіба што ў кайданах, ішлі ў канцлагеры поруч. прэзідэнт паліцыі ў Мараўскай Остраве і камуністычны дэпутат у Остраве Білэк. Бача, прэзідэнт, маленькі, а Білэк волат. Ідуць перада мной і гутараць: “Ну вось, пане прэзідэнце, набегаліся вы за мной, а зараз я тут у вас зусім блізенька!” – “Але, пане дэпутаце, як вы ад нас тым разам уцяклі, калі я паслаў вас арыштаваць?” – “Дык, пане прэзідэнце, гэта ў вас былі тупыя жандары. Яны тады пыталіся ў мяне, дэпутата Білэка, дзе жыве дэпутат Білэк Я, пане прэзідэнце, быў з барадой і ў леснічоўскай форме”.

Вашак узяў з кута шуфель, я качаргу, і мы адграбалі ад сцен вапну, бо грэйфер туды ўжо дастаць не мог Потым прыехаў асвер[13], расчыніў губкі, апусціў іх на груд, угрызся і падняў

“Ведаеш, што мяне раздражняе? – паскардзіўся Вэнца. – Гэтыя фатаграфіі нашых кіраўнікоў за пісьмовым сталом, у садзе.. і заўсёды папрыбіраныя!”

“Гэта праўда”, – пацвердзіў я.

---

**цэнтравала ў цэнтры Еўропы шмат стагоддзяў смеху, ад сярэднявечных спеваў вагантаў, апокрыфаў шкалярoў, вандроўных камедыянтаў, да Гашака. Непаўторны свет Грабала найперш у непаўторнасці яго такой, здавалася б, звычайнай постаці. Сярод яго настаўнікаў – Рабле, Апалінэр, Селін, Брэтон, Бабель, Ралан Барт... У яго спантанныя, распавоеныя плыні маўлення ўведзены і старажытная філасофія, і Святое пісанне. І да ўсяго гэтага дапасаваны метад калажа, які шырока выкарыстоўвала чэшская група 42, і камбінаваны маналог... Урэшце, свет Грабала – гэта космас сусветнага вопыту і культуры, узрошчаны на чэшскай нацыянальнай глебе, чэшскай ментальнасці, чэшскіх характарах і звычках.**

**Ён нават піва піў, убіраючы ў сябе не толькі хмель, але і атмасферу тэатральнасці, гульні, самавыказванняў. Апавяданне “Карчма”, якое я працытую ў перакладзе А. Цікановіч, было надрукавана ў “Нашай Ніве” ў жалобныя дні развітання з Грабалам. Адказы на пытанне “што такое карчма”, якія складаюць гэтае апавяданне, пераходзяць у вялікія пасажы – разважанні пра ролю карчмы ў нейтралізацыі агрэсіўнасці і мілітарызму. Тут, у карчме, пануе адмысловая атмасфера распаволення, асалоды маўлення, жыцця як гульні. “Што такое карчма – карчма ў маім разуменні? Гэта месца, якое мае свае бясспрэчныя правілы, бясспрэчны рытуал, бясспрэчныя догматы, але, разам з тым, гэта месца, дзе часцей цешыць не столькі game, колькі play – п’еса-**





Ён працягваў: “Памятаю, як Ленін хадзіў, як пан А гэтая яго Крупская! Часта сню гэта. Ленін піша прамову на каленях, сядзіць у фатэлі, абцягнутым белай тканінай. І хоць я каталік, зусім добра яго бачу, як у палацы без свяцільняў, без ацяплення паказвае праз замёрзлыя вокны тое, чаго яшчэ няма. Там, мауляў, пабудуем электрастанцыю, там завод сеялак, тут трактарны...”

Вашак Пруха ўзрушана шлэпаў туды-сюды па калені ў вапне.

І падымаў рукі: “Так, бачу той сон. І я шчасны, што менавіта цяпер жыву. Паглядзеў на самы бязглузды графік, і ўжо мне лягчэй дыхаць, бо ўсё павінна атрымацца. Урэшце, усё – гэта вялікая вера, а я вялікі вернік!”

Асвер падышоў шчыльней і апускаў коўш, мы прыціснуліся да мура. Падняўшы гэты груд вапны, загуў зноў угору да ваганетак і вясёла бразгатаў.

Вашак сеў на вапну.

“Ці распавядаў я табе пра бібláфоршараў[14]?”

“Не”

“Тады ўяві У іх быў свой блок, і кожныя паўгода эсэсаўцы ім прапаноўвалі падпісаць паперу, што яны адракаюцца ад сваёй царквы. А за гэта, мауляў, пойдуць дахаты. Але падпісалі не толькі трое Чэхі. На пачатку вайны ўсталявалася ўжо традыцыя, што камендантам лагера быў аўстрыец, звалі яго Ловіц. Ён загадаў пашыхтаваць біблафоршараў і наўздагад спытаўся ў аднаго: “Падпішаш?” А калі той сказаў не, Ловіц выцягнуў рэвальвер і яго застрэліў. Так ён абышоўся з дзевяццю. Потым павярнуўся да свае світы, падобна, ён перад тым пайшоў з імі ў заклад, што ўсё станецца так, як гэта сталася, і прамовіў з пераможным выглядам. “Na, was hab ich gesagt?[15]” Але паслухай, што ён зрабіў, калі ўжо там былі мы Каля прыбіральні там была маленькая каморка, якую называлі капуф[16], там былі шчоткі, мётлы Хаця не...”

Вашак падпёр пальцам лоб: “Тады ўжо там быў Поль. . Поль! Ён загадаў забіць дзверы ў той капуф, вокнаў там не было, а праз дзірку ў страсе загадаў накідаць поўную каморку біблафоршараў, ажно да столі. Потым угары тую дзіру заткнулі коўдрай, а праз восем гадзінаў коўдру адкінулі. Дзве трацiны з іх былі мёртвыя. Тых жывых спыталі· “Падпішаце, што адракаецеся ад сваёй царквы?” І ўсе сказалі не. Так гэта з тым капуфам паўтаралі некалькі разоў, але заўсёды чулі. “Nein[17]” У тых біблафоршараў быў Антыхрыст numero eins Папа, а numero zwei[18] Гітлер. А сёння я даведаўся з газет, што Папа гэтага былога каменданта канцлагера ў Заксэнгаўзэне блаславіў”.

Я глядзеў з ямы, ішоў снег.

“Вэнца, а ты бачыў Гімлера?”

“Бачыў, стаяў метры за два ад мяне”

“З выгляду ўжо паскуднік, праўда?”

“Дзе там! Сапраўдны святоша. І граф Бэрнардотэ там з ім стаяў ад Чырвонага крыжа Мы, моцныя гэфтлінкі, стаялі спераду, ззаду тыя небаракі .. А перад кухняй, дзе нас пашыхтавалі, ляжалі палавінкі туш парасят, у скрынях гарох, рыс, сала . нябачнае багацце .. Граф Бэрнардотэ ў нас выпытваў· “За што вы тут?” А мы цвердзілі, як нас

---

**гульня, якой яны давяраюцца пад уплывам хвалі, – гульня дарослых дзяцей. Карчма – гэта як бы абарона ад стэрэатыпу, урэшце, гэта тое месца, дзе самыя звычайныя людзі могуць імправізаваць, могуць аддацца рытму натхнення і фантазіі. Карчма – гэта тое месца, якое добры карчмар здольныператварыць у тэатр...”**

**Так, разважаючы пра карчму ў сваёй спантаннай манеры, ВН прыводзіць мноства канкрэтных выпадкаў, так бы мовіць, фальклору карчмы і ўвесь час вяртаецца да галоўнай мэты – вызначэння. “Карчма – гэта яшчэ й месца, дзе ўжо нельга знайсці цішыні і самоты, бо тады з’яўляюцца прыкметы смерці, забарона гуляць у карты, прадаваць алкагольныя напоі людзям нападпітку, шафёрам і малалеткам, забарона весці палітычныя гутаркі. Ну, зразумела! Карчма мае нешта надзвычайнае ў сваіх рытуалах, дзе госці ўвесь час поўняцца то ўзаемапавагай, то ўзаемаіроніяй, то ўзаеманянавісцю, то абыякавасцю – усім, толькі не санлівасцю, а калі так і прыпадае, то не кладуцца на канапе, як дома”.**

**Усе канфліктныя сітуацыі людзі могуць вырашаць за куфлем піва: “Карчма ёсць месца, якое больш за ўсё супраць вайны. Хто ходзіць у карчму, не жадае скончыць сваё жыццё салдатам, забітым на чужой зямлі, зрэшты, як не жадае загінуць і на радзіме, у тым горадзе, мястэчку ці вёсцы, дзе стаіць яго карчма”. Тут узнікае вельмі блізкая паралель з Гашакам і яго прадмовай да Швэйка, памятаеце, пра параўнанне Швэйка з**

гэтаму навучылі тры забойствы. . забойства дзіцяці згвалтаванне непаўналетняй дачкі . Гэта найчасцей .."

"А што hochverrat?[19]"

Вашак ускочыў і зноў пачаў баразніць туды-сюды вапну.

"Які на ліха hochverrat! Усё мусіла быць у найлепшым парадку Але я ў гэта ўсё адно дасюль не веру Я калі рапартаваў графу, што забіў свайго бацьку, дык яму падмігваў. Але граф быў задаволены, парукаліся з Гімлерам і пайшлі далей у лагер, дзе ляжалі мусульмане".

"Гэта як?"

"Там ляжалі безнадзейна хворыя, паміралі Але эсэсаўцы на іх накідалі саломы, на тую салому наклалі сеннікоў і ў вакно паказвалі графу: "Гэта ў нас падрыхтавана на выпадак халеры" І зноў пацiснулі рукі з Гімлерам".

Прыехаў асвер, і мы ўзяліся накладаць вапну.

Я быў стомлены, але Вашак Пруха выпраменьваў здароўе і шчасце, пырскаў моцай, нібыта ад усяго таго, што ён перажыў, хутчэй адпачыў, чым знясілеў. Але я добра ведаў, што, калі ён вярнуўся, важыў сорак пяць кіло. Цяпер ён смяяўся, і белая пена блішчала ў кутках яго вуснаў. .

Мы вылезлі па драбінах, выйшлі з цёмнага бункера ў завею і пазіралі, як электрамагнітныя асверы кідаюцца на скрап, разварушваюць гэтае ламачча і ўзносяцца са здабычай, каб яе апусціць потым у латак.

Мы пайшлі далей, але адразу вымушаны былі спыніцца Адзін з тых асвераў апускаў магніт на лоўж сініх стружак, а тыя стружкі ўжо загадзя дзесяткамі тысяч выскоквалі магніту насустрач, каб узняцца ў паветра, зліцца з астатнімі і лавінай несціся далей

"Вось нам бы такую еднасць!" – усміхнуўся Вэнца.

"Варта б але колькі ты важыш?"

"Дзевяноста два. І ўсё адно гэтыя чэхі – хлопцы хоць куды. Дзе з імі каму цягацца! Нас там было дваццаць нацый, але чэхі адны ведалі, дзе, што і як. Дзе купіць хлеба. і ўсё такое. – Пацёр сабе рукі. – Цікава, што мы ў грамадзе часта сварыліся, але кожны паасобку – мы геніі Гэта вельмі дзіўна! Я чытаў, як у напалеонаўскіх войнах дзесяць аўстрыйскіх гусараў лёгка разбілі трыццаць французскіх, але адна французская дывізія без асаблівых высілкаў адолела дывізію аўстрыйскую. Або які-небудзь амерыканец! Той больш мужны, дыхтоўнейшы, чым немец. Але рота немцаў, гэта ўжо нешта. Табе гэта цікава?"

"Цікава", сказаў я, зайздросцячы Вашкаваму здароўю.

"Тады паглядзі на той двор Рота палонных амерыканцаў, яны б тут здохлі з голаду Але рота рускіх, яны тут знойдуць пажыву З травы суп, вунь з тых ваганетак, з падшыпнікаў возьмуць каламазь і зробяць сабе паштэт, і будуць жыць. Або ўзяць якую рускую гром-бабу Ляжыць два дні ў снезе і чакае нямецкую машыну! Калі такой бабе даць бак бензіна – яна яго да фронту дакоціць. На рускіх я стаўлю ўсё Толькі немцы, яны мяне палохаюць. Калі б іх абяззброіць! Ужо мне гэтыя іх пасылкі на фронт. Крыху цукерак, каб не заснулі, крыху глюкозы, цукаты. Гэта пасылка, але хопіць яе на дзень-



два. А тады мы таксама дзівіліся, як можна з мінімальнымі сродкамі дасягнуць максімальных вынікаў. Вядома ж, руские! Яны былі і ёсць маім рухавіком... Жанчыны? Выпіўка? Гэтага мала... Ідэя!"

Я кажу· "Але гэтая рэчаіснасць мелася б ужо праявіцца, ужо б мелася здзейсніцца. "

"Усё так! Але я гляджу наперад. І хоць я ведаю, што ёсць таксама людзі супраць, усё ж найважнейшае для мяне тое, што я бачу на даляглядзе. А гэта сацыялізм... Каб я не забыўся! Быў там адзін спрытны эсэсавец, звалі яго Багада Ён паклікаў нашага лекара і хацеў ад яго, каб разрэзаў грудзі жывога гэфтлінка. Хацеў бачыць, як б'ецца чалавечае сэрца"

"Божа!" – хапаюся я за галоў; адчыняю дзверы сталоўкі, страсаю снег

Ярмілка падлічвае грошы

Потым паварочваецца, бярэ мяне за рукаў і заплюшчвае ад шчасця вочы: "Уявіце сабе! Быў у мяне адзін з запіскай. Бацькі Ярду аддалі ўжо адрамантаваную хату ў іх на двары А заўтра мне трэба туды прыйсці мыць падлогу. А яшчэ мне Яроўшак перадае, каб я ўсё абдумала, куды павесіць сямейныя партрэты, куды люстэрка. "

**4**

Сёння зноў ішоў снег Не той белы, а кладнаўскі, ужо змяшаны з пылам Іду Ярмілцы насустрач да самага буфета Бачу яе – стаіць убаку, тымчасам як за прыталакай разносчыцы адна за другой падстаўляюць корабы, у якія прадаўшчыцы кідаюць свежыя рагалікі і падлічваюць іх. Бачу Ярмілку, сашчапіла рукі пад жыватом, потым падымае квіток з нумарам і крычыць: "Гэленка, дайце ўжо і мне!"

Нарэшце ёй Гэленка накладае ў кораб рагалікаў з верхам, бярэ ў яе талоны, а я падскокваю і дапамагаю Ярмілцы нацягнуць шлейкі.

Разносчыцы ўсклікаюць: "Ярмілка, гэта твой жаніх!"

А яна ўсміхаецца: "Што вы! Гэта так, а то б я ад Яроўшка схапіла па карку!"

Бяру вёдры з кавай, і мы выходзім у змрок. Ля буфетнай сцяны блішчаць выварaныя галовы кароў

Я кажу· "Ну, што новага?"

"Усё добра, дзядзечка, добра, але мусіце мне трымаць кулакі Ярда сабе на другой змене параніў нагу абцугамі. Сяджу я ўчора дома ля акенца, і раптам загамавала машына, вылез пан і кажа, маўляў, я той і той, і калі хочаце паглядзець на Ярду, тады едзем. Дык я паехала. трасца на вас, дзядзечка, каб вы на тым лёдзе не пляснуліся, бо тады дзевяноста сем крон у задніцы, толькі б свіснулі!"

Палохаюся і кажу· "Ды ну!"

А Ярмілка працягвае· "Сам дзед выйшаў мяне сустракаць, а баба мне дала шэсць яек і паўтара кіло мукі на бабку, і цукеркі Так я пасядзела, а ён плакаў, што не можа пайсці ў карчму Калі мы развіталіся, я кажу, уся ў слязах: "Яроўшак, хадзем мяне праводзіш" А ён адказвае "Што ж я, ты дурніца дурная, магу з гэтай нагой?" Дык дзед ішоў са мной ажно да Стэгэлчаўсі, а гэта ўжо нешта значыць"

---

**Герастратам ("ён не спаліў храма багіні ў Эфесе, як гэта зрабіў дурны Герастрат, каб трапіць у школьныя падручнікі, – і гэтага дастаткова"). А ў Грабала: "Спаліць свет у вайне, спаліць свет у рэвалюцыі і гвалце ёсць злачынства не толькі супраць людзей, але супраць карчмы – той самай дурной, самай банальнай карчмы".**

**Карміў галубоў у шпітальным вакне, перад тым як адысці ў нябыт... Нябыт... Не – гэта не пра яго. Каб пачаць новае быццё. У памяці чалавецтва, у памяці тых простых людзей негераічных біяграфій і паводзін, якіх ён услявіў у прыгожым пісьменстве. Рамеснікі, піўвары, крамнікі, мяснікі, пекары... чацвёртае саслоўе, па словах самога пісьменніка.**

**Ёсць людзі са смуткам ва ўсім абліччы. У кожным руху, у кожным жэсце. Углядзімся ў фотаздымкі Грабала. Амаль на ўсіх – з дзяцінства да апошніх у шпіталі, дзе Грабал чытае манаграфію пра самога сябе, – ён амаль не ўсміхаецца, а часам і ўсмешка не можа сцерці пячатку суму і адзіноты. Вось ён у тры гады, з матуляй з дзядзькам. А вось сталы і асірацелы ўжо ў каторы раз, пасля смерці жонкі, якая цяжка хварэла на рак... Пасля смерці даўняга сябра, мастака-графіка Уладзіміра Будніка, які скончыў самагубствам у 68-м годзе... Вось з катамі на дачы... У карчме "У залатога тыгра", дзе яго наведалі два прэзідэнты – Гавэл і Клінтан падчас афіцыйнага візіту Клінтана ў Чэхію. Ад маладосці да старасці, да глыбокіх зморшчын – сум адзіноты.**

**Напрыканцы колькі слоў пра маю несустрэчу з Грабалам. Я пачала ездзіць у Прагу толькі ў васьмідзесятыя гады. Мела ў сваёй хатняй бібліятэцы яго першыя зборнікі, выдадзеныя напачатку шасцідзесятых. Пасля пісьменнік як бы знік з інфармацыйнай савецкай прасторы. Але ўсе гэтыя дысідэнцкія гады ён шмат пісаў, яго кніжкі жылі ў рукапісах, самвыдаце, дакладней, у андэграўндзе. Пра гэта ведалі канадцы, англічане, немцы, але савецкія спецслужбы і цэнзура пільна сачылі, каб крамола ў выглядзе кніжак Грабала, інфармацыі аб ім не прасочвалася да нас. На радзіме яго афіцыйна замоўчвалі, не выдавалі, зразумела, і ва ўсім сацыялістычным лагеры. Грабал наўмысна не хацеў ніколі адпавядаць нейкаму там стандартнаму метаду, узаконенаму інструкцыямі. Ён сваёй творчасцю адмаўляў усялякае чынавенства, усялякі ціск на Яго Вялікасць Жыццё і Чалавечую Асобу. Услаўляў свабоду і права на нетыповыя паводзіны і думкі. І стаяў на гэтым. Верны сабе, ён унікнуў палітычных кампрамісаў, зрабіўся дысідэнтам, які стала прапісаўся ў пражскіх піўных. Дзе яго і знаходзілі іншыя.**

**Незвычайны ВН. Просты ВН. Складаны ВН. Яшчэ адзін чэшскі дыямент у кароне сусветнай літаратуры.**

**Ірына ШАБЛОЎСКАЯ**

"А калі будзе вяселле?"

"Відаць, у сакавіку. Да лютага тут яшчэ буду, а тады, Полдаўка, шчаслiва заставацца!"

Ярмілка павярнулася, махае рукой курным комінам і адразу ў мяне пытаецца: "А вы, дзядзечка, адзін?"

Я кажу: "Ёсць яшчэ брат, але той ужо тры месяцы ў шпіталі".

Ярмілка мяне суцяшае· "То б вашы бацькі адразу павар'яцелі .."

Не ведаю, што казаць, так ідзем з прыцемкаў да святла ліхтароў, а заводскае радыё зверху здрыгаецца духавым аркестрам, і "Муграўэры" радасна спяваюць. " .. зелянее за гасцінцам, сачавічка зеляна . "

Ярмілка, закладзеная ў шлейкі кораба, падымае галоўку і крычыць у неба: "Ідзіце вы да д'ябла і не нагадвайце мне пра польку! Што мне цяпер з яе? Пайшла купіць дзіцячы вазок, але ж чатыры тысячы, а дзе ўзяць і не красці? А дзе я вазьму пялюшкі, кашулькі? Дзе?" Але "Муграўэры", быццам не пачуўшы Ярмілкінага голасу, шчабяталі далей· ". .як пайду туды на золку, і я ведаю нашто..." Ярмілка паказала пальчыкам на сябе і прамовіла. "Ну-ну, давайце бедным дзяўчатам рады. Я таксама гэта ведала, і вось цяпер гэта маю! А на што вокам ні кіну, каштуе тысячы!"

Тыя самыя галасы, але ўжо з іншага рэпрадуктара, набліжаюцца да нас спераду і зноў радуюцца " ..каб і нашы ведалі, што хаджу там за табой..."

Ярмілка цяжка ўздыхнула і сказала. "Звычайны чалавек ад гэтых галасоў не можа ўцячы, гэта ў іх выдатна наладжана"

Уваходзім у сталоўку Стаўлю вёдры на стол. Ярмілка вылазіць са шлеек, здымае паліто, сёння яна ў страшэнных рызманах, але мне гэтая яе адзежа мілая, шаты з шатаў

Па абедзе мы з Вашкам Прухам накладалі манган. Вашак падняў саракакілаграмовую брылу, абапёр яе аб кант латака.

"Якраз такія камяні мы насілі, калі будавалі штурмбанфюрэру Ловіцу вальер для мядзведзяў, якіх яму ягоныя салдаты паслалі з Нарвегіі", – сказаў ён і скінуў брылу ў мульду.

"Я вось думаю, Вэнца, як гэта вы, камуністы, перажылі той час?"

"Як? У камуністаў у руках было ўсё ўнутранае кіраўніцтва ў канцлагеры. Ну. . ну скажам. Адзін дэпутат імперскага сойму, Наюкс, камуніст, даведаўся, што чэшскі камуністычны дэпутат якраз на шляху ў лагер. Як начальнік блоку, ён яго пачакаў ля брамы і там на яго накінуўся, збіў для выгляду, зганьбіў .. Але адправіў у той блок, куды сам хацеў. Потым надыходзіла змена імя, нумароў так што ўрэшце гэта ўжо быў нехта зусім іншы. Але аднойчы ідзем мы па двары, і ля самай брамы выпала ў гэфтлінка з кішэні паперына, а гэта былі апошнія навіны рускага радыё...

Злапалі яго, праверка, і пад wäscherei[20] знайшлі падпольны прыёмнік", – сказаў Вашак і зрабіў у мульдзе грэбельку

"І тады за таго небараку ўзяўся Der eiserne Gustav Найперш папераламаў яму рукі, ад пальцаў да плячэй, але гэфтлінк не сказаў нічога Потым кінуў яго ў сад і там ездзіў па ім на катку для трамбавання грунту... Заездзіў яго да смерці, але нічога не выцягнуў Ну й свіння быў той Густаў!" – выдыхнуў Вашак і хутка-хутка пачаў кідаць у мульду; цвёрды, але крохкі, манган ламаўся, і на зломах зіхацеў, бы газа, вясёлкавымі фарбамі.

"Неяк Густаў прыйшоў яшчэ да пабудкі і наказаў не званіць . Сам выцягнуў сэрца са звона і сам пайшоў будзіць... Маўляў, як матуля дзетак па галоўцы. . Забіў так тым сэрцам ад звона чалавек шэсць-сем, яны нават не прачнуліся, і павесіў тыя пяць кіло на месца, нацягнуў белыя пальчаткі і паехаў на кані купацца Але калі-нікалі былі ў лагеры і ўсцешныя хвілі Тыя, што да нас прыйшлі з Moorgebiet[21], нам расказвалі такое, ажно мы былі шчасныя, што мы тут, у сухасці, у канцлагеры Яны былі аднекуль з люнэбургскіх верасавішчаў, з пачатку вайны гэта быў табар толькі для рамесных злачынцаў, якія працай у дрыгве скарачалі пакаранне напалову, але потым там рабілі й палітычныя, на скананне Жылі ў бараках на палях, увесь час у вільгаці і ад відна да відна засыпалі багну, на яе потым сеяўся верас, а на тое верасавішча лес. Яны спявалі такую сумную песню, якую потым спявалі і мы, і ў іншых канцлагерах... неяк так. ."

Вашак выпрастаўся

"Wir sind Soldaten. wir rücken mit Spaten, für uns ist kein Frühling da Потым нешта накшталт. Мы бачым сонца за смугой камароў .. А заканчвалася гэта. Die Arbeit ist unendlich.. [22]"





Я застаўся стаяць з манганам на канцы латака. Пазіраў у басейн на кафлю, вада была цёплая, і таму на беразе ўжо прабівалася зялёная траўка.

Потым мы зноў накладалі, крыху пасядзелі, але Вашку ўсё згадваліся тыя шэсць гадоў

"Быў я там на перавозцы Аднойчы едзем з ролвагнам[23] над былым пясчаным кар'ерам, дзе ў тым часе была так званая Sonnenkommando[24]. Там стаялі голыя старыя людзі і паміралі ў гарачыні ліпеньскага сонца. Датуль там стаялі, пакуль не памерлі самі, або іх забілі Цельцы ў іх былі ўжо як націнкі, а ногі набраклыя, як бочкі... эсэсаўцы ім рассякалі пухіры, а тыя старыя. . уцякалі і дзіўна пішчалі . а мы стаялі з ролвагнам над імі і шчыра смяяліся, ледзь не палопаліся, так гэта камічна выглядала. Потым мы на сябе паглядзелі і сказалі сабе· "Дзе гэта мы?" І ведаеш, той наш смех, гэта было нешта большае, чым плач".

Мы кінулі апошнія кавалкі мангану, узяліся пад рукі і схіленыя выйшлі на скавыш. Снег коса біў і прыплюшчваў вочы.

На рагу мы наскочылі на Ярмілку.

"Што гэта вы такая?" – кажу

"Забыла мужыкам купіць цыгарэты, і яны не хочуць мне даць кажушок! Але хай яны яго сабе ў адно месца засунуць. Я ўсё адно вось-вось дадому пайду..."

Вашак абняў мяне за плечы і пазіраў на Ярмілку, зусім як я.

"Мы вас, Ярмілка, усё адно любім, а калі ў вас будзе дзіцятка прыйдзем на вас паглядзець"

Натапырыла губкі і заірдзелася "Дай, божа, чутае ўбачыць!" – сказала яна і паімчала да сталоўкі, ловячы рукамі сняжынкі .

## 5

Асвер пераносіў ваганетку на ланцугах праз увесь завод, але людзі долу спакойна працавалі. Потым ваганетка спусцілася зверху, і асвернік яе спыніў над самай зямлёй Я яе падцягнуў, даў знак, і яна стала роўна на рэйкі.

Брыгадзір ужо зазірнуў у бутэльку і цяпер халявіў, а калі праходзіў паўз мяне, кінуў· "Шымандл не прыйшоў... ля варот маеш цыгана!" – і панёсся далей да электрапечаў

Я гляджу, а ў фортцы стаіць Вашак Пруха, і з ім цыган у капелюшы.

"Так, бароне, што вочы вырачыў, – хадзі штурхаць ваганетку", – крычу я, і цыган неахвотна паплёўся.

"Што ты на яго, як на свякруху .. – папракнуў мяне Вашак – Гэта ж дзеці!"

Цыган толькі трымаўся за ваганетку

"Ліха на цябе, бароне, бярыся!"

"Ай . пан злы, злы.. " – бурчэў цыган

"Ну што ты на яго так, – зноў упрошваў мяне Вэнца. – Гітлер іх панішчыў, а цяпер яшчэ і ты. Калі б ты бачыў, як цыганяты хадзілі, узяўшыся за рукі, па канцлагеры і спявалі нямецкія маршы, і як іх потым усё адно памардавалі разам з курвамі. ." – гаварыў ён і сталёвым шастом адчыняў скрыню са срэбным сіліцыем.

Цыган тут быў як не свой, уважаў сябе за госця, і адразу было відаць, што абдумвае, як бы адкруціцца.

"Бароне, нікуды не пойдзеш, я па мордзе тваёй бачу, што хочаш пад нас падкапацца", – крычаў я.

"Раны боскія! Сэрца Езусава! Цыган павінен паесці!"

"Але ж ты ні халеры не зрабіў! Спачатку нешта робяць, а потым ядуць!"

"Не, цыган спачатку есці, а потым рабіць. І холадна".

"Ну што ты на яго так", – шаптаў мне Вашак і сыпаў сіліцый у ваганетку.

"Ну дык глядзі, бароне Пайдзі абагрэцца да печы, сядзь пад васьмёркай, я туды па цябе праз паўгадзіны прыйду

"О пан, пан добры.. добры . добры..." – тросся цыган, панёсся.

"Ну ты, бляха! – засмяяўся Вашак. – У яго з сабой лязо, майстар яму, маўляў, не запісаў тры змены, дык ён яго хоча зарэзаць. Ён мне паказваў тое лязо. А ты з ім сварышся"

"Не люблю левых людзей на працы"

Я стаў на буфер ваганеткі і ўзяўся разграбаць рукавіцай сіліцый

"Ведаеш, – абапёрся Вашак аб шост, – я таксама часам гляджу на людзей, як ты,

але як толькі згадаю Заксэнгаўзэн, адразу раблюся спагадлівым. Чалавек – ён зусім не тое, да чаго мы прывыклі з кніг Эсэсаўцы, скажам, неяк нудзіліся, дык не далі нам паесці, але кухарам далі нажэрціся, чаго толькі тыя хацелі, а яшчэ да таго бочку піва і самагонкі. А калі кухары так нажэрліся, што маглі гэта ўсё намацаць у сябе ў горле, вывелі іх на пераклічку, і адразу ж nieder. auf. Nieder... auf![25] І датуль тыя павінны былі катацца па зямлі, пакуль гэта ўсё не павырыгалі, а гэфтлінкі... павыбіралі выкладчыкаў, мастакоў . тыя гэта павінны былі з зямлі есці . Нашчадкі пакалення, якое ганарылася, што бачыла Гётэ, – эсэсаўцы, яны з гэтага рагаталі, і надта бавіліся Або, хто гэта быў Гайнрых Кампфэ!"

Пры ўспаміне аб ім Вашак выцяў шастом аб рэйку

"Прыгажун, тонкі ў пасе, як панна, шырокія плечы, фуражка на лоб.. карацей, красун, але гнюс. Як лагеркамендант, калі яму гэфтлінк не падабаўся, выцягваў сангвін і пісаў таму на лоб лічбу, якая абазначала, за колькі дзён мае быць зліквідаваны. На святы некалькі гэфтлінкаў выпускаліся на волю. Гэта было як латарэя. . А што калі гэта буду я? Гайнрых Кампфэ выклікаў, выпытваў анкетныя звесткі, і была ўмова, каб той, каго маюць выпусціць, каб той быў здаровы

Выклікаў аднаго нябогу і. . Wann geboren, wo geboren.. [26] і гэтак далей.. амаль чвэрць гадзіны, пакуль нарэшце не спытаўся Гайнрых Кампфэ: "Und sind Sie gesund?"[27] А той небарака самым здаровым голасам выкрыкнуў: "Jawohl!"[28] А прыгажун Гайнрых з размаху нагой перабіў яму галёнку і пытаецца ў небаракі, што курчыўся на зямлі "Sind Sie noch gesund?"[29] Але той зноў усклікнуў: "Jawohl!" Тут Гайнрых нахіліўся і напісаў яму сангвінам на лоб лічбу, бо той гэфтлінк быў хлус. Так учынілі і з чэмпіёнам Еўропы ў бегу на сто і дзвесце метраў Осэндарпам, галандцам. Гайнрых паабяцаў яму, што, калі той выйграе ў іхніх догаў, пойдзе дадому . Так Осэндарпу абматалі вакол шыі leberwurst[30], і на знак выбег чэмпіён Еўропы, і тыя догі. Осэндарп апераджаў і дабег бы да сваёй мэты першым, але тут эсэсавец прастрэліў яму нагу, і догі задралі Осэндарпа да смерці. "

Мы высыпáлі сіліцый, пустыя скрыні складалі ў стосы...

Цыган вярнуўся, але калі ўбачыў, што яшчэ ёсць праца, схапіўся за жывот і пачаў сябе шкадаваць: "Пані Марыя! Цыгана схапіў боль. . жывот у цыгана баліць!"

"Ідзі. . кажу я, – ідзі, цыгане . можа, нам пашчасціць, і сарцір пад табой праваліцца"

А цыган пахвальваў: " ..о, пан добры!"

І пайшоў напрасткі на абед.

Разраўняўшы ў з верхам напоўненай ваганетцы сіліцый, мы выйшлі да магазіна Там грэўся худы брыгаднік[31], якога ўсе называлі Атамам.

Расхінуў рукі: "Павіншуйце мяне! Я, хлопцы, зноў нарадзіўся!"

Я кажу: "Гэта як?"

"Дзесяць дзён быў зачынены .. памылкова!"

Вашак яго павіншаваў і пытаецца "Як справы з выпрабаваннямі?"

"Выдатна! Прафесар мне спачатку не верыў А калі я яму зрабіў катодавую гармату, ён ажно сеў. Але я ўвесь час баюся, каб не адправіць гэты Сусвет у сраку! Таму працую над выкарыстаннем прыроднай электрычнасці. А яе, хлопцы, процьма. Сілавыя лініі ў магнітным полі.. Суцэльнае вялікачастотнае напружанне. А найперш я зрабіў электронны пісталет. Пан прафесар Фанін засумняваўся, дык я падышоў да вакна і кажу: "Чый гэта сабака?" Прафесар гаворыць. "Гэта мой Гарык". Тады я на цюцьку навёў электронны пісталет, націснуў . той і паваліўся. Прафесар Фанін адразу да яго, разрэзаў яму галаву, а мазгі ў блін! Хлопцы, я б той прыроднай электрычнасцю вывеў з ужытку Standard Oil Company, вугалле, рухавікі ўнутранага спальвання! Таму цяпер на мяне цэляй на мяне! Але я хачу гэта патэнтаваць у Балтыморы!"

"Ну дык памагай бог!" – сказаў Вашак і пачухаўся

Калі мы ўжо адчынялі дзверы, Атам нам закрычаў: "Хлопцы сёння ўтопія, заўтра рэальнасць!"

І мы ўвайшлі ў сталоўку

Ярмілка мне ківае, і я адразу бачу, што будзе нейкая сумная навіна Бяру кубачак у руку, гляджу ў іншы бок і пытаюся: "Нешта здарылася?"

"Ведаеце, дзядзечка. . ведаеце, гэта так сумна, калі дзеўкі з аднаго са мной года ўжо шчасліва замужам.. а я? Што я вам казала, дык усё сабе намаўляла, думала, што прачну-





ся – і ўсё будзе так, як я сабе гэта прыдумала. Але ён мяне не хоча, ён мяне не возьме. . ужо са мной і не размаўляе. Я думала, што, можа, ужо ў сабе разбярэцца. ."

Трымаю кубачак, стаўлю яго на стол і зноўку бяру ў руку Не ведаю, што казаць, таму пераводжу гаворку: "Я ведаю, што вы раней любілі танцаваць, ці праўда?"

У Ярмілкі цяклі слёзы, але ў вачах ужо зайграла радасць.

"Я? На ўсе гулі бегала. Калі танцавалі ў Кладне, ішла ў Кладна, калі музыка была ў Бушцеградзе, танцавала ў Бушцеградзе, калі ў Гржэбец прыязджаў духавы аркестр, скакала ў Гржэбцы. . А дома, у нас! Што вам гаварыць! Хадзіла нас чалавек трыццаць, нашы хлопцы, страшэнныя задзіры, толькі на мяне нехта кепска зірне, а яны ўжо з тым разабраліся "

Гляджу на яе і бачу, што кожная фраза яе міласэрна адцягвае ад бруха.

Я кажу: "А раней гэта не здарыцца?"

Трасанула жыватом

"Не, вядома ж, не! Калі ён мне гэта зрабіў другога верасня, значыць, спаражнюся другога чэрвеня .. Але хадземце падлічым рагалікі!"

Падстаўляе фартух, я кідаю туды рагалікі і лічу...

". .дзевяноста шэсць".

Ярмілка бярэ скрыню з сінімі кубкамі кавы, але ейная начальніца ёй крычыць: "Нікуды не хадзі! Зноў будзеш на печах румзаць!"

"Дык ідзіце, бабуся, туды самі . " кажа Ярмілка, становіцца ля сваёй шафкі, прыхіляецца лобам да дзверцаў, падносіць скамечаную хустку да вачэй і апускае голаў. Тады старая падыходзіць да яе, дае ёй гэтую скрыню, і Ярмілка на пальцах пералічвае, каму тую каву даць.

"Адну Ондржэю, адну на каўшы, адну дырэктару, адну на пліты, адну спадручніцы Маржцы, адну "

## 6

Стаю ля сёмай мартэнаўскай печы і пытаюся ў сталявара Мудры "Майстра, а ці бачылі вы сябе?"

Бачыў, але строіць, што не бачыў

"Дзе гэта?"

Я кажу: "Ну, у Празе, на Народным праспекце, насупраць "Папы", сёння там грамафонная фабрыка Там вісіць двухметровае табло з кавалерам Ордэна працы дык гэта вы!"

Ужо там сябе сталявар Мудра бачыў, і не аднойчы, але працягвае цешыцца: "Я на тым табло?"

"Ну, – кажу, – такі-і вось вялікі, праз усю сцяну, і пазіраеце там, як пісьменнік".

Сталявар ідзе, калыхаючы клубамі, бярэ кручок, апускае на вочы акуляры, дае знак спадручніцы Маржцы, каб націснула кнопку Печ палае пурпуровым агнём, а сталявар паказвае ў бурлівай вытапцы памочніку, што і як.

Зноў прыклыпаў

"А ў што я там апрануты?"

"У кашулю наросхрыст і святочны пінжак"

"Ага, дык там гэтая фатаграфія? – строіць з сябе дурня – Цяпер там будзе вісець мая найноўшая. з гальштукам. Але добра, што ты мне гэта сказаў, трэба ўзяць старую ў Прагу, каб пабачыла, хто я Бо яна на мяне зноў нешта ўзвялася Дык гаворыш, на Народным праспекце?"

Ужо пад'язджае асвер, будзем з Вашкам насыпаць на печах; я лезу па сходах угору, пераключаю падважнік, і шаржырны асвер ператвараецца ў звычайны Котка пасоўваецца, і крук апускаецца Вашак накідвае колца з ланцугамі чапляем ваганеткі за буферы, асвер адносіць іх да паліц і хутка там ставіць. Перакідваю зашчапку, за буфер закладваюцца ланцугі, асвер падымаецца і высыпае ў адным месцы манган, у іншым – вапну, сіліцый, клінкер.

Гляджу, па платформе ідзе Ярмілка

"Дзень добры, Ярмілка!"

Трымаю ланцуг і ўсміхаюся

"І не кажыце мне нічога! Я страціла пяцьдзесят крон!"

"Як гэта?"

"Відаць, згубіла..."

А спадручніца Маржка крычыць Ярмілцы: "Дык што, залётніца, калі будзеш рабіць пш-пш-пшшшш?"

Ярмілка пераводзіць вочы, усаджваецца на лаўку поруч са спадручніцай, якая зараз у перапынку нешта вяжа; кожную хвілю тое вязанне раскладае на каленях і доўга яго аглядае. Ярмілка выцірае сабе пальцы, бярэ яго ў рукі.

"Яруш, глядзі, не павыцягвай мне пруткі!"

"Маржка.. – чырванее Ярмілка. – Гэта як – дзве пярэднія і дзве вываратныя?"

Пытаецца, але я бачу, што пытаецца ад сораму, што сама ніколі нічога не звяжа, толькі так пытаецца, каб Маржка надта не выпытвала Вяртае вязанне і збірае міскі з-пад супу, тымчасам як маладзіца, Маржка, вяжа далей; яна спакойна можа вязаць далей, бо ўжо мае на ўсё пячатку і добрага мужыка дома, і ў жываце дзіця... А Ярмілка?

Асвернік вярнуў Ярмілцы кубачак.

"Дык што? Клікалі цябе на сацыялку?[32]"

Усе абступаюць Ярмілку Апусціла вочы.

"Клікалі, дзядзечка, клікалі, але я туды не пайшла. Дык туды пайшла мама, але калі ў яе пыталіся, што ды як, мама таксама расплакалася. Тады яны прыйшлі да нас і пыталіся ў мяне, але я не магла нічога сказаць.. "

"Глядзі, Яруш, тут ужо йдзецца пра тое дзіця. ." – паклаў руку ёй на плечы асвернік.

"Я ведаю. . Але калі ж мне здавалася такім дзіўным скардзіцца на таго, каго б пальцам не зачапіла, то ж бо то".

"Але тут ідзецца пра дзіця!"

"Ідзецца. .– сказала Ярмілка. – Але ж нешта ёсць, а чагось няма, па праўдзе. . Дык на што тады ўстановы?"

Слёзы капалі ёй на фартушок.

Стары разліўнік ёй сказаў: "Ведаеш, Ярмілка, калі прыйдзе той твой час, дык пойдзеш спачатку на сацыялку, а потым толькі ў суд. Я калісь са сваёй Лаўрай таксама заляцеў! Я тады быў у войску, прыйшла позва, пайшоў я ў суд, а суддзя мне гаворыць. "Сядзьце, закурыце, будзе вам з гэтага блага!" Але я кажу· "Пане суддзя, я сваю Лаўру кахаю, і калі прыйду з войска, так адразу пажэнімся, мы кахаем адно аднаго!" Тады ён у мяне спытаў: "Вы бацька?" Кажу· "Так". Падпісаў я ўсё, а Лаўра ўжо мяне чакала перад судом, і мы адразу памералі сілы ў гатэлі Такія раней былі часы, і людзі былі цнатлівейшыя".

"Так гэта і мае быць!" – усклікнула Ярмілка ў слязах. Потым пасур'ёзнела і спыталася "Дзеда, калі б у мяне гэта ўсё не выйшла, як думаеце, ці трэба паслаць Яроўшку прашэнне?"

Але якраз падышлі тры разліўнікі, і адзін з іх усклікнуў·

"Ну што, дзед, дупло ты старое, што думаеш, ці варта паставіць крыжык[33] на "Хомутаў"?"

Стары прахрыпеў: "Я б не паставіў.. хіба распісаць трыз. .[34] У апошні раз я праляцеў . у мяне там, курва, двойка была!"

Ярмілка пацягнула старога за фартух: "Дзеда, што думаеце, ці трэба мне паслаць прашэнне?"

Але стары хмурнеў больш і больш.

Потым сказаў· "Я б лепей паставіў на "Збраёўку", адзін, два, крыж. А на "Хомутаў" . тыя пэўна больш за адзінку не возьмуць..."

"Дзеда, дзеля Хрыста, ці трэба мне паслаць прашэнне?"

Але стары разліўнік, па-змоўніцку агледзеўшыся, прашаптаў прыяцелям: "Металург" фаварыт... Але я ўжо дзве ночы не сплю праз гэты баскетбол. Тая "Брацілава" надта моцная".

Ярмілка абышла старога і стала перад ім. "Дзеда, трэба мне паслаць гэтае прашэнне? Госпадзе!"

Стары разліўнік адсунуў Ярмілку, як фіранку, і ўскочыў: "На "Брацілаву" трэба паставіць аднолькава адзінак і двоек. У баскетболе нічыя рэдкасць. . Але раптам?" – мучыўся ён.

Асвернік адказаў замест яго: "Паспрабуй, Ярмілка. ."

І палез на асвер, і кожны пайшоў да сваёй працы.

Ярмілка хвілю стаяла і пазірала на маладзіцу, якая працягвала вязаць. Тады пайшла з платформы на сходы Спускаецца. Да поясу, потым адна галава, пакуль не знікла..





## 7

Па абедзе я пайшоў у душ, каб мне лазнік адчыніў гардэроб. Забыў аддаць на пацверджанне талон на цукар. Спускаюся ў склеп, потым у катлоўню, але лазніка нідзе няма. Вылажу па сходах, гляджу долу да катла, ці нагодай там не заснуў... а долу ляжала Ярмілка. Ціха спускаюся – спіць. Анучы пад галаву, і спіць.

За два метры ад валасоў сыкае прычыненая печ.

Усаджваюся каля яе, бяру за руку, дакранаюся да лба. Гарыць, а жывот так выдаецца, што я сабе кажу: відаць, ужо хутка.

Прачынаецца

"Ах, дзядзечка, гэта вы?"

"Што з вамі?" – кажу.

Гладзіць сабе лоб.

"Мне бла..."

"Дык я скочу па доктара!"

"Ды не, я ўжо там была . я тут сёння апошні раз. Колькі зараз гадзін?"

"Ужо змена скончылася. . палова на першую"

"А баба мяне не шукала? Яна на вас сярдуе Але яна ўжо, мабыць, не ведае, што значыць мець дзяцей . Калі іх магла мець, дык толькі й рабіла, што зямлю цягала А цяпер мае! Цяпер яна выпатрашаная"

"Але ў вас гарачка!"

"Так... тапкі сабе намачыла. . Але дзядзечка, калі я буду дома, вы ж прыйдзеце мяне праведаць!"

"Вы ж ведаеце, што прыйду, як жа ж не прыйсці. Абавязкова прыйду. З Вэнцам "

"Вось і добра... а зараз пакіньце мяне адну".

Пакідаю яе, лезу па сходах, затрымоўваюся, каб павярнуцца, і зноў бачу Ярмілку так дзіўна скурчанай, быццам важыць не болей за пятнаццаць кіло.

"Дзядзечка!"

"Што хочаце?"

"Хадзіце сюды, я вам нешта скажу ."

"Дзядзечка, пазычце мне двацатку, я сабе на дарогу куплю мятных цукерак. "

"А як жа!"

Даю ёй тых дваццаць крон, выбягаю па сходах і іду мыцца..

Потым чысты падымаюся нагору на кантрольныя гадзіны.

Ярмілка стаіць, абапёршыся аб дзвярную раму і глядзіць у адно месца ў столі

"Ну як вы?"

Згарнула вусны ва ўсмешку

"Мне ўжо добра. . і добра таксама, што я тут апошні раз, ужо зусім апошні..."

"Цяпер будзеце хадзіць на прагулкі " – дадаю ёй смеласці.

"Дзе там! Працы будзе па самую завязку Будзем з сястрой шыць бялізну, купляць усялякія рэчы . Можа, і на той вазок наскрабу. Ведаеце, дзядзечка... – паглядзела на мяне – З'явіцца дзіцятка, дык трэба яго прывітаць. Я ўжо буду ім займацца, а калі будзе ў вас час, прыйдзіце на яго паглядзець .. Я не ведаю, якая я буду, але прыйдзіце!"

Упершыню за той час, што мы з Ярмілкай былі знаёмыя, упершыню мне падала руку, такую звычайную чалавечую далонь, шурпатую, як валовы язык Я яе трымаў так доўга, пакуль сама ў мяне яе не вырвала.

У дзвярах я павярнуўся, а яна ўжо зноў са скурчаным ротам утаропілася ў столь.

## 8

Адным жнівеньскім днём мы з Вашкам Прухам селі на матацыкл і паехалі, як і абяцалі, да Ярмілкі. Быў поўдзень, і сонца пражыла так, што зеляніна пасінела, а чырвоныя дахі вёсачак парудзелі ад болю.

У вёсцы мы нікога не сустрэлі, толькі скрозь сцены бразгаталі ланцугамі прывязаныя каровы.

Ля капліччкі ў цяню ліп сядзела на траўнічку старая Была босая, з запэцканымі пальцамі. Хустка так нацягнутая на вочы, што відаць было толькі падбароддзе

Вашак спытаўся: “Маманя, дзе тут жыве Ярмілка?”
Прыўзняла хустку, але сонца так сляпіла, што зноў сцягнула яе на вочы.
“Якая Ярмілка? У нас тут Ярмілкі дзве . ”
“Мы б хацелі наведаць тую Ярмілку, што рабіла ў Кладне”.
“Ага, Яруш! Для той ужо ўсё скончана. Нарадзілася ў яе дзіця дачасна, дык таго малога пасадзілі ў нейкае кубло. А цяпер? Цяпер ужо вісус малец! Затое дзеўцы ўсё гэта стукнула ў галаву. Цяпер ляжыць дома, як нежывая, ні на што не вартая”.
“Як туды праехаць?” – спытаўся Вашак.
“Так тутака паўз вунь той двор паедзеце долу, а там на рагу хата шаўца Марванка Адтуль убачыце такі домік, выглядае, як на пераездзе. Там і жыве Ярушка .. за вакном стаіць пеларгонія ад мяне! Калі вам пашэнціць і яна будзе з вамі гаварыць, перадайце прывітанне ёй ад старой садоўніцы, яна ўжо ведае .”
Вашак прыдаў газу, і па гарачым паветры, амаль як па цёплай вадзе, мы паехалі ў паказаным кірунку
На рагу Вашак загамаваў, а калі мы праехалі яшчэ крышку далей, адкрыўся долу белы дамок, які сапраўды выглядаў, як на пераездзе. Сцяжынкай, абсаджанай краскамі дуброўкі, мы з’ехалі ўніз
Было ціха, і паветра калыхалася ад спёкі, як празрыстая фіранка.
Вашак абапёр матацыкл аб плот, выцер пот і сказаў: “Што гэта я ўсё бачу так квяціста?”
Мы павярнуліся
“Ярунінай мамы няма дома! Паехала з Яроўшкам у паліклініку!”
Гэта была садоўніца. Стаяла там угары і трубіла гэтую навіну ў далонь. У палатнянай, пазамыванай, але яшчэ белай сукні, з чорнымі рукамі і нагамі выглядала, як смерць.
“Ведзьма .” – выдыхнуў Вашак.
Праз маленькі гародчык з пятрушкай, морквай, капуснымі качанамі і вялізным кармавым бураком мы ўвайшлі ў сенцы.
На шафе стаяла маленькая сухая ялінка, пэўна, яшчэ ад Калядаў, бо пустыя станіёлевыя паперкі шамацелі на ёй пад лёгкімі павевамі ветрыка. Вашак націснуў на клямку.
Святніца была залітая сонцам, а на стале ляжаў вялікі кот. Не варушыўся, але праз шчыліны вачэйназіраў за намі. У куце стаяў вясковы ложак, а над тым ложкам вісеў абраз Езуса, што разрывае сінюю кашулю і пальцам паказвае на сваё сэрца, ахопленае агнём і аблямаванае цярноўнікам.
А ў ложку ляжала Ярмілка, ляжала ў робе, пярыну скінула ў ногі, руку за галаў, і пазірала ў столь, гэтаксама, як я бачыў яе на заводзе, калі пазірала ў столь сталоўкі
Я кажу шэптам “Ярмілка, дык мы ўжо тутака, я і Вашак Пруха З печаў вам прасілі перадаць вялікае прывітанне, і ўвесь час толькі пыталіся: “Калі гэта ўжо тая дзеўчына прыйдзе?” І на вежах таксама кажуць. “Ніхто не ўмеў так насіць сняданкі, як Ярмілка” І дырэктар перадае вам прывітанне ..”
Вашак выцягнуў з партфеля блакітную кашульку, рукі ў яго трэсліся, калі трымаў яе за плечыкі ў паветры
“Гэта мы вам прынеслі . – мармытаў ён. – Гэта вам пасылае ўвесь завод. А яшчэ вось-вось пашлюць і боцікі.. і атопкі . а жанчыны з печаў цікавяцца, ці маеце дастаткова пялюшак”
Аблізнуўся.
“А спадручніца Маржка вам перадае, што малому Яроўшку ўжо вяжа кофтачку”.
Але Ярмілка па-ранейшаму маркотна пазірала ў столь, лоб змочаны потам, і скрозь домік глядзела кудысь далёка-далёка, у нейкі бязлюдны свет ..
Вашак паклаў сабе руку на грудзі
“Паўсюль, Ярмілка, нешта. Я. у мяне дома таксама так.. кожныя чатырнаццаць дзён запакоўваю свае… жонка мне дапамагае перавязаць клункі. знізу чакае таксі, а потым кажу жонцы: “Дык я ўжо іду з дому, калі ты мяне выганяеш!” А жонка мне адказвае “Гэта я цябе выганяю?” Я ёй кажу· “Так, ты мяне выганяеш на двор . Іду!” А яна “Ну ідзі, але я цябе не выганяю” Я кажу· “Праўда?” А яна на мяне так вось гляне і пачне развязваць мае клункі Я іду ўніз заплаціць за таксі . але праз чатырнаццаць дзён таксі зноў стаіць пад вокнамі А ўсё гэта, Ярмілка, праз тое, што мы не можам мець дзяцей У вас, Ярмілка хлопчык…”





Глядзелі мы на Ярмілку, але тая ўжо атрымала сваё . ужо, відаць, нічога не хацела ведаць, усё яе мінала, праплывала міма яе…
“Ярмілка!”
Вашак укленчыў перад ложкам.
“Напраўду, усе пра вас пытаюцца, чуеце? Мы ўдвух вас любім і прыедзем зноў! Мы ўжо сыходзім чуеце?”
Вашак устаў, і мы глядзелі на яе, але было відаць, што слоў мала…
Мы кіўнулі адзін аднаму і падаліся ціха з пакоя Кот усё ляжаў на стале, потым устаў і лёг крышку далей, на сонца, якое ўжо перанесла сваё цяпло на край стала.
Дзіцячая кашулька вісела праз більца, а Езус над ложкам па-ранейшаму расхінаў на сабе сінюю вопратку і паказваў сваё чырвонае сэрца з вогненным пучком і цярноўнікам.
Але Ярмілка не варухнулася. Усё чула, але гэта яе не ўзрушыла. Ці можа?..
Мы зачынілі дзверы, і калі выйшлі, сонца свяціла амаль так, як гарыць нікель у электрычнай печы.
Угары ўсё стаяла тая садоўніца і аберуч захінала сабе голаў.
Закрычала:
“Дык што, гаварыла?”
Вашак пакруціў галавой і адмоўна махнуў рукой.
“Дык гэта добра! – крычала садоўніца Яна з такой ганьбы хацела павесіцца!”
Вашак сказаў·
“Што зробіш. Мая старая мяне часам таксама так дапячэ, што і ў мяне ўзнікае гэтая паратоўная думка. Але потым зноў спахаплюся. Мабыць, там тая нябога таксама спахопіцца…”
Паказаў на нявінны домік, які выглядаў, як на пераездзе, з чырвонымі пеларгоніямі за вакном, у якім з’явіўся Ярмілкін змарнелы тварык.
“Перадайце ўсім на мартэнах ад мяне вялікае прывітанне!” – выкрыкнула яна і зноў знікла.

**Пераклаў з чэшскай**
**Сяржук СМАТРЫЧЭНКА.**

---

[1] Полдаўка – Полды, металургічны гігант у горадзе Кладна.
[2] Яруш, Ярушка – формы імя Ярміла.
[3] Яроўшак, Ярда – формы імя Яраслаў.
[4] Вашак, Вэнца – формы імя Вацлаў
[5] Тут гульня слоў· чэшскае “pytel” мае два значэнні· “мех” і “даўбень”, “дурань”
[6] Шрайбар *(ням. schreiber)* – пісар.
[7] Bärentanz (мядзведжы танец), Gansemarsch (гусіны паход), Blindkuh (сляпая карова), класікі, сяданка, неба-пекла-рай, катанне бочак – дзіцячыя гульні і танцы.
[8] Гэфтлінк *(ням. häftling)* – вязень.
[9] Жалезны Густаў *(ням.)*.
[10] Дык што, гэты сабака яшчэ жывы? *(ням.)*
[11] Ах, вы такія маладыя і дужыя *(ням.)*.
[12] Збіраць зёлкі *(ням.)*.
[13] Асвер – пад ёмны кран *(В. Ластоўскі, У Даль)*.
[14] Бібләфоршары *(ням. Biblforscher)* – даследнікі Бібліі.
[15] Ну, што я вам казаў *(ням.)*.
[16] Гульня слоў· kaputt – разбіты, паламаны і Puff – бардэль *(ням.)*.
[17] Не *(ням.)*.
[18] Нумар адзін. нумар два *(ням.)*.
[19] Дзяржаўная здрада *(ням.)*.
[20] Мыйня *(ням.)*.
[21] Тарфянішча, край балот *(ням.)*.
[22] Мы салдаты мы соўгаем рыдлёўкамі, для нас няма вясны. Праца не мае канца *(ням.)*.
[23] Ролваган *(ням. Rollwagen)* – калёсы.
[24] Каманда сонца.
[25] Легчы.. устаць *(ням.)*.
[26] Калі нарадзіўся, дзе нарадзіўся *(ням.)*.
[27] А вы здаровы? *(ням.)*
[28] Так! *(ням.)*
[29] Вы ўсё яшчэ здаровы? *(ням.)*
[30] Печанёвыя каўбаскі (ням.)
[31] Брыгаднік – сябра брыгады дапамогі, звычайна са студэнтаў
[32] Сацыялка – орган сацыяльнай апекі.
[33] У спортпрагнозе крыж або нуль абазначае нічыю, адзінка – перамогу дома, двойка – перамогу ў гасцях.
[34] Трыз – агульная стаўка з вялікай колькасцю камбінацый.

# ХОЧАЦЕ БАЧЫЦЬ ЗАЛАТУЮ ПРАГУ?

Гаспадар пахавальнага бюро Пан Бамба, чалавек невялічкага росту, выйшаў з мястэчка і спусціўся да ракі. Потым пакрочыў у бок дубовага гаю.

"Пане Бамба!"

Павярнуўся.

"А, гэта вы, пан Кытка! – прамовіў пан Бамба. – Туды ж – да вады? Шукаеце натхнення?"

"Не, – адказаў пан Кытка, але іду акурат ад вас, бо вашу фізічную наяўнасць дома не заспеў. Пане Бамба, ці не знойдзеце для мяне трошкі часу?"

"Для паэта – заўжды", адказаў пан Бамба.

"Ведаеце, наша сюррэалістычная суполка хацела б папрасіцца на адзін вечар у вашу ўстанову".

"Бадай што, не! Відаць, збіраецеся з майго сховішча трунаў утварыць кабарэ?"

"Аніякага падабенства на кабарэ, пане Бамба. Калі хочаце ведаць, мы прысягаем не толькі Брэтону і Элюару, але і Карэлу Гінку Маху[1]"

"Але ж...?"

"У вас мы б правялі лекцыю, прымеркаваную да гадавіны яго смерці, а лекцыю гэтую прачытаў бы Ян з Войкавіч".

"Ян з Войкавіч? Дык ён жа дваццаць гадоў ужо як не ўстае з ложка!"

"Менавіта таму бягу за вамі, пане Бамба, – мовіў паэт, – каб вы маглі ўявіць, як мы будзем несці да вашай установы, у труне, гэтага старэнькага паэта разам з усімі яго прычандаламі".

"Ну то будзе відовішча", – прамовіў пан Бамба.

"Менавіта так", – гаварыў паэт, а сам зазіраў на хаду праз мур, за якім пасвіліся два бычкі.

"Вы мяркуеце рабіць фотаздымкі, так?" – запытаўся пан Бамба і ўзняўся на дыбкі.

"Абавязкова. І гэтую парнаграфію пашлем у Парыж, асабіста самотнаму Андрэ Брэтону. Вось дык каровы, як быкі", – дадаў паэт.

"Дзе?" – запытаўся пан Бамба, уздымаючыся на дыбкі.

"Дазвольце, я вас прыпадыму!"

Гаспадар пахавальнага бюро ўзмахнуў ручкамі, як крылцамі, і мажны паэт лёгка прыўзняў яго.

Досыць нагледзеўшыся праз мур, пан Бамба абвясціў: "Не, гэта не быкі, гэта – каровы"

"Апусціць вас на зямлю?"

"Ужо досыць", – адказаў пан Бамба і працягваў разважаць далей "А ці будзе той паэт згодны на такое перамяшчэнне? Ён жа, мабыць, верыць толькі ў перамяшчэнне думак".

"Тут усё гатова, – сказаў паэт, – мой апошні сексуальны аб'ект, прыгажуня з пошты, слабая на бюст Яна дазваляе старэнькаму паэту рабіць сабе кампрэсы рукапрыкладаннем Такім чынам з ім ужо ўсё абмеркавана".

"Пане Кытка, вы, часам, не малоціце лухту? Ці не занадта вас далёка панесла?"

"Я? Навошта мне рабіць з гэтага праблемы страўніку diare?

"Добра, веру вам"

Яны прахаджваліся ўздоўж дубовага гаю, а на другім беразе ракі практыкаваліся пажарныя, іх латунныя каскі блішчэлі і пырскалі сонечнымі промнямі. Двое пажарных укленчылі ля помпы, адзін трымаў наканечнік шланга, а пакольки чакаўся магутны напор вады, то ён рэзка адхіліўся назад. Трубач трымаў адну руку на баку, а другой прыціскаў да вуснаў трубу і пазіраў на начальніка, той акурат даў яму знак: трубач затрубіў, але з пажарнай кішкі не пырснула ані кроплі вады.

"Маюць сапсаванае лібіда", – сказаў паэт.

"Але мае труны месяцца ў склепе. А па вугаль я хаджу на першы паверх", – патлумачыў пан Бамба.

"Так будзе яшчэ больш паранаідальна", – ухваліў пан Кытка, павярнуўся і закрычаў праз ваду: "Няхай сабе гэтыя вашыя пырскаўкі фунгуюць".

"Ты, карова іарданская, – закрычаў пажарнік, – хай табе фунгуе твая!"

"Толькі як вам дабрацца з тымі пасцілкамі да майго склепа, – напружыўся пан Бамба, – а што калі будзе дождж? Ці не лепей засунуць тую пасцель з паэтам у мой пахавальны воз? І ехаць з ім уздоўж аркады, а старэнькі паэт хай сабе пазірае ў вакенца на людзей і хітае галавой?"

"Акурат так, – прамовіў паэт, – гэта было б шызафрэнічна. Але ж, пан Бамба, у вас ёсць ідэі. Чаму б вам не пачаць наведваць нашу сюррэалістычную суполку?"

"Не, – сціпла адказаў пан Бамба, – я з'яўляюся сябрам таварыства па добраўпарадкаванню".

"Галоўнае, каб хапіла таго чорнага аксаміту, што вы выкарыстоўваеце на дэкаратыўнае аздабленне катафалка. Мы б упрыгожылі ім гэтае ваша сутарэнне".

"Сапраўды, – дадаў пан Бамба, – бо з гэтых аксамітаў, калі іх патрэсці, сыплюцца нябожчыкі"

"Акурат так. А што, каб да гэтай махаўскай лекцыі дый надрукаваць яшчэ запрашальныя білеты. . на тых самых фіялавых жалобных стужках?" – спытаўся паэт і закрычаў на другі бераг: – "Няхай сабе гэтыя вашыя пырскаўкі фунгуюць!"

"Ты, карова іарданская, захацеў па мордзе?" – адгукнуліся лаянкай пажарныя, якія ўбеглі ў ваду ажно па калена.

"Значыцца, фотаздымкі маёй установы з'явяцца ў самім Парыжы. ." – цешыўся гаспадар пахавальнага бюро.

"Так. Таму што мы, сюррэалісты, рух міжкантынентальны, – сказаў паэт і ганарова тыцнуў у сябе пальцам – Мы – мужчыны, якіх кранула маланка, мужчыны, якія ляжаць ля ног сфінкса." – Ён зноў павярнуўся і закрычаў у бок ракі: "Няхай сабе гэтыя вашыя пырскаўкі фунгуюць!"

Пажарныя кінулі мантаж помпы, разам з начальнікам убеглі па калена ў ваду і лаяліся, патрасаючы манціроўкамі і гаечнымі ключамі:

"Ты, карова Бамбава, даўно не атрымліваў па мордзе?"

Пан Бамба спалохаўся: "Але ж я не крычаў!" – крыкнуў ён.

"Будзеш ісці з пахавальнай працэсіяй – мы табе ў галаву крыжак утаўчэм!" – папярэдзіў начальнік.

"Ну паглядзі, чалавеча, што ты натварыў, – схмурнеў пан Бамба. – Пажарных многа, што калі пойдуць замаўляць пахаванне да маіх канкурэнтаў. А пахаванні пажарных заўсёды ўрачыстыя!"

"Даруем гэтым добрым людзям жыццё", – прамовіў паэт, склаў далоні конаўкай і закрычаў: "Гэта крычаў я, Кытка!"

"І ты – шэльма Кытка! – драў глотку начальнік, – табе таксама мала не будзе".

Пан Бамба пацёр ручкі.

"Пане Кытка, вы не толькі паэт, але і годны чалавек. Паслухайце, а што калі б мы знялі з аптэкі таго белага анёла і павесілі яго.. у маёй установе акурат над нямоглым паэтам. Альбо, калі гадзіннікавы майстра Цэрга дазволіць, узяць той вялікі гадзіннік над яго крамкай дый замацаваць яго над старэнькім паэтам? Было б няблага, калі б тая секундавая стрэлачка, велічынёй з маю нагу, цікала б на той махаўскай вечарыне..."

Пан Бамба захлынаўся, а паэт ажно млеў.

"Пане Бамба, – мовіў за хвілю паэт, – падвойная маніякальная дэльта пралегла праз вас, гэта ж я хаджу, вышукваю і шпількай калупаю ідэі, а з вас яны сыплюцца як з рога".

Потым пан Кытка ўзняў вочы да хмар і пераканаўча прамовіў: "Не я, але ён – паэт", – і паказаў на гаспадара бюро.

"Перабольшваеце", – сціпла сказаў пан Бамба.

"Не, не, – запярэчыў паэт, – сапраўды ў гэтым нешта ёсць! Паганцы, якія веры не ведалі, праўду знайшлі. . Ну дык што, пане Бамба, дамовіліся?"

Падаў вялізную руку.

"Дамоўлена", – сказаў пан Бамба і ўклаў сваю далонечку ў паэтаву лапішчу

Потым пан Кытка зірнуў на гадзіннік.

"Так, – сказаў і выцягнуў з нагруднай кішэні паштоўкі, хутка кіну іх у паштовы вагон пражскага цягніка. Паштовы служачы не згадзіўся ўзяць на перасылку гэтыя артэфакты Маўляў – парнаграфія"

Пан Бамба развярнуў паштоўкі веерам і схапіўся за галаву.

“Як вы гэта робіце?” жахнуўся ён.

“Разразаю матчын навукова-папулярны даведнік па сексу, пасля каталог жаночай інтымнай бялізны, пасля Кралiцкую Біблію[2], – распавядаў паэт, рукой прытрымліваючы гаспадара пахавальнага бюро, – затым саджуся на адлегласці і аддаюся аўтаматычнаму метаду, каб у рэшце рэшт наляпіць гэтыяператасаваныя фрагменты на сэцэсійныя фотаздымкі голых кабет.. ”

“А што на гэта кажуць у паштовым вагоне?”

“Сёння будзе тое ж самае, што і ўчора і пазаўчора. Я кіну паштоўкі ў вагон праз шчыліну і пагрукаю кулаком Служачы возьме іх, паставіць пячатку. Я адыду і буду назіраць, як ён хапаецца за галаву, як звяртаецца ў вагоне да калегі, каб той усё кідаў і бег да яго. Потым яны абодва стануць разглядаць паштоўкі і таксама хапацца за галовы. Пасля той, што мае фуражку з зялёным брылём, падымаецца на паравоз, які стаіць ля вадакачкі Машыніст вытрэ рукі анучай, паглядзіць на паштоўкі і схопіцца за галаву Уздзеянне сюррэалістычных аб'ектаў, пан Бамба, проста магутнае!”

“Між іншым, я з'яўляюся сябрам таварыства па добраўпарадкаванню, – засмуціўся пан Бамба, – але каму вы гэта дасылаеце?”

“Прыгожым дзяўчатам, якія не жадаюць жыць у сексуальнай несвабодзе”, – сказаў паэт і па-змоўніцку дадаў: "Рэчаіснасць, яна – алкагалічная”.

“Менавіта так, – пагадзіўся пан Бамба і ўзняў галоўку. – Дарэчы, калі вы мяне паднялі там, ля сценкі, каб я ўбачыў тых двух бычкоў, я прыгадаў адзін выпадак: служанка паказвала хлопчыку, якога ёй пакінулі даглядаць, залатую Прагу, а калі паставіла яго на падлогу, беднае малое скацілася на зямлю нежывое, чулі калі пра гэта?”

“Не, не чуў. ” – настырыў вушы паэт.

“Дык гэта яшчэ не ўсё, галоўнае адбылося на судзе, калі суддзя закрычаў: як гэта магло стацца?! А тая служанка, веліканша, як і вы, запыталася ў невялічкага суддзі: “Хочаце бачыць залатую Прагу?”. Суддзя вазьмі і адкажы: “Хачу”. Вось служанка заціснула паміж сваімі далонямі галаву таго суддзі і высока ўзняла яго над столь. А калі апусціла таго суддзю, ён упаў – нежывы таксама!”

“Вось гэта сюжэт”, – сказаў паэт і, закаціўшы вочы, паскардзіўся небу: "Я ж ідэі шпількай калупаю на людных мясцінах, а ён, – паэт паказаў на гаспадара пахавальнага бюро, – а ён мне без дай прычыны сыпе як з рогу!"

“Пане Кытка, – прытуліўся да паэта пан Бамба, – гэтая гісторыя сапраўды не дае мне спаць, бо мой бацька мне столькі разоў паказваў прыгажосці Прагі, але ў нас нічога падобнага не было. Ці то людзі сёння занадта кволыя? Хадзем – паспытаем, як яно!”

“Але ж вы мяне не падыміце”, – адказаў паэт.

“Дык вы мяне. Проці вас я – дзіцятка”, – сказаў пан Бамба.

На другім беразе ракі нарэшце запрацаваў рухавік, трубач зноў прыклаў да вуснаў залатую трубу, а пажарны ўзяў залаты наканечнік шланга і адхіліўся назад, каб струмень вады не збіў яго з ног. Каскі ва ўсіх пажарных блішчэлі, як залатыя шлемы. Начальнік даў знак, гукі трубы разнесліся над поплавам. Шугануў моцны струмень вады і стаў кідаць за сабой пажарнага туды-сюды.

“Ну што? – запытаўся начальнік і тэатральным жэстам паказаў на струмень, дуга якога дасягала ажно сярэдзіны ракі, – дык пырскае ў нас альбо не пырскае?”

“Цяпер – так, – адказаў паэт, – але што было тым разам, калі вы тушылі пажар у Драгеліцах?”

“Ты, карова іарданская! Пачакай, мы яшчэ сустрэнемся!” – закрычаў начальнік пажарных. Ён адчапіў ад пояса сякерку, убег у ваду, а за ім і тыя двое пажарных, якія былі ўкленчылі ля помпы, таксама выхапілі свае сякеркі і пабеглі да вады і ўсе разам пагражалі залатымі сякеркамі, якія распырсквалі сонечныя промні, і крычалі: “Морду табе растаўчэм!”

“Я – проці вас, як дзіцятка”, – паўтарыў пан Бамба, і вочы ў яго заблішчэлі.

“Хочаце бачыць залатую Прагу?” – запытаў паэт.

“Хачу”, – адказаў пан Бамба і заплюшчыў вочы.

**Пераклала з чэшскай**
**Ірына ШАБЛОЎСКАЯ.**

[1] К.Г Маха (1810–1836) – чэшскі паэт-рамантык.

[2] Кралiцкая Біблія – пераклад Святога Пісання на чэшскую мову, выдадзены ў Кралiцах на Мараве (1579–1594).





# ПАВУЧАЛЬНЫЯ НАВЕЛЫ

## СІЛА КРЫВІ

У адну з цёплых летніх начэй вярталіся ў Таледа з адпачынку на беразе ракі стары ідальга са сваёй жонкай, малым сынам, дачкой шаснаццацігадовага ўзросту і служанкай Ноч была светлая, гадзіна адзінаццатая, гасцінец пусты і вяртанне позняе, бо забавіліся, адпачываючы, як прынята ў Таледа, на рацэ ў даліне. З упэўненасцю, выкліканай надзвычайнай законапаслухмянасцю і добрымі намерамі людзей гэтага горада, ехаў добры ідальга са сваёй шляхетнай сям'ёй, далёкі ад думак пра бяду, што магла з імі здарыцца; але як большасць з няшчасцяў, якіх не чакаеш, з імі адбылося тое, што парушыла іх спакой і прымусіла праліць шмат слёз.

Каля дваццаці двух гадоў было кабальера з гэтага горада; яго багацце, славутая кроў, дурныя схільнасці, празмерная свабода і вольнае таварыства схілялі яго рабіць учынкі і чыніць нахабствы, што прыніжалі ягонае паходжанне, а яму надавалі нядобрую славу

Дык вось, гэты кабальера, – якога з далікатнасці, схаваўшы ягонае імя, мы назавем Радольфа, з чатырма сваімі сябрамі, таксама юнакамі, таксама вясёлымі і нахабнымі, спускаўся па таму ж самаму ўзгорку, па якому падымаўся ідальга Сустрэліся дзве кавалькады – авечак і ваўкоў, і з подлай бессаромнасцю Радольфа і ягоныя сябрукі праз маскі пачалі разглядаць твары маці, дачкі і служанкі. Стары абурыўся і стаў папракаць і ганьбаваць іх за нахабства, яны яму адказалі грымасамі і жартамі, аднак доўга не блазнавалі і ад'ехалі наперад. Але яркая прыгажосць твару, убачанага Радольфа, а гэта быў твар Леакадзіі, нам хочацца так назваць дачку ідальга, настолькі ўразіла Радольфа, што яго ахапіла жарсць і абудзілася ў ім жаданне авалодаць ёю нягледзячы на ўсе магчымыя наступствы, ён тут жа падзяліўся сваімі думкамі з сябрамі, і тыя адразу пагадзіліся вярнуцца, каб выкрасці яе і гэтым дагадзіць Радольфа, багатыя, пускаючыся ў прыгоды, заўсёды знойдуць кагонебудзь, хто апраўдае іхнюю хэнць і адобрыць юрлівыя ўчынкі, злачынная прапанова, абмеркаванне і адабрэнне яе, рашэнне выкрасці Леакадзію і само выкраданне, – усё адбылося амаль імгненна.

Яны ахінулі твары хусткамі і з агаленымі шпагамі павярнулі назад; праз некалькі крокаў яны нагналі тых, хто ледзь скончыў дзячыць Богу за вызваленне ад нахабнікаў Радольфа наляцеў на Леакадзію і, схапіўшы яе, паскакаў прэч, а яна не мела сіл, каб бараніцца, ад нечаканасці згубіўшы голас, не магла паклікаць на дапамогу, і нават вочы яе патухлі; вось так, самлелая і непрытомная, яна не бачыла, хто і куды яе вязе. Лямантаваў яе бацька, крычала маці, плакаў брацік, рвала на сабе валасы служанка, але іх енкі не былі пачутыя, плачы не выклікалі спачування, істэрыка не мела карысці, таму што ўсё праглынула пустэльнасць месца, глухая маўклівасць ночы і жорсткая воля злачынцаў

Пасля гэтага здарэння ўзрадаваліся адны і засталіся ў смутку другія Радольфа даскакаў да дому без якіх-небудзь перашкод, а бацькі Леакадзіі вярнуліся ў горы, смутку і адчаі, сляпыя, бо не мелі вачэй дачкі, што была святлом іхніх вачэй, самотныя, бо Леакадзія была ім пяшчотным і мілым другам, разгубленыя, бо не ведалі, ці будзе добра паведаміць пра няшчасце ўладам, каб самім не стацца прычынай знявагі яе гонару Ім патрэбная была апека, як усім бедным ідальга, бо самі яны не маглі даўмецца, каго вінаваціць, акрамя свайго гаротнага лёсу

Радольфа, каварны і хітры, схаваў у сваім доме Леакадзію, якой, хаця адчуваў яе непрытомнасць, накрыў вочы хусткай, каб яна не ўбачыла ані вуліц, па якіх

ён правозіў яе, ані пакоя, дзе апынулася незаўважаная нікім з тае прычыны, што ў Радольфа быў аддалены пакой у доме ягонага бацькі, яшчэ жывога, і быў ключ ад брамы сядзібы і ўсіх памяшканняў – з неабачлівасці бацькоў, якія хацелі ўтрымаць ля сябе сына, перш чым вярнулася да прытомнасці Леакадзія, Радольфа задаволіў сваё жаданне; распусны імпэт юнацтва ніколі не лічыцца з утульнасцю і спрыяльнымі абставінамі, без іх ён яшчэ больш распальваецца і мацнее Аслеплы, у памутненні розуму, у прыцемках ён адняў у Леакадзіі яе лепшы са скарбаў; а як пачуццёвыя грахі па большасці не заводзяць далей за крэс грахоўнага задавальнення, то Радольфа захацелася, каб хутчэй ад яго знікла Леакадзія; ён надумаў выцягнуць яе на вуліцу ў тым стане непрытомнасці, у якім яна была; але, пачаўшы рабіць гэта, ён адчуў, як яна апрытомнела і сказала:

– Дзе гэта я, няшчасная? Што гэта за цемра, што за змрок вакол мяне? Я ў нябёсах маёй цнатлівасці або ў пекле маіх грахоў? Божа! Хто да мяне дакранаецца? Я ў ложку, са мной бяда? Ці чуеш ты мяне, мая гаспадыня маці? Ці чуеш, дарагі бацька? Ах, бедная я! Ведаю добра, што мае бацькі не чуюць мяне, а мае ворагі дакранаюцца да мяне, я была б больш шчаслівай, калі б гэтая цемра падоўжылася назаўсёды, каб мае вочы ніколі не пабачылі святло гэтага свету, і каб месца, дзе я цяпер, якое б яно ні было, служыла магілай майго гонару, бо лепш знявага гонару, невядомая нікому, чым разнесеная сярод людзей; я ўжо прыгадваю, – лепш бы мне не прыгадваць гэтага! – што зусім нядаўна я была разам з маімі бацькамі; прыгадваю ўжо, як на мяне накінуліся; ужо ўяўляю сабе і бачу, што лепш мне не з'яўляцца на людзях; о ты, каторы са мной, хто б ты ні быў, – і яна схапіла Радольфа за рукі, – калі твая душа здольная прыняць мальбу, я малю цябе, каб ты, скарыўшы маю цнатлівасць, скарыў бы і маё жыццё, цяпер ты пакідаеш яго мне, а яно без патрэбы той, якая абняслаўлена, падумай, калі бязлітасная жорсткасць, з якой ты абразіў мяне, сальецца са спачуваннем, з якога ты заб'еш мяне, то вось так адначасова ты будзеш і жорсткім і літасцівым.

Жаласныя словы Леакадзіі збянтэжылі Радольфа, і ён, як малавопытны юнак, не ведаў ані што казаць, ані што рабіць, ягонае маўчанне яшчэ больш здзіўляла Леакадзію, рукі якой спрабавалі разгадаць, ці не здань або прывід той, з кім яна была, але, адчуваючы яго цела і ўспомніўшы пра напад, ад якога яна пацярпела, калі была з бацькамі, яна канчаткова і цалкам усвядоміла сваё няшчасце, і з гэтай думкай пачала паўтараць жаласныя мальбы, што шматкроць перапыняліся енкамі і ўстхненнямі:

– Нахабны юнак, гадзіны не мінула, як ты ўчыніў тое, за што асуджаю цябе, але я выбачу тваю абразу, калі паабяцаеш і паклянешся мне, што як ты ахінуў яе гэтай цемрай, так ахінеш яе вечным маўчаннем і не раскажаш нікому; малую ўзнагароду прашу ў цябе за такую вялікую бяду; але для мяне яна ёсць найбольшая з тых, якія магу папрасіць у цябе, а ты – даць мне; прысягну, што я ніколі не бачыла твой твар або не жадаю бачыць яго, таму што калі ўжо я спазнала сваю крыўду, то не хачу ні ведаць свайго крыўдзіцеля, ні захаваць у памяці вобраз таго, хто зрабіў мне шкоду; мае енкі ўзнясуцца да нябёсаў, каб іх не пачуў свет, які мяркуе аб здарэннях не па сутнасці, а ў адпаведнасці са сваімі ўяўленнямі, не ведаю, скуль гэта я выкладаю думкі, што зазвычай грунтуюцца на вялікім вопыце і па сканчэнні многіх гадоў, а мне няма яшчэ і семнаццаці; пэўна, боль аднолькава скоўвае і раскоўвае язык пакутніка, у адных выпадках перабольшваючы ягоную пакуту, каб яму паверылі, у другіх выпадках замоўчвае, бо ўжо нічым не дапаможаш яму; але маўчаннем ці словамі спадзяюся расчуліць цябе, хачу, каб ты паверыў мне і дапамог, бо не даць мне веры было б неразумна, табе не будзе каштаваць дорага даць мне суцяшэнне, аднак не чакай, не спадзявайся, што па сканчэнні гадоў астыне мой справядлівы гнеў на цябе, не жадай павялічыць абразу; чым менш ты будзеш бавіцца мной, ужо напатоліўшы прагу забавы, тым менш распаляцца ў цябе брыдкія жаданні, уяві, што ты абразіў мяне выпадкова, не падумаўшы як след, а мне лепш бы не нараджацца на свет, бо я нарадзілася, каб быць няшчаснай, а цяпер выведзі мяне на вуліцу або да бліжэйшага касцёла, таму што адтуль я прасцей змагу вярнуцца дадому; але таксама ты павінен паклясціся не ісці за мной, не ведаць, не пытацца імя маіх бацькоў, маё і маіх сваякоў, каб не спазналі з-за мяне няшчасця, бо яны наколькі багатыя, настолькі і радавітыя,





адкажы мне на гэта, а калі ты баішся, што я магу пазнаць цябе па голасу, то ведай, што акрамя майго бацькі і майго спаведніка я не размаўляла ні з адным мужчынам за ўсё жыццё і нямногіх мужчын чула размовы настолькі выразна, каб адрозніць іх па голасу.

Адказ, які даў Радольфа на разважныя словы беднай Леакадзіі, быў не чым іншым, як абдымкамі, якія казалі пра яго жаданне і яе ганьбу.

– Уразумей, нягоднік і бяздушны чалавек, хто б ты ні быў, што сваю здабычу ты ўзяў з мяне як з неадушаўлёнага бервяна або калоны, такая перамога і трыумф толькі вялічаць тваё бясслаўе і мізэрнасць, аднак таго, чаго ты зараз дамагаешся, ты не дасягнеш інакш, як з маёй смерцю; ты авалодаў і зніштожыў мяне, непрытомную; але цяпер, калі да мяне вярнуліся сілы, ты хутчэй заб'еш, чым пераможаш мяне; калі б я, апрытомнеўшы, без супраціву саступіла такому брыдкаму намеру, ты б мог уявіць сабе, што тады мая непрытомнасць была штучнай.

Урэшце, – так мужна і ўпарта супраціўлялася Леакадзія, – сілы і жаданні Радольфа вычарпаліся, бо тое, як ён абышоўся з Леакадзіяй, было толькі юрлівым імпэтам, з якога ніколі не нараджаецца сапраўднае каханне; але звычайна, калі хэнць праміне, з'яўляецца калі не раскаянне, то прынамсі жаданне раскаяцца. Дык вось, халодны і стомлены Радольфа, не кажучы ані слова, пакінуў Леакадзію ў сваім ложку і, зачыніўшы пакой, пайшоў шукаць сваіх сябрукоў, каб параіцца з імі, што рабіць далей. Леакадзія адчула, што яна засталася сама і пад замком, і, устаўшы з ложка, абышла ўвесь пакой, мацаючы сцены рукамі, каб праверыць, ці няма дзвярэй, праз якія можна выйсці, або акна, каб уцячы, знайшла дзверы, але надзейна зачыненыя, намацала акно, але не змагла расчыніць; праз яго лілося ззянне месяца, такое яснае, што Леакадзія бачыла колеры дываноў, якія ўпрыгожвалі пакой, потым яна заўважыла ложак, так багата прыбраны, што ён здаваўся хутчэй ложкам прынца, чым нейкага звычайнага кабальера, яна падлічыла крэслы і бюро; адзначыла, у якім кутку былі дзверы, і нават агледзела некалькі палотнаў, якія віселі на сценах, але не змагла разабрацца, што гэта за карціны; акно было вялікае, аздобленае і затуленае важкімі кратамі; сад за акном таксама быў аточаны высокім плотам; краты і плот, якія не давалі ёй здзейсніць жаданыя ўцёкі, уся ўбачаная раскоша і багатая аздоба пакоя падштурхнулі яе да думкі, што гаспадар павінен быў быць чалавекам знатным і багатым вельмі багатым; на бюро, якое стаяла каля акна, яна заўважыла малое сярэбранае ўкрыжаванне, узяла яго і запхнула ў рукаў кашулі, не з набожнасці або сквапнасці, але апанаваная вынаходлівай задумкай; зрабіўшы гэта, яна зачыніла акно і вярнулася ў ложак, чакаючы, калі скончыцца так кепска распачатае здарэнне.

Не прайшло, як ёй здалося, і паўгадзіны, як яна пачула, што расчыніліся дзверы пакоя і да яе наблізіўся чалавек; не кажучы ні слова, ён завязаў ёй вочы хусткай, узяў за руку, вывеў з пакоя; потым яна пачула, як ён вярнуўся, каб зачыніць дзверы. Гэтым чалавекам быў Радольфа, які, хаця пайшоў шукаць сваіх сябрукоў, але потым расхацеў сустракацца з імі, зразумеўшы, што было б лепш яму не пакідаць сведкаў таго, што адбылося з гэтай паненкай; ён вырашыў сказаць ім, што, раскаяўшыся ў сваім нядобрым учынку і крануты яе слязьмі, пакінуў яе пасярод дарогі. З гэтым рашэннем ён вярнуўся, каб як мага хутчэй адвесці Леакадзію да вялікага касцёла, аб чым яна прасіла, перш чым развіднее; дзень прымусіць яго ўтрымліваць яе ў сваім пакоі да надыходу ночы, а ён ужо не хацеў ужываць сілу і не хацеў быць пазнаным. Радольфа адвёў Леакадзію да плошчы пад назвай Аюнтам'ента і там фальшывым голасам на сумесі партугальскай і касцільскай моў сказаў, што яна не хвалюючыся можа ісці дадому, таму што ніхто не будзе сачыць за ёй, і перш чым яна паспела зняць хустку, ён ужо знік без следу. Леакадзія засталася адна, пазбавілася ад павязкі і пазнала месца, дзе яе пакінулі Разгледзелася навокал і не ўбачыла ні душы; але, падазраючы, што здалёк за ёй сочаць, яна спынялася на кожным кроку, і так да самага дому, які знаходзіўся не так далёка ад гэтай царквы; але каб падмануць віжоў, якія раптам маглі сачыць за ёй, яна ўвайшла ў выпадковы дом, што быў адчынены, а адтуль праз нейкі час перабралася дахаты, дзе знайшла сваіх бацькоў, ашаломленых, якія так і не распраналіся і не думалі ісці адпачываць. Калі яны ўбачылі яе, то кінуліся ў абдымкі, сустракаючы яе са слязьмі на вачах. Леакадзія, напалоханая і

ўсхваляваная да глыбіні душы, папрасіла бацькоў адысці з ёю ў зацішны куток, што яны і зрабілі, і там у некалькіх словах распавяла ім пра няшчасны выпадак з усімі падрабязнасцямі, але без якой-небудзь згадкі пра гвалтаўніка і зневажальніка ейнага гонару; расказала ім, што пабачыла ў тэатры, дзе разыгралася трагедыя ейнага няшчасця; пра акно, сад, карты, бюро, ложак, дываны, і ўрэшце паказала ім вынесенае ёю ўкрыжаванне, перад якім зноў паліліся слёзы, загучалі малітвы заклікі да помсты і жаданне Боскай кары, яна сказала таксама, што, хоць яна і не прагне ведаць свайго крыўдзіцеля, але калі бацькам здаецца лепшым знайсці яго, то пры дапамозе гэтай святой выявы яны маглі б тое зрабіць, папрасіўшы пробашчаў, каб яны паведамілі з амбонаў усіх прыходскіх храмаў горада, што той, хто згубіў гэтае святое ўкрыжаванне, знойдзе яго ў святара, якога яны ўкажуць; такім чынам, ведаючы гаспадара згубы, можна даведацца пра дом і нават асобу ейнага ворага. На што бацька адказаў:

– Ты слушна кажаш, дачка, калі б звычайная подласць не перашкаджала тваёй вынаходлівай задумцы; гэта ж укрыжаванне, што сёння знікла з апісанага табой пакоя, і гаспадар безумоўна сцяміць, што яго забрала асоба, якая была там, а атрымаўшы звестку, дзе яно знаходзіцца, ён выкарыстае гэта, каб даведацца, хто яму аддаў, а не каб заявіць пра гаспадара, які згубіў; яшчэ ён можа зрабіць так, што прыйдзе па ўкрыжаванне нехта іншы, каму гаспадар апіша прыкметы, і такім чынам мы дадатна апынемся ў пройгрышы, не атрымаўшы звестак; хаця мы можам выкарыстаць той жа самы задуманы хітрык, аддаўшы ўкрыжаванне святару праз трэцюю асобу; што табе трэба зрабіць, дачка, дык захоўваць яго і даверыцца лёсу, таму што яно будзе сведчаннем твайго няшчасця і можа некалі дазволіць звярнуцца да суддзі па справядлівасць, павер мне, дачка, больш шкодзіць унцыя публічнай ганьбы, чым цэлая ароба[1] тайнага бясслаўя; ты можаш жыць у суладдзі з Богам сярод людзей, і адчуваць тайную ганьбу табе зусім не трэба. сапраўдная ганьба ў граху, а сапраўдны гонар у дабрадзейнасці; словам, намерам і ўчынкам можна ўгнявіць Бога, а ты ж ані словам, ані намерам, ані ўчынкам не ўгнявіла яго таму лічы сябе цнатлівай, і я цябе буду лічыць такой і буду глядзець на цябе заўсёды як твой родны бацька

Гэткімі разумнымі довадамі бацька суцяшаў Леакадзію, а маці зноў пачала абдымаць яе і тым таксама імкнулася яе супакоіць, яна ж ізноў енчыла і плакала; ёй нічога не заставалася, як акунуцца з галавой у сваё гора, як кажуць людзі, і жыць аддаленай ад свету пад апекай бацькоў, наколькі дастойна, настолькі ж і бедна.

Радольфа тым часам, вярнуўшыся дадому, убачыў прапажу ўкрыжавання і зразумеў, хто мог узяць, але гэта не кранула яго; багацей, ён не даў гэтаму ўвагі, як і ягоныя бацькі, калі ён праз тры дні, накіроўваючыся ў Італію, пераклаў прапажу на пакаёўку маці Даўным-даўно выравшыў Радольфа з'ездзіць у Італію, а ягоны бацька, які бываў там, падахвочваў яго, кажучы, што той не кабальера, хто кабальера толькі на радзіме, трэба здолець быць кабальера і на чужыне. Гэтыя і іншыя довады схілілі Радольфа да жадання выканаць бацькоўскую волю, а той даў яму ў крэдыт грошай, каб наведаць Барселону, Геную, Рым і Неапаль. Радольфа з двума сваімі сябрукамі адразу ж вырушыў, зваблены роспаведамі жаўнераў пра раскошныя шынкі ў Італіі і Францыі і пра вольнае жыццё іспанцаў у гарнізонах. Прыемна гучалі яму Eco li buoni palostri, picioni, presuto e salcicie[2] ды іншыя назвы падобных прысмакаў, якія прыгадваюць жаўнеры, калі з тых краёў вяртаюцца ў родныя і сутыкаюцца з убоствам малых заезных двароў і шынкоў у Іспаніі За зборамі ён хутка забыўся пра тое, што было ў яго з Леакадзіяй, нібыта і не здарылася нічога

Леакадзія тым часам жыла адасоблена, наколькі гэта было магчыма, імкнулася не бачыць ні жывой душы са страху, што пра яе няшчасце хтосьці можа прачытаць з яе твару. Але праз некалькі месяцаў яна нават паўз волю была вымушана рабіць тое, што раней рабіла добраахвотна: цяпер у яе не было іншага выйсця, як толькі жыць у самоце і скрытна, таму што яна была цяжарная, ад чаго забытыя было слёзы зноў залілі яе вочы, а ўстхненні і енкі зноў закалыхалі паветра, так што і разважлівасць маці не магла суцешыць. Ляцеў час, і настаў дзень народзінаў: не рашыліся даверыцца нават павітусе – зрабіць гэтую справу ўзялася маці; на свет нарадзіўся хлопчык рэдкай прыгажосці

Таксама ж таямніча і сакрэтна, як народзіны, адбыўся ад'езд немаўляці на вёску, дзе ён выхоўваўся чатыры гады, па сканчэнні якіх быў вернуты пад выглядам пляменніка дадому, дзе выхоўваўся калі не ў раскошы, то прынамсі ў дабрадзейнасці. Хлопчык быў, – далі яму імя Луіс паводле імя ягонага дзеда, – прыгожы з твару, здаровы целам, востры розумам, ва ўсіх праявах свайго пяшчотнага ўзросту ён сведчыў аб сваім шляхетным паходжанні, і настолькі яго вытанчаная прыгажосць і кемлівасць апанавалі сэрцамі ягоных дзеда і бабулі, што тыя пачалі лічыць шчасцем няшчасце сваёй дачкі, бо яна падарыла ім такога ўнука. Калі ён ішоў па вуліцы, на яго абрынаўся тысячы блаславенняў· адны бласлаўлялі ягоную прыгажосць, другія – маці, якая нарадзіла яго, іншыя бацьку, які пусціў яго на свет, а хтосьці – добрых выхавацеляў, што апекаваліся ім Так, атачаны захапленнем знаёмых і незнаёмцаў, хлопчык дасягнуў сямігадовага ўзросту, умеючы ўжо чытаць па-лацінску і па-раманску[3] і пісаць правільным і вельмі ладным почыркам, таму што ягоныя дзед і бабуля імкнуліся зрабіць яго дабрадзейным і разумным, паколькі не маглі даць багацця, нібыта веды і дабрадзейнасць не ёсць багацце, непадуладнае нягоднікам, якія сквапяцца на чужую маёмасць.

І вось аднойчы хлопчык пайшоў з дазволу бабулі да нейкай сваячніцы і мінаў вуліцу, дзе якраз адбываліся скачкі, ён стаў глядзець і, каб выбраць лепшае месца, пабег цераз вуліцу ў той момант, калі не змог уцячы і не трапіць пад капыты, а вершніку было немагчыма стрымаць каня ў шале гонкі, ён праімчаў над ім і пакінуў хлопца, як мёртвага, ляжаць на зямлі са шчодра залітай крывёю галавой Як толькі гэта здарылася, адзін пажылы кабальера, які глядзеў скачкі, не марудзячы саскочыў са свайго каня і кінуўся туды, дзе ляжаў хлопчык, узяў яго з рук чалавека, што ўжо падняў яго, і, нягледзячы на сваю сівізну і вяльможнасць, хуткім крокам паспяшаўся дадому, дзе загадаў слугам шукаць лекара, каб лячыць хлопчыка Шмат кабальера пайшлі ўслед за ім, засмучаныя няшчасцем такога прыгожага хлопчыка, і неўзабаве нехта згадаў, што пацярпеўшы – гэта Луісіка, пляменнік пэўнага кабальера, і назваў прозвішча. Гэтая звестка перадавалася з вуснаў у вусны, пакуль не была пачута дзедам, бабуляй і тайнай маці Луісіка, якія, даведаўшыся пра здарэнне, як утрапёныя вар'яты кінуліся шукаць сваё дарагое дзіця, з прычыны вядомасці і вяльможнасці кабальера, які ўзяў яго, сустрэчныя адразу скіравалі іх да патрэбнай сядзібы, куды яны трапілі, калі хлопчык ужо быў у руках лекара. Кабальера і ягоная жонка, гаспадары дому, папрасілі іх, падумаўшы, што гэта ягоныя бацькі, не плакаць і не галасіць, таму што з таго не будзе хлопчыку ніякай карысці. Лекар, а ён быў мясцовай знакамітасцю, аказаўшы дапамогу з выключнай асцярожнасцю і веданнем справы, сказаў, што рана зусім не смяротная, як ён баяўся спачатку. Пакуль працаваў лекар, Луіс апамятаўся, бо дагэтуль быў непрытомны, і ўзрадаваўся, убачыўшы родных, якія плачучы распытвалі яго, як яму пачуваецца. Ён адказаў, што добра, хаця моцна баліць цела і галава Лекар загадаў, каб яны не размаўлялі з ім, а пакінулі яго ў спакоі, так яны і зрабілі; дзед пачаў дзячыць гаспадару дома за вялікае дабрадзейства, якое той учыніў да іхняга ўнука. На гэта кабальера адказаў, што не трэба яго дзячыць, таму што, калі ён убачыў, як хлопчык упаў і быў патаптаны, яму падалося, што ён убачыў твар свайго сына, якога пяшчотна любіў, і што гэта падштурхнула яго ўзяць дзіця на рукі і аднесці ў свой дом, дзе ён застанецца на ўвесь час, пакуль будзе доўжыцца лячэнне, з усім магчымым і неабходным забеспячэннем Ягоная жонка, высакародная сеньёра, сказала тое ж самае і зрабіла яшчэ больш шчодрыя абяцанні Дзед і бабуля былі ўражаны такой хрысціянскай дабрынёй, але маці была яшчэ больш уражана, таму што, апамятаўшыся трохі ад узрушэння пасля паведамлення лекара, яна ўгледзелася ўважліва ў пакой, дзе знаходзіўся яе сын, і па многіх прыкметах адразу пазнала, што гэта быў пакой, у якім настаў канец яе гонару і пачалося яе няшчасце; і хаця пакой не ўпрыгожвалі ўжо дываны, яна пазнала яго па абсталяванню, закратаванае акно ў сад было зачынена, бо тут знаходзіўся паранены, і яна спытала, ці не выходзіць гэтае акно ў сад. Ёй адказалі, што так; але найлепей яна распазнала той ложак, які лічыла сваёй магілай; і яшчэ тое самае бюро, дзе стаяла б святое ўкрыжаванне, калі б яна не забрала яго

Трохі пазней цалкам пацвердзілася слушнасць яе падазрэнняў, таму што яна падлічыла прыступкі, калі яе выводзілі з

завязанымі вачыма; маю на ўвазе прыступкі з дома на вуліцу, якія яна тады падлічыла з разумнай прадбачлівасцю; складаючы разам прыкметы, яна прыйшла да высновы пра поўную сапраўднасць свайго меркавання, аб чым падрабязна паведаміла сваёй маці, а тая абачліва даведалася, ці мае або меў дзяцей кабальера, у якога знаходзіўся яе ўнук; і высветліла, што ёсць сын, якога мы называем Радольфа, і што ён знаходзіцца ў Італіі; падлічыўшы час, які той адсутнічаў у Іспаніі, яна ўбачыла, што гэта былі якраз сем гадоў, узрост унука. Яна паведаміла пра ўсё гэта свайму мужу, і яны ўдваіх ды яшчэ дачка дамовіліся пачакаць, што Бог наканаваў параненаму; той праз пятнаццаць дзён быў па-за небяспекай, а праз трыццаць падняўся з ложка, і ўвесь гэты час яго наведвалі маці і бабуля, а гаспадары дома адорвалі, нібыта ўласнага сына, некалькі разоў у размовах з Леакадзіяй донья Эстэфанія, так звалі жонку кабальера, казала: гэты хлопчык настолькі нагадвае ёй сына, які знаходзіцца ў Італіі, што кожны раз, гледзячы на яго, яна, здаецца, бачыць перад сабой свайго сына. З гэтай прычыны Леакадзія выкарыстала момант, калі была з ёй сам-насам, каб расказаць пра тое, што яна разам з бацькамі вырашыла расказаць, а значыць наступнае альбо падобнае на тое:

– У той дзень, сеньёра, калі мае бацькі пачулі, што з іхнім унукам здарылася такое няшчасце, яны былі перакананыя, што неба стулілася над імі і ўвесь свет абваліўся на іхнія плечы; яны ўжо ўявілі, што згубілі назаўсёды радасць сваіх вачэй і пацеху сваёй старасці, бо любілі гэтае дзіця любоўю, якая нашмат мацней за звычайнае пачуццё бацькоў да дзяцей; але Бог міласцівы, і дзіця знайшло ў вашым доме паратунак, а я ўспаміны, якія не змагу забыць, пакуль жыву; я, сеньёра, высакародная, таму што такія мае бацькі і такімі былі ўсе мае продкі, якім шчодры лёс дазволіў шчасліва бараніць свой гонар, дзе б яны ні жылі.

Уражаная і разгубленая, донья Эстэфанія слухала довады Леакадзіі і не магла паверыць, хаця і бачыла, што такая разважлівасць можа быць і плёнам малога вопыту, бо паводле яе назіранняў Леакадзіі было гадоў дваццаць, можа, трошкі больш або менш, не кажучы ані слова і не пярэчачы, цярпліва выслухала яна ўсё, што тая хацела сказаць, а аповед быў дастаткова працяглы, каб змясціць нахабны ўчынак яе сына, знявагу гонару, выкраданне, тое, як ён завязаў ёй вочы, прынёс у пакой, прыкметы якога яна пазнала і з чаго ўпэўнена, што гэта той самы пакой; каб пацвердзіць гэта, яна дастала схаванае на грудзях укрыжаванне і звярнулася да яго:

– Ты, Госпадзе, сведка гвалту, учыненага нада мной, ты ведаеш, якой узнагароды я заслужыла; я вяртаю цябе на гэтае бюро, з намерам, каб ты вечна нагадваў пра маю абразу, а не дзеля таго, каб прасіць аб помсце, якой я не жадаю; я буду маліць цябе дараваць мне суцяшэнне, каб я магла цярпліва зносіць сваю нядолю. Гэтае дзіця, сеньёра, якому вы зрабілі такую надзвычайную ласку, ёсць ваш родны ўнук; на тое была воля нябёсаў, каб ён пацярпеў ад ранаў, потым быў перанесены ў ваш дом і я апынулася тут, дзе спадзяюся знайсці калі не пажаданы паратунак у маім няшчасці, то прынамсі сілу, кабператрываць яго.

З гэтымі словамі, абхапіўшы ўкрыжаванне, яна ўпала непрытомная на рукі доньі Эстэфаніі, якая ўрэшце, з уласцівымі жанчыне знатнага роду суперажываннем і спачуццём, натуральнымі, як жорсткасць у мужчыны, ледзь толькі ўбачыла непрытомную Леакадзію, то адразу прытулілася тварам да яе твару, паліваючы яго шчодрымі слязьмі, так што не трэба было пырскаць на Леакадзію вадой каб яна апрытомнела.

Абедзве былі ў абдымках, калі ўвайшоў кабальера, муж Эстэфаніі, трымаючы Луісіка за руку, і, убачыўшы плач Эстэфаніі і непрытомнасць Леакадзіі, адразу ж спытаў, што за прычына такой падзеі. Дзіця абняло сваю маці, якую лічылі стрыечнай, і сваю бабулю, якая была нібыта ягонай дабрадзейкай, і таксама спытала, чаму яны плачуць.

– Нешта надзвычай важнае, сеньёр, трэба распавесці вам, адказала доньяЭстэфанія свайму мужу, – калі сцісла, то дастаткова сказаць, каб вы ведалі, што гэтая непрытомная паненка ёсць ваша дачка, а гэтае дзіця – наш унук. Праўду, што я вам кажу, паведаміла мне Леакадзія, і яе пацвярджаў і пацвярджае цяпер твар гэтага дзіцяці, у якім мы абодва пазналі твар нашага сына.

– Пакуль вы падрабязна не растлумачыце, сеньёра, я нічога не зразумею, – выгукнуў кабальера.





Тут якраз апрытомнела Леакадзія і з укрыжаваннем у абдымках залілася морам слёз. Усё гэта павергла кабальера ў скрайнюю разгубленасць, ад якой яго вызваліла жонка, распавёўшы ўсё тое, што ёй паведаміла Леакадзія, і ён паверыў ёй з Боскай волі нябёсаў, бо ўсё было пацверджана многімі і сапраўднымі сведчаннямі. Ён суцешыў і абняў Леакадзію, пацалаваў унука, і ў той жа дзень яны паслалі вестуна ў Неапаль, паведамляючы сыну, каб той тэрмінова прыехаў, таму што яны дамовіліся ажаніць яго з жанчынай прыгажосці надзвычайнай, якая яму вельмі пасуе. Яны не пагадзіліся адпусціць Леакадзію і яе сына ў дом бацькоў, якія былі вельмі задаволены такой удачай дачкі і бясконца дзячылі Богу за тое, што здарылася Вестун прыбыў у Неапаль, і Радольфа, ахоплены жаданнем нацешыцца такой прыгожай жанчынай, як апісаў яе бацька, праз два дні пасля атрымання пісьма, як толькі надарыліся чатыры галеры, што збіраліся адплыць у Іспанію, узышоў на борт адной з іх разам са сваімі двума сябрукамі, якія дагэтуль не пакінулі яго, і пасляхова за дванаццаць дзён даплыў да Барселоны, а адтуль на паштовых праз сем наступных дзён прыбыў у Таледа і ўвайшоў у дом свайго бацькі, такі чароўны і мужны, як быццам найвышэйшыя праявы чароўнасці і мужнасці сuладна з'ядналіся ў ім.

Бацькі ўзрадаваліся здароўю і шчасліваму вяртанню сына. Леакадзія была ўражана, убачыўшы яго з зацішнага месца, адкуль не выходзіла паводле плана да знака доньі Эстэфаніі. Сябрукі Радольфа хацелі адразу ж ісці дадому, але іх не адпусціла доньяЭстэфанія, каб выкарыстаць для сваёй задумкі. Пакуль гатавалі вячэру, доньяЭстэфанія паклікала ад Радольфа яго сябрукоў з поўным перакананнем, што яны і ёсць тыя двое з трох, пра якіх распавяла Леакадзія, што былі з Радольфа той ноччу, калі яе выкралі, доньяЭстэфанія пачала вельмі іх упрошваць сказаць ёй, ці не памятаюць яны, як яе сын выкраў жанчыну той ноччу шмат гадоў назад, таму што ведаць праўду было важна для гонару і спакою ўсяго іхняга рода; імкнучыся расчуліць іх, яна ўпрошвала і запэўнівала, што раскрыццё гэтага выкрадання не можа нанесці ім ніякай шкоды; урэшце яны палічылі за лепшае прызнацца, што сапраўды аднойчы летняй ноччу з яшчэ адным сябрам і разам з Радольфа, як яна і сказала, выкралі дзяўчыну; Радольфа паскакаў з ёю прэч, а яны тым часам затрымалі людзей з яе сям'і, якія з крыкамі хацелі абараніць дзяўчыну; на наступны дзень Радольфа расказаў ім, як прывёз яе ў свой дом, – вось усё, што яны маглі адказаць на яе пытанні.

Прызнанне абодвух паклала крэс усім сумневам, якія яшчэ маглі заставацца, і доньяЭстэфанія вырашыла давесці да канца сваю задумку, а задумана было наступнае. Перад тым, як сесці вячэраць, яна завяла Радольфа ў пакой і паказала партрэт са словамі·

– Я хачу, Радольфа, мой сын, наладзіць для цябе смачную вячэру і паказаць табе тваю нявесту; гэта яе праўдзівы партрэт; але я хачу папярэдзіць, што брак прыгажосці ў яе дапаўняецца празмернай дабрадзейнасцю: яна шляхетная, і разумная, і ў меру багатая, і калі мы з тваім бацькам выбралі яе, то запэўніваю, што яна табе пасуе.

Радольфа ўважліва ўгледзеўся ў партрэт і сказаў:

Калі жывапісцы, якія звычайна схільныя залішне ўпрыгожваць твары, што малююць, не схібілі завядзёнцы і ў гэтым творы, то я ўпэўнены, што арыгінал мусіць быць надзвычайнай выродлівасці; клянуся, маці і гаспадыня мая, гэта справядліва і добра, што дзеці падпарадкоўваюцца волі сваіх бацькоў, але куды больш натуральна і лепей, калі бацькі прапануюць дзецям партыю, якая тым падабаецца, шлюб – гэта ж вузел, які развязвае толькі смерць, і добра, калі яго канцы роўныя і зроблены з тых самых нітак; дабрадзейнасць, высакароднасць, розум і матэрыяльныя багацці сапраўды могуць узрадаваць душу таго, каго ўсё гэта навекі звязвае з жонкай, але каб выродлівасць жонкі радавала вочы мужа, – гэта здаецца мне немагчымым, я – кавалер, але добра разумею што таінству шлюбу адпавядае натуральная і належная асалода, якой цешацца муж і жонка, а калі асалоды бракуе, то шлюб кульгае і не выконвае свайго другога прызначэння[4]; думаць, што выродлівы твар, які будзе ў цябе перад вачыма ўвесь час у зале, за сталом, і ў ложку, можа дарыць асалоду, – кажу ў другі раз, – гэта недарэчна, заклінаю жыццём Вашай Міласці, мая маці, каб вы далі мне спадарожніцу, якая будзе мяне цешыць, а не нудзіць, каб мы, не адхіляючыся ў бакі, разам і простым

шляхам пранеслі ўскладзенае на нас абаіх ярмо туды, куды заклікаюць нас Нябёсы; калі гэтая сеньёра знатная, разумная і багатая, як кажа Ваша Міласць, ёй знойдзецца муж з іншым настроем, чым у мяне, адны шукаюць знатнасці, другія розуму, іншыя грошай, а нехта прыгажосці, і я з тых апошніх; знатнасць, дзякуй нябёсам і маім продкам, мне дасталася ў спадчыну; розуму, калі прыгожая жанчына не зусім бязглуздая ці тупая, ёй заўсёды хопіць, каб не нарабіць лішняга глупства; што да багацця, дык вы таксама пазбавілі мяне страху жабрацтва; я красы шукаю, прыгажосць люблю, і не трэба мне іншага пасагу, як толькі гонару і добрых манер; калі гэтым валодае мая жонка, я буду служыць Богу з задавальненнем і забяспечу дастойную старасць маім бацькам.

Вельмі задаволенай засталася маці словамі Радольфа, якія адпавядалі яе задуме; яна адказала, што парупіцца, каб ажаніць яго ў адпаведнасці з ягоным жаданнем, што не спатрэбяцца вялікія намаганні, каб разладзіць заручыны з гэтай сеньёрай. Радольфа дзячыў ёй, надышоў час вячэры, і яны пайшлі да стала, калі ўселіся бацька і маці, Радольфа і ягоныя сябрукі, донья Эстэфанія сказала нібыта між іншым:

– Грахі мае, добрая ж я гаспадыня! Хадзіце, – сказала яна аднаму са слуг, ды скажыце сеньёры доні Леакадзіі, каб яна не саромячыся прыйшла да нас і ўпрыгожыла сабой гэты стол, за якім сабраліся мае дзеці і іхнія слугі.

Усё гэта было ёю загадзя задумана, і пра ўсё, што мела адбыцца, Леакадзія ведала і была папярэджана. Хутка выйшла да іх Леакадзія і прадэманстравала нечакана чароўную і рэдкую па вытанчанасці ды натуральнасці прыгажосць. Яна была апранута па-зімоваму ў сукенку з чорнага аксаміту, абсыпаную залатымі гузікамі і жамчужынамі, з брыльянтавым пасам і калье, валасы яе, доўгія і ў меру светлыя, служылі ёй упрыгожаннем і токай[5], хітраспляценне стужак і кучароў і бляск уплеценых сярод іх брыльянтаў сляпілі вочы тых, хто глядзеў на яе. Леакадзія была поўная далікатнай чары і грацыі, яна вяла за руку свайго сына, а спераду ішлі дзве паненкі, асвятляючы яе свечкамі ў бронзавых падсвечніках. Усе ўсталі, каб павітаць яе, – нібыта нябесная з'ява цудоўным чынам завітала сюды Ніхто з прысутных, гледзячы на яе асляпянела, не мог ад здзіўлення вымавіць ані слова. Леакадзія сваёй лёгкай грацыяй і ветлым норавам сцішыла ўсіх; донья Эстэфанія, узяўшы яе за руку, пасадзіла насупраць Радольфа. Дзіця пасадзілі побач з дзедам Радольфа, які зблізу ўбачыў непараўнальную прыгажосць Леакадзіі, прызнаваўся сабе· "Калі тая, каго маці абрала мне за жонку, мае хоць бы палову гэтай прыгажосці, то я самы шчаслівы чалавек у свеце. О, Божа! Што за здань! Ці не анёла ў чалавечым выглядзе бачу я перад сабой?"

Калі ён адводзіў ад яе вочы, то імкнуўся захаваць у душы прыгожы вобраз, а Леакадзія, пакуль працягвалася вячэра, бачачы зусім побач з сабою таго, каторага пакахала ўсім сэрцам, раз-пораз употай пaглядала на яго і пачала зноў перажываць успаміны пра тое, што ў яе здарылася з Радольфа: у яе душы ўспыхнула надзея, бо маці абрала яго ёй за мужа, але таксама боязь, ці не будзе яе беднасць перашкодай абяцанням ягонай маці; яна разумела, як блізка была ад свайго шчасця або ад вечнай нядолі, перажыванне было такім напружаным, а думкі так віравалі, што сэрца яе сціснулася, яна спатнела і раптам пачала губляць колер твару, а затым страціла прытомнасць, ад чаго галава яе апусцілася на рукі доні Эстэфаніі, якая, убачыўшы яе стан, узрушана прытуліла яе. Усе ўскочылі з-за стала і кінуліся, каб дапамагчы. Але найбольшую гатоўнасць паказаў Радольфа, спяшаючыся да яе, ён спатыкнуўся і ўпаў Леакадзіі расшпілілі каўнер, пырскалі вадой у твар, але нішто не вяртала яе да прытомнасці, прыпаўшы да грудзей, не адчулі пульса, што было дакладнай прыкметай смерці, служанкі і слугі доўга не думаючы загаласілі і абвясцілі яе мёртвай Гэтая горкая навіна дасягнула бацькоў Леакадзіі, якіх донья Эстэфанія схавала, каб зрабіць сюрпрыз. І яны разам з пробашчам парафіі, які быў з імі, парушыўшы загад доні Эстэфаніі, увайшлі ў залу

Пробашч паспяшаў да Леакадзіі, каб пaглядзець, ці не дае яна знакаў жадання пакаяцца ў грахах, каб адпусціць іх; але замест аднаго непрытомнага ён знайшоў дваіх, таму што Радольфа ляжаў тварам уніз на грудзях у Леакадзіі.

Донья Эстэфанія саступіла яму месца ля той, якая ўжо належала яму; але, убачыўшы, што Радольфа таксама згубіў прытомнасць, яна сама была гатова сам-





лець і самлела б, калі б не ўбачыла, што Радольфа апрытомнеў, прысаромлены тым, што яго ўбачылі ў такім адчаі; ягоная маці, нібыта адчуўшы ягоныя перажыванні, сказала·

– Не саромейся, сын, свайго адчаю, але саромейся з іншай прычыны, калі даведаешся аб тым, што я больш не хачу хаваць ад цябе, бо я думала пакінуць гэта да больш радаснай нагоды: ведай жа, мой любы сын, што тая, каторую я трымаю ў абдымках, ёсць твая сапраўдная нявеста; кажу сапраўдная таму, што я і твой бацька абралі яе для цябе, а тая, што на партрэце, была несапраўдная.

Калі Радольфа пачуў гэта, яго ахапіла палымяная жарсць; названы жаніхом, ён адкінуў усе рамкі прыстойнасці і сціпласці, адпаведныя месцу, прыпаў да твару Леакадзіі і прытуліўся вуснамі да яе вуснаў, нібыта спадзяваўся, што калі яе пакінула душа, то яна злучыцца з ягонай душой Калі было праліта мора жаласных слёз пад несупынныя галашэнне – маці і бацька Леакадзіі рвалі на сабе валасы, а крыкі сына доні Эстэфаніі ўзносіліся да самага неба, Леакадзія нечакана апрытомнела, і з ёю вярнуліся радасць і весялосць, якія былі пакінулі сэрцы прысутных. Леакадзія ўбачыла сябе ў абдымках Радольфа і хацела ў цнатлівым парыве вызваліцца, але ён сказаў ёй·

– Не, сеньёра, так нельга, нядобра вырывацца з абдымкаў таго, у каго вы пануеце ў душы.

У гэтае імгненне Леакадзія канчаткова авалодала сваімі пачуццямі, а донья Эстэфанія, пакінуўшы сваю ранейшую задуму, сказала пробашчу, каб той зараз жа павянчаў яе сына з Леакадзіяй, што той і зрабіў, бо гэтая падзея адбывалася ў часы, калі шлюб заключаўся толькі з волі прысутных, без выканання свяшчэнных прадпісанняў, прынятых у нашу пару[6], таму не складала цяжкасці асвяціць шлюб. Сталася, што сталася, але я пакідаю іншаму пяру і розуму, больш далікатнаму, чым мой, магчымасць апісаць агульную радасць усіх прысутных; як бацькі Леакадзіі прынялі ў абдымкі Радольфа; як яны дзячылі нябёсам і бацькам Радольфа; як адорвалі яны адзін аднога, як дзівіліся сябрукі Радольфа, што нечакана ўбачылі ў вечар прыезду такое прыгожае вяселле, і яшчэ больш здзівіліся, калі даведаліся разам з усімі са слоў доні Эстэфаніі, што Леакадзія ёсць той паненкай, якую ў хаўрусе з імі выкраў яе сын, што не менш збянтэжыла і Радольфа; і, каб пераканацца яшчэ больш у праўдзівасці сказанага, ён папрасіў Леакадзію паказаць на нейкую прыкмету, праз якую ён мог бы пераканацца цалкам у тым, у чым, як ён не сумняваецца, ягоныя бацькі ўжо добра разабраліся. Яна адказала:

– Калі я ачнулася і апрытомнела ад таго даўняга ўзрушэння, то ўбачыла сябе зняслаўленай ў вашых, сеньёр абдымках; але я лічу тое добрым знакам, што, апрытомнеўшы ад нядаўняга ўзрушэння, я зноў апынулася ў тых жа абдымках, толькі цяпер не з ганьбай, а з гонарам; а калі гэтай прыкметы мала, то можа будзе досыць укрыжавання, якое ніхто акрамя мяне не мог украсці: ці гэта тое ўкрыжаванне, якое вы не знайшлі раніцай і якое цяпер трымае мая гаспадыня?

– Гэта ты, мая любоў, мой скарб на ўсе гады па волі Божай.

Ён зноў абняў яе, і зноў загучалі блаславенні і добрыя пажаданні.

Працягвалася вячэра, з'явіліся музыкі, прыгатаваныя для гэтай нагоды. Радольфа глядзеў, як у люстра, у твар свайго сына; ад шчасця плакалі ўсе чатыры – дзяды і бабулі, не засталося ў доме кутка, дзе б не панавалі захапленне, шчасце і радасць; і хаця ноч падлятала на лёгкіх чорных крылах, Радольфа здавалася, што яна набліжаецца не на крылах, а на мыліцах – такім вялікім было жаданне застацца сам-насам са сваёй любай жонкай Урэшце настала жаданая гадзіна, таму што ўсяму бывае канец. Усе пайшлі спаць, дом агарнула магільная ціша, але не ў гэтым праўда апавядання, якую інакш не пацвердзілі б многія дзеці і слаўныя нашчадкі, якіх пакінулі ў Таледа шчаслівыя муж і жонка, што многія і шчаслівыя гады цешыліся адно адным, сваімі дзецьмі і ўнукамі.

Усё гэта сталася па волі Божай і праз *сілу крыві*, пра што мне распавёў мужны, славуты і добры хрысціянін – дзед Луісіка.

## ЛІЦЭНЦЫЯТ ВІДР'ЕРА*

Шпацыруючы па беразе Тормэса[1], два кабальера-студэнты напаткалі спячага пад дрэвам хлопца гадоў гэтак адзінаццаці, апранутага па-сялянску; паслалі слугу абудзіць яго; той абудзіў, і яны спыталіся, адкуль ён і чаму спаў у гэтым глухім месцы Хлапец адказаў, што забыў-

ся імя свайго краю і што ідзе ў горад Саламанку шукаць гаспадара, якому хоча паслужыць, за тое толькі, каб той вучыў яго. Спыталіся ў яго, ці ўмее чытаць, адказаў, што так, і пісаць таксама.

– Такім чынам, – сказаў адзін з кабальера, не з прычыны слабой памяці ты забыўся імя сваёй радзімы.

– Як ёсць, так і ёсць, адказаў хлапец, – ані імя яе, ані маіх бацькоў не даведаецца ніхто, пакуль я не праслаўлю іх.

– Дык жа якім спосабам ты думаеш іх праславіць? – спытаўся другі кабальера.

– Вучэннем, – адказаў хлапец, стануся знакамітым дзеля іх; бо я чуў, што з простых людзей выходзяць у біскупы.

Гэты адказ схіліў кабальера ўзяць і адвесці яго з сабой, што яны і зрабілі, а ва Універсітэце далі яму пакой для навукі паводле завядзёнкі, прынятай там адносна слугаў. Хлапец сказаў, што яго завуць Тамас Радаха, з прозвішча і вопраткі хлопца ягоныя гаспадары зрабілі выснову, што ён мусіў быць сынам нейкага селяніна-бедняка. Праз колькі дзён яго апранулі ў чорнае, а праз колькі тыдняў Тамас прадэманстраваў рэдкае ўменне служыць сваім гаспадарам з вернасцю, пунктуальнасцю і спрытам Ні ў чым не адстаючы ў навуцы, ён, здавалася, займаўся адно прыслугоўваннем, а як харошая служба рухае жаданнем пана ставіцца да слугі добра, то Тамас Радаха хутка ўжо быў не слугой сваіх гаспадароў, а таварышам. Урэшце, за восем гадоў побыту з імі ён стаўся такі знакаміты ва Універсітэце праз свой ясны розум і выдатныя здольнасці, што ўсе навокал яго паважалі і любілі. Ягоным галоўным прадметам была юрыспрудэнцыя, але найбольш ён вызначыўся ў вольных мастацтвах; ён меў такую ўчэпістую памяць, што ўсе захапляліся, і дэманстраваў яе з такой зразумелай яснасцю, што праславіўся праз яе.

Надышоў час ягоным гаспадарам скончаць вучобу і вяртацца ў родны кут – у адзін з лепшых гарадоў Андалузіі Яны ўзялі з сабой і Тамаса, ён пабыў з імі колькі дзён; але яго не пакідалі думкі аб вяртанні да сваёй навукі ў Саламанцы, якая зачароўвае жаданнем вярнуцца ўсіх, хто пакаштаваў тамтэйшага жыцця, Тамас папрасіў у гаспадароў дазволу вярнуцца. Яны, высакародныя і шчодрыя, адпусцілі яго, аддзячыўшы за службу багата, дадзенага імі хапіла б, каб пратрываць тры гады.

Тамас Радаха развітаўся з імі, выказаўшы словамі сваю ўдзячнасць, і рушыў з Малагі – то была радзіма ягоных кабальера Сыходзячы з адхону Замбры па антэкерскаму гасцінцу, ён сустрэўся з апранутым па-дарожнаму дваранінам на кані з коннымі слугамі. Тамас далучыўся да яго і даведаўся, што той кіруецца ў тым жа напрамку; яны пагаманілі пра тое-сёе і хутка пасябравалі, праз кароткі час Тамас прадэманстраваў свой рэдкі розум, а кабальера сваё дзівацтва і далікатнае абыходжанне Кабальера расказаў, што ён капітан Яго Вялікасці і што ягоны прапаршчык вярбуе жаўнераў у наваколлі Саламанкі Ён выхваляў жаўнерскае жыццё; вельмі жыва вымалёўваў прыгажосць горада Неапаля, забавы ў Палерма, багацці Мілану, святы ў Ламбардыі, раскошныя стравы ў шынках; прывабна і дэталёва абрысоўваў яму aconcha, patrón; pasa acá, manigoldo, venga la macatela, li polastri e li macarroni[2] Да неба ўзносіў ён хвалы вольнаму жыццю жаўнера і свабодзе Італіі, але нічога не сказаў пра холад старожаў, небяспеку штурмаў, жах бітваў, голад аблогаў, забойчыя падкопы ды іншыя рэчы падобнага кшталту, якія некаторымі ўспрымаюцца і ўяўляюцца толькі выдаткам жаўнерскага жыцця, хаця з'яўляюцца яго галоўным цяжарам. У выніку ён столькі нагаварыў і так прыгожа, што разважлівасць Тамаса Радахі пахіснулася, і ён захапіўся жаўнерскім жыццём, такім блізкім да смерці.

Капітан, яго звалі Дзіега дэ Вальдзівія, надзвычай задаволены прыемнай знешнасцю, розумам і разняволенасцю Тамаса, пачаў прасіць яго, калі той хоча, накіравацца з ім у Італію дзеля цікаўнасці; ён прапанаваў стол і нават, калі будзе неабходна, свой сцяг, таму што ягоны прапаршчык неўзабаве звальняўся Не трэба было далей шмат намагацца, каб Тамас прыняў запрашэнне, бо пра сябе ўжо вырашыў, што было б добра пабачыць Італію і Фландрыю ды іншыя розныя краіны і дзяржавы, доўгія падарожжы робяць людзей больш разумнымі, а тыя тры-чатыры гады, што ён будзе вандраваць, не перашкодзяць вяртанню да навукі. А каб усё атрымалася паводле ягоных жаданняў, ён сказаў капітану, што з задавальненнем пойдзе за ім у Італію, толькі мае ўмову· не ўставаць у штыхі пад сцягам, каб не трапляць у жаўнерскі спіс, з чаго потым будзе абавязаны ісці за





сцягам. Капітан яму сказаў, што яму гэта неабавязкова, што ён і так будзе карыстацца забеспячэннем і жалаваннем, якое даюць роце, таму што ён аддасць распараджэнне на гэта, як толькі спатрэбіцца.

– Іншае, – сказаў Тамас, азначала б ісці супраць майго і супраць сеньёра капітана сумлення; я хачу служыць свабодным, а не па абавязку.

– Ваша сумленнасць настолькі педантычная, – сказаў дон Дзіега, – што больш нагадвае сумленнасць святара, чым салдата; але якой бы яна ні была, мы ж сябры.

Той жа ноччу яны прыбылі ў Антэкеру і праз колькі дзён і доўгіх пераходаў дабраліся да месца фармавання роты, гатовай выступіць на Картагену; іхняя рота кватаравала разам з іншымі трыма ротамі па мястэчках, што траплялiся паўз дарогу. Там Радаха спазнаў уладу камісараў, задзірыстасць некаторых камандзіраў, руплівасць інтэндантаў, спрытнасць і майстэрства ў падліку рахункаў скарбнікаў, енкі насельніцтва, аплату даведкамі, нахабства рэкрутаў, бойкі паміж пастаяльцамі, запатрабаванне большых, чым трэба, пабораў і, урэшце, немагчымасць не тварыць тое, што называецца злом

Тамас адмовіўся ад студэнцкай вопраткі і апрануўся ў стракаты мундзір, бо, як кажуць, Бог то Бог, але будзь сам не плох. З многіх кніжак, якія меў, ён пакінуў "Малітваслоў Маці Божай" і кніжку Гарсіласа без каментарыя, запхнуўшы іх у кішэні на пасе Прыбылі яны ў Картагену датэрмінова, але без асаблівага жадання, бо страцілі жыццё на пастоях – нерэгламентаванае і разнастайнае, з чаго штодзень здараецца нешта новае і яркае. Там яны пагрузіліся на чатыры неапалітанскія галеры, і тады спазнаў Тамас жыццё на моры, дзе дапякаюць клапы, крадуць катаржнікі, назаляюць матросы, грызуцца мышы і мучае гойданка. Яго палохалі вялікія навальніцы і штормы, асабліва ў Леёнскім заліве, дзе іх надарылася два, адзін адкінуў да Корсікі, а другі вярнуў у Тулон, што ў Францыі. Урэшце змучаныя, прамоклыя і з падпухлымі вачыма, яны прыбылі ў надзвычайнай красы горад Геную і, высадзіўшыся на бераг у маленькай штучнай бухце ды наведаўшы царкву, на чале з капітанам, усім хаўрусам скіравалі ў шынок, дзе пад gaudeamus[3] адправілі ў забыццё ўсе навальніцы, праз якія прайшлі.

Там яны смакавалі вытанчанасць трэб'янскага, насычанасць монтэфрасконскага, сілу асперынскага, раскошу грэчаскага гатунку Кандзія і Сома, веліч "Пяці вінаграднікаў", слодыч і мяккасць жаночага гатунку Гуарнача; між іншым, сярод гэтых радавітых выбранцаў не насмелілася з'явіцца раманскае з яго жлобствам. І вось калі яны апрабавалі меню з многіх разнастайных вінаў, шынкар загадаў паднесці ім, не прыбягаючы да хітрыкаў і не падманваючы цэтлікамі, натуральныя і сапраўдныя Мадрыгал, Коку, Алаэхас і хутчэй імператарскае, чым каралеўскае, Рэаль-Сьюдад – жарцік бога смеху; затым ён запрапанаваў Эксківіяс, Аланіс, Казалья, Гуадальканал і Мэмбрылью, не забыўшыся на Рыбадавію і Дэскаргамарыю. Урэшце, чым больш шынкар называў вінаў, тым больш частаваў, нібыта было ў ягоных склепах столькі, колькі меў сам Бахус.

Наш Тамас упадабаў таксама залацістыя валасы генуэзак, далікатныя і расправоленыя адносіны мужчын, незвычайную прыгажосць горада, дзе, здаецца, скалы аблямоўваюць пабудовы, як залатая аправа дыяменты. На наступны дзень высадзіліся на бераг усе роты, якія мусілі рушыць на П'емонт; але Тамас захацеў асобна ісці пешшу ў Рым і Неапаль, так і зрабіў, вырашыўшы завітаць праз Венецыю і Ларэта ў Мілан і П'емонт, дзе, як сказаў дон Дзіега дэ Вальдзівія, яны сустрэнуцца, калі яго не пашлюць у Фландрыю, пра што была гаворка. Тамас развітаўся з капітанам і праз пяць дзён прыбыў у Фларэнцыю. Спачатку ён агледзеў Луку – горад малы, але вельмі зграбна пабудаваны; тут лепш, чым у іншых мясцінах Італіі, прымалі і віталі іспанцаў Тамаса прыемна ўсцешыў Луку прывабным ландшафтам, чысцінёй, велічнымі пабудовамі, празрыстай ракой і ціхімі вуліцамі. Пабыў ён там чатыры дні і рушыў адтуль на Рым, які царуе над гарадамі і валадарыць светам. Наведаў яго храмы, пакланіўся яго святыням і захапіўся ягонай веліччу; як па кіпцюрах пазнаецца веліч і лютасць льва, так ён пазнаваў Рым па раструшчаных мармурах, распалавіненых і ацалелых рэзьбах, па паламаных арках і разваленых тэрмах, прыўкрасных портыках і вялікіх амфітэатрах, па славутай святой рацэ, якая заўсёды поўніцца водамі ў сваіх берагах і бласлаўляе, як рэліквіямі, целамі пакутнікаў, якія знайшлі тут сваю магілу; па ягоных мастах, якія,

здаецца, глядзяць адзін на адзін, па вуліцах, якія аднымі толькі назвамі выклікаюць здзіўленне большае, чым усе гарады ў свеце. Вія Апія, Фламінія, Юлія і да таго падобнымі. Не менш здзівілі Тамаса знакамітыя выспы Рыма: Цэлія, Квірынала, Ватыкан і іншыя, назвы якіх увасабляюць рымскую веліч і ўзвышанасць. Ён адзначыў таксама імпазантнасць Калегіума Кардыналаў, урачыстасць Святога Прастолу, разнастайнасць і шматаблічнасць людзей і расаў. Тамас агледзеў усё, занатаваў і ўпарадкаваў уражанні. Наведаўшы адна па адной сем цэркваў, паспавядаўшыся ў духоўніка і пацалаваўшы нагу Яго Свяцейшаства, набраўшы колькі можна было agnusdei[4] і ружанцаў, ён вырашыў ісці на Неапаль, а з прычыны сезону спёкі, кепскага і шкоднага для ўсіх, хто прыбывае або пакідае Рым у падарожжы па сушы, ён рушыў у Неапаль па моры, дзе да захаплення ад убачанага ў Рыме дадалося захапленне ад убачанага ў Неапалі, горадзе, на думку Тамаса і ўсіх, хто яго наведаў, лепшым у Еўропе і нават ва ўсім свеце.

Адтуль Тамас скіраваўся на Сіцылію, дзе агледзеў Палерма, а потым Месіну; у Палерма ён упадабаў краявід і прыгажосць пабудоваў, у Месіне – порт, а на ўсім востраве багацце, за якое ён па справядлівасці завецца жытніцай Італіі. Адсюль Тамас зноў вярнуўся ў Неапаль, потым у Рым, а затым скіраваўся да Божай Маці, што ў Ларэта, да свяшчэннага храма, дзе не відаць было ані сценаў, ані муроў, таму што ўсё было заслонена мыліцамі, саванамі, ланцугамі, вярыгамі, кайданамі, парыкамі, невялічкімі статуэткамі з воску, карцінамі і алтарнымі абразамі, якія былі сведчаннем незлічоных міласцяў, атрыманых шмат кім з рукі Божай праз пасрэдніцтва Божай Маці, якая хацела ўзвялічыць і ўславіць гэты свой найсвяцейшы прыстанак многімі цудамі, з удзячнасці за адднасць усім тым, хто такімі заслонамі ўпрыгожыў муры яе дома. Ён убачыў і само памяшканне, пакойчык[5], дзе адбылася перадача найсвяцейшага паслання, самага вялікага з існых, ухваленага ўсімі нябёсамі, і ўсімі анёламі, і ўсімі жыхарамі вечных светаў

Адсюль, узышоўшы на карабель у Анконе, ён рушыў у Венецыю, горад, які, калі б не Калумб, не меў бы сабе роўных у свеце. дзякуй Нябёсам і славутаму Эрнанда Картэсу, які заваяваў вялікі Мехіка[6], каб вялікая Венецыя займела сабе суперніка. Гэтыя два славутыя гарады падобныя вуліцамі, што поўнасцю пралягаюць па вадзе; той, што ў Еўропе, – гонар старога свету; той, што ў Амерыцы, – цуд новага свету Тамасу падалося, што багацце Венецыі неабсяжнае, кіраўніцтва разумнае, умацаванні неадольныя, раскоша многая, наваколлі вясёлыя, і ўрэшце ўся яна ў цэлым і па частках вартая той славы, што гучыць ва ўсіх канцах свету; а ў дадатак трэба згадаць пра верфь са знакамітым арсеналам – месца, дзе будуюцца галеры і іншыя незлічоныя караблі

Лічы Каліпсавы дарункі[7] і забавы займеў наш цікаўнік у Венецыі, так што ледзь не забыўся на сваю першасную мэту. Але пабыўшы тут месяц, ён праз Ферару, Парму і Пласенсію пашыбаваў на Мілан, майстэрню Вулкана, на які квапіцца Французскае каралеўства; пра гэты горад кажуць, што ён пераможца ўва ўсім, Тамас пераканаўся ў бліскучай велічы ягонага сабора і ў вялікім багацці ўсяго, што неабходна для чалавечага жыцця Далей ён рушыў у Астэ і прыбыў туды своечасова, бо на другі дзень там маршыраваў у Фландрыю трэці полк Тамаса вельмі добра сустрэў ягоны сябра капітан, і з ім ён пайшоў у Фландрыю, у Антверпэн, горад не менш чароўны, чым пабачаныя ім у Італіі. Затым Тамас наведаў Гент і Брусэль і зразумеў, што ўся краіна гатова ўзяцца за зброю, каб распачаць вайну наступным летам Напатоліўшы жаданне, якое падштурхнула яго ўбачыць усё, што ён пабачыў, Тамас вырашыў вярнуцца ў Іспанію і ў Саламанцы скончыць сваю вучобу; падумаў так і зрабіў, чым вельмі засмуціў свайго таварыша, які прасіў яго ў момант развітання дасылаць звесткі пра здароўе, прыезд і поспехі. Тамас паабяцаў яму ўсё, аб чым той прасіў, і праз Францыю вярнуўся ў Іспанію, не пабачыўшы Парыжа, бо там было абвешчана ваеннае становішча Урэшце ён вярнуўся ў Саламанку, дзе яго добра прынялі сябры, і з іх падтрымкай працягнуў сваю вучобу, пакуль не атрымаў дыплом ліцэнцыята права

Сталася так, што ў гэты час у горад прыехала адна дама шкоднага і вясёлага нораву. На яе прынаду траплялі ўсе прывабленыя ёю мясцовыя кавалеры, нават vademécum[8] наведвалі яе Тамасу сказалі, што тая дама распавядала, як была ў Італіі і Фландрыі, і каб пераканацца, ці не знаёмая яна яму, ён наведаў яе; пасля ягонага візіту яна закахалася ў Тамаса, а ён не зважаў на гэта і не хацеў заходзіць у яе дом інакш як пад прымусам і ў суправаджэнні іншых. Урэшце яна адкрыла яму сваё жаданне і гатова была аддаць яму ўсё, што мела; але з тае прычыны, што кнігі захаплялі яго больш за іншыя забавы, ён ніяк не адказаў на жарсць сеньёры; натуральна, яна пачулася абражанай, бо не здолела звычайнымі і простымі спосабамі прывабіць Тамаса, таму яна вырашыла шукаць іншых спосабаў, на яе думку, больш эфектыўных і дастатковых, каб дасягнуць здзяйснення жаданняў. На параду адной марыскі[9] яна дала Тамасу падмешаны ў таледскую пасцілу мэмбрыльё – сродак з тых, што, па меркаванні некаторых, здольны ўзмоцніць жаданне пакахаць жанчыну· але няма ў свеце зёлак, замоў і словаў дастатковых, каб змусіць вольны выбар; невыпадкова тыя, што даюць замоўленыя напоі або стравы, называюцца venéficas[10], бо ўчыненае імі ёсць не што іншае, як атручванне тых, хто гэтым карыстаецца, за што сведчаць шматлікія выпадкі.

У нядобрую гадзіну з'еў Тамас мэмбрыльё, і адразу ў яго амярцвелі ногі і рукі, нібыта ад радзімца; ён не вяртаўся да прытомнасці шмат гадзін; апытомнеў як ачумелы і сказаў блытана, што з'едзены ім мэмбрыльё забіў яго, і паведаміў, хто зрабіў гэта. Правасуддзе, атрымаўшы звесткі пра здарэнне, пачало шукаць злачынку, але тая, прадчуваючы кепскія наступствы, кінулася прэч, толькі яе і бачылі.

Шэсць месяцаў Тамас правёў у ложку, за гэты час, як кажуць, зусім змарнеў плоццю і меў прыкметы ненармальнасці; і хаця ім апекаваліся як толькі магчыма, вылячылі адно хваробу цела, але не розуму; ён выздаравеў, але застаўся вар'ятам з найбольш дзіўным вар'яцтвам сярод бачаных дагэтуль вар'яцтваў. Няшчасны ўявіў сабе, што ён увесь са шкла, і, апантаны гэтым уяўленнем, калі хто-небудзь падыходзіў да яго, страшна галасіў, просячы і молячы адчайнымі словамі, каб не набліжаліся да яго і не разбілі – таму што насамрэч і папраўдзе ён быў не як усе людзі, а ўвесь са шкла з галавы да ног

Каб вывесці яго з гэтага дзіўнага ўяўлення, многія, не зважаючы на ягоныя енкі і мальбы, кідаліся да яго і абдымалі, кажучы, каб ён пераканаўся і ўбачыў, што не б'ецца. Але з гэтага ён кідаўся на зямлю з немым лямантам, а потым упадаў у шок, з якога не выходзіў па чатыры гадзіны, а калі выходзіў, то распачынаў зноў прасіць і маліць, каб другі раз да яго не падыходзілі. Раіў, каб размаўлялі з ім здалёк і пыталіся, пра што хочуць ведаць, таму што на ўсё ў яго ёсць ясны адказ, бо ён чалавек са шкла, а не з плоці, а паколькі шкло – матэрыя тонкая і далікатная, то душа дзейнічае праз яе з большым спрытам і эфектыўнасцю, чым праз цела, цяжкое і зямное Некаторыя пагаджаліся на эксперымент – ці праўда тое, што ён кажа, і так пыталіся ў яго пра многія і складаныя рэчы, на што ён адказваў імгненна і з вялікай вастрынёй розуму; гэты факт выклікаў захапленне найбольш адукаваных асобаў з Універсітэта – прафесароў медыцыны і філасофіі; ім давялося пагадзіцца, што ў вар'яце, які лічыць, што ён са шкла, месціцца розум, здольны рэагаваць на кожнае пытанне адпаведна і трапна.

Тамас папрасіў шырокі чахол, куды ён змясціў бы крохкі сасуд свайго цела, каб не разбіць яго, бо такое магло б здарыцца, апранаючы вузкія строі; яму далі цёмны балахон і досыць шырокую кашулю, якую ён апрануў вельмі асцярожна, а потым падперазаўся бавоўнянай вяроўкай Ён нізавошта не хацеў абуваць чаравікі і загадаў, каб яму давалі есці не набліжаючыся да яго, а падносячы на кончыку кія начны гаршчок, куда накладалі б што-небудзь з садавіны, падоранай адпаведнай парой года. Ні мяса, ні рыбы ён не хацеў; піў не інакш як з крыніцы або ракі і з далоняў; калі ішоў па вуліцы, то пасярэдзіне, паглядаючы на дахі са страхам, што якая бліжэйшая з даховак упадзе і разаб'е яго; улетку ён спаў у полі пад голым небам, а ўзімку забіваўся ў які-небудзь заезны дом, хаваўся ў салому па самую шыю, сцвярджаючы, што гэта найбольш адпаведны і надзейны ложак для людзей са шкла Калі грымеў гром, ён тросся, нібы пабіты, уцякаў у поле і не вяртаўся ў жыллё, пакуль не скончыцца навальніца. Неяк сябры Тамаса зачынілі яго надоўга пад замок, але, убачыўшы, што ад гэтага няшчасце не мінае, вырашылі саступіць ягоным просьбам, выпусціць на волю, і так яго пакінулі, а ён блукаў па гораду, выклікаючы цікавасць і шкадаванне ўсіх, хто яго ведаў.

На вуліцы Тамаса адразу атачалі хлапчукі; ён стрымліваў іх кіем і прасіў размаўляць з ім на адлегласці, каб не разбіць яго, таму што як чалавек са шкла ён

вельмі ўразлівы і лёгка б'ецца. Хлапчукі самы гарэзлівы народ на свеце, насуперак ягоным просьбам і енкам пачыналі шпурляцца розным шмаццём і нават каменнем, каб паглядзець, ці ён сапраўды шкляны, як кажа, але ён так лямантаваў і так адчайна кідаўся, што дарослыя лаяліся і каралі хлапчукоў, каб тыя не шпурляліся. Аднойчы, калі малыя вельмі дапяклі яго, ён звярнуўся да іх, кажучы:

– Што вы хочаце ад мяне, хлапчукі, дакучлівыя, як машкара, брудныя, як клапы, нахабныя, як блохі? Можа, я рымскі пагорак Тэстача, таму вы і шпурляецеся ў мяне шматамі і дахоўкамі?[11]

Каб паслухаць, як ён ушчувае нахабаў і адказвае на пытанні дарослых, яго заўсёды суправаджала шмат людзей, а хлапчукі бавіліся не толькі шпурляючыся ў яго шмаццём, але і слухаючы яго Калі ён ішоў аднойчы паўз галантарэйную краму, гандлярка сказала яму·

– Скажу ад душы, сеньёр Ліцэнцыят, мне цяжка глядзець на ваша няшчасце, але што зробіш, калі я не магу плакаць?

Ён звярнуўся да яе і сказаў вельмі сур'ёзна:

– Filiae Hierusalem, plorate super vos et super filios vestros[12].

Муж гандляркі зразумеў злавеснасць сказанага і вылаяў яго.

– Браце Ліцэнцыят Відр'ера, – так ён называў сябе сам, – ты больш шэльма, чым вар'ят.

Абы я не быў балванам, – адгукнуўся той.

Ідучы аднойчы паўз публічны дом, ён убачыў ля дзвярэй яго жыхарак і сказаў, што яны – абоз войска Сатаны, пекла якога ў заезным доме. Нехта спытаў яго, якую параду або суцяшэнне падкажа Відр'ера ягонаму сябру, які вельмі сумуе, таму што яго жонка сышла да іншага. На што Відр'ера адказаў:

– Скажы яму, што няхай дзячыць Бога за дазвол выслаць з дому свайго ворага.

– Дык што, не трэба ісці шукаць яе? – сказаў другі.

– І не думай, – адказаў Відр'ера, – таму што адшукаць яе значыла б адшукаць пастаяннага і сапраўднага сведку сваёй ганьбы

Калі так, – сказаў той, – то што рабіць, каб жыць у міры з жонкай?

Відр'ера адказаў яму:

– Дай ёй, што трэба; няхай камандуе ўсімі ў тваім доме, але не дазваляй ёй камандаваць табой

Адзін хлапец сказаў яму:

– Сеньёр Ліцэнцыят Відр'ера, я хачу ўцячы ад майго бацькі, бо ён часта б'е мяне.

Відр'ера адказаў яму:

– Запомні, дзіця, што пакаранне бацькоў – гонар для дзяцей, а пакаранне ката – ганьба.

Стоячы ў дзвярах царквы, Відр'ера ўбачыў, як туды ўвайшоў работнік з тых, што заўсёды выхваляюцца званнем шчырых хрысціян, а за ім наступны, якога паважалі так жа сама, як і першага. Відр'ера на ўвесь голас сказаў работніку:

– Пачакай, Дамінга, хай пройдзе Субота[13].

Пра школьных настаўнікаў ён сказаў, што тыя шчаслівыя, бо займаюцца заўсёды анёламі, і былі б яшчэ больш шчаслівымі, калі б анёлы не былі смаркачамі. Нехта яго спытаў, што ён думае пра зводніц. Ён адказаў, што яны яму не чужыя, а блізкія.

Звесткі пра яго вар'яцтва, рэплікі і выказванні разышліся па ўсёй Касціліі; на яго звярнуў увагу адзін магнат і пажадаў сустрэцца з Відр'ера. Ён даручыў свайму сябру кабальера, які быў у Саламанцы, каб той перадаў запрашэнне. Сустрэўшы аднойчы на вуліцы Відр'ера, кабальера сказаў:

– Ведаеце, сеньёр Ліцэнцыят Відр'ера, адна важная асоба пры двары хоча ўбачыць вас.

На што той адказаў·

– Ваша Міласць няхай выбачыць мяне перад тым сеньёрам, але я не падыходжу для палаца, таму што саромлюся і не ўмею ліслівіць.

Аднак кабальера ўсё-такі запрасіў яго да двара, а каб адвезці, выкарыстаў наступнае вынаходства. Відр'ера пасадзілі ва ўючныя мяхі з саломай, у якіх перавозяць шкло, ураўнаважылі іх мяхамі з каменнем, а ў салому змясцілі некалькі шкляных прадметаў, каб ён зразумеў, што яго будуць везці як шкляныя вазы. Яны прыбылі ў Вальядалід уначы, і Відр'ера вынялі з меху ў доме сеньёра, які прыняў яго вельмі добра

– Сардэчна запрашаю сеньёра Ліцэнцыята Відр'еру. Як прайшло падарожжа? Як здароўе?

На што Відр'ера адказаў·

– Канец падарожжа не бывае кепскім, за выключэннем падарожжа на шыбеніцу. Што да здароўя, то ўсё ў парадку, бо мой пульс адпавядае маім думкам.

На другі дзень, убачыўшы на седлах шмат сокалаў, ястрабаў і іншых паляўнічых птушак, Відр'ера сказаў, што сакалінае паляванне дастойнае князёў і важных сеньёраў, але калі выдаткі на забаву не перавышаюць прыбыткаў больш, чым у дзве тысячы разоў. Паляванне на трусоў, сказаў ён, вельмі прыемнае, асабліва калі паляваць з пазычанымі хартамі.

Сеньёру спадабаўся вар'ят, і ён адпусціў яго хадзіць па гораду пад апекай і аховай чалавека, які сачыў, каб хлапчукі не шкодзілі яму; аднак хлапчукі ды і ўвесь двор хутка ўсё ведалі пра Відр'ера, на кожным кроку, на кожным рагу вуліцы ён адказваў на ўсе пытанні, якія яму задавалі; сярод іншага адзін студэнт спытаў, ці Відр'ера паэт, бо здаецца, што ён мае на ўсё талент На што Відр'ера адказаў:

– Да гэтай пары я не быў ані настолькі дурны, ані настолькі шчаслівы.

– Не разумею, як гэта дурны і шчаслівы? – запытаўся студэнт

Відр'ера адказаў·

– Я не быў настолькі дурны, каб стаць кепскім паэтам, ні настолькі шчаслівы, каб заслужыць быць добрым.

Спытаўся ў яго другі студэнт, ці ён шануе каго з паэтаў? Відр'ера адказаў, што само майстэрства аж надта, а што да паэтаў, то нікога. Дапытваліся, чаму ён сказаў так. Ён адказаў, што з незлічонай колькасці паэтаў настолькі нямногія добрыя, што амаль не складаюць колькасці, а значыць паэтаў як бы і няма, таму ён іх і не шануе, але захапляецца і пакланяецца майстэрству паэзіі, бо яно ўключае ў сабе ўсе астатнія навукі, майстэрства паэзіі паслугоўваецца ўсімі навукамі, усімі ўпрыгожваецца і ад іх красуе і дорыць цудоўныя творы, праз якія свет поўніцца карысцю, насалодай і цудам. І дадаў:

– Я добра ведаю, што трэба шанаваць сапраўднага паэта, бо ў адным вершы Авідзія гаворыцца.

*Cura ducum fuerunt olim regumque poetae,*
*Praemiaque antiqui magna tulere chori.*
*Sanctaque majestas, et erat venerabile nomen*
*Vatibus, et largae saepe dabantur opes*[14]

Я не забываюся і на высокую вартасць паэтаў, якіх Платон называе тлумачальнікамі багоў, а Авідзій кажа пра іх:

*Est Deus in nobis, agitante calescimus illo*[15]

І яшчэ:

*At sacri vates, et Divum cura vocamur*[16]

Гэта ён кажа пра добрых паэтаў; што да кепскіх, да зброду, дык што можна сказаць пра іх акрамя таго, што яны ёсць вар'яцтва і фанабэрыя свету?

І дадаў:

– Варта паслухаць паэта з ліку адораных, калі ён хоча прачытаць санет іншым, тым, што побач з ім: "Вашы Міласці пачуюць санецік, які я сёння ўначы зрабіў з пэўнай нагоды; на маю думку, хаця ён не варты нічога, але поўны не ведаю якога хараства!" І тады натапырвае вусны, уздымае аркай бровы, корпаецца ў кішэні і дастае разам з іншым тысячу паперчын зашмальцаваных і надарваных, дзе з тысячы іншых санетаў выцягвае той, які хоча прадэкламаваць, і ўрэшце чытае яго салодка і манерна І калі часам слухачы па хітрасці або па нявыхаванасці сваёй не выхваляюць яго, ён кажа. "О, Вашы Міласці не зразумелі санета, або гэта я не здолеў прачытаць яго, тады будзе лепш прадэкламаваць яшчэ раз, а Вашы Міласці няхай паставяцца з большай увагай, таму што санет гэтага заслугоўвае"

І бярэцца зноў дэкламаваць, з новымі жэстамі і новымі паўзамі Ды што толку і ацэньваць іх? Альбо што сказаць пра брэх маладых шчанюкоў на старых і суровых ваўкадаваў? А што пра тых, якія блюзнераць на славутыя і выдатныя сюжэты, дзе разліваецца сапраўднае святло паэзіі, якое было суцяшэннем сярод цяжкіх жыццёвых клопатаў; вялікія паэты дэманструюць боскасць свайго таленту і ўзвышанасць, нягледзячы на невуцкае атачэнне, якое мяркуе аб тым, чаго не ведае, і гідзіцца тым, чаго не разумее, а хоча, каб шанавалі і цанілі дурасць, што месціцца пад балдахінам, і невуцтва, што падтрымлівае троны?

Іншым разам яго спыталі, у чым прычына таго, што паэты па большасці бедныя. Відр'ера адказаў, што ад кахання, а багацце ў іхніх руках, калі б яны толькі маглі пакарыстацца магчымасцю, трымаючы яго ў абдымках; багацце паэтаў – гэта іх да́мы, яны надзвычай каштоўныя, бо маюць залатыя валасы, твар з бліскучага срэбра, зялёныя смарагдавыя вочы, зубы са слановай косці, каралавыя вусны і шыю з празрыстага крышталю, а калі плачуць, то вадкімі жамчужынамі, і яшчэ, хаця іх слёзы падаюць на цвёрдую і неўрадлівую зямлю, часам яна родзіць жасміны і ружы, а подых жанчын з чыстай амбры і мускусу; і ўсё гэта ёсць знакі і доказы іх вялікага багацця

Гэта і шмат што іншае казаў Відр'ера пра кепскіх паэтаў; што да добрых, то заўсёды казаў хораша і ўзносіў іх на рог Месяца.

Убачыў ён аднойчы з цвінтара царквы Святога Франсіска фігуры, намаляваныя бесталаннай рукой, і сказаў, што добрыя жывапісцы імітуюць Натуру, а кепскія ёю ванітуюць. Аднойчы ён завітаў, крайне асцярожна, каб не разбіцца, у кнігарню, і кажа:

– Гэтая крама падабалася б мне вельмі, калі б тут не было махлярства.

Гаспадар кнігарні папрасіў патлумачыць. Ён адказаў·

– Шэльмы тыя, хто купяць патэнт на кнігу, а потым згуляюць жарт з яе аўтарам, калі выдадуць яе на свой кошт, а гандляры замест тысячы пяцісот надрукуюць тры тысячы кніг; аўтар думае, што прадаюць ягоныя кнігі, а гандаль ідзе іхнімі.

Тым жа днём здарылася, што прывялі на плошчу шэсць прыгавораных да хвастання, і калі вяшчальнік сказаў· "Першы ўдар нягодніку", Відр'ера на ўсё горла гукнуў тым, што стаялі спераду·

– Пастойце, браткі, а з каго пачынаць гэты адлік?

А калі вяшчальнік вымавіў· "Апошні .", Відр'ера сказаў·

– Дык гэта я яго апошняя задніца.

Адзін хлапец сказаў яму·

– Браце Відр'ера, заўтра будуць хвастаць зводніцу.

Той заўважыў яму:

– Хвастаць зводніцу – тое самае, што хвастаць карэту

Патрапіў аднойчы на вочы Відр'ера адзін з тых, каго носяць у крэсле-насілках, і спытаў·

– А пра нас, Відр'ера, нічога не скажаш?

– Не, – адказаў Відр'ера, – хіба толькі адно· кожны з вас ведае больш грахоў, чым спавядальнік, але з адной розніцай спавядальнік ведае іх, каб трымаць у сакрэце, а вы – каб разнесці па шынках.

Пачуў гэта паганяты мулаў, бо слухалі яго заўсёды самыя розныя людзі, і кажа.

– Пра нас, сеньёр Відр'ера, пэўна, можна сказаць або мала або зусім нічога, таму што мы людзі добрыя і патрэбныя грамадству

Вось што на гэта адказаў Відр'ера.

– Гонар гаспадара адкрываецца ў гонары слугі; гэта значыць, пагляздзі, каму служыш, і ўбачыш, колькі ў цябе гонару; вы, паганятыя, самая подлая парода, якую носіць зямля. Аднойчы, калі я яшчэ не быў шкляным, праязджаў на пазычаным муле адзін, у якога я налічыў сто дваццаць адзін грэх, і ўсе смяротныя і варожыя роду чалавечаму Усе паганятыя мулаў – грубіяны, зладзеі і махляры; калі гаспадары, – так яны называюць тых, каго возяць іхнія мулы, – легкаверныя, то яны махляраць як ніхто і нідзе іншы, калі гспадары не мясцовыя, яны іх рабуюць, калі студэнты, яны іх аблайваюць, калі святары, то блюзнераць, калі салдаты, то трасуцца Маракі, рамізнікі і паганятыя мулаў маюць асаблівы стыль жыцця і жывуць толькі для сябе паганяты правodзіць большую частку жыцця ў прасторы памерам ў вару з паловай, што застаецца яму за ношай мулаў спераду павозкі, ён спявае палову часу, а другую палову лаецца словамі. "Асадзі назад!", калі часам трэба выцягнуць кола з дрыгвы, то больш прыдадуцца пару дурняў, чым тры паганятых мулаў Маракі – людзі паганскага складу, нецывілізаваныя, яны не ведаюць іншай мовы акрамя карабельнай, у штыль яны спрытныя, а ў шторм лентухі, падчас навальніцы ўсе камандуюць, ды няма каму выконваць, іхнія багі – гэта карабель і пайка, а іхняя забава – глядзець, як пакутуюць ад марской хваробы пасажыры. Паганятыя – гэта людзі, якія ўзялі развод з прасцінамі, а шлюб з сёдламі, яны такія спрытныя і ўвішныя, што, баючыся згубіць дзень, губляюць душу; іхняя музыка – грукат ступкі; іхнія прысмакі – голад; ранішнія малітвы для іх – устаўшы ад сну, даць корм быдлу, а іхняя імша не слухаць ніякай імшы

Кажучы гэта, ён стаяў перад дзвярмі аптэкі, а скончыўшы – звярнуўся да гаспадара.

– Ваша Міласць валодае ўстановай, што была б вельмі карыснай для здароўя, каб не ваша варожасць да свяцільнікаў

– Якім гэта чынам я вораг свяцільнікаў? – спытаўся аптэкар

Відр'ера адказаў·

– Я кажу так таму, што калі бракуе алею для свяцільніка, вы падліваеце любога алею, які трапіў пад руку; гэтага дастаткова, каб падарваць крэдыт даверу да самага прыстойнага лекара ў свеце

На просьбу патлумачыць сваю думку ён адказаў, што ёсць аптэкары, якія, каб не казаць, што ў іхняй аптэцы бракуе чагосьці, прапісанага лекарам, прапануюць тое, што падобнае на выгляд, але толькі на выгляд, таму сфабрыкаваны лек дзейнічае з адваротным вынікам Урэшце спытаўся ў яго адзін з тут прысутных, ці чуў ён пра сапраўдных лекараў, і Відр'ера адказаў наступнае.

– Honora medicum propter necessitatem, etenim creavit eum Altissimus. A Deo enim est omnis medela, et a rege accipiet donationem Disciplina medici exaltabit caput illius, et in conspectu magnatum collaudabitur Altissimus de terra creavit medicinam, et vir prudens non abhorrebit illam[17]

– Гэта кажа, – сказаў ён, "Эклезіяст" Медыцыны і добрых лекараў, а пра кепскіх можна сказаць зусім наадварот, таму што няма людзей больш шкодных для грамадства, чым яны Суддзя можа сказіць або адхіліцца ад закона, адвакат павярнуць на свой капыл несправядлівую справу; гандляр надурыць нас з аплатай урэшце ўсе, з кім мы вымушаны быць у зносінах, могуць нейкім чынам нашкодзіць нам; але ніхто з іх не пазбаўляе нас жыцця не баючыся пакарання; толькі лекары могуць нас забіваць і забіваць без страху і ціхай сапай, вымаючы з похваў адзін толькі меч рэцэпта; і немагчыма раскрыць іхнія злачынствы, таму што яны своечасова хаваюць іх пад зямлю Прыгадваю, калі я быў чалавекам з плоці, а не са шкла, як цяпер, то да лекара звярнуўся адзін чалавек палячыцца адначасова з іншым чалавекам, і вось праз чатыры дні першы завітаў мімаходзь у аптэку, куды звярнуўся з рэцэптам і другі, і спытаў у аптэкара, што чуваць пра гэтага хворага, і ці лекар выпісаў таму якое-небудзь слабіцельнае. Аптэкар адказаў, што ў яго ёсць рэцэпт слабіцельнага, якое на наступны дзень павінен прыняць той хворы; наведвальнік загадаў паказаць рэцэпт і ўбачыў, што ў канцы яго было напісана· Sumat dilúculo[18] Тады ён сказаў· "Усё, што тычыцца гэтага слабіцельнага, мяне задавальняе, калі б не гэта dilúculo"

Пра гэта ды іншае казаў Відр'ера адносна тых установаў, якія мінаў, не пакрыўджаны і без перадыху; але пры ўсім пры тым не ўнік бы хлапчукоў, каб не абараняў яго ахоўнік.

Неяк спытаўся ў Відр'ера адзін чалавек. як не зайздросціць нікому?

– Спі ўвесь час, калі спіш, ты будзеш роўны таму, каму зайздросціш.

Другі спытаў яго, якім чынам дасягнуць пасады, на якую ён прэтэндуе ўжо два гады. Відр'ера сказаў·

Сядай на каня і кіруйся туды, куды ён цябе панясе, ажно пакуль ён не дасягне межаў гораду За мяжой ты будзеш роўны таму, хто кіруе ў горадзе

Аднойчы Відр'ера выпадкова праходзіў ля месца, куды выязны суддзя накіроўваўся па крымінальнай справе і вёў за сабой шмат людзей і двух судовых выканаўцаў; Відр'ера спытаў, хто яны, а калі яны назваліся, сказаў:

– Іду ў заклад, што гэты суддзя хавае на грудзях гадзюку, на поясе пісталеты і маланкі ў руках, каб знішчыць усё, што трапіцца пад яго юрысдыкцыю. Я памятаю, быў у мяне сябра, які на выязным судзе даў прысуд настолькі несправядлівы, што шматкроць перавышаў віну злачынцаў Я спытаў яго, чаму ён даў такі суровы прысуд і дапусціў такую відавочную несправядлівасць Ён адказаў мне, што меркаваў даць магчымасць для апеляцыі і тым самым адкрыць шлях для сеньёраў з Рады, каб тыя маглі прадэманстраваць сваё спачуванне, змягчаючы і даводзячы ягоны жорсткі прысуд да дакладнага і адпаведнага ўзроўню Я яму адказаў, што было б лепш асуджаць такім чынам, каб пазбавіць іх гэтага клопату; да таго ж за гэта яго б яшчэ лічылі суддзёй справядлівым і прыстойным

Сярод мноства людзей, што, як было сказана, заўсёды слухалі Відр'ера, быў адзін ягоны знаёмы ў строі юрыста, да якога звярталіся "сеньёр ліцэнцыят", Відр'ера, ведаючы, што той, каго называюць ліцэнцыятам, не мае нават тытула бакалаўра, сказаў яму·

– Глянь жа ты, дружа, ці не з такім жа тытулам блукаюць браты ордэну, што выкупляюць палонных ды і нас могуць апісаць як безгаспадарных?

На што той знаёмец кажа.

– Стаўцеся да мяне добра, сеньёр Відр'ера, вы ж ведаеце, што я чалавек высока і глыбока адукаваны

Адказаў яму Відр'ера

– Я ведаю, што вы ёсць Тантал[19] у ведах, таму што яны для вас або надта высокія, або на недасягальнай глыбіні.

Аднойчы, прытуліўшыся да майстэрні краўца, Відр'ера ўбачыў, што той сядзіць склаўшы рукі, і сказаў яму:

– Без сумневу, сеньёр маэстра, вы на шляху да выратавання

– Па чым гэта вы бачыце? – спытаў яго кравец.

– Па чым бачу? – здзівіўся Відр'ера. –

Бачу па тым, што, не маючы працы, вы не маеце магчымасці маніць.

І дадаў:

– Гора таму краўцу, які не маніць і працуе ў свята: дзіўна, што з усіх, хто займаецца тваім рамяством, знойдзецца, можа, адзін, які пашые строй па памеру, а астатнія зробяць яго грэшнікам[20]

Пра шаўцоў ён сказаў, што, на ягоную думку, яны ніколі не шыюць дрэнных чаравікоў; калі чаравікі пададуцца вузкімі і цеснымі, шаўцы кажуць, што так і трэба, каб выглядаць элегантна абутым; панасіўшы іх пару гадзін, растопчаш шырэй за альпаргаты[21]; а калі чаравікі аказваюцца вялікімі, то яны даводзяць, што так і трэба, каб не было падагры.

Адзін спрытны хлапец, пісарчук правінцыйнай канторы, даймаў яго пытаннямі і просьбамі ды прыносіў звесткі пра тое, што адбывалася ў горадзе, бо Відр'ера аб усім шматслоўна разважаў і адказваў на ўсе пытанні. Хлапец сказаў яму аднойчы

– Відр'ера, сёння ўначы ў астрозе памёр адзін мяняла, яго прыгаварылі да вісельні.

На што той адказаў:

– Добра, што ён паспяшаўся памерці, перш чым яго павесіць кат.

Неяк на цвінтары царквы Святога Франсіска сабралася група генуэзцаў, і калі Відр'ера ішоў паўз, адзін з іх гукнуў·

– Хадзі сюды, сеньёр Відр'ера, і раскажы нам якую гісторыю.

Відр'ера адказаў·

– Не хачу, таму што вы можаце перавесці яе на рахунак у Генуі[22].

Сустрэлася яму аднойчы гандлярка, якая вяла перад сабой сваю дачку, вельмі брыдкую, але ўсю абвешаную медальёнамі, упрыгожаннямі і жамчужынамі. Відр'ера пахваліў маці:

– Вельмі добра ты зрабіла, што выбрукавала яе, так што можна і праехаць.

Пра кандытараў ён сказаў, што яны заўсёды робяць двайную стаўку ў гульне без пройгрышу· выстаўляюць пірожнае, якое каштуе два пенса па цане ў чатыры, тое, што каштуе чатыры, па цане ў восем, а тое, што каштуе восем, па цане ў паўрэала – адно па сваёй прыхамаці і з карысці. Пра батлейшчыкаў ён сказаў кепска: яны бадзяюцца абы-дзе і блюзнерàць на ўсё боска, марыянеткамі, якіх яны паказваюць у батлейцы, абсмейваецца ўсё пабожнае; часам ім даводзіцца напакаваць у мяхі марыянеткі Старога Запавету і Новага, а потым сядзець на гэтых мяхах у карчмах і шынках; Відр'ера здзіўляўся, чаму гэта ніхто не забароніць батлейкі або не вытурыць іх з каралеўства.

Надарылася яму аднойчы праходзіць міма блазна, апранутага пад князя, убачыўшы яго, Відр'ера сказаў:

– Я, памятаю, бачыў, як ён выходзіў з тэатра з напудраным тварам і ў кажуху навыварат, але на кожным кроку кляўся, што ён шляхецкага паходжання.

– Можа, так яно і ёсць, – адказаў нехта – таму што ёсць шмат блазнаў шляхецкага паходжання

– Няхай будзе так, – пагадзіўся Відр'ера, – але каму ўжо не трэба блазнаваць, дык гэта высакародным асобам; ім трэба быць галантнымі, арыстакратычнымі і прыгожа гаварыць. Што і казаць, хлеб у іх нялёгкі, трэба ўвесь час запамінаць ролі на памяць; вечныя цыганы, бадзяюцца з месца на месца з заезнага двара ў карчму, з усіх сіл забаўляючы іншых, таму што ў чужым задавальненні сэнс іхняй уласнай карысці. Ім трэба было б нікога не ашукваць сваім рамяством, а яны разгортваюць свой тавар у грамадскіх месцах на пацеху і на вачах ва ўсіх. Праца актораў неверагодная, а іхняе майстэрства надзвычайнае, але яны мусяць вельмі шмат працаваць, каб напрыканцы года не аказвацца даўжнікамі, якіх крэдыторы цягнуць у суд; і пры ўсім тым яны патрэбныя грамадству, як лясы, алеі і мясціны для забавы, як усялякія іншыя рэчы, што сапраўды забаўляюць.

Потым ён сказаў, што адзін ягоны сябра пераканаöы, нібыта той, хто заляцаецца да камедыянткі, заляцаецца ў яе асобе да многіх дам, да каралевы, німфы, багіні, пасудамыйкі, пастушкі, і нават шматкроць выпадае заляцацца да пажа ці лакея, таму што гэтыя і многія іншыя ролі можа ўвасобіць камедыянтка.

Нехта спытаў Відр'ера, хто самы шчаслівы ў свеце? Ён адказаў, што Нэма, таму што Nemo novit patrem; Nemo sine crimine vivit; Nemo sua sorte contentus; Nemo ascendit in coelum.[23] Пра настаўнікаў фехтавання ён сказаў: яны майстры такой навукі або мастацтва, што калі трэба паказаць яго, то не ведаюць як; у фанабэрыстых паставах імкнуцца адпарыраваць матэматычнымі разлікамі халерычныя рухі і думкі сваіх супернікаў. З тымі, хто насіў бараду, ён быў у адмысловай варожасці; аднойчы ля яго спрачаліся два чалавекі, адзін з іх, партугалец, сказаў касцільцу, схапіўшыся за сваю бараду, вельмі пафарбаваную:

– Por istas barbas que teño no rostro. .[24]

На што адгукнуўся Відр'ера:

– Olhay, home, naon digáis *teño*, sino *tiño*[25]

Касцілец насіў бараду пад яшму, шматколерную, чаму віной была кепская фарба, яму Відр'ера сказаў, што ў яго барада, як стракатая куча гною. Іншаму, які насіў бараду напалову белую і напалову чорную, бо занядбаў яе, ды надзвычай кудлатую, ён сказаў, каб той устрымаўся ад спрэчак і лаянкі з кім бы ні было, таму што мусіў быць гатовы да адказу, што хлусіць паловай барады.

Аднойчы Відр'ера расказаў пра адну разважлівую і разумную паненку, якая, каб выканаць жаданне сваіх бацькоў, дала згоду пабрацца шлюбам з адным зусім сівым дзедам, які ўвечары перад заручынамі акунуўся не ў раку Іардан, як кажуць бабулі, а ў балею з растворам гарэлкі і срэбра; гэтым ён так паднавіў бараду, што прыбраў сівізну і паддаў смолі. Надышоў час заручын, і паненка, пазнаючы па масці і колеру асобу, тым не менш сказала бацькам, каб ёй прадставілі таго самага жаніха, якога яны ўжо ёй паказвалі, а іншага яна не хоча. Бацькі сказалі, што ён стаіць тут – гэта той самы, якога яны паказвалі раней і абралі за мужа. Яна заўпарцілася, што не той, і прадставіла сведкаў, паводле якіх ранейшы, абраны яе бацькамі, быў чалавек лядашчы і сівы, а як гэты сівізны не мае, то ён не яе абраннік, і гэта чысты падман. Падфарбаваны стары асараміўся, і заручыны ляснулі.

Дуэны выклікалі ў ім тую ж зласлівасць, як і пафарбаваныя; ён казаў дзіўныя рэчы пра іхнія permafoy[26], пра вэлюмы іхніх токаў, пра іхняе бясконцае крыўлянне, пра іх грэблівасць і надзвычайную беднасць; яго раздражнялі іх цялесная худоба, галавакружэнні, манера размаўляць з напышлівасцю, параўнальнай хіба толькі з іх токамі, і ўрэшце іхняя непатрэбнасць.

Нехта сказаў яму·

– Сеньёр Ліцэнцыят, мы чулі, як вы столькі разоў асуджалі розныя прафесіі, але ніколі ў сваіх прамовах не закранулі пісараў.

На што ён адказаў:

– Хаця я і шкляны, але не настолькі падатлівы, каб упадабацца тысячу разоў ашуканай чэрні Здаецца мне, што пісары ёсць лемантаром скандалістаў і траля-ля для тых, хто вучыцца спяваць; як немагчыма трапіць у іншыя навукі інакш, як толькі праз браму Граматыкі, і як спявак спачатку мармыча, а потым спявае, таксама і скандалісты, калі вучацца дэманстраваць зласлівасць сваіх языкоў, то пачынаюць з асуджэння пісараў, судовых выканаўцаў ды іншых прыслужнікаў правасуддзя, а між тым прафесія пісара такая, што без яе праўду загналі б у кут і там зневажалі б; Эклезіяст кажа так: In manu Dei potestas hominis est, et super faciem scribae imponet honorem[27] Пісар ёсць грамадская асоба, і без яго суддзя не можа нармальна выконваць свой абавязак. Пісары павінны быць свабоднымі, не рабамі і не дзецьмі рабоў, і не байструкамі, а народжанымі законна і не ад якой-небудзь нізкай расы Яны даюць клятву захоўваць таямніцу, вернасць і не рабіць ліхвярскіх запісаў; ні дружба, ні варожасць, ні выгода або шкода не павінны замінаць ім выконваць свой абавязак па-хрысціянску і з чыстым сумленнем. Дык калі гэтая прафесія патрабуе такіх адменных якасцяў, то навошта думаць, што з больш чым дваццаці тысяч пісараў Іспаніі д'ябал здыме ўраджай, нібыта яны лозы на ягоным вінаградніку. Я не хачу верыць і не раю верыць у гэта нікому; кажу вам, яны людзі найбольш неабходныя з тых, што ёсць у добраўпарадкаваных грамадствах, і калі яны набываюць больш правоў, ім дастаецца і больш крыўдаў, і між гэтых дзвюх супрацьлегласцяў – іхняя сярэдзіна, якая прымушае пісараў заўсёды быць напагатове.

Пра судовых выканаўцаў Відр'ера сказаў, што не ў многіх з іх ёсць сябры, бо іхняя прафесія – апісваць або канфіскоўваць тваю маёмасць, садзіць цябе пад хатні арышт і есці за твой кошт. Пасля ён закрануў нядбайнасць і дурасць пракурораў і зборшчыкаў падаткаў, параўноваючы іх з лекарамі, якія, – здаровы ці хворы пацыент, – бяруць сваю плату; пракуроры робяць тое ж самае выйграюць або не выйграюць працэс, які вядуць, а грошы плаці.

Нехта спытаў яго, якая зямля лепшая. Адказаў, што тая, якая дае ранні ўраджай Той, што пытаўся, сказаў·

– Я не пра гэта пытаюся, а пра лепшае месца: Вальядалід або Мадрыд?

Відр'ера адказаў·

– У Мадрыдзе акрайкі; у Вальядалідзе сярэдка.

– Не разумею, – паўтарыў той, што пытаўся.

Відр'ера тлумачыць:

– У Мадрыдзе – неба і зямля; у Вальядалідзе – тое, што між імі – дамы[28].

Пачуў Відр'ера, як сказаў адзін чалавек другому, што, як толькі ён прыехаў у Вальядалід, ягоная жонка надта цяжка захварэла, таму што ёй не даспадобы гэтая зямля. На што Відр'ера сказаў·

– Калі ваша жонка раўнівая, то лепш бы зямля адразу яе з'ела.

Пра пешых гончыкаў і музыкантаў ён казаў, што іх мэты і жаданні абмежаваныя, таму што ў адных канчатковая мэта – стацца коннымі гончыкамі, а ў другіх – музыкантамі караля. Пра дам, якіх называюць куртызанкамі, ён казаў, што ўсе яны або многія з іх больш ветлівыя, чым здаровыя[29] Аднойчы ў царкве ён убачыў, як прынеслі хаваць старога, хрысціць дзіця і прывялі вянчаць жанчыну, усё адначасова, і сказаў, што храмы – гэта месцы бітваў, дзе старыя паміраюць, дзеці перамагаюць, а жанчыны трыумфуюць.

Уджаліла яго аднойчы ў шыю аса, а ён не рашыўся пляснуць па ёй, каб не разбіцца, але не стрымаў стогну Нехта спытаў яго, як жа ён адчуў гэтую асу, калі ягонае цела шкляное? Ён адказаў, што тая аса, мабыць, скандалістка, а языкі ў скандалістаў дастаткова вострыя, каб прабіць нават цела з бронзы, не тое што са шкла Аднойчы, калі ён праходзіў каля месца, дзе стаяў вельмі тоўсты святар, адзін з ягоных слухачоў сказаў·

– Ад худобы гэты падрэ ледзь ходзіць.

Разззлаваўся Відр'ера і сказаў·

– Ніколі не забывайся, што кажа Дух Святы Nolite tangere christos meos[30]

І раз'юшана дадаў, каб паглядзелі на падрэ і ўспомнілі, што з многіх святых, якіх у апошнія гады ў гэтых краях кананізавала Царква і прылічыла да ліку блажэнных, ніхто не называўся капітанам донам Фулана, ні сакратаром донам такім дона гэткага, ні князем, маркізам або графам, а толькі братам Дзіега, братам Хасінта, братам Раймунда, усе братамі і манахамі, мясцовыя кляштары – гэта нябесны Аранхуэс, плады якога звычайна трапляюць на стол да Бога А языкі скандалістаў, як арлінвя пёркі, якія ганяць і прыніжаюць пёркі ўсіх іншых птушак, калі іх пакласці разам. Пра ўладальнікаў ігральных дамоў і шулераў ён казаў дзіўныя рэчы уладальнікі ігральных дамоў – гэта парушальнікі грамадскага парадку, таму што, здымаючы навар з таго, хто выйграе, яны жадаюць, каб ён потым прайграў і перадаў кон наступнаму суперніку, які б таксама выйграў, а ўладальніку ад гэтага зноў быў прыбытак. Ён вельмі выхваляў цярплівасць шулера, які ўсю ноч гуляў і прайграваў; і нягледзячы на тое, што меў характар халерычны і д'ябальскі, да ранку не ўцякаў ад суперніка і цярпеў, як пакутнік ад Барабаса. Выхваляў таксама сумленнасць дастойных уладальнікаў ігральных дамоў, якія ніколі не дазваляюць, каб у іх гулялі ў іншыя гульні акрамя курыцы і сотні; не спяшаючыся за хуткім прыбыткам і без ценю боязі яны маюць у канцы месяца большыя грошы, чым тыя, хто дазваляе гуляць у эстакаду, рэпаролу, сямёрку з узяткай, пінтупунту

Адным словам, Відр'ера казаў такія рэчы, што, каб не немы крык, якім ён крычаў, калі да яго дакраналіся або набліжаліся, каб не вопратка, якую ён насіў, каб не яго дзівосы ў харчаванні і не ягоная манера піць, каб не жаданне спаць толькі пад адкрытым небам улетку, а ўзімку ў сціртах, што выразна сведчыла пра ягонае вар'яцтва, то ніхто не мог бы падумаць пра Відр'ера інакш, як пра аднаго з разумнейшых людзей у свеце

Два гады ці трохі больш працягвалася гэтая хвароба, пакуль адзін манах ордэну Святога Геронiма, які валодаў сакрэтам і адмысловым майстэрствам вучыць нямых пэўным чынам размаўляць і вылечваць вар'ятаў, не падступіўся з міласэрнасці да Відр'ера, вылечыў і аздаравіў яго, вярнуў яму былы розум, здольнасці і дар мовы I вось, убачыўшы Відр'ера здаровым, ён апрануў яго як вучонага і вярнуў да двара, дзе, дэманструючы шматкроць свой розум, як некалі ў вар'яцтве, той мог цяпер ужо плённа карыстацца сваімі здольнасцямі і праслаўіцца праз іх.

Калі ўжо пад імем Ліцэнцыята Руэды, а не Радахі, ён вярнуўся да двара, то адразу быў пазнаны хлапчукамі, аднак, паколькі яны ўбачылі яго ў зусім іншай вопратцы, чым звычайна, то не насмеліліся крычаць або задаваць пытанні, але ішлі за ім і казалі між сабой

– Ці ж гэта не вар'ят Відр'ера? Клянуся, што ён Ужо ходзіць у разумніках. Але ж вар'ятам гэтаксама можна быць у добрай вопратцы, як і ў дрэннай, спытаемся ў яго што-небудзь і пазбавімся ад гэтага непаразумення.

Усё гэта пачуў Ліцэнцыят, змаўчаў, але быў больш сканфужаны і прысаромлены, чым калі бадзяўся ўтрапёным





Ад хлапчукоў навіна патрапіла да дарослых, і пакуль Ліцэнцыят дайшоў да дворыка дэ лос Кансэхас, за ім рухаліся больш за двесце асоб усіх саслоўяў. У гэтым суправаджэнні, якое было большым, чым у кафедральнага прафесара, ён увайшоў у дворык, дзе яго абкружылі ўсе, хто там быў Ён, задуменна аглядаючы гэтае атачэнне, узяў голас і сказаў:

– Сеньёры, я – Ліцэнцыят Відр'ера, але не той, ранейшы: цяпер я – Ліцэнцыят Руэда Поспехі і няўдачы, якія адбываюцца ў свеце па волі нябёсаў, пазбавілі мяне розуму, а міласэрнасць Боская мне яго вярнула. Па тых рэчах, што, як кажуць, я распавядаў, будучы вар'ятам, вы можаце меркаваць, што я здольны выказаць і зрабіць у здаровым розуме Я атрымаў вучоную ступень юрыста ў Саламанцы, дзе вучыўся ў беднасці, але быў другім сярод ліцэнцыятаў· з гэтага вынікае, што менавіта ўласныя здольнасці, а не што іншае, дазволілі мне атрымаць мой тытул. Я выйшаў у вялікае мора навукі, каб працаваць адвакатам і зарабляць на пражыццё, а мог бы веславаць ля берага да смерці, напрамілы Бог ідзіце за мной, толькі не пераследуйце мяне, я займеў, будучы вар'ятам, вашу падтрымку і не хацеў бы згубіць яе ў здаровым розуме Тое, пра што вы звычайна пыталіся ў мяне на плошчах, пытайцеся цяпер у маім доме, і вы ўбачыце, як той, хто адказваў трапна, як кажуць, экспромтам, лепш адкажа, добра падумаўшы.

Яго выслухалі, і некаторыя слухачы адразу адышлі Ён вярнуўся ў свой дом у значна меншым суправаджэнні, чым выйшаў з яго.

На наступны дзень сталася тое ж самае, ён у другі раз звярнуўся да іх з мальбой, але гэта ніяк не дапамагала. Ён згубіў шмат, а не дамогся нічога, убачыўшы, што памрэ тут з голаду, вырашыў пакінуць двор і вярнуцца ў Фландрыю, дзе меркаваў вызначыцца сілай рук, калі не здолеў вызначыцца сілай розуму. Пакідаючы двор, ён сказаў:

– О, двор, ты празмерна павялічваеш спадзяванні нахабных прэтэндэнтаў і абразаеш спадзяванні сціплых, бязмерна падтрымліваеш шэльмаў і морыш голадам разважлівых і сарамлівых!

Сказаў гэта і рушыў у Фландрыю, дзе жыццё, распачатае ім у святле навукі, завяршылася ў сутонні збройнага чыну, слаўнай смерцю трывалага і мужнага салдата, у роце ягонага добрага сябра капітана Вальдзівія

**Пераклаў з іспанскай**
**Валеры БУЙВАЛ.**
*Miguel de Servantes Saavedra.*
*La fuerza de sangue,*
*El Licenciado Vidriera –*
*Novelas ejmplares.*
*Moscú, 1976.*

### *ЗАЎВАГІ ПЕРАКЛАДЧЫКА*

СІЛА КРЫВІ

1 **ароба** – мера вагі ў Касцілії = 11,5 кг

2 **Eco li buoni...** – перакрыўленая італьянская фраза. "Вось харошыя кураняты, галубы, саланіна і кілбасы"

3 **па-раманску** – маецца на ўвазе па-касцільску

4 **другое прызначэнне** – маецца на ўвазе нараджэнне дзяцей

5 **тока** – высокі галаўны ўбор.

6 **свяшчэнных прадпісанняў** – маюцца на



# Замест пасляслоўя

**Шырокаму чытачу Мігель дэ Сервантэс Саведра (1547 – 1616) пераважна вядомы як аўтар геніяльнага рамана "Дон Кіхот" (1605 – 1616). Але літаратурная спадчына Сервантэса не абмяжоўваецца гэтым вялікім творам. Сервантэс пісаў вершы, паэмы, навелы, раманы, займаўся драматургіяй. У паэзіі даследчыкі яго творчасці вылучаюць верш "Пасланне да Матэа Васкеса", які быў створаны ў алжырскім палоне і ўяўляў сабой заклік да змагання з туркамі ды іх хаўруснікамі – алжырскімі піратамі.**

**Дарэчы, хаця жыццёвыя прыгоды (нягоды) Сервантэса і леглі ў аснову многіх яго твораў, але ў сваёй сукупнасці яны маглі б скласці фабулу яшчэ аднаго авантурна-гістарычнага рамана.**

ўвазе пастановы Трыдэнцкага сабору (1545–1563), якія рэгулявалі правілы царкоўнага шлюбу з абавязкавым папярэднім абвяшчэннем аб вянчанні. Дзея навелы разгортваецца да гэтай пастановы.

ЛІЦЭНЦЫЯТ ВІДР'ЕРА

* **"Vidriera"** – па-іспанску "аконная шыба", **"hombre vidriera"** – недатыка.

[1] **Тормэс** – рака, на якой стаіць горад Саламанка, дзе месціцца з 1239 г славуты універсітэт.

[2] **aconcha, patrón...** – фраза на сумесі іспанскай і італьянскай· "Гэй, гаспадар; хадзі сюды, шэльма, падавай біточкі, куранят і макароны!"

[3] **gaudeamus** – узрадуемся *(лацінск.)*; у значэнні "свята"

[4] **agnusdei** – "агнцы Божыя" *(лацінск.)*, свянцоныя васковыя плакеткі з выявай агнца з крыжом.

[5] **пакойчык...** – апісваецца каплічка Дзевы Марыі ў саборы горада Ларэта, у якой, паводле падання, Архангел Гаўрыіл дабравесціў мадонне аб нараджэнні Хрыста.

[6] **заваяваў вялікі Мехіка** – у 1512 г войскі Картэса захапілі і разбурылі сталіцу імперыі ацтэкаў Ценачцітлан і на тым жа месцы заснавалі горад Мехіка на астравах возера.

[7] **Каліпсавы дарункі** – німфа вострава Эгіна Каліпса ўтрымлівала Адысея на працягу сямі гадоў.

[8] **vademécum** – школьны сшытак або папка *(лацінск.)*; так аўтар называе слуг, што насілі сшыткі за гаспадарамі-студэнтамі.

[9] **адной марыскі** – марыскамі называлі хрышчаных маўрыцянак.

[10] **venéficas** – атручвальніцы *(лацінск.)*.

[11] **пагорак Тэстача** – пагорак у Рыме, заўсёды засыпаны чарапкамі.

[12] **Filiae Hierusalem...** – скарочаная лацінская цытата з Евангелля (Лука, XXIII, 28)· "Дочкі Ерусалімскія, не плачце па Мне, але плачце па сабе і па дзецях вашых"

[13] **Дамінга** – імя па-іспанску азначае "Нядзеля" Відр'ера іранізуе над "старым хрысціянінам" Дамінга, які падкрэслівае сваю перавагу над "новым хрысціянінам" "Новымі" называлі ахрышчаных пасля 1492 г габраяў Субота – свяшчэнны для іудзеяў дзень. А ў тыдні якраз нядзеля ідзе за суботай.

[14] **Cura ducum...** – цытата з "Мастацтва кахання" стражытнарымскага паэта Авідзія Назона: "Даўней багоў і цароў улюбёнцамі былі паэты; шмат дамагаліся дароў даўнія хоры. Святую веліч і гонар мела імя паэтаў і шчодра цяклі ім дары" *(лацінск.)*.

[15] **Est Deus...** – цытата з паэмы Авідзія "Фасты"· "Бог у нас жыве, і мы праз яго запалаем" *(лацінск.)*.

[16] **At sacri vates...** – цытата з паэмы Авідзія "Любоўныя элегіі" "Але свяшчэнныя паэты і завемся ўлюбёнцамі Бога" *(лацінск.)*.

[17] **Honora medicum...** – "Лекара даводзіцца шанаваць міжволі таму што яго стварыў Усявышні. – Усе лекі ад Бога, і ад цара прынясуць яму дары. Навука аточыць гонарам ягоную галаву, і заслужыць ён пахвальбы ад магнатаў. Усявышні з зямлі стварыў медыцыну, і праведнік не абразіць яе" *(лацінск.)*.

[18] **Sumat dilúculo** – нашча *(лацінск.)*.

[19] **Тантал** – міфічны цар Лідзіі, сын Зеўса. За знявагу багоў пакутаваў ад смагі і голаду ў Тартары, стоячы па горла ў вадзе пад галінамі з пладамі.

[20] **зробяць яго грэшнікам** – Сервантэс абыгрывае падвойнае значэнне слова justo: 1) "па памеру"; 2) "праведны"

[21] **альпаргаты** – плецены абутак з пянькі.

[22] **перавесці яе на рахунак...** – Сервантэс абыгрывае два значэнні слова cuento: 1) "гісторыя, апавяданне", 2) "Мільён" *(архаічнае)*.

[23] **Nemo...** – папулярная ў тыя часы гульня з лацінскім словам Nemo ("Ніхто") Сервантэс цытуе фразы з Евангелля ад Мацея (XI, 27) "Ніхто не ведае айца свайго"; са зборніка прыслоўяў Катона Дзіянісія "Дыстых пра норавы": "Ніхто не без граху"; з сатыры Гарацыя: "Ніхто не задаволены сваім лёсам"; з Евангелля ад Яна (III, 13): "Ніхто не патрапіць на неба", якія ў іспанскім кантэксце гучаць як "Нэма не ведае айца свайго" і г.д.

[24] **Por Istas...** – клянуся барадой, якую маю на маім твары *(партуг.)*.

[25] **Olhay, hombre...** – Чалавеча, кажы не *"маю́"*, а *"пафарбаваную" (партуг.)*.

[26] **permafoy** – клянуся гонарам *(старафранцузскае)*.

[27] **In manu...** – цытата з Бібліі, напісанай на вульгаце – сярэднявечнай лаціне: "Улада чалавека ў руцэ Божай, і на галаву пісара ўсклаў Ён гонар" (Эклезіяст).

[28] **У Вальядалідзе – тое, што між імі...** – Вальядалід стаіць у балоцістай, сырой мясцовасці. Славіўся сваімі добрымі дама́мі.

[29] **больш ветлівыя, чым здаровыя** – іспанскае слова cortesanas ("куртызанкі") Сервантэс падзяляе на cortesas ("ветлівыя") і sanas ("здаровыя").

[30] **Nolite tangere...** – "Не падымайце руку на памазанікаў маіх" *(лацінск.)* з кнігі "Параліпаменан" (I, XVI).

**Сервантэс, сын лекара, атрымаў універсітэцкую адукацыю. Падарожнічаў па Італіі, як сакратар кардынала. Затым доўга служыў у войску. Удзельнічаў у вайне супраць туркаў, але ў пераможнай бітве каля Леnанта 7 кастрычніка 1571 года страціў руку. Пасля пяць гадоў быў у палоне ў алжырскіх піратаў, дзе падрыхтаваў план агульнага вызвалення тысячаў палонных. Аднак вызвалены Сервантэс быў праз выкуп, які за яго заплацілі родзічы.**

**Сервантэс вярнуўся на бацькаўшчыну без гроша ў кішэні, і яму нічога не заставалася, як працаваць зборшчыкам падаткаў. Гэтая праца скончылася для яго чарговай няволяй – Сервантэс зноў патрапіў у вязніцу, бо перадаверыў дзяржаўныя грошы махлярам...**

**Сервантэс быў высакародным і адважным чалавекам. Гэтымі якасцямі ён надзяліў і герояў свайго лепшага драматургічнага твора – трагедыі "Нумансія". (Жыхары горада Нумансія самаахвярна змагаліся супраць рымскіх заваёўнікаў. Усе яны загінулі, але не здаліся ў рукі ворагу.)**

**"Дон Кіхот" – не адзіны раман Сервантэса. Раней ім ужо быў напісаны пастаральны раман "Галатэя" і рыцарскі раман "Вандроўкі Персілеса і Сіхізмунды". Аднак для сучаснага чытача па-за прыгодамі "хітрамудрага ідальга" літаратурную каштоўнасць маюць сёння бадай толькі "Павучальныя навелы" Сервантэса. Дзве навэлы з гэтага зборніка мы і запрапанавалі чытачу "Крыніцы".**

**Валянцін АКУДОВІЧ**



# Міхась КАВЫЛЬ

НАШ



*Хоць я шмат перацярпеў,*
*але стаў Міхасём Кавылём.*
*А мог-бы застацца Я. Маёвым,*
*які праслаўляў-бы*
*камуністычнае рабства.*
*Мая выйгрышная карта*
*адчыніла мне дзьверы*
*Амэрыкі, дзе мая муза,*
*як той рыцар Пагоні,*
*узьняла меч слова.*

## *Пра Міхася Кавыля*

**На першым допыце ў ГПУ пасля ўдакладнення біяграфічных звестак (імя – Язэп, прозвішча – Лешчанка, нарадзіўся ў 1915 годзе ў сялянскай сям'і з вёскі Покрашава Слуцкага павета...) васемнаццацігадоваму студэнту Менскага Белпедтэхнікума паказалі паштоўку з гербам Вялікага Княства Літоўскага. "Вось за што ты змагаўся", – здзекліва патлумачыла жанчына-следчы.**

**За прыналежнасць да "Саюза вызвалення Беларусі" паэт-"маладняковец", які друкаваўся пад псеўданімам Я. Маёвы, быў засуджаны на тры гады зняволення, якое адбываў на далёкаўсходніх будоўлях камунізму. Пасля вызвалення жыў у Варонежы, вучыўся на літаратурным факультэце педінстытута, таемна прыязджаў у Беларусь. Калі пачалася вайна паміж СССР і Нямеччынай, быў мабі-**

# МОЙ ШЛЯХ

Я нарадзіўся 1-га сьнежня 1915 году ў вёсцы Покрашава на Случчыне

Хоць мы паводле колькасьці зямлі (чатыры дзесяціны ворнай) лічыліся серадняками, але жылі бедна, часта недаядалі. Рэч у тым, што бацьку забілі на Першай сусьветнай вайне, і маці сама не магла даваць рады з гаспадаркай. А нас, дзяцей, было ажно пяцёра. Самая старэйшая сястра Франуся ў часе маіх нарадзінаў мела якіх восем гадоў Па ёй прыйшла на сьвет Броня, а па Броні – Ядвіля. Два гады пасьля мяне нарадзілася Антаніна. Яна памерла зусім маладою.

Бальшавіцкая абяцанка "хто быў нічым, той будзе ўсім" для ўдавы Марылі і ейных нахлебнікаў засталася толькі абяцанкай Ды ня толькі для нас, а для ўсяго народу Жылі мы бедна, а зажылі яшчэ бядней, бо да неўраджайнасьці дадаліся непасільныя "прадразьвёрсткі", а пасьля падаткі Крыху лепш мы пачалі жыць у 1925-м і пасьлейшых гадох. А гэта таму, што ў нашую хату прыйшоў прымак, уцякач з Заходняе Беларусі, вельмі працавіты й растаропны чалавек. Ён сам працаваў, як вол, і нам знайшоў працу мяне й сястру Ядвілю згадзіў на агульным сходзе вяскоўцаў пасьвіць сьвіньні й авечкі Тры гады ганяўся я за імі па каменьні, па іржэўніку Ногі мае былі падобныя да таркі, а сам я выглядаў, як нэгар, бо смажыўся на сонцы без кашулі. Затое ўвосень засекі ў сьвіронку не зьмяшчалі збожжа, і я свае лапці выкінуў на сьметнік, бо абуўся ў боты. Сёстры таксама прычапурыліся. Але, як казаў паэт, "нядоўга цешыў нас абман", ці-ж бо той ленінскі НЭП

Насталі чорныя дні калектывізацыі. Наш бацька-прымак, Бягун, як яго звала маці, у калгас не пайшоў, а запісаўся ў саўгас, што функцыянаваў як такі яшчэ перад калектывізацыяй на базе маёнтку Пакрэўскага. Саўгас прылягаў да вёскі з паўночнаўсходняга боку. Там быў бровар. Туды ўладзіўся на працу Бягун, а сёстры – хто даяркай, а хто ў маслабойні. Працавала й маці, толькі я "грыз граніт навукі", а таму працаваў толькі ўлетку, калі ня было заняткаў у сямігодцы.

Вучыўся я ў Грэскай сямігодцы, пасьля ў Грозаўскай, а тады ізноў у Грэскай, якую скончыў у ліку лепшых у 1930 годзе Увосень таго-ж 1930-га году паступіў у Менскі Пэдагагічны Тэхнікум імя Ўсевалода Ігнатоўскага на пазашкольны аддзел. Наплыў ахвотнікаў вучыцца ў Беларускім пэдтэхнікуме быў вялікі, ня ўсе, хто падаваў просьбы, былі залічаныя. Мне дапамагло маё "пралетарскае" (саўгасьнікі лічыліся сельскагаспадарскімі рабочымі) сацыяльнае палажэньне, ды, бадай, добрае пасьветчаньне Як сыну сельскагаспадарскіх рабочых, мне прызначылі 40 рублёў стыпендыі на месяц. Вядома, пражыць на гэтыя грошы можа толькі савецкі студэнт, які даставаў у тых часох на картачкі 300 грамаў хлеба на дзень ды ў страўні місачку гнілое капусты, іншым разам "падскваранай" белымі чарвякамі. Дапамагалі мне свае, але мала, бо самі сядзелі на бульбе ды капусьце. Жыў я ў інтэрнаце ў вялікім пакоі Жыло нас там пяцёх: Клімко, Вярнікоўскі, Асіпчык, Васіль Туміловіч ды я. Інтэрнат быў у тым самым двары, дзе і тэхнікум

**лізаваны і служыў на Украінскім фронце. Трапіўшы ў палон, сустрэўся з прадстаўнікамі беларускіх арганізацый, што дапамагло выйсці на волю і вярнуцца ў Менск.**

**У гады нямецкай акупацыі паэтычныя творы М. Кавыля з'яўляліся ў газеце "Раніца". Канец вайны ён сустрэў пад грукат амерыканскіх танкаў. У лагеры перамешчаных асобаў рэдагаваў газеты "Беларускае слова" і "Беларуская трыбуна".**

**На эміграцыі Міхась Кавыль выдаў зборнікі вершаў і паэм "Ростань", "Пад зорамі белымі", "Першая рана", "Цяжкія думы". Ягонаму пяру належаць таксама некалькі драматычных твораў і няскончаны раман "Із агню ды ў полымя". У 1990 годзе ў Нью-Ёрку выдадзены том выбраных твораў "Міжагнёўе".**

**"Я стаў Міхасём Кавылём. А мог бы застацца Я. Маёвым, які праслаўляў бы камуністычнае рабства", – пісаў колькі гадоў таму паэт ва ўспамінах у сваім доме ў горадзе Саўт-Рывер, штат Нью-Джэрсі.**

**Уладзімір АРЛОЎ**





Жылі тут і дзяўчаты, але няшмат Вялікі інтэрнат для дзяўчатаў быў на Камуністычнай вуліцы. Ня памятаю на якой вуліцы, але быў яшчэ адзін інтэрнат і для хлапцоў, дзе жыў паэт, тады яшчэ толькі пачынаючы, Уладзімер Гуцька (Дудзіцкі).

Белпэдтэхнікум знаходзіўся ў даволі вялікім двухпавярховым будынку Белы, зь вялікімі вокнамі, з шырокімі дубовымі двухпалавінчатымі дзьвярыма, пахарбаванымі бурай хварбай, Белпэдтэхнікум цешыў вока й прынаджваў З правага боку дзьвярэй на сьцяне была прыбітая шыльда, на якой залатымі літарамі сьвяцілася: "Беларускі Пэдагагічны Тэхнікум імя Ўсевалода Ігнатоўскага" Праўда, сьвяцілася нядоўга, бо ў 1931 годзе Ігнатоўскі застрэліўся, дык і шыльду зьнялі, як казалі, каб пакласьці ў дамавіну .

Дырэктарам Тэхнікуму быў нейкі Южык. Казалі, што ён перабежчык з Польшчы, камуніст. Беларускую мову выкладаў Антон Лёсік, брат Язэпа Лёсіка, а літаратуру – сястра паэты Андрэя Александровіча, Алеся, музыку – Яфімаў; кіраваў хорам, у якім і я сьпяваў, кампазытар Тэраўскі. < . >

Неўзабаве я даведаўся, што пры тэхнікуме існуе літаратурны гурток. Хто ім кіраваў не памятаю, але я запісаўся Будучы яшчэ дома, пад уплывам якогась маладнякоўца, а можа ўзвышэнца, напісаў першы верш "Лён", а недзе ў 1929 годзе зьявіўся ў друку мой верш "Гудкі" – хваласьпеў "раньню новых дзён"

У літаратурным гуртку тэорыяй літаратуры не займаліся, а пераважна вялі спрэчкі аб значэньні й прызначэньні літаратуры, аб беларусізацыі ды іншых праблемах. Выступалі там ужо ведамыя тады Максім Лужанін, якога называлі "беларускім Маякоўскім", Сьцяпан Ліхадзіеўскі, Лукаш Калюга, Уладзімер Сядура, якога завочна звалі "Бялінскі", бо пісаў крытычныя артыкулы, Сяргей Астрэйка, Франьцішак Гінтаўт, Сяргей Гайка ды іншыя. Часта "браў слова" Алесь Кучар. Ён мне ад першага разу чамусьці не спадабаўся Было тут нейкае прадчуцьце ці што, бо пазьней ён адыграў гідкую ролю ў дачыненьні й да мяне.

Належаў да літаратурнага гуртка пачынаючы таленавіты празаік Сяргей Русаковіч Яму пашчасьціла надрукаваць, здаецца, у "Ўзвышшы", апавяданьне "Крумкач", у якім у замаскаванай форме крытыкаваў Маскалёў, якіх у народзе называлі крумкачамі. З Русаковічам і Гуцькам я хутка пазнаёміўся, і мы часьцяком бачыліся. Пазьней пазнаёміўся зь Сяргеем Астрэйкам, Лукашом Калюгам, Уладзімерам Сядурам, Франьцішкам Гінтаўтам, Сяргеем Гайкам, паэтэсай Эдзіт Агняцьвет Былі гэта мройнікі, мелі тую самую "сьвярбячку", якую меў і я, былі неспрактыкаваныя ў палітыцы, прыймалі за чыстую манэту ленінскую "свабоду слова", і дзеля гэтага былі часам нястрыманыя ды неагляднымі ў сваіх учынках. Больш асьцярожныя з нас былі хіба Сядура ды Агняцьвет Самым неаглядным быў Сяргей Астрэйка. Ён напісаў паэму "Бэнгалія", у якой апісаў цяжкое жыцьцё Бэнгальцаў пад ангельскай акупацыяй. Здаецца, нічога контррэвалюцыйнага ў гэтым ня было. Трэба было паціху, як Русаковіч свайго "Крумкача", прапіхаць у друк. Дык не, ён запрасіў Сядуру, Гуцьку, Русаковіча, Гайку, Гінтаўта ды мяне да Лукаша Калюгі і, папярэдзіўшы, "каб гэта засталося між намі", прачытаў паэму Нехта з прысутных зазначыў "Дык гэта толькі трэба замяніць слова "Бэнгалія" на "Беларусь" і..." Пачуліся іншыя галасы "Дый праўда..." "Памрэш, а лепей ня скажаш" ды падобнае На сваю бяду Астрэйка не запярэчыў.. Яму-ж, калі не памыляюся, належыць і такая безагляднасьць: амаль усе, вышэй пералічаныя, насілі на штрыфелях значкі СВБ (Саюз ваяўнічых бязбожнікаў), а Сяргей пры спатканьні ці раз ткне пальцам у значок дый скажа. "Саюз вызваленьня Беларусі " І засьмяецца. Пасьля гэтага шмат хто з нас схаваў свой значок пад штрыфель. Гэта была дурніна, нейкая гульня ў "дзекабрыстаў" А гульню гэтую "нядрэмлючае вока" сачыла ды рабіла "оргвывады"

Мяне вельмі часта падстрыкаў Уладзімер Гуцька словамі з майго-ж вершу "З прастораў", які быў надрукаваны ў "Маладняку"

*Трактары*
*трактамі*
*такты адточваюць.*

Дэклямуючы, ён яшчэ й прытоптваў нагамі Прысутныя пры гэтай сцэне сьмяяліся.

Я наважыўся давесьці, што я не такі ўжо трубадур "трактараў", і напісаў верш "Бяспрытульны", у якім аплакваў цяжкую долю сына забітага ў часе рэвалюцыі гэроя-каманьдзера. Вершу я нікому не паказаў, а аднёс яго ў Дом пісьменьніка і там, у нейкім маленькім пакойчыку, аддаў маладому мужчыну, які за сталом нешта пісаў Ён узяў верш, схаваў, не прачытаўшы, у папку і сказаў прыйсьці па адказ заўтра А назаўтра К. Крапіва ў прысутнасьці таго-ж, каму я даў верш, сказаў: "Болей такіх вершаў сюды ня прынось.. " І я не панёс. Стаў пісаць сугучныя вершы й пасылаць іх у літаратурны дадатак да

бабруйскае акруговае газэты "Камунар". Дадатак вельмі прыгожа выглядаў і называўся "Вясна" Ніводнага слова з тых вершаў я не памятаю, толькі прыгадваю, што пад кожным вершам стаяла "Сябра літаратурнага згуртаваньня "Маладняк" Язэп Маёвы". Друкаваўся я і ў "Піянеры Беларусі".

Усё гэта было ў 1931 годзе, а ў 1932-м на агульным сходзе студэнтаў выступіў Алесь Кучар і пад воплескі такіх, як ён, верных ленінцаў, праехаўся па мне "Наша літаратура абагацілася новымі талентамі – Хваёвымі, Маёвымі..." і г.д.

Я ня прыдаваў гэтаму значэньня, бо нічога дрэннага за сабою не адчуваў Праўда, лічыліся за мною два грашкі. Першы грэх: адмовіўся пераходзіць вучыцца ў БВШ (Беларускую Вайсковую Школу), у якую, па нагаворцы сакратара камсамольскай арганізацыі Карпа Кезьліка, падаў заяву й быў прыняты. Другі грэх: уцёк з працы ў саўгасе Сьляпянка, куды наш тэхнікум быў накіраваны ўвосень 1931 году "на прарыў" – выбіраць зь мерзлай зямлі бульбу. Але гэты свой учынак я ня лічыў праступкам, бо-ж ня я адзін уцёк, а ўцяклі й Астрэйка, Русаковіч, Гінтаўт, Сядура, Гуцька ды шмат іншых. Аднак дырэкцыя тэхнікуму й партыйнае кіраўніцтва расцанілі гэта як бунт... Неўзабаве быў скліканы агульны сход, на якім, пасьля прамоваў дырэктара Южыка й сакратара партыйнай арганізацыі, прагаласавалі "аднагалосна" за тое, каб "сынкоў кулакоў і іх прысьпешнікаў, якія ганьбяць імя савецкіх студэнтаў, займаюцца шкоднай дзейнасьцю, выключыць з тэхнікуму".

Мяне ня выключылі, а далі суровую вымову з папярэджаньнем. Усе "шкоднікі" ня вельмі прайmaліся тым, што адбылося, бо неўзабаве ўладзіліся вучыцца ў Беларускі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт Я некалькі разоў езьдзіў туды, і бываў разам зь Сяргеем Русаковічам на лекцыях. Усё йшло, здавалася, як найлепш. Але гэта толькі здавалася.

Неяк увосень 1932 г мяне выклікаў з клясы дзед Лабанок, тэхнікумаўскі стораж, паказаў рукой у канец даўжэзнага калідору і сказаў: "Ідзі туды, там цябе хоча пабачыць якаясь жанчына" Каля вакна стаяла ў чорным паліто й сама чарнакосая кабета гадоў пад сорак. Ня памятаю, што яна казала, але памятаю яе "следуйте за мной". Завяла яна мяне ў ГПУ, якое знаходзілася на рагу вуліцаў Савецкай і, здаецца, Дзяржынскага. Пазьней я даведаўся, што была гэта сьледчая Надзежда Навіцкая.

Яна здала мяне нейкаму службоўцу, а той завёў на чацьверты паверх у габінэт сьледчага Браткоўскага. Ён распытаў пра маіх бацькоў, пра навуку ў тэхнікуме, пра тое, якую я выконваю грамадзкую нагрузку, а пасьля закрануў пытаньне "варожых вылазак"· ці ведаю я пра гэта што-небудзь. . Я разказаў пра агульны сход студэнтаў і пра строгую вымову з папярэджаньнем Браткоўскі палістаў нейкія паперы, па аднэй зь іх прабег вачыма і сказаў: "Гэта было год таму. Ад гэтага часу да сёньня зь цябе "строгую вымову" не зьнялі, бо не заслужыў. Напісаў ты, як нам ведама, пару добрых вершаў. Гэтага мала. Мусіш зрабіць больш. Нас цікавяць твае былыя сябры: Сядура, Астрэйка, Калюга, Русаковіч, Гінтаўт, Гайка. Па-першае, дзе яны цяпер знаходзяцца, а па-другое, і гэта галоўнае, што яны думаюць? .

Тут мяне нешта штурханула ў сэрца: "Не кажы!" І я зманіў: "З усіх вамі пералічаных студэнтаў, сябрам сваім я магу назваць, ды й то з натугай, толькі Сяргея Русаковіча, а рэшта – знаёмыя. Дзе яны цяпер, я ня ведаю". Браткоўскі рэзка падняўся, і са словамі "калі ня ведаеш, дык даведайся" паклаў перад мною лісток паперы й сказаў расьпісацца "аб неразгалошваньні" Калі я расьпісаўся, ён зазначыў, што мы хутка пабачымся ізноў і націснуў пальцам на гузік. Я-ж, ідучы за канваірам уніз, думаў· "Каб ты сьвету ня бачыў, паскуда..." А далей? Далей я зрабіў учынак, за які пазьней давялі мяне ў той катоўні да спробы самагубства.

Калі я выйшаў з ГПУ, я адчуваў сябе, як мой гэрой у паэме "Непакорныя" Алесь Лучына:

*Лучына выйшаў з ГПУ, як із трупярні,*
*Дзе убачыў свой собскі труп.*
*Калаціліся на слупох ліхтарні,*
*Зуб не трапляў на зуб.*

*Можа ад марозу? Не, яшчэ-ж ня люты.*
*Гэта ўсё ад страху Што там ні кажы,*
*Будзь ты канквістадор, панцырам акуты,*
*Як бяду пабачыш, сэрца задрыжыць.*

*А бяду Лучына вельмі добра бачыў:*
*Ў ГПУ ня водзяць абы толькі так –*





*Правакатар трэба ім з душой сабачай,*
*Што прадаць гатовы маці за пятак...*

Хоць ад мяне вымагалі прадаваць ня маці, а сяброў і знаёмых, але-ж прадаваць. Ад аднаго гэтага слова мяне кідала ў дрыжыкі. Як і Алесь Лучына, я добра бачыў бяду, ведаў што мяне чакае, калі Браткоўскі даведаецца, як я надумаўся зрабіць. Надзеі на тое, што Браткоўскі не даведаецца, было мала, бо я ня раз чуў выслоўе, што "ГПУ й рэкі бачыць пад зямлёю"

Я сеў на трамвай і паехаў ва Ўнівэрсытэцкі гарадок. Быў якраз перапынак. Злавіў я Сяргея Русаковіча на калідоры й папрасіў, каб ён паклікаў Сядуру, Астрэйку, Гуцьку ды іншых. Гэта ён зрабіў. На калідоры я баяўся гаварыць, і мы пайшлі па-за будынкі, на пустыр, дзе расьлі невялікія кусты. Там я сказаў маім сябром, што мяне кагадзе выклікалі ў ГПУ й пыталіся пра іх. Усе былі вельмі занепакоеныя гэтай весткай. Сядура адразу сказаў, што трэба ўцякаць у Польшчу. Забягаючы наперад скажу· ён уцёк, але ня ў Польшчу, а ў Ленінград, дзе пазьней быў арыштаваны. Астрэйка нешта пярэчыў Мармыталі штосьі іншыя. Што канкрэтна, не памятаю.

Сам сябе падбадзёрваючы сваім, як думалася, гэраічным учынкам, вярнуўся я ў інтэрнат. Студэнты, што жылі са мною ў адным пакоі, нічога ня пыталі, толькі пазіралі неяк з жальбою, нібы ведалі пра маю бяду. Я намагаўся не паказваць, што мне сьвет стаў нялюбы, але ня думаю, што гэта мне ўдалося. У галаву лезьлі ўсякія дурныя думкі. Хадзіў, як прыбіты Спакваля пачаў супакойвацца, адно калі дзед Лабанок адчыняў дзьверы й выклікаў кагось да дырэктара, у мяне па сьпіне прабягалі мурашкі. Але й гэта з часам прайшло Браткоўскі мяне болей не турбаваў, бо й безь мяне ведаў, дзе мае сябры знаходзяцца. Ён сваім заданьнем мяне толькі правяраў, чым я "дыхаю" Даведаўшыся ад нейкага, як я "выканаў" яго заданьне, Браткоўскі ў сьпіску "ненайдзеныя элемэнты" ў канцы майго прозьвішча чыркануў· "вораг народу"

Надыйшлі зімовыя вакацыі, паехаў дамоў, а калі вярнуўся на заняткі, дык і зусім перастаў думаць пра Браткоўскага. Праўда, калі даводзілася праходзіць каля "страшнага дому", дзе панаваў Браткоўскі, стараўся ў той бок не глядзець.

Часта хадзіў у Ленінскую бібліятэку, прасіў у паэтэсы Пфляўмбаўм, якая там працавала, вершы Сяргея Ясеніна. Першы раз адмовілася даць, сказала, што нехта ўзяў, але пазьней, калі я пахваліўся сваім вершам "З прастораў", знайшла невялічкі зборнічак, але прасіла, каб нікому не казаў аб гэтым.

Сам я ў гэтым часе нічога ня пісаў, а вучыўся граць на скрыпцы, балазе сусед па ложку Клімко меў скрыпку й не шкадаваў мне свайго, як казаў, "страдзіварыюса" А я яму пазычыў мандаліну, на якой я граў у аркестры. Тэхнікум рыхтаваўся да Дня Чырвонай Арміі: аркестра развучвала баёвыя маршы, а драмгуртoк – п'есу "Граница на замке" У гэнай п'есе граў і я нейкага пагранічніка.

І вось настаў вечар 23 лютага 1933 году Хай-бы ён лепей не наставаў.. Пасьля ўрачыстай часткі й канцэрту пачаліся танцы. Аркестра зайграла вальс "На сопках Манчжурыі" Кружыўся і я ў тым прыгожым вальсе з сваёй сімпатыяй Але нядоўга. Пачуў я, не адразу пачуў, што нехта тармошыць мяне за плячо. Аглянуўся – незнаёмец у хромавай тужурцы. "Можна цябе на хвілінку?" Мы выйшлі за дзьверы й там я пабачыў двух гэпэвушнікаў у доўгіх шынэлях. .

Пасьля вобыску ў пакойчыку ў інтэрнаце на Камуністычнай вуліцы, куды мяне незадоўга перад тым пасялілі з падазроным тыпам Сяргеем Маслоўскім і ягоным маладзенькім братам, павялі мяне ў знаёмы ўжо "страшны дом". Там мяне зарэгістравалі, пасадзілі ў "чорны воран" і адвезьлі ў турму. Упіхнулі мяне ў камэру нумар 4, набітую, як селядцамі бочка, "ворагамі народу"

Пару тыдняў прамучыўся там, але на допыт чамусьці ня выклікалі. Я з роспачы й злосьці аб'явіў галадоўку. Прагаладаў чатыры дні, але старэйшыя вязьні параілі спыніць "самога сябе калечыць", што я й зрабіў. Неўзабаве пасадзілі ізноў у "чорнага ворана" й адвезьлі ў ГПУ на Савецкай вуліцы. Там "чорная дама" Надзежда Навіцкая абвясьціла абвінавачаньне· "Удзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі СВБ (Саюз Вызваленьня Беларусі) і контррэвалюцыйная агітацыя" (артыкул 74, параграф 11) Пазьней прышылі яшчэ "збройнае паўстаньне", але гэтае абвінавачаньне зьнялі, бо, мабыць, самым рэжысэрам гэтай трагікамэдыі ніякавата было выхваляцца сканфіскаванай у "паўстанцаў" зброяй – аднэй бярданкай, на якую, здаецца, Францішак Гінтаўт ня меў дазволу.

Па справе СВБ разам са мною 23-га лютага 1933 году былі арыштаваныя Лукаш Калюга, Максім Лужанін, Сяргей Астрэйка, Сяргей Русаковіч, Уладзімер Сядура, Сяргей

Гайка, Франьцішак Гінтаўт і шмат іншых. Ці існавала запраўды арганізацыя СВБ, я ня ведаў і ня ведаю дагэтуль.

"Варфаламееўская ноч" цягнулася шэсьць месяцаў

У пачатку верасьня мяне з "амэрыканкі" адвезьлі ізноў у турму, у тую самую чацьвертую камэру, адкуль забралі. Там ужо знаходзіліся Астрэйка, Гуцька, Гайка. Не памятаю, ці быў там Сядура. Пражылі мы разам каля двух тыдняў. Аб чым гутарылі, не памятаю. Толькі добра запомніў, як Астрэйка чытаў "Асначы" і яшчэ нейкі верш Пра "Бэнгалію" не ўспаміналася. Не ўспаміналася і пра нашую справу Толькі я расказаў пра спробу самагубства. Ня маючы болей сілы цярпець зьдзекі шлюхі Навіцкай (Браткоўскі перадаў маю "справу" ёй), я кусочкам шкла перарэзаў, праўда, ня глыбока, вену на левай руцэ. Памерці ня даў мне "вяртухай", які праз "ваўчок" (вакенца ў дзьвярох) убачыў мяне скрываўленага, уляцеў і зацягнуў у пакой першай дапамогі. Адтуль кінулі мяне ў карцэр, дзе я прастаяў цэлую ноч, не жадаючы садзіцца на спаражненьні маіх папярэднікаў

Маё апавяданьне ніякага ўражаньня на слухачоў не зрабіла, бо й яны пацярпелі ня менш за мяне

Аднойчы выклікалі мяне ў канцылярыю турмы. Там я ўбачыў маці. Яна не пазнала мяне, бо я быў падобны на мерцьвяка. Дзьвесьце кілямэтраў ішла яна бедная пешкі, несла мне перадачу...

За якіх пару тыдняў выклікалі "с вещами" Выклікалі ўдзень. А гэта азначала – не расстраляюць. На расстрэл выклікалі ўначы. Удзень выклікаюць або на этап або на волю.

Прысуд абвесьцілі на калідоры. Хто нас судзіў завочна, ня ведаю. Мне далі тры гады канцэнтрацыйных лягероў З маіх сяброў па камэры ня выклікалі толькі Сяргея Астрэйку. Пасьля я чуў, што пакінулі яшчэ й Лукаша Калюгу.

На этап доўга чакаць не давялося. У адным вагоне са мною ехалі Максім Лужанін, Уладзімер Сядура, Франьцішак Гінтаўт і, здаецца, Сяргей Гайка. За трыццаць з гакам дзён із страшнымі прыгодамі (канваіры ледзь не расправіліся зь Сядурам за тое, што моцна грукаў у дзьверы, каб далі вады) дапаўзьлі да Нова-Сібірску, а там разагналі наш СВБ па розных лягерох. Я й Гінтаўт трапілі на Далёкі Ўсход – на Сяданстрой Гінтаўту пашанцавала ўладзіцца ў УРЧ (Учетно-распределительная часть), а я "ішачыў" на "общих". Разам са мною "ішачыў" Віталі Калечыц, сужэнец ведамай паэтэсы Канстанцыі Буйлы. Як піша ў газэце "Літаратура і мастацтва" (№ 4 за 1989 г.) А. Гардзіцкі, Калечыцу за ўдарную работу сьцінулі два гады. Мне сьцінулі чатыры месяцы. Узімку 1936 году я прыехаў дамоў, але жыць мне там не дазволілі, бо наша вёска знаходзілася ў прыгранічнай паласе

Падаўся я ў горад Варонеж, дзе жыла сястра майго добрага сябры па няшчасьці Там праўдай і няпраўдай уладзіўся на працу на заводзе "Камінтэрн" і на вячэрнія заняткі ў пэдінстытуце. У 1938 годзе выйшаў тут альманах "Непобедимая" Кніжка пачынаецца маім вершам "Полем, полем..." У тым-жа годзе адбывалася "чыстка гораду ад ненадзейных элемэнтаў", пад мятлу якой трапіў і я На зборы далі 24 гадзіны. Зьбіраць у мяне ня было чаго і ехаць ня было куды.

Пасьля няўдалай спробы ўладзіцца ў пэдінстытут у Арле, рызыкнуў паехаць дадому. Да мамы не пайшоў, баяўся віжаваньня, начаваў у дзядзькоў, якія жылі недалёка ад нашай вёскі. Але гуляць у схованкі, падстаўляць пад небясьпеку сябе й дзядзькоў не хацелася, і дзеля гэтага паехаў назад у Варонеж ды пайшоў у Аблана прасіцца на працу Я ня вельмі спадзяваўся на ўдачу, бо думаў – яны ведаюць, за што мяне выгналі зь інстытуту. На ўсякі выпадак у анкеце на пытаньне пра падсуднасьць напісаў, што быў асуджаны па 74-м артыкуле крымінальнага кодэксу, але не напісаў, якога кодэксу – БССР ці РСФСР, бо контррэвалюцыйны 74-ы артыкул БССР не адпавядае 74-му РСФСР – хуліганства. Ня ведаю й цяпер , каму й чаму мушу дзякаваць, ці дабрыні загадчыка Аблана, ці недахопу настаўнікаў, але працу я атрымаў.

Калі Немцы прыблізіліся да Варонежу, змабілізавалі ў армію й мяне, хоць у часе і фінскай кампаніі і польскай у 1939 годзе не даверылі зброю "ворагу народу", за што я быў, пэўна-ж, удзячны свайму лёсу. І ізноў я ехаў на Далёкі Ўсход, цяпер вучыцца ваяваць. Усю зіму 1942 г. нас муштравалі, а ўвесну адправілі на Украінскі фронт Там 18 травеня 1942 году пачалося наступленьне на Харкаў. Дзесь далёка грымелі гарматы, а ў нас на Данцы было ціха. 21 травеня загрымела і ў нас. Немцы перапраўліся праз Данец і пайшлі ў наступленьне Я хутка трапіў у палон.

Жуда палону штурхала шукаць выйсьця Адзіным выйсьцем былі ўцёкі Але куды ўцякаць, калі навокал стэп, нават кусточка няма, каб можна было захінуцца. Давялося цярпець, чакаць канца – галоднай сьмерці Аднак хутка сытуацыя зьмянілася Прыехалі беларускія прадстаўнікі нейкіх арганізацыяў выручаць зь бяды братоў-беларусаў





Выручылі шмат, у тым ліку й мяне Гэта было ўзімку 1943 году, а дзесь у сакавіку я ўжо быў у Менску

У Менску жыцьцё было неспакойнае Хутка ізноў давялося ўцякаць. Затрымаўся ў Баварыі Пасьля працаваў на авіязаводзе ў месьце Цытаў кіраўніком беларускае моладзі. Галоўным маім заданьнем было не даваць у крыўду дзяцей, якіх вывезьлі зь Беларусі й ня вельмі зьвярталі ўвагу на іхную юнацкую уніформу Я стараўся бараніць хлапцоў колькі мог Дастараўся да таго, што мне ўшпілілі шэсць месяцаў канцлягеру. Даведаўся я аб гэтым ужо ў Саксоніі, куды нас перавезьлі з Цытаў Не памятаю назову гораду, але добра памятаю прозьвішча дырэктара авіязаводу – Бах. Калі прыйшлі амэрыканцы, Баха назначылі мэрам места. А тады, як мы прыбылі да яго, як да дырэктара заводу, ён выклікаў мяне ў сваю канцылярыю і празь перакладчыка зачытаў мне прысуд, што прыйшоў з Цытаў Выслухаўшы мае апраўданьні, Бах сказаў· "Ня бачу тваё вялікае віны, а таму ў канцлягер цябе не адашлю, а паедзеш у Турынгію, у места Троен дапамагаць кіраўніку моладзі Алесю Х-ко" Ад шчырага сэрца падзякаваў я добраму Баху й паехаў у Троен. А там за пару тыдняў па бруку загрукацелі амэрыканскія танкі.

Пачалося жыцьцё ў лягерох ДП (перамешчаных асобаў). У гэтым няпэўным і нявыразным часе апанавала мяне туга й роспач. Сябра мой Іван Кір'янаў, якому я прысьвяціў першы свой зборнічак вершаў "Ростань", паконччыў самагубствам у Рэгензбургу Я пастанавіў шукаць ратунку ў працы. Завербаваўся на тры гады ў Бэльгію капаць вугаль. Прамучыўся ў шахтах у Ля-Люверы шэсьць месяцаў, дзе страціў на левай руцэ палец. Меўся атрымаць адшкадаваньне, але махнуў рукою на ўсё й пайшоў да лекара атрымаць спраўку, што ў капальнях працаваць не магу Пабыўшы нейкі час у перасыльным лагеры, мяне накіравалі ізноў у Нямеччыну ў лягер ДП у Натэрнбэрг Гэта было ў 1948 годзе. З Натэрнбэргу перабраўся ў беларускі лягер Бакнанг Тут крыху прыйшоў да сябе Рэдагаваў газэту "Беларускае слова", а пасьля "Беларускую трыбуну", аж пакуль нябожчык пратапрасьвіцер Мікола Лапіцкі не нагаварыў мяне ехаць у Амэрыку Прызнацца, неяк не хацелася мне ехаць так далёка. У Нямеччыне завяліся ў мяне добрыя знаёмыя, ды наагул цяжкі я на пад'ём. Але ўсё-ж паслухаў а. Лапіцкага і ў сакавіку 1950 году апынуўся ў Саўт-Рывэры ў штаце Ню Джэрзы.

У Амэрыцы давялося мне працаваць фізычна. Фізычная праца пайшла мне на карысьць. Працаваў спачатку прыбіральнікам у фірме "Сквіб", а пасьля ткачом у месьце Бандбрук. Працаваў таксама ў Форда, дзе закручваў гайкі, а тады – больш за 20 гадоў скручваў драты ў "Олпродакт ўайэр энд кэйбэл кампані" Вядома, скручвалі машыны, а я быў апэратарам гэтых машын.

У 1980 годзе пайшоў на пэнсію. Першымі днямі, а нават і месяцамі думаў, што здурэю ад бязьдзейнасьці.

Шмат хто, каму я жаліўся на свой сум па фабрыцы, радзілі· "Пішы вершы.. " Добрая парада, ды як пісаць, калі муза не зьяўляецца Але засталася ў мяне выйгрышная карта адтады, калі на першым допыце сьледчая Навіцкая паказала мне паштовую картку, на якой быў адбітак дзяржаўнага гэрбу Вялікага княства Літоўскага ды зь іроніяй сказала: "Вось за што ты змагаўся .." Я прыглядзеўся да малюнку У вочы кінуўся белы конь, а на ім рыцар зь мечам у руцэ. У жоўтым вянку, што абрамляў рыцара на белым кані, – гэрбы беларускіх ваяводзтваў, а ўнізе словы: "Няхай жыве Беларуская Народная Рэспубліка!" Гэты гэрб і словы мяне так уразілі, што я, ня думаючы пра вынік, сказаў· "Так, я змагаўся й буду змагацца за гэта" Навіцкая вылупіла вочы, а тады падсунула ліст паперы й сказала: "Напішы гэтыя словы, што ты толькі што сказаў, тады я пастараюся, каб тваю справу выдзялілі ў "особое производство" Я катэгарычна адмовіўся Тады яна са злосьцю прашыпела. "Ты аб гэтым яшчэ пашкадуеш" Не, я не пашкадаваў Нават тады, калі рэзаў шклом руку А цяпер тым больш.

Хоць я шмат перацярпеў, але стаў Міхасём Кавылём. А мог-бы застацца Я. Маевым, які праслаўляў-бы камуністычнае рабства. Мая выйгрышная карта адчыніла мне дзьверы Амэрыкі, дзе мая муза, як той рыцар Пагоні, узьняла меч слова.

У маёй творчасьці пераважае грамадзянская лірыка, тэма волі й змаганьня. Прабаваў я свае сілы ў розных жанрах. Шмат папрацаваў, пакуль напісаў карону санэтаў і два вянкі. Пазнаёміў мяне з гэтымі формамі Антон Адамовіч, за што я яму вельмі ўдзячны.

Амаль 90 працэнтаў маіх твораў напісаныя ў Амэрыцы.

*1990*

*З кнігі:*
***Міхась Кавыль. Міжагнёўе.***
*Нью-Ёрк, 1990.*

